УДК 1(476)
ББК 87 (4Беи)
Б43

Серыя «Беларусь для пачаткоўцаў» заснавана ў 2008 г.

**Мацкевич, В. В.**

**Б43** Беларусь для пачаткоўцаў: ад разумення да дзеяння. — Мінск : Логвінаў І. П., 2012. — 285 с. — (Беларусь для пачаткоўцаў).

ISBN 978-985-562-048-9

Зборнік уключае 4 невялікіх асобных кніжкі, якія былі падрыхтаваны і выдадзены ў розныя гады ў агульнай серыі «Беларусь для пачаткоўцаў». У прапанаваных кнігах распрацоўваюцца тэмы развіцця супольнасцяў, якасці і ладу жыцця, пераацэнкі каштоўнасцяў у гісторыі і культуры Беларусі, а таксама грамадзянскасці і грамадзянскай адукацыі.

Мэта серыі «Беларусь для пачаткоўцаў» — прадумаць важныя для развіцця краіны тэмы «тут і цяпер», у Беларусі, з уключэннем усіх абставінаў і кантэкстаў, усіх суб'ектаў і пазіцый. Кнігі прапануюць разам з аўтарамі арганізаваць сваё мысленне, а затым і дзейнасць у тых ці іншых сферах.

Зборнік будзе цікавым для даследчыкаў і практыкаў, якія займаюцца развіццём Беларусі.

**УДК 1(476)**
**ББК 87 (4Беи)**

**ISBN 978-985-562-048-9**

# Прадмова ад аўтараў

Зборнік, які вы трымаеце ў руках, змяшчае чатыры асобныя кніжкі, якія былі падрыхтаваны і выдадзены ў розныя гады ў агульнай серыі «Беларусь для пачаткоўцаў». Заснавалі гэтую серыю ў 2007 г. метадалагічная супольнасць «Агенцтва гуманітарных тэхналогій» і грамадская аб'яднанне «Цэнтр сацыяльных інавацый». Кнігі звернуты да, здаецца, знаёмых рэчаў і тэм: мясцовыя супольнасці, якасць жыцця, грамадзянскасць, каштоўнасці. Тады, чаму «пачаткоўцы»?

З 1994 г. у Беларусі разгортваецца праграма Культурнай палітыкі. Яе рэалізуюць Агенцтва гуманітарных тэхналогій разам з Цэнтрам сацыяльных інавацый, а таксама яшчэ шэраг грамадскіх аб'яднанняў, якія зараз ствараюць кансорцыум «ЕўраБеларусь». Размова тут ідзе не пра палітыку ў сферы культуры і мастацтва. Гэта праграма працы і пераўтварэння тых культурных падмуркаў (нормаў, узораў, прататыпаў і г. д.), якія з'яўляюцца базай для нашага мыслення, ладу жыцця і дзеянняў у сучаснай Беларусі. Любыя пераўтварэнні, любыя дзеянні павінны спачатку быць прадуманы. Прадуманы «тут і цяпер», у Беларусі, з уключэннем усіх абставін і кантэкстаў, усіх суб'ектаў і пазіцый. Самыя лепшыя тэорыі, тэхналогіі і методыкі, узятыя звонку, могуць служыць толькі адпраўной кропкай для ўласнага мыслення і выбудоўвання стратэгій дзеянняў. Але для Беларусі гэта «простае» патрабаванне аказваецца не такім ужо простым і зрэалізаваным. Сотні і нават тысячы дзеячаў са стараннасцю і запалам развіваюць мясцовыя супольнасці, паляпшаюць якасць жыцця, будуюць нацыю і займаюцца грамадзянскай адукацыяй, развіваюць культуру і г. д., не турбуючы сябе пытаннямі

тэарэтычнага, канцэптуальнага і метадалагічнага плана. Звычайна не знаходзіцца часу і імпэту разбірацца з тым, што ж уяўляе сабой «матэрыял», з якім яны працуюць. Вынікі мы можам назіраць у сённяшнім стане краіны. А ён паказвае, што нам усё яшчэ трэба «пачынаць». Пачынаць, незалежна ад таго, колькі гадоў і колькі намаганняў ужо выдаткавана. Трэба пачынаць разбірацца з Беларуссю.

«Беларусь для пачаткоўцаў» — гэта серыя невялікіх кніг, у якіх чытачам прапануецца, ідучы следам за аўтарамі, арганізаваць сваё мысленне, а затым і дзейнасць у тых ці іншых сферах і тэмах. Гэта не навуковая літаратура, якая прэтэндуе на тое, каб раскрыць ісціну, даць апісанне і тлумачэнне таго, што ёсць на самой справе. Кнігі з гэтай серыі — гэта прапанова шляху, які праходзяць самі дзеячы Культурнай палітыкі ў сваім асэнсаванні Беларусі. Чытач можа рухацца з імі, а можа будаваць сваю ўласную траекторыю руху. Але, у любым выпадку, ён мае магчымасць зразумець і разабрацца.

Напачатку кнігі былі напісаны і выдадзены на рускай мове. Але аўтары добра разумеюць, што, апроч ідэй і дзейнасных прапаноў, развіццё Беларусі залежыць і ад развіцця і пашырэння выкарыстання беларускай мовы. Асабліва гэта мае значэнне для роздумаў над сучаснасцю і будучыняй краіны. Таму гэты зборнік не толькі зводзіць пад адну вокладку чатыры кнігі, але і, што значна больш важна, прапануе роздумы над беларускімі праблемамі на беларускай мове.

Аўтары выказваюць удзячнасць нашым замежным калегам і партнёрам: Вышэйшай народнай школе Марыяшпрынг з Германіі (*Ländliche Heimvolkshochschule Mariaspring*) і Ліберальнай асацыяцыі адукацыі дарослых з Даніі (*Liberalt Oplysnings Forbund*). Іх змястоўная зацікаўленасць Беларуссю і супраца натхнялі і дапамагалі нам у тым, каб гэтыя кнігі пабачылі свет.

*Таццяна Вадалажская,*
*Уладзімір Мацкевіч,*
*Андрэй Ягораў.*

# Змест

# Змест

# Уводзіны

Ідэя гэтай брашуры нарадзілася пасля адной з дыскусій, якая адбылася паміж калегамі з Беларусі і Даніі ў траўні 2007 г. і была прысвечаная магчымасцям і спосабам працы па развіцці мясцовых супольнасцей у Беларусі. З беларускага боку ў дыскусіі ўдзельнічалі прадстаўнікі адной з найстарэйшых беларускіх НДА (недзяржаўных арганізацый), якая займаецца сацыяльнымі праектамі і інавацыямі, — Грамадскай арганізацыі «Цэнтр сацыяльных інавацый» (ЦСІ), а таксама прадстаўнікі экспертнай групы Агенцтва гуманітарных тэхналогій (АГТ), з дацкага боку — эксперты недзяржаўнай арганізацыі «Еўрапейскі дом». Зыходным пунктам дыскусіі быў тэзіс, што дзейнасць па развіцці мясцовых супольнасцей у рамках еўрапейскіх праграм мае ў Беларусі ўжо даволі доўгую гісторыю, а задавальняльных вынікаў як не было, так і няма.

І вось што выявіла дыскусія: вельмі часта калегі з краін Заходняй Еўропы, якія пачынаюць працаваць у Беларусі, не ўлічваюць, а часам і проста не ведаюць некаторых акалічнасцей беларускага жыцця і дзейнасці грамадскіх арганізацый. А веды і досвед, якія прапануе да абмеркавання беларускі бок, часам з цяжкасцю дапасоўваюцца да тых методык і тэхналогій працы з грамадствам, якія традыцыйна прапануюцца еўрапейскімі калегамі для «краін пераходу».

Праз гэта час ад часу паўстае непаразуменне паміж беларускімі грамадскімі дзеячамі і іх калегамі з заходнееўрапейскіх краін. На пераадоленне гэтага непазразумення і на ўзаемнае навучанне партнёраў трацяцца месяцы (што нармальна), але часам і гады

(а гэта значна больш за тэрмін рэалізацыі сярэдняга праекта ў Беларусі).

Беларускія і дацкія калегі ў выніку дасягнулі як узаемапаразумення, так і сапраўднага партнёрства. З гэтага паразумення і нарадзілася ідэя напісаць невялікі дапаможнік, каб растлумачыць, на якія прынцыпы мы абапіраемся ў сваёй дзейнасці, прадэманстраваць, якія мы бачым магчымасці і шляхі развіцця мясцовых супольнасцей у сучаснай Беларусі.

Апрача агульных фундаментальных ведаў пра постсавецкія краіны і грамадствы паўстаюць чыста рабочыя праблемы, калі мы плануем час, рэсурсы і высілкі, неабходныя дзеля дасягнення тых або іншых лакальных мэт і вырашэння прыкладных задач. Гэта таксама спараджае спрэчкі. Еўрапейскія эксперты мяркуюць, што асноўных затрат часу, рэсурсаў ды людскіх намаганняў патрабуюць адны кірункі дзейнасці, а вось іншыя праблемы могуць быць вырашаныя хутка і проста. А беларускія эксперты часта маюць на гэты конт цалкам супрацьлеглую думку. Калі тэарэтычныя, тлумачальныя і апісальныя тэксты могуць пачакаць, то працоўныя і дзелавыя спрэчкі патрабуюць неадкладнага рашэння. Калегам, якія працуюць над агульнымі мэтамі і задачамі, неабходна дамаўляцца, а гэтага можна дасягнуць, толькі калі ўважліва і з павагай ставіцца да аргументаў адзін аднаго.

Гэтая брашура змяшчае кароткі аналіз таго, што перашкаджае стварэнню і развіццю супольнасцей у Беларусі, і рэпрэзентуе прынцыпы дзейнасці ЦСІ і АГТ. Яна прэтэндуе толькі на выклад аргументаў дзеля больш карэктнага планавання часу, рэсурсаў і людскіх высілкаў падчас працы па развіцці супольнасцей у Беларусі. Дадатковыя аргументы і дадатковую ўпэўненасць надае аўтарам тая акалічнасць, што яны мяркуюць пра развіццё супольнасцей не толькі як эксперты, але, будучы самі прадстаўнікамі супольнасці, што дынамічна развіваецца, маюць яшчэ і ўласны досвед жыцця і дзейнасці ў супольнасці, а таксама досвед выжывання супольнасцей у беларускіх умовах.

Усведамленне сябе супольнасцю не толькі надае грунту меркаванням аўтараў, але і робіць для іх праблему развіцця супольнас-




цей у Беларусі праблемай уласнага існавання. Выжыванне супольнасцей у «неспрыяльных» умовах беларускага грамадства магчыма толькі ў тым выпадку, калі такая форма сацыяльнай арганізацыі будзе пашыраць сферу сваёй прысутнасці ды ўплыву. А гэта магчыма толькі праз узаемную падтрымку і дапамогу.

Аўтары спадзяюцца, што ўважлівае стаўленне беларускіх і заходнееўрапейскіх калег да выказаных аргументаў дапаможа ім хутчэй і прасцей паразумецца і зробіць вынікі супольнай дзейнасці больш эфектыўнымі і грунтоўнымі.

# I. Сучасны стан мясцовых супольнасцей у Беларусі: савецкая спадчына

Тэзіс, на якім мы будуем усю сваю дзейнасць па развіцці мясцовых супольнасцей у Беларусі, — гэта канстатацыя факта: **«У Беларусі няма мясцовых супольнасцей і няма мясцовага самакіравання»**. У гэта вельмі цяжка паверыць, і таму такі тэзіс звычайна залічваюць або ў памылковыя меркаванні, або ў эпатажныя, правакацыйныя выказванні. Цяжэй за ўсё паставіцца да яго як да простага канстатуючага меркавання. Асабліва складана сур'ёзна паставіцца да такога сцверджання еўрапейскім калегам, для якіх супольнасці як спосаб арганізацыі людзей — неад'емная частка жыцця, а значыць, натуральныя, як паветра. Супольнасці могуць быць моцнымі ці слабымі, больш ці менш паспяховымі і арганізаванымі, але яны ёсць заўсёды. Радыкальнасцю нашага сцверджання мы якраз і падкрэсліваем той факт, што супольнасці былі мэтанакіравана выключаныя з ладу савецкага грамадства як супярэчны гэтаму ладу элемент і да гэтага часу не адноўленыя. Такое сцверджанне пра існы стан рэчаў патрабуе падрабязнага разгляду і тлумачэння, пагатоў яно задае і ўсю наступную дзейнасць, скіраваную не столькі на развіццё і ўмацаванне, колькі на адраджэнне мясцовых супольнасцей у Беларусі.

У гэтым раздзеле мы разгледзім найбольш важныя фактары і механізмы, якія спарадзілі такі стан рэчаў і працягваюць дзейнічаць, падтрымліваючы яго. Пры гэтым, гаворачы пра мясцовыя супольнасці, мы будзем разглядаць іх як аб'яднанні людзей, не

проста звязаных пражываннем на адной тэрыторыі і чалавечымі стасункамі, але, перш за ўсё, як аб'яднанні, якія маюць **волю** і **магчымасць** самастойна вырашаць асноўныя пытанні арганізацыі і ўладкавання свайго жыцця. То бок, будзем разглядаць мясцовыя супольнасці ў першую чаргу як аб'яднанні людзей, што зазнаюць самаарганізацыю. Таму пражыванне на адной тэрыторыі і стасункі паміж людзьмі — гэта толькі ўмова, але не галоўная характарыстыка мясцовых супольнасцей. Супольнасць патрабуе ад людзей, што ў яе ўваходзяць, пэўных якасцей: ініцыятыўнасці, здольнасці калектыўна і індывідуальна ставіць мэты і дасягаць іх, пачуцця ўласнасці і адказнасці за сваю і агульную справу, гатоўнасці да выказвання салідарнасці ды шмат чаго іншага. Але патрабуюцца таксама пэўныя ўмовы, у якіх калектыўныя суб'екты маюць магчымасць рэалізоўваць сваю волю.

Ніжэй мы разгледзім, як супольнае пражыванне перастала быць крыніцай і ўмовай узаемадзеяння пры ўладкаванні сваёй жыццёвай прасторы. Якім чынам адбылося адчужэнне людзей ад прыняцця рашэнняў адносна ўласнага жыцця? Якім чынам і за кошт якіх сацыяльных, палітычных і адміністрацыйных метадаў мясцовая ўлада перастала быць органам самакіравання супольнасцей і страціла рэальную магчымасць вырашаць мясцовыя праблемы?

Перш, чым прыступіць да разбору пастаўленых пытанняў, варта задаць яшчэ адно, здавалася б, лагічнае ў гэтай сітуацыі: «Навошта аднаўляць мясцовыя супольнасці?» Задача аднаўлення супольнасцей як ладу жыцця і сацыяльнай самаарганізацыі людзей цесна звязаная з нашымі ўяўленнямі пра дэмакратычную пабудову грамадства. Мы зыходзім з таго, што ў дэмакратычным грамадстве людзі маюць магчымасць аб'ядноўвацца ў групы, калектывы, карпарацыі дзеля дасягнення ўласных мэт. Дэмакратычная пабудова грамадства не толькі **дазваляе** людзям аб'ядноўвацца ў супольнасці, але шмат у чым **абапіраецца** на іх і **магчымая** дзякуючы існаванню моцных супольнасцей[1].

---

[1] Калектывізм — агульнапрызнаная і агульнавядомая характарыстыка савецкага грамадскага ладу ды ладу жыцця, а таксама рыса характару,

Разбурэнне мясцовых супольнасцей і мясцовага самакіравання, якое мы канстатуем у сённяшняй Беларусі, сталася вынікам мэтанакіраванай палітыкі савецкай улады. Дзеля дасягнення гэтай мэты было задзейнічана даволі шмат палітычных, адміністрацыйных і сацыяльных механізмаў і рэсурсаў, кожны з якіх разбуральна ўздзейнічаў на адну ці некалькі падстаў, неабходных для існавання мясцовых супольнасцей. Прадстаўлены ніжэй падрабязны агляд такіх механізмаў і рэсурсаў прызначаны не толькі дзеля таго, каб зразумець вытокі і прычыны цяперашняга стану, але і каб усвядоміць усю глыбіню і закаранеласць гэтай праблемы ў савецкім ладзе жыцця, менталітэце, спосабах мыслення і паводзін. Важна яшчэ і тое, што шмат якія з гэтых механізмаў дзейнічаюць і цяпер (штосьці па інерцыі, а штосьці і мэтанакіравана рэалізуецца), хоць часам і ў пературораных, закамуфляваных формах. Разумець гэта трэба, каб не паддавацца ілюзіям і не памыляцца, плануючы і арганізоўваючы дзейнасць па адраджэнні мясцовых супольнасцей.

## Сфера публічнага жыцця і адміністрацыйныя адносіны

**Прызначэнне кіраўнікоў: імперскі парадак.** Цягам усёй гісторыі Савецкай Беларусі начальства на ўсіх узроўнях — рэспубліканскім, абласным, раённым — прызначалася не з мясцовых жыхароў. І гэта не было выпадковасцю: такім быў негалосны прынцып кіравання. Згодна з гэтым прынцыпам, кіраўнік не толькі не павінен быць «мясцовым», але і не павінен быць уключаны ў рознага роду сацыяльныя ўзаемасувязі з насельніцтвам.

---

уласцівая пераважнай большасці савецкіх людзей. Імкнучыся пазбавіцца ад савецкай таталітарнай спадчыны, палітыкі і інтэлектуалы постсавецкіх краін гіпертрафіравалі ролю індывідуалізму ў арганізацыі заходняга дэмакратычнага грамадства. Прыпісваючы дэмакратычнаму грамадству выключна індывідуалістычны характар, постсавецкія інтэлектуалы станавіліся значна большымі лібераламі за сваіх заходніх калег, забываючыся, што дэмакратыя немагчымая без салідарнасці і калектыўнага супрацоўніцтва.

Ён павінен заўсёды заставацца прадстаўніком вертыкалі ўлады і праваднікам яе ідэй і рашэнняў, а не прадстаўніком насельніцтва. Ён сацыяльна інкарпараваны хутчэй ва ўладную адміністрацыйную супольнасць, чым у супольнасць тэрытарыяльную. Практыка прызначэння кіраўнікоў на ўсе ўзроўні ўлады была накіраваная на тое, каб адарваць уладу ад супольнасцяў як магчымых суб'ектаў гэтай улады і зрабіць сістэму прыняцця рашэнняў незалежнай ад думак, што існуюць сярод мясцовага насельніцтва. Фактычна гэта была практыка кіравання імперыяй, паспяхова рэалізаваная ў Савецкім Саюзе.

**Безуладдзе мясцовых саветаў.** Калі разглядаць сельскі савет як найніжэйшы ўзровень улады, які паводле свайго месца і функцый павінен служыць механізмам мясцовага самакіравання, то варта ўлічваць палітыку вышэйшых узроўняў дзяржаўнай улады адносна сельскіх саветаў. Яна палягала ў тым, каб паставіць сельскія саветы ў поўную залежнасць ад іншых суб'ектаў улады, у першую чаргу, ад гаспадарчых суб'ектаў, што дамінуюць на гэтай тэрыторыі. Для сельскай мясцовасці гэта пераважна былі калгасы і саўгасы. Па-першае, сельскія саветы былі пазбаўленыя бюджэтаў, якія б сваімі памерамі адпавядалі патрэбам падведамасных ім тэрыторый і насельніцтва. Па-другое, мясцовыя саветы не маглі папаўняць свайго бюджэту ні праз падаткі з насельніцтва, ні праз падаткі з гаспадарчых суб'ектаў. Іх бюджэт фармаваўся цэнтралізавана ў вышэйшых інстанцыях. Адказнасць за ўтрыманне дарог, камунальнай гаспадаркі ды іншай інфраструктуры ўскладалася на мясцовыя саветы, а вось рэальнымі рэсурсамі для ўтрымання ўсяго гэтага валодалі толькі калгасы ці іншыя суб'екты гаспадарання. Тым самым выкананне рэальных функцый мясцовай улады сельскімі саветамі было пастаўленае ў залежнасць ад калгасаў. Намінальна статус кіраўніка мясцовага савета быў вышэйшы за статус кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, а вось рэальна ўладай валодалі менавіта апошнія.

Мясцовыя ўлады мелі ў сваім распараджэнні і бюджэтныя ўстановы. Найперш — установы адукацыі, аховы здароўя, часам культуры (бібліятэкі). Але адбор і прызначэнне кадраў у падведамасных мясцовым саветам установах таксама ажыццяўлялі не мяс-

цовыя ўлады, гэтыя ўстановы кантраляваліся партыйнымі органамі. У сваю чаргу, і бюджэты, і кадры ўстаноў пошты, тэлеграфа, органаў унутраных справаў кантраляваліся вышэйшымі інстанцыямі па ведамаснай прыналежнасці. Адзінай сапраўднай функцыяй мясцовых уладаў была рэгістрацыя народзінаў, смерцяў, шлюбаў і г. д., а таксама выдаванне даведак для сацыяльнага забеспячэння.

Такім чынам, асноўны механізм рэалізацыі інтарэсаў, волі і рашэнняў насельніцтва на мясцовым узроўні быў фактычна заблакаваны. Фармальна выбары ў мясцовыя саветы маглі б ці павінны былі б непасрэдна ўплываць на самастойнае ўладкаванне жыцця мясцовай супольнасці. Але нават захаванне гэтага сацыяльнага механізму самаарганізацыі і самакіравання на справе было ўсяго толькі яго імітацыяй, бо гэтыя саветы не мелі фактычнага ўплыву на прыняцце рашэнняў. Усе гэтыя факты сведчаць пра рэальнае адчужэнне мясцовага насельніцтва ад прыняцця рашэнняў па арганізацыі свайго жыцця, ад мясцовай улады і палітычнага жыцця на мясцовым узроўні. Такое адчужэнне паступова замацоўвалася ў свядомасці людзей ды ў іх стаўленні да магчымасцей і спосабаў уплыву на ўладкаванне свайго жыцця.

Такая арганізацыя дзейнасці «мясцовай улады» захавала свае асноўныя рысы да гэтага часу, за выключэннем партыйнага кіраўніцтва, чыю функцыю ў сучаснай Беларусі выконвае «прэзідэнцкая вертыкаль».

**Савецкае і партыйнае кіраўніцтвы: дубляванне ўлады.** Асобнага разгляду заслугоўваюць суадносіны савецкай (улады Саветаў) і партыйнай улады. Менавіта прынцып тых узаемадачынення заклаў асноўны механізм кіравання грамадствам, які зрабіў немагчымым рэалізацыю самакіравання і разбурыў мясцовыя супольнасці. Здаецца, такога феномена, як партыйная ўлада, не было нідзе, акрамя Савецкага Саюза, Кітая і некалькіх азіяцкіх краін, пабудаваных паводле кітайскага ўзору (Паўночная Карэя, В'етнам, раней — Лаос і Камбоджа). У краінах Варшаўскай дамовы і на Кубе камуністычныя партыі дамінавалі на дзяржаўным узроўні, кантралявалі сілавыя ведамствы, фінансы, эканоміку, але рэалізоўвалі сваю волю праз канстытуцыйныя структуры ўлады,

што імітавалі дэмакратычныя інстытуты. У Савецкім Саюзе, а значыць, і ў БССР улада камуністычнай партыі была замацавана ў Канстытуцыі. Структуры КПСС, у нашым выпадку КПБ, паўсюль і на ўсіх узроўнях дублявалі савецкую ўладу. Выключэнне складалі сельскія саветы. Любая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, пачынаючы ад раёнаў і гарадоў, прадугледжвала наяўнасць дзвюх вертыкалей улады: савет адпаведнага ўзроўню (раённы, абласны, вярхоўны), які фармаваў свой выканкам, і тэрытарыяльная партыйная арганізацыя, якая фармавала структуру, што паўтарала савецкую вертыкаль. Прычым партыйныя структуры валодалі рэальнай уладай, а саветы і іх выканкамы падпарадкоўваліся партыі[2].

---

[2] Гістарычна такое падваенне ўлады пачало складацца ў часы грамадзянскай вайны і ваеннага камунізму, калі афіцэры і ваенныя спецыялісты выконвалі свае прафесійныя абавязкі пад наглядам партыйных камісараў. Афіцэры і ваенныя спецыялісты кіраваліся ў сваёй дзейнасці вайсковым статутам і законамі, а ўлада камісараў была адвольнай і, праз іх права распараджацца жыццём людзей, абсалютнай. Ленінская палітыка ваеннага камунізму палягала ў распаўсюджванні такой мілітарызаванай сістэмы кіравання на вытворчасць і адміністраванне на ўсіх узроўнях. Пасля скасавання ваеннага камунізму гэтая мілітарызаваная сістэма кіравання была закамуфлявана квазідэмакратычнымі формамі і ў пэўнай меры аслабленая. Аслабленне палягала ў тым, што камісары ці партыйныя кіраўнікі як іх аналаг у грамадзянскіх структурах былі пазбаўлены права непасрэдна распараджацца жыццём людзей. А вось апасродкавана яны па-ранейшаму ім распараджаліся. Гэта ажыццяўлялася праз сілавыя структуры (КДБ і МУС). Механізм гэтага апасродкавання выглядаў наступным чынам. На ўзроўні кожнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, пачынаючы ад раёнаў, былі створаныя адпаведныя аддзелы КДБ і МУС. Гэтыя аддзелы падпарадкоўваліся не мясцовым савецкім уладам адпаведнага ўзроўню і нават не партыйным ячэйкам, а свайму непасрэднаму начальству на больш высокім узроўні вертыкалі і партыйнай структуры вышэйшага ўзроўню. Таму кіраўнікі раённага і гарадскога саветаў і партыйны кіраўнік маглі накіроўваць і кантраляваць дзейнасць органаў КДБ і МУС адносна насельніцтва на падведамаснай тэрыторыі, але яны самі маглі зрабіцца ахвярамі гэтых аддзелаў МУС і КДБ у выпадку загаду «зверху». Такі парадак рэчаў

З часам дубляванне савецкай і партыйнай улад пачало маскіравацца патройнай працэдурай прыняцця рашэнняў. На ніжэйшых узроўнях улады шмат якія рашэнні павінныя былі прымацца пры ўдзеле адпаведных прафсаюзных структур. Прафсаюзная арганізацыя ў Савецкім Саюзе была копіяй партыйнай структуры, і ўсе рашэнні на нізавым узроўні, што рэальна прымаліся партыйнымі органамі, ажыццяўляліся ад імя мясцовай улады, партыйнай і прафсаюзнай арганізацыі і падпісваліся лідарамі гэтых структур.

Такім чынам, відавочнае падваенне, а пасля і патраенне ўлады рэальна маскіравала татальную ўладу КПСС і на працягу ўсяго перыяду існавання СССР ізалявала народ ад уплыву якіх-небудзь аб’яднанняў людзей, супольнасцей ці арганізацый, непадкантрольных партыі[3].

Пераход ад гвалтоўнага падтрымання такой ненатуральнай сістэмы ўлады да традыцыі быў магчымы толькі цаной адмовы ад *здольнасцей да прыватнай ініцыятывы і спантаннай ці мэтазгоднай самаарганізацыі людзей у супольнасці і жыццяздольныя калектывы*. Страта гэтых здольнасцей прывяла сістэму прыняцця

захоўваўся ў СССР (БССР) больш за 30 гадоў, ажно да канца 1950-х, але і ў наступныя гады гэтая схема працягвала дзейнічаць ва ўскладненым і забюракратызаваным выглядзе. Празмерная бюракратызацыя стасункаў паміж партыйнымі, савецкімі ўладамі і сілавымі структурамі стварала бачнасць лібералізацыі ў брэжнеўскую эпоху.

[3] Гэтую выснову варта праілюстраваць класічным афарызмам Уладзіміра Леніна — стваральніка такой сістэмы: «Прафсаюзы — школа камунізму». Ленін цудоўна разумеў таталітарную сутнасць сістэмы ўлады, якая ім стваралася. Ён таксама дакладна разумеў, што насельніцтва, арганізаванае ў супольнасці і здольнае да прыватнай, індывідуальнай ініцыятывы, не можа кіравацца такой сістэмай улады без жорсткага гвалтоўнага прымусу. Разумеючы гэта, ён тлумачыў сваім паплечнікам, што неабходны дзесяцігоддзі і змена некалькіх пакаленняў, пакуль ад гвалтоўнага падтрымання такой сістэмы ўлады насельніцтва не пяройдзе да добраахвотнага яе прыняцця. Гэта школа для ўсяго насельніцтва. Школа ў тым сэнсе, што гвалтоўнае, штучнае падтрымліванне такой сістэмы ўлады праз некалькі пакаленняў павінна стаць традыцыяй і працягваць трансляваецца нібыта само па сабе. Менавіта гэта і здарылася ў Беларусі.

рашэнняў у краіне ў адпаведнасць з нормамі ды асабістымі якасцямі савецкіх людзей. Самаарганізацыя на мясцовым узроўні не толькі была ўскладненая адміністрацыйнымі намаганнямі, але і паступова зрабілася непатрэбнай людзям, якія добраахвотна адмаўляліся вырашаць, як уладкоўваць сваё жыццё, перакладваючы гэтую праблему на дзяржаўныя органы.

**Вытворчы прынцып пабудовы партыі.** Мы падрабязна разгледзелі ролю дублявання партыйнай улады ў ліквідацыі структур самакіравання. Варта таксама разгледзець прынцып пабудовы самой партыі, паколькі распаўсюджанне гэтага прынцыпу на пабудову і суарганізацыю ўсіх астатніх сфер жыцця ў краіне стала адным з найважнейшых фактараў, што разбуральна ўздзейнічалі не толькі на мясцовыя тэрытарыяльныя супольнасці, але і на ўсе іншыя магчымыя віды самаарганізацыі людзей.

Пры пераходзе ад падпольнай тэрарыстычнай рэвалюцыйнай партыі да партыі, якая будзе дамінаваць ў дзяржаве, бальшавікам-камуністам давялося пераасэнсаваць прынцыпы пабудовы партыі. Атрымаўшы ўладу ў велізарнай краіне, яны з аднаго боку павінныя былі перайсці да легальных і адкрытых формаў існавання, а з іншага — значна пашырыць свае шэрагі, каб пранікнуць ва ўсе сферы жыцця і дзейнасці. Партыйныя кіраўнікі ці выканаўцы павінны былі прысутнічаць у кожным без выключэння паселішчы, вайсковым падраздзяленні ці вытворчым калектыве. І не проста прысутнічаць, але і быць уключанымі ў добраарганізаваную, імгненна рэагуючую, адметную ваеннай дысцыплінай і выканаўчасцю арганізацыю. Калі раней мінімальныя ячэйкі партыі арганізоўваліся ў адпаведнасці з тэрытарыяльнай блізкасцю, то пасля прыходу да ўлады бальшавікі пачалі будаваць свае структуры *не па тэрытарыяльным, а па вытворчым прынцыпе*. У гарадскіх умовах гэта значыла, што партыйныя арганізацыі ствараюцца не па месцы жыхарства сваіх удзельнікаў, а па месцы працы. Такім чынам, партыйныя арганізацыі кантралявалі не штодзённае жыццё людзей і ўмовы гэтага жыцця, а эканоміку і рэсурсы. Прывязка да тэрыторыі партыйных арганізацый ажыццяўлялася на вышэйшым узроўні, напрыклад, на ўзроўні невялікіх гарадоў ці раёнаў буйнога горада.

У сельскай мясцовасці ў чыстым выглядзе такі прынцып быў неажыццяўляльны, паколькі вясковая гаспадарка вялася сем'ямі, а арганізаваць сямейныя партыйныя ячэйкі не маглі нават бальшавікі. Таму вясковыя супольнасці заставаліся галоўнымі суб'ектамі на тэрыторыі свайго пражывання і кантралявалі гэтую тэрыторыю. Больш за тое, ліквідацыя буйнога абшарніцкага землеўладальніцтва з аднаго боку, секулярызацыя, паслабленне аўтарытэту царквы і прыходскіх супольнасцей з іншага, нават спрыялі ўмацаванню вясковых абшчын і росту іх самаарганізацыі. У 1920-я гады вясковыя супольнасці рабіліся рэальнымі канкурэнтамі мілітарызаванай партыйнай улады, а сельскія саветы маглі зрабіцца механізмам рэальнага, а не фіктыўнага мясцовага самакіравання. З умацаваннем вясковых абшчын і ростам эканамічнага дабрабыту вёскі камуністычная партыя страчвала свой уплыў у сельскай мясцовасці. Выявіўшы гэты факт, камуністы разгарнулі калектывізацыю. Ужо ў калгасах як у вытворчых аб'яднаннях ствараліся першасныя партыйныя арганізацыі, што ажыццяўлялі рэальную ўладу з выкарыстаннем калгасных рэсурсаў і эканамічных рычагоў. Усе эканамічныя абгрунтаванні калектывізацыі былі толькі ідэалагічным камуфляжам.

На працягу першых дзесяці гадоў свайго існавання калгасы былі эканамічна немэтазгоднымі. Галадамор ва Украіне — найлепшае таму пацверджанне. Калгасы былі неабходны камуністычнай партыі дзеля паслядоўнай рэалізацыі прынцыпаў кіравання краінаю. Яны пераймалі ад індывідуальных гаспадарак усю аграрную вытворчасць, сканцэнтравалі на сабе ўсе эканамічныя рэсурсы, тым самым пазбавіўшы гэтых рэсурсаў мясцовыя сельскія саветы. Спатрэбілася некалькі дзесяцігоддзяў, каб ператварыць калгасы з інструментаў палітычнага ціску і разбурэння традыцыйнай вясковай абшчыны ў аграрна-індустрыяльныя прадпрыемствы, але да канца існавання СССР калгасы ў цэлым (за выключэннем некалькіх узорна-паказальных) так і не ўдалося зрабіць эканамічна рэнтабельнымі. Больш за тое, напрыканцы 1950-х гадоў калгасная арганізацыя сельскай гаспадаркі перастала забяспечваць СССР неабходным харчаваннем. Але эканамічныя непрыемнасці і наступствы калектывізацыі непараўнальныя з гуманітарнымі наступ-

ствамі. Гуманітарныя ж наступствы палягаюць у *поўнай пралетарызацыі насельніцтва і знішчэнні ўсіх традыцыйных формаў суарганізацыі людзей у абшчыны і супольнасці.*

Паслядоўнае распаўсюджванне і правядзенне ў жыццё вытворчага прынцыпу партыйнага кіравання спрычыніліся да таго, што ў пазбаўленых уласнасці сялян «адпала» неабходнасць у самаарганізацыі. Мясцовыя супольнасці ператварыліся ў «працоўныя калектывы». Пры гэтым жыццё ў гэтых калектывах патрабавала, з аднаго боку сталай і абавязковай уключанасці ў калектыў, а з іншага забараняла любую ініцыятыву ці ўласнае мэтавызначэнне[4].

Вытворчы прынцып, які выкарыстоўваўся кампартыяй дзеля ўмацавання сваёй улады, меў і іншыя доўгатэрміновыя наступствы, а менавіта: ён так моцна прывязваў людзей да іх месца працы, што рабіў практычна нязначнымі і неістотнымі сувязі паміж імі па месцы жыхарства. У гарадах гэта спрыяла таму, што суседзі зрабіліся настолькі непатрэбнымі адзін аднаму, што перасталі знаёміцца. Звычайнай з'явай зрабілася тое, што гарадскія жыхары не ведаюць, хто жыве ў суседняй кватэры. У вёсцы, дзе сувязь паміж аднавяскоўцамі праяўляецца больш выразна, калектывізацыя і прывязка да калгасаў спрычыніліся да таго, што нават неабходная дапамога людзей адзін аднаму пачала аказвацца за пасярэдніцтвам калгасаў. Тое, што раней рабілася «талакой» — то бок, пры дапамозе суседскіх абшчын, напрыклад, нарыхтоўка кармоў, паліва, меліярацыйныя работы, абарона быдла ад драпежнікаў, рамонт дарог, мастоў і г. д., цяпер рабілася выключна з дазволу калгаснага начальства і з прыцягненнем калгасных рэсурсаў. Невыпадкова прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка спыніў пасля свайго прыходу да ўлады развіццё фермерскіх гаспадарак і фермерскі рух ды заняўся адбудовай калгасаў, шчыра заяўляючы, што для яго *калгасы — гэта не эканамічная, а палітычная катэгорыя.*

[4] У гарадах справа выглядае больш складана: вытворчы прынцып пабудовы камуністычнай партыі дазваляў рэалізоўваць партыйную ўладу, але не мог перашкодзіць суарганізацыі людзей па інтарэсах і захапленнях. Таму завершыць працу па разбурэнні супольнасцей былі закліканыя прафсаюзы. Ролю прафсаюзаў мы разгледзім ніжэй.

**«Прывадныя рамяні партыі і школа камунізму».** Наколькі б значнай ні была для кожнага чалавека яго прафесійная дзейнасць ці іншыя («непрафесійныя») спосабы зарабляць на жыццё, застаецца яшчэ нейкая частка вольнага часу, які ён прысвячае адпачынку, стасункам з іншымі людзьмі, адукацыі, хобі і захапленням, выкананню рэлігійных абрадаў і г. д. Камуністычны лад кіравання арганічны падчас вайны ці адбудовы пасля ваеннай разрухі. З дасягненнем пэўнай эканамічнай стабільнасці і з'яўленнем у людзей вольнага часу камуністычная партыя пачынае адчуваць небяспеку і пагрозу сваёй манаполіі на ўладу. Каб мінімізаваць гэтую небяспеку і пагрозу, яна імкнецца кантраляваць вольны час, адпачынак, адукацыю і нават рэлігійныя рытуалы.

На працягу розных перыядаў свайго кіравання камуністычная партыя СССР вынайшла разнастайныя формы кантролю над невытворчай часткай жыцця людзей. Такой формай было, напрыклад, прывязванне вольнага часу гарадскіх жыхароў да апрацоўкі дзялянак на лецішчах, што дазваляла ім з аднаго боку вырашаць праблему дэфіцыту прадуктаў, а з іншага выклікала раз'яднанне людзей у час, калі тыя знаходзіліся па-за межамі вытворчасці.

Але самай галоўнай формай кантролю над вольным часам зрабіліся *савецкія прафсаюзы.* Ва ўласнасць прафсаюзам была перададзена ўся інфраструктура адпачынку і большая частка забаўляльнай інфраструктуры. Заробкі савецкіх людзей не дазвалялі самастойна аплочваць турыстычныя паездкі, адпачынак на моры ці на прыродзе, санаторнае лячэнне ці захапленне затратнымі відамі спорту. Усё гэта магло аплочвацца са сродкаў савецкіх прафсаюзаў. Фактычна прафсаюзы маглі кантраляваць большую частку вольнага часу савецкіх людзей. Усе савецкія людзі да аднаго ўваходзілі ў прафсаюзныя арганізацыі паводле месца працы, плацілі членскія ўзносы і маглі атрымліваць ад прафсаюзаў пуцёўкі — часам «задарма», часам за сімвалічны кошт. *Таму дзеля задавальнення сваіх цікавасцей і захапленняў савецкім людзям не трэба было выказваць індывідуальную ініцыятыву ці самаарганізоўвацца.* Гэтыя абавязкі пераймалі прафсаюзы. Рэдкія выключэнні пачалі з'яўляцца толькі ў эпоху застою, калі турысты, аматары самадзейнай песні, моладзь

з экзатычнымі захапленнямі атрымалі магчымасць ствараць самастойныя арганізацыі. Менавіта гэтыя праявы самастойнасці ў выглядзе нефармальных экстэрытарыяльных супольнасцей і зрабіліся апірышчам палітычнай і грамадскай актыўнасці ў гады перабудовы.

Да ўсяго сказанага варта прыгадаць адметную асаблівасць савецкіх прафсаюзаў, якая палягае ў тым, што яны аб'ядноўвалі ў сваіх шэрагах і наёмных працаўнікоў, і адміністрацыю прадпрыемства. Усе супрацоўнікі любога прадпрыемства ад рабочага да дырэктара ўваходзілі ў адну прафсаюзную арганізацыю, якая належала да галіновага прафсаюзу адпаведнага міністэрства. І нават міністры, прадстаўнікі ўрада былі членамі адпаведнага галіновага прафсаюзу, за выключэннем тых міністраў, якія не мелі галіновага прафсаюза і таму належалі да прафсаюза дзяржаўных служачых. Савецкія прафсаюзы аб'ядноўвалі людзей на прадпрыемствах, але кантралявалі іх жыццё па-за межамі прадпрыемстваў і ніякім чынам не рэгулявалі працоўныя спрэчкі і канфлікты. Такім чынам, прафсаюзы гралі вельмі важную ролю ў кантролі над індывідуальным жыццём савецкіх людзей. Яны запаўнялі тыя прагалы, якія не ахопліваліся партыйным і вытворчым кантролем. У той самы час яны таксама рэпрадукавалі вытворчы прынцып, прывязваючы ўсе чалавечыя зносіны да найбольш непадуладнай чалавеку структуры. Апрача ленінскага афарызма: «Прафсаюзы — школа камунізму», — вядомы яшчэ і сталінскі афарызм: «Прафсаюзы — гэта прывадныя рамяні партыі». Іх прызначэнне і палягала ў тым, каб зрабіць неабавязковым, а ў некаторых выпадках і немагчымым, спантаннае аб'яднанне людзей паводле зацікаўленняў і якую-кольвек самаарганізацыю па-за межамі вытворчасці.

## Сфера прыватнага жыцця

З першых гадоў улады бальшавікі імкнуліся кантраляваць сацыяльнае жыццё, разумеючы пры гэтым, што ніякія формы яго кантролю без умяшальніцтва і змены асабістага жыцця і прыватнай прасторы чалавека не могуць быць устойлівымі і доўгачасовымі.

Некаторыя формы кантролю, звязаныя з рэарганізацыяй вытворчасці і структуры кіравання грамадствам, мы разгледзелі вышэй, цяпер жа звернемся да кантролю над прыватным жыццём. Спосабы такога кантролю зводзіліся ў бальшавікоў да трох асноўных:

1) непасрэдны гвалт, прымус;

2) размеркаванне матэрыяльных выгодаў і рэсурсаў;

3) ідэалагічны ціск у форме агітацыі, прапаганды і, галоўнае, адукацыі.

Разгляд формаў гвалту і прымусу не ўваходзіць у нашу задачу, а два апошнія спосабы мы зараз паслядоўна разгледзім.

**Жыллёвае пытанне.** Савецкая ўлада ад самага пачатку сканцэнтравала ў сваіх руках усе сродкі вытворчасці і матэрыяльныя рэсурсы дзеля таго, каб прывязаць да сябе кожнага жыхара краіны, каб пазбавіць насельніцтва незалежнай ад савецкай улады крыніцы сродкаў да існавання.

У кантэксце нашай тэмы мы абмяжуемся толькі разглядам размеркавання жылля, жыллёвых плошчаў ды рэсурсаў. Гэта быў адзін з найбольш дзейсных рычагоў уплыву на сферу прыватнага жыцця людзей, рычагом падпарадкавання і кантролю з боку савецкай улады, з першых да апошніх гадоў яе існавання. Яшчэ перад вайной пісьменнік Міхаіл Булгакаў сфармуляваў тэзіс пра антрапалагічныя наступствы размеркавання жылля ў СССР: «Масквічы ўсё тыя ж, толькі кватэрнае пытанне іх сапсавала».

Нацыяналізаваўшы практычна ўвесь жыллёвы фонд у гарадах, савецкая ўлада атрымала кантроль над працэсамі міграцыі і дэмаграфічнай рэпрадукцыі. Але гэтага было мала. *Палітыка савецкай улады ў галіне размеркавання жылля мела сваімі прыярытэтамі разбурэнне звыклых сацыяльных сувязей і стасункаў*, і дасягалася гэта некалькімі спосабамі. Пералічым толькі некаторыя з іх, спыніўшыся або на самых масавых, або на самых яскравых праявах.

**Камунальныя кватэры.** Ва ўсіх вялікіх гарадах Савецкага Саюза быў нацыяналізаваны ўвесь жыллёвы фонд, уключна з дамамі прадстаўнікоў вышэйшых класаў, прыбытковыя дамы і ўсё астат-

няе, за выключэннем, бадай што, прыватных дамоў, разлічаных не больш чым на адну сям'ю. Нацыяналізаваныя кватэры і дамы разбіваліся на асобныя пакоі, у кожным з якіх пражывала адна сям'я. Усё, што выходзіла па-за межы жылога пакоя, лічылася месцамі агульнага карыстання, у тым ліку кухня, прыбіральня, калідор, каморкі і г. д. Часам ранейшыя гаспадары кватэр ці цэлых дамоў, а гэта часцей за ўсё былі прадстаўнікі вышэйшых слаёў, інтэлігенцыя ці рабочыя высокай кваліфікацыі, не высяляліся і не паддаваліся рэпрэсіям. Але ім пакідалі адзін пакой нароўні з усімі астатнімі. Гэта называлася «ўшчыльненнем», а такое жыллё атрымала назву «камунальнай кватэры». У некаторых камунальных кватэрах жыло па некалькі дзясяткаў сем'яў.

Першапачаткова камунальныя кватэры арганізоўваліся з самымі добрымі намерамі — забяспечыць жылём. Але з цягам часу зрабіліся відавочнымі заганы камунальных кватэр, якія паводле свайго ўздзеяння на людзей і стасункі паміж імі ўяўлялі не меншую пагрозу, чым бесхацінства. У першую чаргу праблемы былі звязаныя з немагчымасцю аптымальным чынам паклапаціцца пра месцы агульнага карыстання. У другую чаргу — з несупадзеннем ладу жыцця, культуры, традыцый, абрадаў і нават гігіенічных звычак прадстаўнікоў розных слаёў грамадства, якія засяляліся ў гэтыя кватэры. Ужо ў 1920-я гады словы «камунальная кватэра», «камуналка» былі сінонімамі скандалаў, канфліктаў, міжасабовай напружанасці і разладаў. Паступова ў камунальных кватэрах склаўся асаблівы лад жыцця і чалавечых стасункаў. Урэшце рэшт (хоць гэты працэс і зацягнуўся на дзесяцігоддзі) савецкія людзі навучыліся жыць у камунальных кватэрах і ладзіць між сабой, але гэта навука і гэта злагада *даліся цаною адмовы ад вольнага выбару ладу жыцця, цаною нівеліявання ладоў жыцця ды сцірання саслоўных, класавых, маёмасных, культурных, нацыянальных і рэлігійных традыцый.* Распаўсюджванне атрымалі ўсярэднены лад жыцця і заніжаны ўзровень патрэб. Увайшло ў звычку душыць уласную індывідуальнасць дзеля міру і спакою ў калектыве, выйсці з якога чалавек практычна не меў магчымасцей праз інстытут прапіскі, пра які мы скажам крыху ніжэй. У той самы час нават усталяваныя «мірныя» адносіны суседзяў не зрабіліся падставай

для развіцця мясцовых супольнасцей. Па-першае, дасягнутая ўсярэдненасць была вынікам не кампрамісу поглядаў і інтарэсаў, а іх (інтарэсаў і поглядаў) знішчэння. Супольнасці ж арганізуюцца на падставе агульных інтарэсаў, каштоўнасцей і мэт. Па-другое, жыхары камунальных кватэр, нягледзячы на тое, што жылі ў іх некалькімі пакаленнямі, не маглі ставіцца да гэтага жылля як да сваёй уласнасці, якая вымагае клопату і далёкасяжных планаў. Хісткасць матэрыяльнага і сацыяльнага становішча ды і жыцця наогул, залежнасць ад непадуладных чалавеку рашэнняў патрабавала ад чалавека развіваць здольнасці шукаць хутчэй лепшага жыцця («цёплага месца»), чым нейкага супольнага ўладкавання, кааперацыі ды суарганізацыі.

**Баракі.** Паскораная ўрбанізацыя савецкіх гадоў пры абмежаваных інвестыцыйных рэсурсах мела той вынік, што ў гарады, якія хутка развіваліся, скіравалася плынь мігрантаў з адсталых і дэпрэсіўных рэгіёнаў. З'явілася дыспрапорцыя паміж патрэбай у працоўнай сіле і магчымасцямі забяспечыць нармальныя ўмовы для існавання новых рабочых. Як правіла, гэта вырашалася стварэннем часовага таннага жылля. На першых этапах індустрыялізацыі ў даваенны перыяд у Савецкім Саюзе такім танным жыллём былі баракі. Гэта былі адна- і двухпавярховыя збудаванні з некандыцыйнай драўніны ці будаўнічых адкідаў, прызначаныя для часовага размяшчэння будаўнікоў ці рабочых. У якасці часовага жылля баракі выкарыстоўваліся і для спецыялістаў, якіх прывозілі на будоўлі. Аднак згодна з планавай гаспадаркай Савецкага Саюза пасля збудавання новых прадпрыемстваў выдаткі на капітальнае будаўніцтва (аналаг інвестыцый у рынкавай эканоміцы) скарачаліся, таму практычна ўсе, хто не паспеў да заканчэння будаўніцтва атрымаць сталае жыллё, заставаліся жыць у бараках. Паступова ўцепленыя баракі ператвараліся ў сталае жыллё для некалькіх пакаленняў людзей.

У больш забяспечаныя 1960-я — 1970-я гг. для рабочых і мігрантаў пачалі будаваць баракі ўдасканаленага тыпу, якія зваліся інтэрнатамі ці «маласямейкамі». Назва «маласямейка» з'явілася тады, калі ўжо ні ў каго не заставалася ілюзіяў адносна часовасці жылля такога гатунку. У 1980-я гады мадэрнізаваныя «баракі»

пачалі будаваць з тых самых матэрыялаў, што і дамы масавай забудовы, і нават з мінімальна неабходным наборам выгодаў. Жыццё ў бараках, а пасля ў інтэрнатах характарызавалася адначасова некалькімі негатыўнымі для выжывання супольнасцей фактарамі: часовасць жылля, канкурэнцыя за права вырвацца ў больш камфортныя ўмовы, бесперспектыўнасць такіх памкненняў і, галоўнае, пачуццё і ўсведамленне, што ад самога чалавека практычна нічога не залежыць. Усе гэта нараджала ўтрыманскія і патэрналістычныя ўстаноўкі савецкага чалавека, які ніколі не адчуваў сябе поўным гаспадаром памяшкання, у якім жыве. Для дзяцей, якія выраслі ў жыллі такога кшталту, а часам і стварылі ў ім уласныя сем'і, характэрна нізкая самаацэнка, заніжаныя сацыяльныя патрэбы, паслухмянасць і безыніцыятыўнасць. Спробы абаперціся на пачуцце салідарнасці, узаемадапамогі ў раёнах барачнай забудовы практычна бесперспектыўныя.

**Хрушчоўская горадабудаўнічая рэформа.** Асаблівую вастрыню жыллёвае пытанне набыло напрыканцы 1950-х — на пачатку 1960-х гг. Дзеля яе зняцця была разгорнута праграма жыллёвага будаўніцтва, якая расцягнулася на некалькі дзесяцігоддзяў і сфармавала твар савецкіх гарадоў, у тым ліку беларускіх. Твар, захаваны да сёння. Праграма палягала ў паскораным, масавым будаўніцтве танных шматкватэрных дамоў з кампактнымі кватэрамі ды тыпавым наборам выгодаў і паслуг. У кароткі тэрмін забудоўваліся цэлыя раёны. Будаўнічыя пляцоўкі займалі шмат квадратных кіламетраў. Галоўнай асаблівасцю такіх дамоў была цесната і абмежаванасць, якая, тым не менш, была за шчасце, паколькі сям'я атрымлівала асобную кватэру. Найбольш масава праектаваліся адна- і двухпакаёвыя кватэры, разлічаныя на так званую нуклеарную сям'ю: муж, жонка і адно ці двое дзяцей. Гэтая праграма дазволіла рассяліць большасць камунальных кватэр, ліквідаваць значную частку барачнай забудовы, а ў 1970-х гг. у блочныя дамы пачалі перасяляць жыхароў прыватнага сектара. У той самы час праграму блочнага домабудаўніцтва распаўсюдзілі з гарадоў на сельскую мясцовасць.

Сацыяльныя і дэмаграфічныя наступствы гэтай праграмы былі разбуральнымі і амаль непапраўнымі. «Хрушчоўкі», як пачалі на-

зываць гэтыя дамы ў народзе, практычна завяршылі разбурэнне традыцыйнай шматгенерацыйнай сям'і сярод народаў еўрапейскай часткі былога СССР. У тым ліку і ў Беларусі. Разарваўшы пакаленні адной сям'і ды раскідаўшы іх па розных частках гораду, «хрушчоўкі» знішчылі практычна апошнюю магчымасць для савецкага чалавека атрымаць досвед жыцця ў мінісупольнасцях, якімі былі вялікія сем'і, што нярэдка ўключалі не толькі сваякоў. Вялікія сем'і заставаліся спосабам трансляцыі традыцый, каштоўнасцей і ладу жыцця, не звязаных з нормамі савецкага чалавека. Коштам згуртаванасці і ўзаемадапамогі такія сем'і маглі выжываць і ў найскладанейшыя часы.

«Хрушчоўкі» гэтаксама моцна абмежавалі рост нуклеарнай сям'і. Чаргі на атрыманне кватэры даводзілася чакаць вельмі доўга, таму сем'і вымушаныя былі планаваць нараджальнасць, абмяжоўваючы яе памерамі наяўных кватэр. Акрамя таго, гэтая масавая безаблічная забудова гарадскіх ускраін спарадзіла такую з'яву, як «спальныя раёны». «Спальныя» азначае, што ў гэтых раёнах практычна адсутнічае неабходная для актыўнага і разнастайнага жыцця інфраструктура. Таму жыццё людзей працякае або на вытворчасці, або ў цэнтральных раёнах горада, дзе сканцэнтраваныя пляцоўкі для ўсіх відаў баўлення часу. *Адпаведна ў месцах пражывання людзі практычна не мелі патрэбы адзін у адным.* Усе камунальна-побытавыя праблемы вырашаліся дзяржавай. У 1960-я гг., калі хрушчоўкі будаваліся ў непасрэднай блізкасці ад традыцыйнага цэнтра горада, у гэтыя раёны пранікала вулічная і дваравая інфраструктура. У дварах арганізоўваліся пляцоўкі для заняткаў спортам і гульняў, ствараліся месцы сустрэч і камунікацыі суседзяў. Чым далей ад цэнтра горада шырылася гэтая забудова, тым менш неабходнасці было ў такой інфраструктуры. Двары і вуліцы сталі выміраць, пляцоўкі для гульняў і спорту паступова выкарыстоўваліся не для дзіцячых гульняў, а для выгулу сабак ці як аўтастаянкі. Камунікацыя ў гарадскіх кварталах і раёнах паміж суседзямі практычна спынілася.

**Інстытут прапіскі.** Разбуральнае дзеянне ўсіх фактараў, звязаных з жыллёвым пытаннем, узмацняў інстытут прапіскі, які фікса-

ваў і замацоўваў несвабоду прыватнага жыцця савецкага чалавека. Феномен прапіскі дастаткова добра апісаны і прааналізаваны. Яго значэнне для абмежавання свабоды руху і кантролю над прыватным жыццём грамадзян добра вядома і ў былых савецкіх краінах, і па-за іх межамі.

Мы звернем увагу толькі на той аспект гэтага інстытуту, які мае значэнне для разбурэння супольнасцей і нармальных формаў сацыяльнай жыцця.

Кожны савецкі чалавек з дапамогай прапіскі прывязваўся да пэўнага месца жыхарства, да нейкай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Эканамічныя і культурныя адрозненні паміж тэрыторыямі можна разглядаць як аналаг саслоўных і феадальных прывілеяў. Нарадзіцца ў сталіцы азначала мець прывілеі паводле нараджэння, незалежна ад асабістых талентаў, здольнасцей, працавітасці і г. д. Але нават нараджэнне ў сталіцы не гарантавала роўных правоў, паколькі чалавек не мог свабодна выбраць школу для навучання, а вымушаны быў наведваць прызначаную паводле месца прапіскі. Партыя і савецкая ўлада разумелі несправядлівасць, уласцівую інстытуту прапіскі, і прабавалі вынаходзіць рознага роду кампенсацыйныя механізмы, уводзячы квоты, напрыклад, на паступленне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы для вясковых жыхароў, каб неяк ураўняць іх з гарадскімі дзецьмі. Існавалі нават квоты на ўступленне ў партыю. Але ўсе гэтыя механізмы не столькі спрычыняліся да сапраўднага аднаўлення справядлівасці, колькі ўмацоўвалі патэрналістычныя настроі ў раёнах з нізкім эканамічным і сацыяльным статусам і выклікалі карупцыю ў раёнах з высокім эканамічным і сацыяльным статусам. Кажучы наўпрост, «бедныя» ўсё больш ўмацоўваліся ў надзеях на падачкі і льготы з боку дзяржавы, а «багатыя» ўсё больш ўмацоўваліся ва ўяўленні, што ўсё ў гэтым жыцці вырашаецца знаёмствамі і хабарам.

Прапіска прымацоўвала чалавека да месца жыхарства, але не звязвала, а хутчэй раз'ядноўвала яго з суседзямі, паколькі ўсе надзённыя пытанні вырашаліся дачыненнямі «чалавек — дзяржава (у асобе чыноўніка)», і кожны шукаў свой шлях усталявання і «паляпшэння» гэтых дачыненняў.

Дэ-юра інстытут прапіскі, які Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР, захоўваўся даволі доўга, ажно да 2007 г. Зусім нядаўна «прапіска» была заменена на іншую працэдуру — «рэгістрацыю». Пры гэтым па сутнасці нічога не змянілася, што гаворыць усяго толькі пра важнасць гэтага інстытуту ў справе захавання сацыяльных адносін і сацыяльнай структуры грамадства, якія існавалі ў Савецкім Саюзе. У гарадах яго эфектыўнасць шмат у чым падарваная з'яўленнем рынку нерухомасці, а ў сельскай мясцовасці ён дзейнічае і захоўвае сваю моц, практычна ў той самай ступені, як і ў часы СССР.

**Умяшальніцтва ў прыватнае жыццё вясковых жыхароў.** Толькі што мы апісвалі інстытут прапіскі, які быў уведзены першапачаткова ў гарадах і складнікам якога была ўсеагульная пашпартызацыя гарадскога насельніцтва. Вясковыя жыхары не мелі пашпартоў да канца 1950-х гг. Адсутнасць пашпарта цалкам пазбаўляла іх свабоды перамяшчэння. Выехаць з уласнага месца жыхарства, нават каб перабрацца ў суседнюю вёску, сяляне маглі толькі з дазволу ўладаў. Фактычна ў сельскай мясцовасці было адноўлена прыгоннае права. Кожная сялянская сям'я была прыпісана да адпаведнага калгаса ці вытворчага прадпрыемства. Дзеля ўмацавання адміністратыўнай прывязкі праводзілася калектывізацыя ўласнасці. Першапачатковая калектывізацыя ў 1930-я гг. распаўсюджвалася не толькі на зямлю і сродкі вытворчасці, але і практычна на ўсю маёмасць сям'і. Затым сялянскім сем'ям вярнулі частку маёмасці: прысядзібныя гароды, хатнюю птушку, дробную жывёлу (трусоў, коз). Але на працягу трох першых дзесяцігоддзяў існавання калгасаў сяляне не атрымлівалі грошай за сваю працу. Практыкавалася натуральная аплата з дапамогай асаблівай разліковай адзінкі — працадзень. У працаднях налічалася колькасць кожнаму працаўніку прадуктаў, што ўключалі збожжа, масла, цукар і г. д. Грошы сяляне маглі атрымліваць, толькі пры продажы атрыманага за працадні. Раз-пораз праводзіліся кампаніі закліканыя пазбавіць сялян крыніц самазабеспячэння. Напрыклад, адна з хрушчоўскіх рэформаў прадугледжвала ўвядзенне грашовага падатку на пладовыя дрэвы пры адначасовай заба-

роне рэалізоўваць садавіну з ўласнага саду на кірмашы, што стала прычынай масавага высякання пладовых дрэў. Такім чынам, сяляне, валодаючы ўласным жыллём, апынуліся ў яшчэ больш цяжкім становішчы, чым гарадскія жыхары, будучы пазбаўленымі не толькі прававых, але і эканамічных падстаў асабістай свабоды. Адзіным спосабам набыць адносную асабістую свабоду для сялян былі або служба ў войску, або паступленне ў вышэйшую навучальную ўстанову з наступным працаўладкаваннем у горадзе.

На фоне такога практычна прыгоннага ладу жыцця сярод сялян паскоранымі тэмпамі распаўсюджвалася адукацыя. У 1920-я — 1930-я гг. была разгорнута праграма паскоранай ліквідацыі непісьменнасці. Нават пачатковы ўзровень адукацыі дазваляў сялянам усведамляць усю архаічнасць і несправядлівасць свайго становішча. Таму мараю практычна кожнага вясковага жыхара зрабілася перасяленне ў горад. У канчатковым выніку спарадзіла масавае перакананне: сяляне — грамадзяне другога гатунку, і статус вясковага жыхара пачаў разглядацца як жыццёвая параза і няшчасце. Такім чынам былі знішчаныя псіхалагічныя падставы для існавання вясковых абшчын і супольнасцей.

## Культурная рэвалюцыя, выхаванне новага чалавека і адукацыя

Яшчэ адным з найважнейшых механізмаў разбурэння супольнасцей як формы жыцця людзей і іх самаарганізацыі, механізмаў, што дзейнічаюць на ўзроўні асобы (каштоўнасцей, поглядаў, ладу жыцця, традыцый), былі савецкая культура і адукацыя. Калі ў апошнія дзесяцігоддзі ў СССР бытавала пашыранае перакананне, што савецкая адукацыя — найлепшая ў свеце, то такое перакананне мела свае сур’ёзныя падставы. Мусіць, ніводны іншы ўрад на свеце не надаваў такога вялікага значэння адукацыі, як савецкая ўлада на працягу ўсяго свайго існавання. Прычым адукацыя разумелася дастаткова шырока. Адукацыі, выхаванню, а дакладней, перавыхаванню народа надавалася прыярытэтнае значэнне ў замацаванні і ўтрыманні ўлады.

Ад самага пачатку перад савецкай уладай ставіліся задачы не толькі «індустрыялізацыі», «калектывізацыі», але і «культурнай рэвалюцыі». *Пад культурнай рэвалюцыяй разумелася выхаванне новага чалавека, які б хацеў, умеў і любіў жыць пры сацыялізме.* Лідары бальшавікоў добра разумелі, што чалавек папярэдняй эпохі не можа палюбіць сацыялізм і, мусіць, нават не можа навучыцца (прымусіць сябе) жыць пры сацыялізме. Фактычна задача выхавання новага чалавека вырашалася пры дапамозе трох тыпаў сродкаў.

1. Першы тып сродкаў напрамую вынікае з філасофіі гістарычнага і дыялектычнага матэрыялізму. Паколькі «быццё вызначае свядомасць», то дзеля фармавання пэўнай свядомасці неабходна арганізаваць пэўныя, адпаведныя ёй ўмовы быцця. Уласна тое, што мы апісалі вышэй, часткова характарызуе ўмовы быцця — гэта значыць, умовы жыцця і дзейнасці савецкіх людзей ў розных праявах — ад удзелу ў палітыцы (прынцып фармавання партыі, самакіраўніцтва) да рэгламентацыі прыватнага жыцця праз праектаванне жылога асяроддзя.

Гэтыя ўмовы быцця былі закліканыя разбурыць ці істотна перайначыць традыцыйныя сацыяльныя інстытуты, на якіх базуецца еўрапейскае грамадства, еўрапейскія нацыі: інстытут прыватнай уласнасці, інстытут права, інстытут сям'і, інстытут асобы і г. д.

2. Нават найбольш артадаксальныя марксісты-ленінцы разумелі, што хоць быццё і вызначае свядомасць, але свядомасць характарызуецца некаторай вязкасцю, інертнасцю і кансерватызмам. Таму быццё вызначае яго не адразу, не заўсёды і не цалкам, а значыць, патрэбны нейкія іншыя сродкі кантролю над свядомасцю, апрача стварэння ўмоў для быцця (жыцця і дзейнасці). У якасці такога сродку кантролю над свядомасцю пачалі выкарыстоўваць гвалт. Уласна, гвалт заўсёды суправаджаў войны і заўсёды быў уласцівы дзяржаве як інстытуту прыгнячэння адных груп людзей іншымі. Але толькі бальшавікі (нават не якабінцы часоў Вялікай французскай рэвалюцыі) ўпершыню сталі выкарыстоўваць гвалт не як сродак абароны, нападу, пакарання ці застрашэння (то бок традыцыйныя спосабы выкарыстання гвалту), а ў якасці інструмента кантролю над свядомасцю і выхавання / перавыхавання вялікіх

сацыяльных груп. *Бальшавікі надалі гвалту індустрыяльны характар.* Так яны выкарыстоўвалі канцэнтрацыйныя лагеры, вынайдзеныя брытанскімі акупацыйнымі войскамі ў Паўднёвай Афрыцы, але зрабілі іх не аднаразовым мерапрыемствам на акупаваных тэрыторыях, а спосабам мабілізацыі працоўных рэсурсаў і школы для масавага перавыхавання і г. д. На працягу ўсёй гісторыі Савецкага Саюза хвалі гвалту то ўспыхвалі, то затухалі, але ніколі не спыняліся цалкам. Часткова з дапамогай гвалту былі знішчаны носьбіты ладоў жыцця, нязручных для савецкай улады, часткова праз застрашэнне насельніцтву навязваліся элементы неабходнага ладу жыцця.

3. Трэці тып сродкаў, выхавання новага чалавека — гэта непасрэдна адукацыйныя сродкі. Уся сістэма адукацыі ў Савецкім Саюзе традыцыйна называлася народнай адукацыяй і асветай. Народная адукацыя — гэта дастаткова дакладная фармулёўка, паколькі савецкія лідары і ідэолагі былі зацікаўлены менавіта ў *масавай* і *аднароднай* адукацыі для ўсіх без выключэння савецкіх людзей. А вось асвету яны разумелі ў духу французскай буржуазнай рэвалюцыі. Зразумела, што якабінская трактоўка асветы меркавала наяўнасць не толькі камітэтаў грамадзянскага выратавання і гільяціну, але і бясплатныя масавыя школы, масавую агітацыю ды прапаганду. Сфера апошняй распасціралася ад манументальнай прапаганды ў архітэктурных формах да зместу калыханак. Выхаванню савецкага чалавека правадыры ды ідэолагі камунізму падпарадкоўвалі і сродкі масавай інфармацыі, і мастацтва, і нават укаранёную ў народзе рэлігійнасць. Кіно, тэатр, папулярная музыка, паэзія і літаратура — усе жанры мастацтва мабілізаваліся ды выкарыстоўваліся дзеля выканання задач культурнай рэвалюцыі.

Бурлівы перыяд эстэтычных творчых пошукаў скончыўся да сярэдзіны 1920-х гг. Пасля чаго ўсе тыя, што працягвалі эстэтычныя пошукі і эксперыменты, маглі працягваць іх у канцлагерах, а магістральная лінія развіцця савецкага мастацтва — сацыялістычны рэалізм — выразна адсочвалася і кіравалася партыйнымі органамі.

Уласна адукацыя, то бок арганізацыя школ усіх тыпаў і ўзроўняў, таксама перажыла перыяд творчых пошукаў і эксперымен-

таў. У Савецкім Саюзе былі выпрабаваны практычна ўсе модныя тады ў свеце педагагічныя, дыдактычныя і арганізацыйныя ідэі, а шмат што ў тыя гады было вынайдзена ды ўбачыла свет упершыню. Але ў сярэдзіне 1930-х гг. савецкая ўлада вызначылася са сваім выбарам: плюралізм і ўсе дыдактычныя пошукі ды эксперыменты былі спынены. Уся сістэма адукацыі Савецкага Саюза ад Брэста да Далёкага Усходу будавалася як *адзіная агульнаадукацыйная політэхнічная школа.* У рамках гэтай адзінай школы была дасягнутая беспрэцэдэнтная стандартызацыя зместу адукацыі, формаў і метадаў навучання. Асабістыя і прафесійныя якасці педагогаў ўсярэдніць было немагчыма, але адзінства навучальнага плана практычна не дазваляла педагогам выяўляць свае якасці і здольнасці. Затое дазваляла дасягнуць такой стандартнасці і дапасаванасці, што вучань з вясковай школы ў Сібіры мог перайсці ў сталічную школу і працягнуць навучанне з таго месца, на якім ён перапыніў свае заняткі ў старой школе.

Стандартызацыя і ўніфікацыя сярэдняй школы выступала ўзорам для пабудовы школ іншых тыпаў і ўзроўняў: дашкольнай, сярэдняй спецыяльнай, вышэйшай. Аднак на гэтых узроўнях такіх поспехаў так ніколі і не дасягнулі. *Галоўным прадуктам савецкай школы былі не веды, навыкі, уменні, кваліфікацыі навучэнцаў, а асоба выпускніка.* Гэтая асоба апісвалася ў рознага роду магічных катэгорыях накшталт «гарманічна ўсебакова развітай», «палітычна пісьменнай» і «маральна ўстойлівай» асобы. У пачатку 1960-х гадоў быў нават прыняты стандарт для такой асобы, які атрымаў назву «Маральнага кодэкса будаўніка камунізму». Нягледзячы на рытуальны дэкларацыйны характар апісання асобы выпускніка савецкай школы і тое, што яго ўвасабленне ніколі практычна немагчыма было сустрэць у рэальнасці, усё ж асноўную задачу выхавання новай асобы савецкая школа выконвала. Праўда, канчатковы вынік апісваўся зусім у іншых тэрмінах і катэгорыях. Некаторыя вельмі прыблізныя апісанні гэтага тыпу асобы вядомы з даўніх часоў, ад мастацкіх вобразаў Эліяса Канэцці, гратэскавых апісанняў Оруэла да фармалізаваных матэматызаваных формул Уладзіміра Лёфеўра. Новая асоба характарызуецца безыніцыятыўнасцю і за-

лежнасцю ад калектыву. *Савецкі чалавек практычна не здольны да аўтаномнага індывідуальнага жыцця і мае патрэбу ў калектыве, але з іншага боку калектыў, які складаецца з такіх індывідаў, не здольны да самаарганізацыі.*

Гэтая асаблівасць савецкага калектывізму мае надзвычайнае значэнне ў рамках нашай тэмы. Індывідуальны член савецкага калектыву, уліваючыся ў яго, страчваў суб'ектнасць, то бок падпарадкоўваў свае інтарэсы і мэты інтарэсам і мэтам калектыву. Але і калектыў ніколі не рабіўся паўнавартасным суб'ектам, ён абавязкова накіроўваўся дырэктывамі звонку. Важна разумець, што і чалавек асобна, і калектыў у выніку савецкай адукацыі і культурнай палітыкі страчваюць здольнасць да мэтавызначэння. І індывід, і калектыў страчваюць здольнасць да рэфлексіі, таму яны не разумеюць адкуль бяруцца мэты, лічаць іх самімі па сабе зразумелымі і натуральна ўласцівымі калектывам, прычым важна, што мэта прыпісваецца менавіта калектыву, а не індывідуальнаму чалавеку, не асобе. Таму савецкія людзі, будучы аб'яднанымі ў калектыў, лёгка і пакорліва працуюць дзеля дасягнення такіх мэт, якіх не падзяляе ніводны ўдзельнік гэтага калектыву.

Савецкіх людзей з дзіцячых гадоў вучылі жыць у калектыве, падпарадкоўваць калектыву сваю волю, ісці ўслед за калектывам і шмат чым ахвяраваць дзеля калектыву. Але ніколі: ні ў дзяцінстве, ні ў дарослым узросце — іх не вучылі ствараць супольнасці, ставіць і аналізаваць мэты.

Першая спроба навучаць савецкіх студэнтаў менеджменту (у склад прафесійных якасцей менеджара ўваходзяць і мэтавызначэнне, і ўменне ствараць ды арганізоўваць калектывы і супольнасці) была зробленая ў сярэдзіне 1960-х гг., калі акадэмік Вадзім Трапезнікаў, вярнуўшыся з Амерыкі, пры садзейнічанні Мікіты Хрушчова паспрабаваў стварыць інстытут кіравання. Праз некалькі гадоў гэты інстытут, захаваўшы назву, пачаў вучыць таму самаму, што і ўсе савецкія ВНУ — вытворчым тэхналогіям.

Кіраўнічыя навыкі і ўменні савецкія людзі атрымлівалі, робячы кар'еру ў дзіцячых і юнацкіх падраздзяленнях камуністычнай

партыі (акцябраты, піянеры, камсамольцы). Кар'ера ў гэтых арганізацыях, безумоўна, спрыяла набыццю практычных навыкаў камандавання людзьмі. Камандаванне, але не кіраванне, паколькі для кіравання неабходныя яшчэ і тэарэтычныя веды пра ўласную кіраўнічую дзейнасць. Адсутнасць такіх тэарэтычных ведаў была галоўнай адметнасцю савецкіх палітычных лідараў і партыйных правадыроў. Таму савецкая і партыйная іерархія стваралася не праз адукацыю і павышэнне кваліфікацыі, а шляхам натуральнага адбору.

Адзінай і агульнай для ўсіх савецкіх і партыйных функцыянераў мэтай быў рух угару па кар'ернай лесвіцы. А рух лідара на прыступку вышэй дасягаўся ў выніку поспеху калектыву, які ён узначальваў. Кожны савецкі лідар імкнуўся прывесці свой калектыў да поспеху, а вось поспех вызначаўся не мэтамі і патрэбамі калектыву, а тым, чаго патрабаваў вышэйстаячы лідар. Такая практыка вымагала ад лідара адпаведных установак і адукацыі. *Савецкія людзі вучыліся ігнараваць уласныя патрэбы, мэты ды памкненні і дасягаць мэт, навязаных звонку.*

Культываванне такога тыпу адукацыі стала прычынай шоку і бездапаможнасці ў канцы перабудовы, у той перыяд, калі былыя савецкія рэспублікі набылі незалежнасць і павінны былі самі вызначаць мэты і шляхі развіцця. У Расіі ды некаторых іншых краінах адзінай катэгорыяй насельніцтва, здольнай да мэтавызначэння, выявіліся крымінальныя элементы. Яны і дамінавалі ў грамадскім жыцці на працягу некалькіх гадоў на пачатку 1990-х гг. У трох краінах Балтыі калектывы і грамадскія структуры асімілявалі знешнія мэты, якія неслі або старэйшыя пакаленні, якія вучыліся не ў савецкай школе, а яшчэ да 1940 г., або эмігранты, якія вярталіся ў краіну, а таксама еўрапейскія дзяржаўныя і недзяржаўныя арганізацыі, фонды. У Беларусі дастаткова хутка адбудавалася аўтарытарная патэрналісцкая дзяржава, якая зрабілася крыніцай мэтавызначэння для асобных калектываў і ўсяго насельніцтва. Дастаткова хутка рэжыму ўдалося вярнуць да зыходнага савецкага стану і ўсю сістэму адукацыі. У выніку да выяўлення ўласнай ініцыятывы і да самаарганізацыі ў большай ці меншай ступені гатовы толькі

пакаленні, якія скончылі школу на пачатку і ў сярэдзіне 1990-х гг., а таксама маргіналы, якія ўяўляюць сабой «брак і адкіды» савецкай сістэмы адукацыі.

Такімі ёсць умовы і фактары, спарадзілі тое становішча, якое мы маем ў сучасны перыяд у Беларусі. Гэты кароткі экскурс у нядаўняе мінулае дазваляе адбудаваць карціну ўсебаковага і шматпланавага знішчэння мясцовых супольнасцей. Яны былі не проста выцесненыя іншымі спосабамі сацыяльнай арганізацыі. Здольнасць да самаарганізацыі знішчалася як лад жыцця, як спосаб мыслення і дзеяння. І фактычна была вынішчана да такой ступені, што адсутнасць уласных мэт, спажывецкія ўстаноўкі і жыццёвая філасофія «як-бы-чаго-не-здарылася» ўспрымаюцца жыхарамі сённяшняй Беларусі як натуральныя. Такая грунтоўная канстатацыя адсутнасці мясцовых супольнасцей патрэбна нам дзеля таго, каб не прымаць жаданае за наяўнае, прымяраючы метады развіцця супольнасцей, распрацаваныя і выкарыстаныя ў дэмакратычных краінах. Але гэтая канстатацыя не падстава для адмовы працаваць з мясцовымі супольнасцямі. Канстатуючы і разумеючы такі стан мясцовых супольнасцей у Беларусі, мы будзем прымаць яго як акалічнасці нашай дзейнасці.

# II. Шляхі і спосабы працы з мясцовымі супольнасцямі

## Даследаванне дзеяннем

Усе меркаванні пра тое, што нешта існуе ці не існуе, ці існуе ў нейкім няслушным выглядзе, павінны заканчвацца канстатацыяй або высновай. Усю разнастайнасць высноў можна размясціць паміж двума сэнсавымі палюсамі: ад «калі чагосьці няма, то так яно і павінна быць» да «з такім становішчам мірыцца нельга і неабходна ўсё змяніць». Мы схіляемся да другога полюса, што ў нашым выпадку азначае наступнае: падрабязнае апісанне і доказ, што ў сучаснай Беларусі супольнасцей няма, неабходныя нам, каб выпрацаваць стратэгічны тэзіс: нельга развіваць няіснае, але яго можна стварыць наноў ці стварыць з нуля. Шматлікія спробы развіваць супольнасці ў Беларусі, якія рабіліся ў апошнія гадоў пятнаццаць, не мелі поспеху менавіта таму, што імкнуліся развіваць савецкія калектывы (ці іншыя формы аб'яднання людзей), беручы іх за супольнасці, аналагічныя тым, што існуюць у Еўропе, ці тым, што існавалі ў Беларусі ў дасавецкі перыяд. Мы ж, прыходзячы да высновы, што савецкія формы аб'яднання людзей карэнным чынам адрозніваюцца ад супольнасцей, характэрных для «адкрытага грамадства» ці нават традыцыйнага еўрапейскага грамадства, разумеем, што характэрныя для савецкага перыяду калектывы могуць развівацца ці змяняцца таксама ў савецкіх формах і рамках. Але ж супольнасці як элементы для дэмакратычнага ці адкрытага грамадства неабходна ствараць

наноў, няхай нават з тых самых людзей, з якіх складаліся папярэднія савецкія калектывы.

Але як толькі мы прыходзім да такой пастаноўкі задачы, то сутыкаемся з праблемай: а як ствараюцца супольнасці там, дзе іх няма і не было? З чаго іх можна ствараць? Гэта сур'ёзная метадалагічная праблема. У Еўропе спецыялісты з такой праблемай практычна не сутыкаюцца. Яны кожны раз маюць справу з ужо існымі супольнасцямі, няхай неразвітымі, часам прымітыўнымі, часам з адхіленнямі і заганамі. Мы ж паўстаем перад неабходнасцю ствараць супольнасці з чагосьці, што не ёсць супольнасцю. Можна ставіць гэтую праблему тэарэтычна, то бок спрабаваць збудаваць тэорыю супольнасцей, даць ім дэфініцыю. Даць дэфініцыю таксама іншым формам аб'яднання людзей у вялікія і малыя групы. Мы не спісваем з рахунку тэарэтычны падыход, але цяпер нас цікавіць не тэарэтычны, а метадалагічны і дзейнасны аспект. Як і з чаго можна наноў арганізаваць супольнасці?

Мы зыходзім з уяўлення, што тэарэтычную і метадалагічную пастаноўкі праблемы можна разглядаць незалежна адну ад адной. А рашэнне тэарэтычных і метадалагічных праблем можа разгортвацца адначасова, пры неабходнасці ўзаемна ўзбагачаючыся. Так, селекцыянеры выводзілі новыя пароды жывёл і гатункі раслін за шмат стагоддзяў да таго, як з'явіліся тэорыі Чарльза Дарвіна ці Грэгара Мендэля. І Дарвін, і Мендэль, распрацоўваючы свае тэорыі, улічвалі метады селекцыянераў так сама, як селекцыянеры ўзбагацілі і развілі свае метады, дзякуючы азнаямленню з тэорыяй.

У нашым выпадку мы сутыкаемся з тэарэтычнай дылемай, якая гучыць так: усё, што адбываецца з людзьмі, вызначаецца або правіламі, нормамі, прынцыпамі, вонкавымі ўмовамі жыццядзейнасці людзей, або чалавечымі якасцямі. Калі слушна першае, то тады адсутнасць супольнасцей у Беларусі вызначаецца нейкімі спецыфічнымі ўмовамі ці фактарамі беларускага жыцця, або нормамі і прынцыпамі, якія перашкаджаюць арганізацыі супольнасцей. Калі слушна другое, то варта дапусціць, што беларусы адораныя нейкімі асаблівымі якасцямі, якія перашкаджаюць ім аб'ядноўвацца ў супольнасці і ствараць іх.

Мы не маем задавальняльных даследчых ці эмпірычных ведаў і матэрыялу, каб вызначыцца з выбарам на карысць аднаго ці іншага полюса гэтай дылемы. Але мы мяркуем, што ёсць магчымасць займацца практычным стварэннем супольнасцей, не чакаючы, пакуль тэарэтыкі і даследчыкі дадуць дакладнае тлумачэнне прычын іх адсутнасці ў краіне. Пры гэтым мы разумеем важнасць такога даследавання і бачым магчымасць свайго ўнёску ў яго праз так званае «даследаванне дзеяннем», то бок атрыманне ведаў ў ходзе рэалізацыі практычных дзеянняў.

Здаровы сэнс падказвае, што веды павінны папярэднічаць дзейнасці. У сваю чаргу, веды нейкім чынам трэба здабыць. У сацыяльных праектах, у рэформах і нават у лакальных сацыяльных трансфармацыях дзеяч часта сутыкаецца з недаследаванасцю той сферы ці тых аб'ектаў, з якімі яму даводзіцца мець дачыненне. Калі б такому дзеячу даводзілася чакаць, пакуль даследчыкі прынясуць яму гатовыя веды, то большая частка дзеянняў была б немагчымая. У такіх сітуацыях дзеянні папярэднічаюць ведам. Здаровы сэнс прыміраецца з такім парушэннем паслядоўнасці, кіруючыся прынцыпам, які па аналогіі можна апісаць прыкладна наступным чынам.

Сучасныя турысты і вандроўнікі перад падарожжам складаюць маршрут паводле карт, якія ёсць у наяўнасці. Карта — гэта веды, якія папярэднічаюць рэальнаму падарожжу. Але карты складзеныя людзьмі, якія калісьці ўпершыню наведвалі недаследаваныя мясцовасці. Першапраходнікі і піянеры могуць быць правобразам даследавання дзеяннем.

Планета абмежаваная ў прасторы, таму мы можам мець карты любой мясцовасці. Уявім, што рэльеф і ландшафт планеты змяняўся б не на працягу геалагічных эпох, а цягам жыцця аднаго пакалення. Тады піянеры і першапраходнікі патрэбны былі б кожнаму новаму пакаленню людзей. Зразумела, што ў геаграфіі ў гэтым неабходнасці няма, але ў сацыяльнай рэчаіснасці ўсё інакш. Кожнае новае пакаленне дзеячаў сутыкаецца з недаследаванай сацыяльнасцю. Стабільнае нязменнае грамадства існуе толькі ў марах ды ідэальных уяўленнях, ды і тое толькі ў прыхільнікаў

«закрытага грамадства». Дзеячы, якія прымаюць ідэалы «адкрытага грамадства», разумеюць, што ім даводзіцца працаваць у сітуацыі перманентных перамен і мець дачыненне штораз з новай формай сацыяльнасці. Таму даследаванне дзеяннем — гэта метад, адзіна магчымы ва ўмовах трансфармаваных і рэфармаваных грамадстваў і найбольш распаўсюджаны ў адкрытым грамадстве. Ад звычайнага дзеяння, якому папярэднічаюць веды пра аб'ект, на які гэтае дзеянне накіраванае, даследаванне дзеяннем адрозніваецца:

1) усведамленнем адсутнасці ведаў пра аб'ект ці, прынамсі, іх недастатковасці;

2) гатоўнасцю да дзеяння ва ўмовах няпэўнасці і недастковасці ведаў;

3) рэфлексійнасцю і ўсведамленнем важнасці зваротнай сувязі ў структуры дзеяння;

4) раздвоенасцю мэт: дзеянне накіраванае як на дасягненне выніку, так і на атрыманне новых ведаў.

Гэтае агульнае меркаванне пра даследаванне дзеяннем адпавядае нашай тэме і азначае наступнае:

1) мы мала, вельмі мала ведаем пра супольнасці і сацыяльнае жыццё ў Беларусі, асабліва па-за межамі сталіцы. І нам не варта выдаваць гэтыя недастатковыя веды за паўнавартасныя і дастатковыя;

2) нам варта быць гатовымі дзейнічаць, то бок ствараць ці развіваць супольнасці ў Беларусі, прымаючы недастатковасць нашых ведаў як дадзенае, і не адкладваць нашыя дзеянні да той пары, пакуль адсутныя веды будуць кімсьці атрыманы;

3) праектуючы і плануючы ўласныя дзеянні, нам варта быць вельмі асцярожнымі, не выконваць незваротных дзеянняў, каб любую памылку, выяўленую ў зваротнай сувязі, можна было своечасова выправіць;

4) нам варта разумець, што ў нашых дзеяннях істотнае не толькі дасягненне выніку, то бок стварэнне і развіццё супольнасцей, але і новыя веды, у тым ліку веды пра памылкі і няўдачы, якімі мы можам падзяліцца з іншымі дзеячамі, што ствараюць ды развіваюць супольнасці.

# Практыка «жывое ад жывога»

Такім чынам, наш падыход да задачы аднаўлення супольнасцей у Беларусі будзе будавацца не на ведах пра сутнасць і канструкцыю супольнасцей, законы іх стварэння і развіцця, а на простай практычнай здагадцы, што *людзі, якія жылі ў супольнасцях, могуць і будуць трансляваць свой досвед, нормы і правілы такога жыцця ў ходзе вырашэння надзённых праблем.* Мы зыходзім з таго, што людзі адаптыўныя і паддаюцца навучанню. Калі чалавек па волі лёсу ці акалічнасцей трапляе ва ўжо існую супольнасць, ён прыстасоўваецца да яе, вучыцца правілам і нормам, неабходным для жыцця ў супольнасці. Гэта старадаўняя практыка, вядомая як культурная асіміляцыя, або, у больш сучасных формах, як інтэграцыя. У Еўропе і Амерыцы практыка інтэграцыі выкарыстоўваецца ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Звычайна яе апісваюць і трактуюць як альтэрнатыву сегрэгацыі і апартэіду. Мы ж тут разглядаем гэтую практыку ў іншым аспекце: як магчымасць нараджэння супольнасцей, ці, гаворачы вобразна, іх «пачкавання». Практыка інтэграцыі, пры якой асобы іншай расы ці асобы з абмежаванымі магчымасцямі ўключаюцца ў групы і калектывы, занятыя нейкай адзінай дзейнасцю ці супольным навучаннем, і праз гэта яны самі навучаюцца ды засвойваюць іншыя групавыя нормы і прынцыпы жыцця і дзейнасці, так і «старыя» прадстаўнікі супольнасцей і ўдзельнікі груп навучаюцца прымаць асоб іншай расы, культуры, рэлігіі ці асоб з абмежаванымі магчымасцямі такімі, якія яны ёсць і роўнымі сабе. Зыходзячы з такіх уяўленняў, мы мяркуем, што магчымай і паспяховай у плане стварэння і арганізацыі супольнасцей у Беларусі можа быць наступная практыка:

1) людзі інтэгруюцца ва ўжо існыя жывыя супольнасці, што функцыянуюць;

2) такія інтэграваныя супольнасці колькасна і якасна растуць;

3) пры дасягненні нейкай крытычнай масы супольнасць дзеліцца (ці «пачкуецца»), пасля чаго дзве (ці больш) новыя супольнасці працягваюць жыць і функцыянаваць самастойна.

Такая практыка здаецца нам простай і відавочнай. Мы называем яе *«жывое ад жывога»*. І праз гэтую сваю прастату і відавочнасць яна можа зрабіцца паспяховай. Але ёсць адна праблема: адкуль узяць зыходныя супольнасці, у якія можна пачаць інтэграваць людзей, што не маюць досведу жыцця і дзейнасці ў супольнасцях? У першым раздзеле мы падрабязна і, як нам здаецца, пераканальна стараліся паказаць, як савецкая ўлада планамерна і метадычна знішчала супольнасці. Выснова, да якой мы прыходзім, што савецкай уладзе гэта ўдалося, слушная ў поўнай меры што да тэрытарыяльных і мясцовых супольнасцей. Каб прыступіць да рэалізацыі практыкі «жывое ад жывога», мы павінны знайсці, выявіць такія супольнасці, якія або змаглі перажыць культурную рэвалюцыю савецкага перыяду і захавацца хоць у якім-небудзь выглядзе, або маглі паўстаць ужо пасля таго, як дзеянні савецкай улады перасталі быць эфектыўнымі.

Задача пошуку і выяўлення такіх супольнасцей таксама патрабуе сур'ёзных даследаванняў. Для практычных патрэб мы можам выказаць наступную здагадку. Існуе, прынамсі, некалькі тыпаў такіх супольнасцей, якія, нягледзячы на ўсе высілкі, не ўдалося разбурыць савецкай уладзе. Галоўным чынам, гэта **рэлігійныя абшчыны**. Магчыма, што існуюць і іншыя гэтаксама ўстойлівыя тыпы супольнасцей, напрыклад, родаплямённыя групы ў Сярэдняй Азіі ці на Каўказе, але для Беларусі гэта не так актуальна.

Савецкай уладзе не ўдалося да канца даць рады **злачынным супольнасцям**. Некалькі разоў на працягу сваёй гісторыі савецкая ўлада сцвярджала, што ёй удалося ліквідаваць арганізаваную злачыннасць (напрыклад, пасля ліквідацыі НЭПа ў 1930-х гг., на пачатку 1950-х гг. пасля ліквідацыі пасляваеннай разрухі), але адразу ж пасля гэтых сумнеўных перамог арганізаваная злачыннасць паўставала ў новых формах. Мы не бярэмся судзіць, ці было гэта прыстасаваннем злачынных супольнасцей да новых умоў або тыя нараджаліся кожны раз наноў, але для нас гэта не так актуальна, паколькі ў нашай практыцы мы не можам звяртацца ды апеляваць да супольнасцей такога тыпу.

На працягу ўсёй гісторыі свайго існавання савецкая ўлада спрабавала задушыць і **прафесійныя таварыствы**, але ў той жа час яна мела патрэбу ў такіх супольнасцях, таму старалася не знішчаць іх зусім, а толькі прыгнятала з мэтай зрабіць падкантрольнымі. Аднак калі прафесійныя супольнасці (у тым ліку навуковыя і творчыя) і захаваліся да нашых дзён, то яны настолькі слабыя, што ўяўляюць для нас вельмі малы інтарэс. Ва ўсялякім выпадку, на працягу ўсяго перыяду беларускай незалежнасці аніводнай прафесійнай супольнасці не ўдалося прадэманстраваць якія-небудзь прыметы жыццяздольнасці.

У эпоху перабудовы рухавіком перамен былі групы людзей, што атрымалі назву «нефармалы». Можна выказаць здагадку, што **аб'яднанні нефармалаў** былі хоць бы ў нейкім сэнсе супольнасцямі, прынамсі, некаторыя з іх праяўлялі прыкметы самаарганізацыі і актыўнасці ў адносінах паміж сабою, з дзяржавай, уладамі і г. д. Шмат якія нефармалы спынілі сваё існаванне разам з канцом перабудовы. Некаторыя з іх «расчыніліся» ў палітычных рухах, некаторыя запачаткавалі трэці сектар. Аднак, можа быць, нейкія з іх дажылі да нашага часу. Гісторыя з'яўлення нефармалаў бярэ пачатак у «хрушчоўскай адлізе» (канца 1950-х гг.). Першапачаткова гэта было чыста знешняе перайманне некаторых заходніх рухаў (бітнікі, хіпі і інш.). Затым з паступовым паслабленнем «жалезнай заслоны» савецкія «нефармалы» пачыналі кантактаваць з сабе падобнымі ў Еўропе, і калі нейкія з гэтых рухаў былі экстэрытарыяльнымі супольнасцямі ці протасупольнасцямі, то і іх савецкія пераймальнікі паступова засвойвалі нормы і прынцыпы іх паводзін. Не заўсёды гэтыя рухі мелі пазітыўны працяг, некаторыя папросту выраджаліся, іншыя былі занадта нязначнымі, але, тым не менш, іх нельга цалкам скідваць з рахунку.

Яшчэ адна спецыфічная з'ява, якую з пэўнай доляй умоўнасці можна разглядаць як супольнасць ці протасупольнасць — гэта **дысідэнты** і **некаторыя клубы, арганізаваныя паводле прафесійнага прынцыпу ці паводле захапленняў**.

Напрыклад, навуковыя гурткі, турыстычныя клубы, клубы самадзейнай песні і да т. п. Нават калі гэтыя ўтварэнні толькі з доляй умоўнасці можна разглядаць як супольнасці, тым не менш, яны былі школай (няхай і пачатковай) іншага ладу жыцця, школай самаарганізацыі, ініцыятыўнасці, раўнапраўя, дэмакратычнасці і салідарнага адстойвання сваіх інтарэсаў.

Такім чынам, у рэалізацыі практыкі стварэння і арганізацыі супольнасцей «жывое ад жывога» мы можам разлічваць на супрацоўніцтва з некаторымі супольнасцямі ці протасупольнасцямі і знаходзімся ў канфрантацыі і канкурэнцыі з шэрагам іншых грамадскіх арганізацый. Нашы партнёры і хаўруснікі — рэлігійныя абшчыны, экстэрытарыяльныя ўстойлівыя клубы з працяглай традыцыяй існавання, а таксама тыя арганізацыі трэцяга сектара, якія або ўзніклі на базе нейкіх супольнасцей, або створаны імі. А вось нашыя «ворагі» і канкурэнты — злачынныя супольнасці і квазіінстытуцыянальныя ўтварэнні, што захаваліся з савецкіх часоў, напрыклад, калгасы, савецкія прафсаюзы, т. зв. дзяржаўныя грамадскія арганізацыі (ДТСААФ, Таварыства ветэранаў, Саюз жанчын, Чырвоны Крыж, піянерскія і камсамольскія арганізацыі, БРСМ і г. д.).

Мы павінны вельмі выразна разумець, у якім сэнсе супольнасці ці протасупольнасці ёсць нашымі партнёрамі ці хаўруснікамі, як і якім чынам мы можам з імі ўзаемадзейнічаць. Бо мы павінны выразна ўсведамляць, што аніводная рэлігійная абшчына, напрыклад, не будзе выступаць інструментам ці сродкам рашэння чыіх-кольвек задач ды дасягнення чыіх-кольвек мэт, акрамя сваіх уласных. Гэтак сама і іншыя арганізацыі і супольнасці, калі яны хоць у нейкай ступені маюць адзнакі супольнасцей. Таму напоўніцу нашымі партнёрамі могуць быць толькі тыя супольнасці, абшчыны ці арганізацыі, якія падзяляюць нашы мэты і падыход — то бок устаноўку на адраджэнне супольнасцей у Беларусі. Але і ўсе астатнія важныя для нас нагэтулькі, наколькі людзі атрымліваюць у іх досвед жыцця ў супольнасцях. Мы ж можам знаходзіць узаемапаразуменне з тымі людзьмі, якія ўжо маюць такі досвед.

# Ад экстэрытарыяльных да мясцовых супольнасцей

Тэхналогія і практыка працы па арганізацыі супольнасцей «жывое ад жывога» прадугледжваюць, што людзі набываюць досвед жыцця ў супольнасцях, робячыся членамі ці ўдзельнікамі ўжо існых, у першую чаргу, экстэрытарыяльных супольнасцей, а затым пераносяць і рэалізуюць атрыманы досвед у сваёй мясцовасці, арганізуючы мясцовыя супольнасці. Каб разлічваць на поспех сваёй практыкі, мы павінны пераканацца ў тым, што досвед жыцця ў супольнасцях мы прынцыпова пераносім з экстэрытарыяльных супольнасцей на мясцовыя. Паспрабуем разабрацца, што маецца агульнага ў экстэрытарыяльных і мясцовых супольнасцях і чым яны адрозніваюцца.

Мы мяркуем, што і экстэрытарыяльныя, і мясцовыя супольнасці:

а) будуюцца і аб'ядноўваюцца на падставе агульных інтарэсаў;

б) здольныя да самаарганізацыі і вырошчвання аўтаномных структур кіравання супольнасцямі;

в) здольны да рэпрадукцыі і працяглага існавання праз змену і пераймальнасць пакаленняў;

г) здольны прымаць на сябе адказнасць за штосьці, чым супольнасць валодае, распараджаецца ці мае ва ўласнасці, то бок быць гаспадаром у зоне сваёй адказнасці і сваіх інтарэсаў.

У той жа час экстэрытарыяльныя і мясцовыя супольнасці істотна адрозніваюцца адна ад адной:

— інтарэсы мясцовых супольнасцей ляжаць хутчэй у сферы забеспячэння жыцця, тады як інтарэсы экстэрытарыяльных супольнасцей ляжаць або ў сферы дзейнасці, або ў сферах ідэй, адпачынку, духоўных пошукаў і г. д. Таму ўдзельнікі экстэрытарыяльных супольнасцей маюць меншую патрэбу адзін у адным, менш прывязаныя адзін да аднаго, у меншай ступені адчуваюць страту ці «адключэнне» ад супольнасці кагосьці са сваіх удзельнікаў;

— супольнае валоданне і распараджэнне ў экстэрытарыяльных супольнасцях хутчэй віртуальнае, тады як у мясцовых супольнасцях яно бачнае і прадметнае (дарогі, тэрыторыя, нерухомасць, прыродныя рэсурсы). А вось віртуальныя ўладанні экстэрытарыяльных супольнасцей — гэта сфера ідэй, нормаў, культурных і духоўных каштоўнасцей. Таму камунікацыя ў экстэрытарыяльных супольнасцях больш складаная і інтэнсіўная, а ў мясцовых супольнасцях яна больш зразумелая, ясная, штодзённая.

Гэтыя асаблівасці камунікацыі і дыскурсу крыху ўскладняюць узаемаразуменне паміж удзельнікамі экстэрытарыяльных і мясцовых супольнасцей і могуць перашкаджаць пераносу досведу з адной супольнасці ў іншую. У звычайнай сітуацыі людзі могуць быць (маглі б быць і ў Беларусі, калі б не апісаныя вышэй гістарычныя абставіны) удзельнікамі экстэрытарыяльных і мясцовых супольнасцей адначасова, не пераносячы досведу, набытага ў адных супольнасцях, на іншыя. Дакладна гэтак сама, як яны могуць быць адначасова чальцамі некалькіх экстэрытарыяльных супольнасцей. Напрыклад, членамі рэлігійнай абшчыны, спартыўнага ці турыстычнага клубу і прафесійнай супольнасці, размяжоўваючы і не блытаючы нормы гэтых супольнасцей паміж сабою. Разумеючы гэта, мы павінны разумець і тое, што перанос досведу ў іншыя сітуацыі не аўтаматычны, мы павінны яго арганізаваць, а гэта магчыма толькі праз *рэфлексію і ўсведамленне*. Таму наша сітуацыя патрабуе крыху іншых дзеянняў, чым гэта адбываецца ў звычайных сітуацыях, дзе ў людзей з дзіцячых гадоў існуе досвед жыцця ў супольнасцях. *На ўсіх этапах дзейнасці па арганізацыі супольнасцей мы павінны стымуляваць абмеркаванне людзьмі досведу, які яны набываюць, абмен меркаваннямі з нагоды гэтых здабыткаў і планавання дзеянняў па пераносе набытага досведу ў іншую сітуацыю.* Прычым на кожным этапе гэтага ланцужка абмеркаванне неабходна весці па-рознаму, памятаючы, што дыскурс у экстэрытарыяльных супольнасцях з нагоды віртуальных аб'ектаў і каштоўнасцей моцна адрозніваецца ад дыскурсу мясцовых супольнасцей.

Не ўдаючыся ў тэарэтычныя і метадалагічныя тонкасці адрозненняў паміж самімі экстэрытарыяльнымі і мясцовымі суполь-

насцямі, а таксама ў адрозненні іх дыскурсаў, паспрабуем знайсці тое агульнае, што стварае магчымасць пераносу досведу паміж імі. У самым агульным выглядзе падказку ў гэтым пошуку можна ўбачыць у лозунгу ўстойлівага развіцця, сфармуляваным у 1992 г.: *мысліць глабальна, а дзейнічаць лакальна.* У нейкім сэнсе экстэрытарыяльныя супольнасці таму і не прывязаны да тэрыторыі, да месца, што іх цікавяць агульныя глабальныя праблемы. Але гэта да таго часу, пакуль такія супольнасці не ставяць перад сабою рэалізацыйных, практычных мэт. Напрыклад, развагі пра тэхнагеннае забруджванне навакольнага асяроддзя прадугледжваюць сусветны маштаб, гісторыю цывілізацыі і гісторыю тэхнікі наогул. Але суб'ектамі падпісання Кіёцкага пратакола могуць быць урады канкрэтных краін. То бок рэалізацыя канкрэтнай праграмы скарачэння прамысловых выкідаў у атмасферу ўжо прывязана да мясцовасці. Калі яшчэ больш канкрэтызаваць, то рэалізацыя самога Кіёцкага пратакола ўжо апускаецца на лакальны ўзровень. На гэтым прыкладзе можна бачыць, што практычна любая праблема можа мець некалькі вымярэнняў: глабальны (экстэрытарыяльны) маштаб, маштаб краіны (нацыянальны) і мясцовы (лакальны). Пры гэтым рашэнне такога роду праблем магчыма толькі ў комплексе, яго нельга знайсці толькі на адным з памянёных узроўняў (толькі ў нацыянальным ці толькі ў лакальным маштабе).

Адносна нашай тэмы гэтае разважанне выглядае наступным чынам — *жыццяздольнасць і дзейснасць экстэрытарыяльных супольнасцей у Беларусі забяспечваецца іх залучанасцю ў сусветныя транснацыянальныя працэсы.* Праз гэтую залучанасць беларускія экстэрытарыяльныя супольнасці захоўваюць пераемнасць нормаў і традыцыяў і здольныя перажываць нават вельмі цяжкія часы. Таму толькі гэтыя супольнасці і мелі магчымасць захавацца або адрадзіцца, бо падставы і нормы, што аб'ядноўваюць членаў гэтых супольнасцей, трансляваліся і па-за савецкім грамадствам. У гэтым прычына іх жыццяздольнасці, у адрозненне ад тэрытарыяльных супольнасцей, падстава існавання якіх — прывязка да мясцовасці, якая і была разбурана ў перыяд савецкай улады. Гэта, аднак, датычыць жыцця экстэрытарыяльных супольнасцей, але не іх дзейнасці

і практыкі. *Дзеля паспяховай дзейнасці неабходнае вызначэнне зоны адказнасці супольнасці ці яе лакалізацыя.* З гэтай акалічнасцю ў беларускіх экстэрытарыяльных супольнасцях паўстаюць вялікія праблемы.

Праўда, не заўсёды беларускія арганізацыі, якія рэпрэзентуюць тыя або іншыя супольнасці, імкнуцца да лакалізацыі ды вызначэння ўласнай зоны адказнасці. Здавалася б, відавочна, што рэалізоўваць свае мэты экалагічныя, адукацыйныя, моладзевыя ды інш. арганізацыі могуць менавіта ў Беларусі і ў беларускіх умовах. Але па большай частцы яны імкнуцца не прывязвацца да беларускай рэальнасці. Пад гэта нават падводзіцца пэўная тэарэтычная база. Спасылаюцца, напрыклад, на дзейнасць «міжнароднай амністыі», члены якой выяўляюць актыўнасць па-за межамі сваёй краіны і тым самым хутчэй і больш паспяхова дасягаюць сваіх мэт. Іншы прыклад — гэта рух антыглабалістаў. Так, беларускія антыглабалісты — сталыя ўдзельнікі акцый у іншых краінах і нават не спрабуюць правесці нейкія акцыі ў Беларусі. Трэці прыклад і аргумент запазычаны з савецкай мінуўшчыны, звязанай з камуністычным інтэрнацыяналам, для якога барацьба «за мир во всём мире» вялася без увагі на лакальныя войны і агрэсію, а «сусветная рэвалюцыя» ды ўсталяванне справядлівасці ў глабальным маштабе было важнейшым за таталітарызм і зняважаную справядлівасць у сваёй краіне. Сёння такія самыя стасункі характэрны для арганізацый, рухаў і супольнасцей, якія абапіраюцца на ідэалогію панславізму ці славянафільства.

І апошні аргумент, які ў беларускіх экстэрытарыяльных супольнасцях залучаецца супраць лакалізацыі сваёй актыўнасці, чыста эмпірычны — шматлікія папярэднія спробы былі непаспяховымі. І справа не толькі ў тым, што экстэрытарыяльныя супольнасці ці арганізацыі, якія іх рэпрэзентуюць, проста не хочуць паўтараць непаспяховых спроб. А ў тым, што ўсялякая лакалізацыя, прынята на сябе адказнасці за рэалізацыю нейкіх агульных мэт у адным канкрэтным месцы аслабляе супольнасці, робіць іх уразлівымі для супернікаў. Аўтарытарны беларускі рэжым не настолькі моцны, каб знішчыць усе праявы грамадзянскай супольнасці.

З нейкімі праявамі ён вымушаны мірыцца, але ён абсалютна не можа змірыцца з любымі спробамі ўсталяваць альтэрнатыўны дзяржаўнаму ўплыў, няхай нават у вельмі лакальных маштабах. Кіруючыся гэтай устаноўкай, рэжым дзейнічае не толькі супраць экстэрытарыяльных супольнасцей і НДА, якія іх рэпрэзентуюць, але і супраць бізнесу, абмяжоўваючы прыватызацыю і прыватную ініцыятыву. Можна нават знайсці паралелі ў стаўленні рэжыму да бізнесу і трэцяга сектара. У бізнесе пад атакі з боку рэжыму падпадаюць прадпрыемствы, якія валодаюць нерухомасцю ці прывязаныя да нейкай тэрыторыі. А вось экстэрытарыяльны бізнес аказваецца больш вольным ды ў меншай ступені трапляе ў поле ўвагі ўлад. Гэтак жа і са структурамі грамадзянскай супольнасці. Узмоцненая ўвага з боку рэпрэсійнага рэжыму забяспечаная тым структурам, арганізацыям і супольнасцям, сляды дзейнасці якіх могуць быць заўважаныя ў нейкай мясцовасці.

Фактычна мы можам канстатаваць, што найбольш агульная ўстаноўка рэжыму ў тым, каб не дапусціць узнікнення якога-небудзь іншага дзеяча на падкантрольнай яму тэрыторыі. Ён імкнецца заставацца адзіным манапольным суб'ектам дзейнасці на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, як гэта было ўласціва ў свой час савецкай уладзе.

Вось жа, стварэнне і развіццё супольнасцей аказваецца стратэгічнай альтэрнатывай існаму рэжыму. Дзеячы і ідэолагі рэжыму разумеюць гэта менавіта такім чынам. На жаль, далёка не заўсёды такое разуменне прысутнічае ў іх апанентаў. Часцей за ўсё тыя, што ставяць для сябе задачу працаваць з мясцовымі супольнасцямі, разважаюць і б'юцца над тэхнічнымі праблемамі і грэзнуць у гэтых пытаннях, не разумеючы прычын няўдач.

Вяртаючыся да мадэлі ўстойлівага развіцця (мысліць глабальна, дзейнічаць лакальна) стасоўна да арганізацыі і развіцця супольнасцей, мы павінны напоўніць канкрэтным сэнсам і зместам уяўленні **«пра што і як мысліць, дзе і як дзейнічаць»**. Разважаючы пра стварэнне і развіццё мясцовых супольнасцей, мы задумваем кардынальныя перамены ў нацыянальным маштабе (маштабе краіны; гэта, канешне, не глабальны, але дастаткова вялікі маштаб, каб не

дапускаць непасрэднага дзеяння). Задуманыя ў такім маштабе дзеянні закранаюць радыкальную змену якасці і ладу жыцця. І такая задума ёсць і будзе заставацца нерэалістычнай ды ўтапічнай, калі дзеянні ў рамках гэтай задумы не будуць канкрэтызаваныя да якасці і ладу жыцця маленькіх мясцовых абшчын і кожнага асобнага чалавека. *Уплываць на якасць і лад жыцця асобных людзей і абшчын здольны толькі мясцовыя супольнасці, але яны гэтага рабіць не могуць, не будучы звязанымі задумай з экстэрытарыяльнымі супольнасцямі.* Нельга дзейнічаць, не мыслячы. Трансфармацыя заўсёды мысліцца ў нацыянальным маштабе, і гэтая думка прыводзіцца ў дзеянне заўсёды лакальна. Адно без другога не дзейнічае. Экстэрытарыяльныя супольнасці ў Беларусі магчымы і існуюць дзякуючы ўключанасці ў глабальныя працэсы, але яны бяздзейныя, калі іх не рэпрэзентаваць у мясцовых супольнасцях. У сваю чаргу, мясцовыя супольнасці не могуць паўстаць без сувязі ды падтрымкі з боку экстэрытарыяльных. А паўстаўшы, яны не здольны самастойна існаваць без захавання гэтай сувязі.

Тым не менш, экстэрытарыяльныя супольнасці, невялікія групы людзей ці нават асобныя прадстаўнікі супольнасцей і рухаў раз-пораз спрабуюць лакалізаваць сваю актыўнасць, прывязаць сваю дзейнасць да канкрэтнай мясцовасці. Гэтыя спробы не толькі сустракаюць адпор з боку беларускіх улад, але і сутыкаюцца з кансалідаванай адмоўнай рэакцыяй мясцовага насельніцтва, якое ўспрымае лакальную дзейнасць супольнасцей або як непрымальнае наватарства, або як варожую спробу прыватызацыі таго, што мясцовыя жыхары прызвычаіліся лічыць дзяржаўным (у савецкім сэнсе гэта азначае адначасова агульным і нічыім).

Таму яшчэ раз звернем увагу на фактары, якія перашкаджаюць утварэнню і развіццю супольнасцей. Усё вышэйзгаданае дае нам магчымасць бачыць, што гэта не толькі і не столькі аб'ектыўныя, колькі суб'ектыўныя фактары. Перафразуючы назву вядомай кнігі «Адкрытае грамадства і яго ворагі» Карла Попера, мы можам казаць пра спробы арганізаваць у Беларусі супольнасці і пра ворагаў гэтых спроб. Гаворачы пра ворагаў адкрытага грамадства і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, варта мець на ўвазе не толькі

рэжым, але і кансалідаваную думку большай часткі мясцовага насельніцтва. Справа ў тым, што дзеянні на мясцовым узроўні, накіраваны на стварэнне супольнасцей, вызначаюцца «глабальным мысленнем», то бок пануючымі ў Еўропе ўяўленнямі пра дэмакратыю, пра адкрытае грамадства, грамадзянскую супольнасць, правы чалавека і г. д., што пануюць у Еўропе. І ўсе гэтыя дзеянні сутыкаюцца з супрацівам савецкага мыслення, якое прэтэндуе на не менш глабальны ўзровень ды адмаўляе ўсе каштоўнасці дэмакратыі, правоў чалавека і г. д. На лакальным узроўні барацьба за стварэнне і развіццё супольнасцей можа весціся з канкрэтнымі персанажамі, чыноўнікамі ці мясцовымі аўтарытэтамі. А вось у нацыянальным маштабе — гэта барацьба сучаснага еўрапейскага і савецкага мыслення. Адсюль канкрэтныя дзеянні на мясцовым узроўні павінны быць настолькі ж суаднесенымі і дапасаванымі да працэсу дэсаветызацыі, наколькі накіраванымі ў супрацьлеглым кірунку дзеянні суаднесены і дапасаваны да савецкага мыслення і менталітэту.

Тым самым мы можам дадаць яшчэ адзін штрых да парадку і праграмы дзеянняў па стварэнні і развіцці мясцовых супольнасцей. Усіх удзельнікаў мясцовых праектаў, у першую чаргу, лідараў, менеджараў ды актывістаў неабходна залучаць у агульнае мысленне (каб іх лакальныя дзеянні былі паспяховымі, ім неабходна мысліць глабальна), гэтае агульнае мысленне можна вызначыць адзіным тэрмінам — дэсаветызацыя. Без адмовы ад савецкіх уяўленняў і савецкай сістэмы каштоўнасцей арганізацыя мясцовых супольнасцей немагчыма. Пры захаванні савецкай сістэмы ўяўленняў і каштоўнасцей мясцовае насельніцтва ў кожным канкрэтным выпадку будзе аддаваць перавагу звыклым савецкім шляхам і спосабам рашэння ўсіх, нават найдрабнейшых праблем. А вось вырашаць нават маленькія праблемы самастойна, без дапамогі дзяржавы і ўлады, беручы на сябе адказнасць за ўласныя рашэнні, значна цяжэй, чым карыстацца заступніцтвам улад, якое забяспечваецца лаяльнасцю. Самастойнасці яшчэ варта вучыцца, і нават навучанне не здымае рызыкі і адказнасці за памылкі. Для таго, каб змяніць звыклы лад жыцця, адмовіцца ад паводзінавых стэрэатыпаў і сталага ладу дзеянняў, неабходная вельмі моцная

матывацыя. Матывацыя, здольная выклікаць агульнанацыянальны рух, які мог бы стымуляваць і сілкаваць мясцовыя ініцыятывы. Інакш сілы і энергетыка ініцыятыўных груп на мясцовым узроўні, як выяўляецца, не змогуць супрацьстаяць рэжыму і маўклівай большасці насельніцтва.

## Задачы і кірункі дзейнасці, парадак дзеянняў

Дзеля таго, каб перайсці ад апісання сітуацыі, умоў ды магчымасцей для развіцця супольнасцей у Беларусі да пастаноўкі задач і прадстаўлення метадаў іх рашэння, варта яшчэ раз праясніць агульную схему-прынцып адраджэння мясцовых супольнасцей:

— развіццё мясцовых супольнасцей магчыма толькі праз набыццё людзьмі досведу жыцця ў супольнасцях, досведу асаблівых сацыяльных адносін;

— такі досвед у сучасных беларускіх умовах захаваўся толькі ў рамках некаторых відаў супольнасцей, у першую чаргу, у экстэрытарыяльных;

— гэтыя «цудам захаваныя» агмені жыцця супольнасцей самі патрабуюць падтрымкі і развіцця, якія могуць быць атрыманы праз рэалізацыю ідэй, што аб'ядноўваюць чальцоў экстэрытарыяльных супольнасцей у канкрэтных умовах і лакальнай сітуацыі;

— далучэнне да экстэрытарыяльных супольнасцей дае людзям досвед жыцця ў супольнасцях;

— у сваю чаргу лакальная рэалізацыя агульных (глабальных) ідэй на мясцовасці можа зрабіцца падставай для аб'яднання мясцовых жыхароў вакол, па-першае, людзей, якія валодаюць досведам жыцця ў супольнасцях, а па-другое, вакол задачы, «прыўнесенай» экстэрытарыяльнымі супольнасцямі, для рашэння якой няма адпаведных мясцовых структур;

— прысваенне адказнасці за рашэнне новай задачы групай у канкрэтнай мясцовасці людзей стварае магчымасці для адражэння мясцовых супольнасцей;

— наяўнасць у мясцовых протасупольнасцях людзей, далучаных да экстэрытарыяльных супольнасцей, дазваляе трансляваць і рэалізоўваць нормы «новых» сацыяльных адносін, распаўсюджваць досвед жыцця ў супольнасцях;

— узаемадзеянне паміж экстэрытарыяльнымі і мясцовымі супольнасцямі павялічвае рэсурсы і магчымасці кожнай з супольнасцей паасобку, дазваляе нарошчваць сацыяльны капітал і пашыраць зону адказнасці.

Гэтая схема прымаецца намі як прынцыповая. З яе выцякае шэраг кірункаў дзейнасці.

*Першы кірунак* — гэта пошук «жывых» супольнасцей, інтэграцыя ў іх людзей і перадача ім досведу жыцця ў супольнасцях. Рэалізацыя гэтага кірунку нам бачыцца ў двух магчымых варыянтах:

а) разглядаць сябе саміх (АГТ-ЦСІ) разам з сеткай удзельнікаў нашай мінулай дзейнасці як экстэрытарыяльную супольнасць, інтэграваць людзей у тых рэгіёнах, дзе мы вядзем сваю дзейнасць у мэтах наступнага «адпачкавання» мясцовых протасупольнасцей;

б) пошук магчымых экстэрытарыяльных супольнасцей ці хоць бы протасупольнасцей, а таксама НДА, якія могуць інтэграваць новых удзельнікаў і даваць ім неабходны досвед жыцця ў супольнасцях.

Відавочна, што для рэалізацыі гэтых кірункаў дзейнасці патрэбна вырашыць шмат дадатковых задач і выканаць пэўныя дзеянні. Сярод задач на першы план выходзяць даследчыя. Напрыклад, вызначэнне крытэрыяў ды працэдур пошуку і адбору як супольнасцей і протасупольнасцей, так і людзей, інтэграваных у іх. Асобнай задачай становіцца вызначэнне спосабаў і механізмаў інтэгравання людзей у экстэрытарыяльныя супольнасці. Акрамя таго, для рэалізацыі гэтага кірунку дзейнасці неабходна самавызначэнне той або іншай супольнасці як суб'екта дзейнасці па развіцці мясцовых супольнасцей.

*Другі кірунак* дзейнасці — дапамога адпачкаваным мясцовым протасупольнасцям у нарошчванні капіталу ды жыццяздольнасці і іх падтрымка. Гэты кірунак будуецца на ўсталяванні ўзаемных

«інфраструктурных» стасункаў паміж экстэрытарыяльнай і мясцовай супольнасцю (адной ці некалькімі). Такога роду стасункі мяркуюць, што адна супольнасць можа забяспечваць рашэнне пэўных задач для другой. Тым самым павышаецца сацыяльны капітал кожнай з іх, таму што гэтая ўзаемасувязь дазваляе адной супольнасці стаць «саўладальнікам» нейкай агульнай уласнасці, якой валодае іншая супольнасць.

*Трэці кірунак* дзейнасці — PR і камунікацыя. Папулярызацыя і распаўсюджванне нашага падыходу і досведу. Мы павінныя як мага шырэй уступаць у камунікацыю з нашымі магчымымі партнёрамі і хаўруснікамі, тлумачыць ім наш падыход і даводзіць да іх нашыя мэты.

*Чацверты кірунак*, які варта назваць асобна, — аналіз і асэнсаванне атрыманага досведу, зваротная сувязь, рэфлексія над памылкамі і дасягненнямі, афармленне вынікаў у выглядзе методык, тэхналогій і падручнікаў, якія павінны трансляваццца.

*Пяты кірунак* — адукацыя і падрыхтоўка, павышэнне кваліфікацыі ўдзельнікаў працэсаў па стварэнні і развіцці супольнасцей, якія намі запускаюцца. Гэта не толькі атрыманне ведаў, але і, у першую чаргу, праца па развіцці рэфлексійнасці, здольнасці да мэтавызначэння і арганізацыі ўласнай і калектыўнай дзейнасці.

Пераводзячы апісанае разуменне дзейнасці, неабходнай для адраджэння мясцовых супольнасцей, у тэхналагічнае, то бок даступнае для выкарыстання іншымі суб'ектамі, мы атрымліваем наступны ланцужок дзеянняў:

1) самавызначэнне суб'екта праграмы развіцця супольнасцей у Беларусі;

2) вызначэнне мэт праграмы, сістэмы паняццяў ды ўяўленняў, неабходных для яе рэалізацыі;

3) вызначэнне набору характарыстык ды паказчыкаў, паводле якіх мы можам вылучаць супольнасці, якія нас цікавяць, з таго, што не ёсць супольнасцямі, што выдае сябе за супольнасць;

4) на падставе вылучаных паказчыкаў да характарыстык **распрацоўка працэдуры**, пакліканай спраўдзіць абраныя намі

дзеля наступнай працы супольнасці (патэнцыяльныя супольнасці) на адпаведнасць гэтым паказчыкам;

5) складанне «базы дадзеных» патэнцыяльных супольнасцей на падставе наяўных у нас крыніц інфармацыі;

6) даследаванне патэнцыяльных супольнасцей з «базы дадзеных» на адпаведнасць вылучаным паказчыкам і характарыстыкам паводле распрацаванай працэдуры;

7) а) усталяванне з супольнасцямі, што адпавядаюць адзначаным характарыстыкам, партнёрскіх стасункаў дзеля супольнай рэалізацыі праграмы развіцця супольнасцей; б) пошук актыўных, ініцыятыўных людзей у сталых супольнасцях;

8) залучэнне актыўных, ініцыятыўных людзей, знойдзеных на папярэднім этапе, у сферу дзейнасці існых супольнасцей дзеля набыцця імі досведу жыцця і дзейнасці ў супольнасцях.

Аналізуючы пералічаныя пункты, мы ў сваёй практычнай дзейнасці сутыкаемся з наступным парадоксам: нам даводзіцца ўсталёўваць сувязі і партнёрскія адносіны (п. 7) і залучаць актыўных і ініцыятыўных людзей (п. 8) у той час, як мы не маем дастатковай ды поўнай інфармацыі па п.п. 3—6. Гэта распаўсюджаны парадокс у практыцы піянераў і першапраходнікаў. Менавіта тут і рэалізуецца метад даследавання дзеяннем. У даследаванні дзеяннем характарыстыкі, паказчыкі і крытэрыі ўводзяцца не як апрыёрныя, а як вынік даследаванняў тых выпадкаў, калі рэалізацыя таго ці іншага праекта адбылася паспяхова.

Тым не менш, у сваёй працы мы выкарыстоўваем пэўныя арыенціры, у прыватнасці, пры пошуку людзей і протасупольнасцей. У дзейнасці НДА традыцыйна такімі арыенцірамі апісваюцца «мэтавыя групы», якія вызначаюцца або паводле ўзроставай, або паводле сацыяльнай прыметы (напрыклад, моладзь, інваліды, пенсіянеры і г. д.). Аднак мы не можам выкарыстоўваць такога роду характарыстыкі, таму што яны адцягваюць нас ад задач, якія стаяць перад намі ды размываюць асноўную праблему. Мэтавыя групы, падобныя да гэтых, у Еўропе могуць арганізоўвацца ў супольнасці пры пэўнай дапамозе і падтрымцы, таму што прадстаўнікі такіх

груп маюць ці могуць мець досвед жыцця і дзейнасці ў іншых супольнасцях ці абшчынах. Мала таго, што ў нашай моладзі, інвалідаў ці пенсіянераў такога досведу няма, і справа нават не ў тым, што такога досведу няма ў большасці тых, хто спрабуе дамагаць ім. Асноўная праблема ў тым, што супольнасці для мэтавых груп, вылучаных паводле такіх сацыяльных прыкметаў, заўсёды другасныя ў адносінах да тых квазінатуральных супольнасцей, якія складаюць касцяк грамадзянскай супольнасці еўрапейскіх нацый, — мясцовых супольнасцей.

Вылучаючы арыенціры для сваёй дзейнасці, мы абапіраемся на людзей, а не на іх аб'яднанні. Канстатуючы вышэй, што традыцыйныя для еўрапейскіх нацый сацыяльныя структуры ў Беларусі разбураныя, мы павінны прызнаць і тое, што не маем прымальнай і хоць колькі праўдападобнай карціны беларускага соцыуму. Выкарыстоўваючы катэгорыі «моладзь», «інваліды» і г. д., мы можам мысліць іх як структуры еўрапейскага соцыуму, але ж у Беларусі яны — не такія. Мысліць іх і працаваць з імі неяк па-іншаму ні мы, ні хто-небудзь яшчэ ў Беларусі не ўмее. Гэта заахвочвае нас працаваць з актыўнымі ды ініцыятыўнымі людзьмі ў рэгіёнах, не спяшаючыся прыпісваць іх да якіх-небудзь сацыяльных структур ці груп.

Пераносячы цэнтр цяжару з сацыяльных арганізаванасцяў на канкрэтных людзей, нам ўсё ж варта вызначыцца з крытэрыямі адбору людзей, нам неабходных. Характарыстыкі «актыўнасці» ды «ініцыятыўнасці», якія ляжаць на паверхні, вызначаюцца праз ацэнку мінулай дзейнасці і праз супольны досвед. Пры гэтым мы не можам пагадзіцца з *любымі* праявамі ініцыятыўнасці ды актыўнасці. Гэта павінна быць накіраваная актыўнасць, то бок у людзей павінны быць канкрэтныя праблемы, якія маюць значэнне для многіх людзей ці нават для ўсіх, хто жыве ў нейкай мясцовасці. Гэта павінны быць такія праблемы, якія не могуць быць вырашаны самастойна, а толькі з прыцягненнем яшчэ шмат якіх іншых людзей. Але нават і гэтага недастаткова. Людзям, актыўна занятыя рашэннем такіх праблем, варта мець уяўленне пра тое, што і мы (маецца на ўвазе супольнасць АГТ-ЦСІ) уваходзім у лік тых шматлікіх людзей, без якіх праблема не можа быць вырашаная.

У Беларусі практычна няма людзей, з досведам жыцця ў супольнасцях, але напэўна ёсць людзі, якія *маюць жыццёвую патрэбу ў супольнасцях.* Менавіта гэтая патрэба і ёсць для нас галоўным арыенцірам для вылучэння нашай «мэтавай групы». Гэтая патрэба заахвочвае такіх людзей да актыўнасці ды ініцыятыўнасці, а вось наша задача — заўважыць гэтыя якасці.

Але характарыстык, што ляжаць на паверхні, недастаткова. Для нас важныя яшчэ, як мінімум, тры характарыстыкі. Першая — гэта наяўнасць у актыўнага чалавека вольнага часу, які б ён мог прысвячаць грамадскай дзейнасці. Ва ўмовах Беларусі, а бадай, і ўсіх краін з пераходнай эканомікай, гэта можа ўяўляць сабой пэўную праблему. Нізкі ўзровень прыбыткаў паглынае практычна ўвесь час чалавека, шмат хто вымушаны працаваць звышурочна, каб падтрымліваць звыклы лад жыцця. Таму часцей за ўсё, вольны час для грамадскай дзейнасці маюць або маладыя людзі, не абцяжараныя сям'ёй, або пенсіянеры. Ёсць яшчэ адна катэгорыя грамадскіх актывістаў у Беларусі, якія разглядаюць грамадскую дзейнасць як крыніцу заробку. Часцей за ўсё, гэтыя катэгорыі насельніцтва не валодаюць дастатковай сацыяльнай вагой і аўтарытэтам, таму ў якасці патэнцыяльных удзельнікаў рэалізацыі нашых мэт мы аддаем перавагу людзям, якія маюць крыніцу даходу на ўзроўні сярэдняга па краіне ці вышэй, якім не патрабуецца траціць вольны час на зараблянне грошай і якія не прывязаныя да грамадскай дзейнасці як да крыніцы дадатковага заробку.

Другая характарыстыка звязана з незалежнасцю чалавека ад рэжыму і яго ідэалогіі. Тут справа не толькі ў тым, падзяляе ці не падзяляе чалавек ідэалогію пануючага рэжыму, а ў тым, наколькі ён у сваёй асноўнай дзейнасці незалежны ад падтрымкі ўладаў. Напрыклад, большая частка бізнесу ў Беларусі не дае людзям свабоды і незалежнасці, паколькі не толькі паспяховасць, але і проста нармальнае функцыянаванне дасягаецца лаяльнасцю ў дачыненні да ўлад ці карупцыяй. Тое ж самае тычыцца настаўнікаў, выкладчыкаў вышэйшай школы, навуковых працаўнікоў і нават студэнтаў. І ўсё ж сярод людзей, якія маюць уласны бізнес ці крыніцу прыбытку, звязаную з наданнем па-

слуг у недзяржаўным сектары, знайсці незалежных людзей прасцей, чым у дзяржаўным.

Трэцяя характарыстыка звязаная з аўтарытэтнасцю, уплывовасцю патэнцыяльнага ўдзельніка нашай дзейнасці, з тым, наколькі іншыя людзі ў адпаведнай мясцовасці гатовыя яму давяраць. Адзін з інструментаў, які рэжым выкарыстоўвае супраць грамадзянскай супольнасці і дэмакратычных пераўтварэнняў, — дыскрэдытацыя аўтарытэтных людзей у вачах іх атачэння. Некалькі выпадкаў такой дыскрэдытацыі здольны нейтралізаваць усіх патэнцыяльна актыўных людзей у малым горадзе. Таму нават такія мяккія крытэрыі робяць адбор удзельнікаў нашых праектаў надзвычай цяжкім.

Складанасць вылучаных крытэрыяў не толькі ў тым, што такіх людзей не так ужо і шмат, а галоўным чынам у тым, што адпаведнасць ім нельга выявіць «аб'ектыўна», а толькі праз спраўджванне супольным дзеяннем. Тое самае датычыць спраўджвання ды ўсталявання паказчыкаў сапраўднасці, рэальнасці арганізаваных супольнасцей. Тут не можа быць гарантаваных вынікаў у хуткай перспектыве.

# Заканчэнне

Шмат што ў дзяржаўным ладзе і сацыяльнай арганізацыі Савецкага Саюза было вонкава падобным да характэрных для Еўропы інстытутаў. Напрыканцы 1980-х — на пачатку 1990-х гг., калі расчараванне савецкім ладам жыцця ды ўсёй сукупнасцю грамадскіх стасункаў зрабілася масавым, шмат каму здавалася, што перайсці да еўрапейскіх формаў арганізацыі жыцця і дзейнасці можна, захаваўшы асноўныя савецкія інстытуты, але напоўніўшы іх крыху іншым зместам. Трэба толькі навучыць людзей крыху інакш працаваць, павысіць актыўнасць, забяспечыўшы доступ да інфармацыі, і дазволіць свабодна распараджацца ўласнымі рэсурсамі. Пасля распаду Саюза ў некаторых краінах, што ўтварыліся на яго развалінах, у прыватнасці, у краінах Балтыі, даволі хутка пазбыліся гэтых ілюзій.

У Беларусі гэтыя ілюзіі жывыя дагэтуль. Структура і пабудова судоў, міліцыі і мясцовых органаў улады, калгасаў, школ розных узроўняў і некаторых іншых інстытутаў у Беларусі засталіся нязменнымі. Асноўная энергія і творчасць беларусаў трацяцца на тое, каб палепшыць працу структур, арганізацый ды інстытутаў, якія мы атрымалі ў спадчыну ад Савецкага Саюза. І форма гэтага паляпшэння не зазнала змен ад 1980-х гг. Гэтая форма, як правіла, фармулюецца ў простых колькасных катэгорыях: «больш галоснасці», «больш свабоды», «больш дэмакратыі», «больш рэсурсаў» ці наадварот: «менш бюракратыі і карупцыі» і г. д.

Найболей пацешнае тое, што дакладна таксама разважаюць і шмат якія еўрапейцы, што шчыра прабуюць дапамагаць у рашэнні нашых праблем. Аднак не можа быць больш свободы там, дзе яе

не было зусім, і нельга паменшыць карупцыю, калі людзям невядомы іншыя формы рашэння грамадскіх праблем. Можна толькі паменшыць памер хабару. За падобнымі спробамі паляпшэння бачыцца відавочны і просты прынцып чалавечай дзейнасці: заўсёды прасцей працягваць нейкую дзейнасць, чым карэнным чынам яе перамяніць, адмовіўшыся ад дзейнасці аднаго тыпу і замяніўшы яе нейкай іншай дзейнасцю. Усё, што мы апісалі вышэй, прадугледжвае менавіта такія адносіны: замену дзейнасці ці інстытуту, а не яго паляпшэнне ці ўдасканаленне.

Цяжкасці такіх радыкальных адносін да дзейнасці відавочныя. Задэклараваныя намі вышэй асноўныя прынцыпы і кірункі работы па адраджэнні супольнасцей — гэта адказ на разуменне гэтых цяжкасцей. Але ж вызначэнне і дэкларацыя кірункаў ды парадку дзеянняў яшчэ не абараняюць нас ад небяспекі здзейсніць паступовую падмену дзейнасці па адраджэнні супольнасцей больш звыклай дзейнасцю па развіцці таго, што не існуе. Гэтая небяспека звязана, перш за ўсё, са складанасцю суаднясення і сувымярэння паасобных дзеянняў, якія заўсёды лакальныя, абмежаваныя ў прасторы і ў часе, з агульнымі прынцыпамі, мэтамі ды ўяўленнямі. Таму надзвычай важнае пытанне — гэта пытанне пра крытэрыі ацэнкі канкрэтных дзеянняў і эфектыўнасці руху да агульнай мэты. Яны і ёсць механізмам абароны ад магчымай падмены. Бо відавочна, што крытэрыі, якія выкарыстоўваюцца пры ўстаноўках на паляпшэнне ды ўдасканаленне чагосьці, кардынальна адрозніваюцца ад крытэрыяў стварэння таго, што не існуе. У першым выпадку звычайна выкарыстоўваюцца ўжо напрацаваныя эмпірычныя паказчыкі, у якіх фіксуецца колькасны рост чаго-небудзь (колькасць людзей, колькасць мерапрыемстваў і г. д.).

Другі выпадак прадугледжвае абсалютна іншы падыход. Калі б чалавечая дзейнасць ацэньвалася толькі эмпірычнымі, колькаснымі крытэрыямі, ніякі прагрэс і ніякія інавацыі не былі б магчымы. Напрыклад, першыя параходы паводле ўсіх параметраў саступалі тагачасным караблям з ветразямі. Аднак людзі прынялі рашэнне развіваць параходы, інвеставаць у іх, пакінуўшы ветразі рамантычнай мінуўшчыне. Чым кіраваліся гэтыя людзі? Мы думаем, што яны

кіраваліся логікай, аналітыкай, крытычным мысленнем. Досвед і відавочнасць сведчылі на карысць караблёў з ветразямі, яны неслі больш грузу, былі хутчэйшымі, чысцейшымі і проста прыгажэйшымі за першыя дымныя, гучныя і марудныя параходы. Розум уваходзіў у канфлікт з досведам і відавочнасцю, але розум перамог, а наступны досвед засведчыў перамогу розуму.

Што ж для нас азначае апеляцыя да логікі і крытычнага мыслення, калі мы плануем канкрэтныя дзеянні па адраджэнні супольнасцей ці ацэніваем іх вынікі? Адзначым найбольш важныя моманты.

Першае — гэта захаванне даследчыцкага стаўлення да ўласных уяўленняў пра супольнасці, шляхі і магчымасці іх адраджэння ў Беларусі, а таксама рэфлексійнага ды крытычнага стаўлення да тых схем і ўяўленняў пра дзейнасць, якія мы маем і якімі карыстаемся. Таму ўсялякі, нават «негатыўны» вынік узаемадзеяння з людзьмі ці протасупольнасцямі не можа быць проста адкінуты, ён разглядаецца намі як абагульненне нашых уяўленняў пра Беларусь, пра стан супольнасцей, пра каштоўнасці, установкі і матывацыі людзей, пра спосабы нашых дзеянняў.

Другое — гэта сталае ўтрыманне агульных мэт і задач, у прыватнасці, захаванне ўстаноўкі на радыкальную змену, а не на ўдасканальванне і рост. Такое разуменне дае магчымасць убачыць і не пакінуць па-за ўвагай нешта якасна новае, няхай нават ледзьве адрознае, і не «падпадаць» на знешне выразнае, але беззмястоўнае. У гэтым сэнсе адзін ініцыятыўны чалавек, які спрабуе рэалізаваць уласныя ўяўленні і прынцыпы ўладкавання жыцця ў раёне ці горадзе, для нас больш важны і больш перспектыўны, чым «супольнасць», якая вырасла на прынцыпах савецкай арганізацыі, актыўна дзейнічае і імітуе развіццё самакіравання.

Трэцяе — гэта разуменне маштабнасці і сістэмнасці неабходных пераўтварэнняў. Плануючы, а пасля ацэньваючы канкрэтныя дзеянні, мы ўпісваем іх, знаходзім ім месца ў цэласнай сістэме задач ды кірункаў дзейнасці. І толькі ў рамках усёй сістэмы пераўтварэнняў мы можам адэкватна ацаніць тую або іншую падзею ці дзеянне. Больш за тое, атрыманне вынікаў у рашэнні адных

задач, напрыклад, даследчыцкіх, адразу ж нясе за сабою змены ў разуменнні ды ўдакладненні іншых задач, напрыклад, арганізацыі ўзаемадзеяння з актыўнымі людзьмі на месцах.

Усё гэта вызначае метады нашай працы і ацэнку яе эфектыўнасці.

Прапанаваны намі парадак дзеянняў можа падавацца доўгім і абыходным шляхам у параўнанні са шматлікімі просталінейнымі праектамі. Мы маглі б пагадзіцца з гэтым, калі б не аналіз мінулага досведу і калі б не перакананне, што просталінейныя праекты вядуць толькі да ілюзорных вынікаў, у такой самай ступені падобных да сапраўдных, як савецкія інстытуты былі ўсяго толькі падобныя да еўрапейскіх інстытутаў ці інстытутаў адкрытага грамадства. Прапанаваны намі шлях хоць і выглядае абыходным, але ён вядзе да мэты напрасткі, у адрозненне ад шматразова апрабаваных метадаў, якія вядуць да ілюзорных вынікаў. Таму мы прапануем не толькі альтэрнатыўны погляд і праграму дзеянняў па развіцці супольнасцей у Беларусі, але і іншы падыход да ацэнкі эфектыўнасці дзейнасці. Тэкст гэтай брашуры апелюе да крытычнага мыслення і розуму. Усё наступнае пакажа практыка.

# Якасць і лад жыцця ў Беларусі: эвалюцыя і магчымасці трансфармацыі

Таццяна Вадалажская
Уладзімір Мацкевіч

*Перакладчык*: Аляксандр Карцель
*Рэдактар*: Марыя Мартысевіч

# Змест

# Уводзіны

Ужо без малага дваццаць гадоў краіны Усходняй і Цэнтральнай Еўропы перажываюць працэс рэфармавання палітычнай сістэмы, эканомікі і ладу жыцця. У большасці гэтых краін рэформы даўно прыносяць станоўчыя вынікі, хоць сам працэс у кожнай з іх знаходзіцца на розных стадыях і этапах. І толькі Беларусь відавочна выпадае з агульнага кантэксту. Рэформы ў Беларусі таксама дэкларуюцца, але ажыццяўляюцца з заўважальнай своеасаблівасцю, а вынікі ацэньваюцца вельмі супярэчліва. Розніца гэтых ацэнак вельмі шырокая — ад крайне захопленых да цалкам песімістычных. Змены, ініцыяваныя ў Беларусі, характарызуюцца то як палавіністыя і непаслядоўныя рэформы, то як контррэформы і рэстаўрацыя старых савецкіх парадкаў, то як свой, асаблівы шлях. За доўгія гады назірання за працэсам грамадска-палітычных і эканамічных змен ў Беларусі аналітыкі прапанавалі шмат тлумачэнняў і зрабілі безліч інтэрпрэтацый своеасаблівасці і супярэчлівасці рэформ, што праводзяцца.

У большай частцы гэтых інтэрпрэтацый прычыны як поспехаў, так і няўдач тых працэсаў, што разгортваюцца ў Беларусі, тлумачыліся суб'ектыўнымі фактарамі, а часта і асабістымі якасцямі канкрэтных персанажаў беларускай палітыкі. Нам (аўтарам) здаецца, што магчымасці суб'ектывісцкіх і персаналісцкіх тлумачэнняў ужо вычарпаны.

Неабходна выяўляць глыбінныя фактары і прычыны. Памылкі або дасягненні асобных людзей ці палітычных суб'ектаў, іх воля або кансерватыўныя ўстаноўкі могуць на некаторы час затармазіць грамадскія працэсы або нават павярнуць іх у адваротным кірунку.

Але сёння ўжо зразумела: асаблівы «беларускі шлях» не проста навязаны дзеяннямі асобных палітычных суб'ектаў, але знаходзіць шырокую падтрымку ў беларускім грамадстве і добра дапасоўваецца да спадзяванняў і запатрабаванняў значнай часткі насельніцтва краіны. Нельга зразумець грамадска-палітычных і эканамічных працэсаў у Беларусі, не разабраўшыся з прыродай такой грамадскай падтрымкі і такой дапасаванасці дзяржаўнай палітыкі да меркавання насельніцтва. Мы далёкія ад думкі, што спадзяванні і памкненні якой-небудзь, няхай нават і большай часткі насельніцтва абавязкова супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі. За ўплыў на грамадска-палітычныя працэсы часцей змагаюцца актыўныя меншасці, тады як пасіўная большасць толькі супрацiўляецца зменам або, з той ці іншай ступенню гатоўнасці, іх прымае. Аднак у канкрэтным беларускім выпадку звяртае ўвагу менавіта дапасаваны супраціў дэмакратычным і рынкавым пераўтварэнням і такое самае дапасаванае прыняцце патэрналісцкіх і антырынкавых дзеянняў.

У выніку шматгадовых даследаванняў і аналізу беларускай сітуацыі мы прыходзім да высновы, што прычыны такога становішча — у ладзе жыцця беларускага насельніцтва. У прынцыпе, тлумачэнне беларускіх рэформаў спецыфікай менталітэту, каштоўнасцей, спосабаў мыслення і г. д., таксама дастаткова пашыранае. Часцей за ўсё, такое тлумачэнне апелюе да названых феноменаў як да аб'ектыўных фактаў, якія належыць улічваць, але нельга змяніць.

Спробы рэформаў, што рабіліся да гэтага часу, распаўсюджваліся на сферы ідэалогіі, палітычнай улады, дзяржаўнага будаўніцтва і кіравання, эканомікі і гаспадарання. Але лад жыцця ўспрымаўся як штосьці недатыкальнае, што не паддаецца штучна-тэхнічным дачыненням. Менавіта на такіх дачыненнях базуюцца ўсе кансерватыўныя тлумачэнні таго, чаму ў Беларусі змены не патрэбныя, а тыя, што праводзяцца, — беспаспяховыя.

У гэтай працы мы разглядаем сферу ладу жыцця як зменную: ад пакалення да пакалення, нават за перыяд, параўнальны з жыццём чалавека. Больш за тое, мы мяркуем, што ў гэтай сферы магчымы і нават неабходныя мэтанакіраваныя змены, дзеля чаго патрэбны адпаведныя канцэпцыі, паняцці, праграмы і палітычная воля.

У першай частцы гэтай кнігі мы апісваем змены ладу жыцця ў Беларусі ў другой палове XX ст. у перыяд існавання СССР. У гэтай частцы мы характарызуем палітыку і дзяржаўныя праграмы апошніх дзесяцігоддзяў. Мы зыходзім з таго, што дзеянні беларускіх улад накіроўваліся тымі канцэпцыямі, паняццямі і катэгорыямі, якія ім прапанавалі грамадскія і гуманітарныя навукі. Беларускі рэжым мэтанакіравана і паслядоўна рэалізоўваў праграму, пабудаваную на пастулатах савецкай ідэалогіі і грамадазнаўства. А вось для распрацоўкі новых праграм і пераходу да запуску рэформаў, адпаведных сучасным сусветным тэндэнцыям і паўнавартаснаму ўключэнню Беларусі ў агульнаеўрапейскі працэс неабходна канцэптуальная перабудова гуманітарных і сацыяльных падыходаў, паняццяў і катэгорый. Таму ў другой частцы мы разбіраем магчымасці і шляхі пабудовы такіх паняццяў і катэгорый, якія дазволілі б рэфармаваць лад жыцця.

Мы бачым два кірункі выкарыстання ў сферы жыццяладу паняццяў, якія мы распрацоўваем. Першы — гэта крытыка савецкага грамадазнаўства і ўяўленняў пра чалавека і грамадства, што і пануюць у Беларусі, з наступным пераходам да новых канцэптуальных асноў. Рэалізавацца гэты кірунак можа толькі ў шырокім грамадскім дыялогу, які б залучаў не толькі ідэалагічныя спрэчкі, але і акадэмічныя і навуковыя дыскусіі, PR-кампаніі ў сродках масавай інфармацыі, вызваленне ад дагматызму навучальных праграм у ВНУ і школах. Гэтая кніга — маленькі ўнёсак у шырокі грамадскі дыялог, які яшчэ толькі мае быць разгорнуты.

Другі кірунак звязаны з «*культурнай палітыкай*» і праграмай даследаванняў, якую мы рэалізуем, пачынаючы з 1994 г.[5]. Яна развіваецца і змяняецца як у адпаведнасці са зменамі ў грамадска-палітычнай сітуацыі, так і па меры нашага ўласнага прасоўвання і назапашвання ведаў і матэрыялу. У трэцяй частцы мы вельмі сцісла апісваем той раздзел даследчай праграмы ў рамках «культурнай палітыкі», які закранае сферу жыццяладу.

[5] Мацкевич, В. Вопреки очевидности / В. Мацкевич. — СПб. : Невский простор, 2006.

Гэтая кніга працягвае пачатую намі ў 2007 г. серыю «Беларусь для пачаткоўцаў». І ўся серыя, і гэтая кніга задумваліся для тых чытачоў, якія толькі пачынаюць знаёміцца з беларускімі рэаліямі і маглі б інтэгравацца са сваімі ведамі і досведам у працэс трансфармацыі і рэфармавання ў Беларусі. Такую інтэграцыю мы разглядаем як выключна пазітыўны фактар. Беларускім рэфарматарам, экспертам і аналітыкам неабходны і крытычны погляд звонку, і супрацоўніцтва з еўрапейскімі і расійскімі навуковымі цэнтрамі і экспертнымі супольнасцямі. Як паказвае наш досвед, кнігі з серыі «Беларусь для пачаткоўцаў» неабходны і самім беларусам. На жаль, мы не вельмі добра ведаем сваю краіну, і ў нас пакуль бракуе даследчыцкіх праграм, якія дапамаглі б нам спазнаць Беларусь так добра, наколькі гэта неабходна, каб правесці тут паспяховыя рэформы і ўладкаваць жыццё.

# I. Індустрыялізацыя і ўрбанізацыя ў сацыяльнай гісторыі Беларусі ад другой паловы XX стагоддзя да нашых дзён

## Сістэмны крызіс — пачатак сучаснай гісторыі Беларусі

Сучасная гісторыя Беларусі фармальна можа пачынацца ад 27 ліпеня 1990 г., калі была абвешчана Дэкларацыя незалежнасці, або ад 8 снежня 1991 г., калі былі падпісаны Белавежскія пагадненні, ліквідаваны СССР і суверэнітэт зрабіўся рэальнасцю. Аднак разрыў з мінулым і пачатак новага перыяду ў гісторыі краіны — гэта заўсёды працэс, а не асобная падзея. Таму пераход ад існавання рэгіёну СССР да існавання незалежнай дзяржавы расцягваецца на вялікі гістарычны перыяд. Для Беларусі гэты перыяд пачынаецца напрыканцы 1980-х гг. і заканчваецца напрыканцы 1990-х гг. або нават на пачатку XXI ст.

Да пачатку гэтага перыяду большая частка беларускага насельніцтва была працаўладкаваная ў дзяржаўным сектары эканомікі.

Гарадское насельніцтва было занята ў сферы прамысловасці, будаўніцтва, транспарту і ў бюджэтнай сферы (адукацыя, ахова здароўя, адміністратыўнае кіраванне), а вясковае насельніцтва — у індустрыялізаванай сельскай гаспадарцы. Дадатковыя сродкі да існавання здабываліся ў г. зв. дапаможнай гаспадарцы. У сваёй большасці грамадзяне Беларусі былі задаволеныя размеркаваннем сацыяльных выгодаў, мелі значныя зберажэнні ў Ашчадбанку, маглі планаваць сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей.

Рэзкая змена эканамічнай сітуацыі, кан'юнктуры сусветнага рынку і нарастанне хаосу сацыялістычнай эканомікі разбурылі звыклыя формы жыцця. Інфляцыя пачатку 1990-х гадоў не толькі абясцэніла наяўныя ўклады і зберажэнні, але і выклікала крызіс плацёжнай сістэмы. Большасць прадпрыемстваў пазбавілася магчымасцей выплочваць заробак працаўнікам, а таго заробку, які ўсё-ткі выплочваўся, не хапала не толькі для падтрымання звыклага ладу жыцця, але і для задавальнення найбольш элементарных патрэб. Зробленых грошай часам не хапала нават на ежу. Некаторыя прадпрыемствы выплочвалі заробак сваёй прадукцыяй[6].

Стан, у якім апынуліся краіны і народы на постсавецкай прасторы, у хуткім часе пачаў усведамляцца як **сістэмны крызіс**. Як правіла, згадка пра сістэмны крызіс не суправаджалася канцэптуалізацый, аналітыкай або рэфлексіяй, трактавалася вельмі прымітыўна: вельмі складаны і страшны крызіс. Адно з нешматлікіх аналітычных уяўленняў сістэмнага крызісу рэпрэзентуе расклад усёй сістэмы на пяць састаўных працэсаў: крызіс ідэалогіі, крызіс

[6] Гэтым праславіліся шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы і фабрыка цацак у Жлобіне. Працаўнікі шклозавода атрымлівалі заробак у выглядзе крыштальнага посуду, які немагчыма было збыць не толькі ў сваім мястэчку, але і ў Беларусі. Жыхары Бярозаўкі, аб'яднаўшыся ў групы, вымушаныя былі накіроўвацца ў падарожжы ў Сібір і на Далёкі Усход з прадукцыяй свайго завода, каб атрымаць хоць нейкія грошы. А жыхары Жлобіна зладзілі на чыгуначным вакзале сталы кірмаш мяккіх цацак, спрабуючы прадаць іх пасажырам транзітных цягнікоў. Гэты кірмаш дзейнічаў больш за 10 гадоў, столькі ж працягваліся «крыштальныя ваяжы» жыхароў Бярозаўкі.

улады, крызіс дзяржаўнага кіравання, крызіс гаспадаркі і крызіс ладу жыцця[7].

Найперш сцісла абмяркуем агульную схему сістэмнага крызісу для краін постсавецкай прасторы. Уявім пяць кампанентаў сістэмнага крызісу хвалямі, што набягаюць. Крыху спрошчваючы, можна сказаць, што інтэнсіўнасць крызісу нарастае, пакуль не дасягне нейкай кульмінацыі. Пасля кульмінацыі пачынаецца спад. Спадае інтэнсіўнасць самога крызісу, а полымя жарсці і сама праблематыка адсоўваюцца ў грамадскай свядомасці з першага месца на другое, а затым і далей.

Першым паводле значнасці стаяла пытанне, да якога падводзіла ўся гісторыя перабудовы: які шлях развіцця выбірае краіна, што зрабілася незалежнай: капіталізм або сацыялізм. Па сутнасці, менавіта да гэтага пытання зводзіліся тэарэтычныя, палітычныя і абывацельскія дыскусіі, яно было асноўным пытаннем *крызісу ідэалогіі*. Жнівень 1991 года ў Маскве можна лічыць кульмінацыяй крызісу ідэалогіі. З гэтага моманту ідэалагічныя дыскусіі ў грамадстве паступова слабеюць.

Следам за крызісам ідэалогіі значна большую актуальнасць набывае *крызіс улады*. Асноўнае пытанне гэтага крызісу: хто возьме на сябе адказнасць за вядзенне краіны і нацыі ў адпаведнасці з выбарам, зробленым гэтай нацыяй, вырашаючы крызіс ідэалогіі.

Інтэнсіўнасць крызісу ўлады нарастае разам з узнікненнем і структураваннем грамадска-палітычнай эліты, якая ўступае ў барацьбу за права кіравання краінай у пераходны перыяд. Пазітыўны вынік — дэмакратычная працэдура змены палітычных суб'ектаў пры ўладзе.

У тых краінах, дзе адсутнічалі традыцыі дэмакратыі, на змену крызісу ўлады прыходзіць *крызіс дзяржаўнага кіравання*. Мала наладзіць дэмакратычныя механізмы прыходу да ўлады, трэба пабудаваць такую сістэму дзяржаўнага кіравання, якая была б адаптавана да складаных умоў пераходнага перыяду. Нават у краінах, дзе

[7] Мацкевич, В. Вопреки очевидности / В. Мацкевич. — СПб. : Невский простор, 2006.

ў дасавецкі перыяд ужо былі створаныя адпаведныя дзяржаўныя інстытуты і механізмы (Усходняя Еўропа і савецкая Прыбалтыка), іх даводзілася адбудоўваць наноў, засвойваць, удасканальваць і адладжваць. А вось некаторым краінам, у першую чаргу Беларусі і Украіне, давялося ствараць усё наноў. Таму момант усталявання новага дзяржаўнага ладу робіцца кульмінацыяй крызісу дзяржаўнага кіравання.

Калі Канстытуцыя краіны прадэкларавана і пабудова інстытутаў дзяржаўнага кіравання завершана, выяўляецца, што кіраванне не забяспечанае рэсурсамі — эканоміка краіны ў заняпадзе. Менавіта ў гэты прамежак часу ў рамках сістэмнага крызісу на першы план выходзіць *крызіс гаспадаркі*, нягледзячы на тое, што яго інтэнсіўнасць спакваля нарастала і раней, цяпер гэта ўсведамляецца як праблема наноў створанага механізму дзяржкіравання. Аказваецца, што праблемы гаспадаркі патрабуюць структурнай рэформы, часта поўнай рэструктурызацыі, змены спецыялізацыі нацыянальнай гаспадаркі ў маштабах сусветнага падзелу працы. Як правіла, пры пазітыўным вырашэнні крызісу гаспадаркі адбываецца не толькі адаптацыя гаспадаркі краіны да новых умоў, але таксама яе стандартызацыя і глабалізацыя.

Змены ў грамадскай свядомасці, ідэалогіі, набыццё навыкаў удзелу ў палітычным жыцці, рэінтэпрэтацыя функцыяў дзяржавы, у першую чаргу, у сферы дачыненняў дзяржавы і грамадзяніна, рэструктурызацыя гаспадаркі — усё гэта спараджае кардынальны перагляд асноў жыццяладу. Лад жыцця асобных людзей, што бралі актыўны ўдзел у грамадскіх працэсах, пачынае мяняцца ад самага пачатку таго перыяду, які мы характарызуем сістэмным крызісам. Але толькі пасля кульмінацыі крызісу гаспадаркі кардынальныя змены ладу жыцця ўсведамляюцца асноўнай масай насельніцтва, большасцю нацыі. Эканамічна і палітычна пасіўныя грамадскія групы лоб у лоб сутыкаюцца са зменай спажывецкіх стандартаў, якасці адукацыі і аховы здароўя, культуры ва ўсіх яе праявах, сямейных адносін і наогул штодзённасці. Гэты момант усведамлення большасцю асноваў жыццяладу і можна лічыць кульмінацыяй *крызісу ладу жыцця.*

Прэзентаваны ў аналітычным выглядзе сістэмны крызіс — ідэалізацыя рэформеннага досведу для ўсёй групы краін з пераходнай эканомікай. Кожная асобная краіна апісваецца такой ідэалізаванай схемай з той або іншай ступенню набліжанасці. Некаторыя краіны пражывалі сістэмны крызіс амаль у ідэальных формах, напрыклад, Чэхія або Венгрыя. У большасці краін агульная карціна была маллападобнай да ідэальнай. Беларуская сітуацыя ў сярэдзіне 1990-х гг. характарызуецца непадзельнасцю кампанентаў сістэмнага крызісу. Фактычна ўсе хвалі сістэмнага крызісу нібыта накладаліся адна на адну — і адбылася інтэрферэнцыя.

З фармальна-тэарэтычнага гледзішча, такое накладанне азначае натуралізацыю ўсёй грамадска-палітычнай сітуацыі, адмову рацыянальна ўспрымаць грамадскія працэсы. З практычнага гледзішча, гэта азначае страту кантролю над грамадскімі працэсамі, адмову ад рэформаў і рэфлексіі. Гэтая адмова вядзе да таго, што змяняецца паслядоўнасць вырашэння асобных кампанентаў сістэмнага крызісу і фактычна *ўвесь комплекс акумуляваных крызісаў пачынае ўсведамляцца і інтэрпрэтавацца ў тэрмінах жыццяладу*.

Ірацыяналізм палітычнай эліты, слабасць прадпрымальніцкай эліты, адмова палітычнага класа браць адказнасць за кіраванне краінай прывялі Беларусь да жыццяладавай контррэвалюцыі. Магчыма, менавіта гэты сэнс утрымліваўся ў метафары Алеся Адамовіча «перабудоўная Вандэя». Вандэя як сімвал кансерватызму, традыцыйнага парадку і ладу жыцця, па-свойму апраўданы страх перад ірацыянальнай будучыняй. Ірацыянальнай, то бок непрадуманай, непрааналізаванай, неспланаванай у рацыянальных катэгорыях. Паняцці, катэгорыі, нормы і ўяўленні пра лад і якасць жыцця, якія сфармаваліся ў перыяд паскоранай індустрыялізацыі савецкага ўзору, не былі падвергнуты якой-небудзь істотнай крытыцы. Наадварот, яны сталіся бясспрэчнай падставай для прыняцця рашэнняў у палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сферах.

# Крызіс жыццяладу і спроба рэстаўрацыі савецкай сістэмы

Да 1991 г. безліч людзей была пастаўлена перад неабходнасцю кардынальна змяніць лад жыцця. Пры тым, што ніхто не быў да гэтага гатовы.

Па-першае, свядома або не, людзі планавалі жыццё, зыходзячы з разумення папярэдняй сітуацыі. Кар'ерны рост, набыццё маёмасці (у першую чаргу, жылля), адукацыя, планаванне сям'і, забеспячэнне ўласнай старасці і г. д. — усё тое, пра што клапоцяцца людзі ў каротка-тэрміновай і доўгатэрміновай перспектывах, зрабілася несапраўдным. Назапашаныя на старасць сродкі з'ела інфляцыя, кар'ерныя дасягненні страцілі не проста прывабнасць, але і сэнс, ад высокіх адзнак і набытых ведаў, якія раней адкрывалі добрыя перспектывы, больш не было карысці. Задавальненне элементарных патрэб вымагала зусім іншых дзеянняў і паводзін, чым год або два таму. Пераважная большасць людзей не мела ўзораў і планаў арганізацыі жыцця ў новых умовах. Людзі мыслілі ў катэгорыях і паняццях, сфармаваных праз гады і дзесяцігоддзі, кіруючыся вывучанай, засвоенай, прынятай савецкай сістэмай каштоўнасцей і ідэалогіі, што здавалася непахіснай.

Па-другое, побач, у суседніх краінах (Польшчы, Літве), а часткова і ў самой Беларусі з'явіліся рынкавыя перспектывы. Разгубленыя людзі са страчанымі арыенцірамі не разглядалі гэтых перспектыў як свае. Яны не мелі ні дастатковай кваліфікацыі, ні, галоўнае, жадання іх засвойваць. Таму рынак пачаў распаўсюджвацца, захопліваючы беларускае насельніцтва ў самых прымітыўных і непрывабных формах. Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. цяжка было знайсці ў Беларусі чалавека, які хоць бы некалькі разоў не здзейсніў чаўночную паездку ў блізкае і далёкае замежжа з таварам або па тавар (або хоць бы не планаваў іх, не разглядаў такой магчымасці). На мностве імправізаваных кірмашоў стаялі прадаўцы, якія адчувалі сорам і агіду да свайго занятку[8]. Большасць

[8] У некаторых гарадах, асабліва ў Заходняй Беларусі, гэтыя кірмашы былі арганізаваны яшчэ палякамі ў 1980-я гг., калі ў Польшчы быў

з іх не парвала са сваёй папярэдняй працай. Яны займаліся гандлем ураздроб, толькі што кінуўшы завод, школу, кабінет, або адначасова з асноўнай працай. Уяўленні пра жыццё ў гэтых людзей былі звязаныя з тым, як яны жылі да канца перабудовы, а не з рынкавымі перспектывамі, што адкрыліся перад імі. Людзі не выбіралі новага ладу жыцця, а былі выпхнуты ў яго насуперак сваёй волі. Тыя нямногія, хто ў гэты перыяд змог пераарыентавацца і свядома рухацца, выкарыстоўваючы новыя магчымасці, выклікалі ў астатніх зусім не жаданне ў іх пераймаць і ад іх вучыцца, а зайздрасць і раздражненне.

Па-трэцяе, у краіне не існавала ні інфраструктуры для новых формаў жыццядзейнасці, ні прававой базы для іх рэгуляцыі і рэгламентацыі, не было нават палітычнай волі для кіравання працэсамі зменаў. Пры гэтым праблем і аператыўных задач, што вымагалі рашэння, паўставала мноства. І ўсе рашэнні гэтых праблем і аператыўных задач пачалі набываць архаічныя формы на мяжы, а часам і па-за межамі цывілізаванасці і маралі. Арганізаваная злачыннасць выйшла з ценевага сектара і пачала распаўсюджваць свой уплыў і карупцыю на ўсе сферы жыццядзейнасці. На нейкі, няхай і дастаткова кароткі прамежак часу арганізаваная злачыннасць сталася больш дзейснай уладай у краіне ў параўнанні з дзяржаўнай. А непісаныя нормы і правілы карумпаваных адносін падмянялі сабой права і этыку.

Да 1994 г. усе невырашаныя кампаненты сістэмнага крызісу нakлаліся адзін на адзін, краіна больш не магла існаваць у рэжыме бескантрольнага распаду. Выспявала радыкальнае палітычнае рашэнне — савецкі рэваншызм і контрперабудова. Абраны першы прэзідэнт незалежнай Беларусі прапанаваў праграму вяртання да савецкіх парадкаў, да адбудовы савецкага ладу жыцця, а разам з

---

эканамічны крызіс і ваеннае становішча. За шмат гадоў «паспяховыя» беларусы прызвычаіліся пагардліва і са снабізмам забяспечаных пакупнікоў ставіцца да гандляроў гэтых кірмашоў, а ў 1990-я гг. замянілі іншаземцаў на гэтых самых кірмашах. Снабізм перайшоў у адчуванне прыніжэння, у комплекс няўдачніка.

гэтым да працягу савецкага варыянта індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, але ўжо ў асобна ўзятай суверэннай Беларусі, з усімі ўласцівымі гэтым працэсам атрыбутамі і характарыстыкамі. Палітычны лозунг гэтага часу: «Запусціць заводы!» — быў квінтэсэнцыяй такога выбару і канцэнтраваў у сабе новую праграму індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. На працягу некалькіх гадоў маркетынг і актывізацыя вонкавай эканамічнай дзейнасці забяспечылі беларускай прамысловасці вяртанне на старыя рынкі, пачалося засваенне новых. Значна горш складвалася з сельскай гаспадаркай. Попыт на прадукцыю індустрыяльнай сельскай гаспадаркі аднавіць не ўдавалася. Ілюзія працягу індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі падтрымлівалася датацыямі і незваротнымі крэдытамі, а недахоп харчовых прадуктаў кампенсаваўся імпартам.

Да пачатку XXI ст. сацыяльная структура буйных індустрыяльных цэнтраў была стабілізавана, заводы пачалі працаваць, хоць колькасць занятага ў прамысловасці персаналу засталася на ўзроўні крызісных гадоў. Вызвалены падчас крызісу персанал яшчэ пэўны час знаходзіў сабе занятак ў сферы ценевай эканомікі і прымітыўнага чаўночнага гандлю, а ад канца 1990-х гг. пачалося ўпарадкаванне і ў гэтых сферах. Ад прымітыўных формаў гандлю сталі пераходзіць да гандлю індустрыялізаванага і тэхналагізаванага. Стыхійныя кірмашы і кропкі дробнага гандлю ўраздроб зачыняліся, а замест іх паўставалі гандлёвыя цэнтры і супермаркеты. Тэхналагізацыя сферы гандлю вяла да скрачэння занятасці і ў гэтай сферы. Новыя працоўныя месцы пачалі ствараццца ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, інфаструктуры забеспячэння жыцця буйных гарадоў, і ў сферы адміністратыўнага кіравання. Гэтымі захадамі была стабілізавана сацыяльная сітуацыя, абмежаванае беспрацоўе. Але ўсе гэтыя працэсы закранулі толькі буйныя гарады і індустрыяльныя цэнтры. Жыццё ў малых гарадах і вёсках практычна не змянілася.

На сённяшні дзень вельмі цяжка ацаніць тыя змены, якія адбыліся ў сацыяльнай структуры і ладзе жыцця, дзякуючы новай хвалі індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Цяжка зразумець, што ў сучасным становішчы справаў новае, а што — відазмененае старое.

Палітыка і эканоміка, пачынаючы з 1994 г., будаваліся на падставе ідэй, праектаў і падыходаў, запазычаных з мінулага перыяду развіцця краіны. Таму ў працэсе разгортвання гэтай хвалі індустрыялізацыі і ўрбанізацыі не было патрэбы ў навуковым, тэарэтычным і даследчым забеспячэнні. Навука і ўніверсітэты ў змястоўным сэнсе пацярпелі не толькі падчас крызісу 1990-х гг., але і працягвалі дэградаваць і разбурацца ў перыяд адноснай адбудовы і стабілізацыі. Хоць ў сферы вышэйшай адукацыі ў гэты перыяд узніклі новыя працоўныя месцы, рэзка павялічылася колькасць студэнтаў, а значыць, і выкладчыкаў, гэта быў выключна колькасны рост, які не вымагаў развіцця навукі і прадукавання новых ідэй і падыходаў.

Такім чынам, у выніку крызісу 1990-х гадоў у найбольшай ступені пацярпелі і былі разбураныя самыя інтэлектаёмістыя сферы, а падыходы і канцэпцыі стабілізацыі не толькі не вырашалі праблем гэтай сферы, але і пагаршалі іх. Цяпер гэта знаходзіць адбітак у заняпадзе сістэмы статыстыкі, а таксама адсутнасці аналізу і інтэлектуальнага забеспячэння працэсаў, што адбываюцца ў Беларусі, а асабліва рэформаў.

У беларускай сацыяльнай і палітычнай навуцы, публіцыстыцы і дзяржаўнай ідэалогіі існуе дзве вялікія групы падыходаў да аналізу палітычных і сацыякультурных працэсаў у сучаснай Беларусі. Адна група, нягледзячы на ўнутраную разнастайнасць метадалогіі і тэорыі, апісвае працэсы, што адбываюцца ў Беларусі, як станоўчыя, адзначаючы іх развіццё. Другая група бачыць толькі негатыўныя тэндэнцыі, разглядае іх праз прызму дэградацыі і заняпаду. Да першай групы адносіцца большасць афіцыйных ідэолагаў, палітолагаў і эканамістаў. Сярод іх мае сэнс спыніцца на працах Юрыя Шаўцова, які ў сваёй кнізе «Аб’яднаная нацыя»[9] зыходзіць з таго, што альтэрнатывы індустрыялізацыі ў Беларусі няма. Усведамляючы, што на сучасным этапе індустрыялізацыя не можа разгортвацца ў тых самых формах і падыходах, што

[9] Шевцов, Ю. Объединенная нация. Феномен Беларуси / Ю. Шевцов. — М. : Европа, 2005.

і ў другой палове XX ст., Шаўцоў вымушаны тлумачыць адхіленні і інавацыі сучаснага этапу беларускай індустрыялізацыі. Гэтыя тлумачэнні ён знаходзіць у спецыфічных геаэканамічных умовах Беларусі, у наступствах чарнобыльскай катастрофы, а таксама ў міжнароднай канкурэнцыі і барацьбе за рэсурсы эканамічнага развіцця. Тым не менш, ён лічыць рэанімацыю індустрыялізацыі адзіным слушным падыходам, адмаўляючы магчымасць і неабходнасць правядзення рэформаў па ўзоры суседніх з Беларуссю краінах, уключна з Расіяй. «Беларускі шлях» ён спрабуе прэзентаваць як эталонны і ўзорны не для адной толькі Беларусі, але і для Расіі і іншых краін СНД.

Другую группу падыходаў сцісла характарызуе адна, але прынцыповая праблема[10]. Абапіраючыся на катэгорыі, запазычаныя з сучасных еўрапейскіх сацыяльных і палітычных навук, прадстаўнікі гэтай групы могуць давесці памылковасць падыходаў, якімі кіруецца беларуская дзяржава, рэгулюючы грамадскія адачыненні. Але не праблематызуючы паказчыкаў і крытэрыяў, прынятых у аналізе грамадска-эканамічнага развіцця, даследчыкі гэтай групы вымушаны канстатаваць станоўчую дынаміку гэтых працэсаў і рост няхай не ўсіх, але значнай колькасці грамадска-эканамічных паказчыкаў. Застаецца незразумелым, чаму пры памылковых дзеяннях беларуская дзяржава ўсё ж развіваецца, а грамадска-эканамічныя паказчыкі паляпшаюцца.

Калі мы мяркуем, што ўся палітыка беларускай дзяржавы ў перыяд незалежнасці была працягам або рэанімацыяй палітыкі папярэдняга перыяду, калі Беларусь была складнікам СССР, то неабходна разгледзець і тое, што рабілася і адбывалася тады. Усё сучаснае з’явілася не на пустым месцы, а мела сваю перадгісторыю.

---

[10] Прыклады аналізу гэтай праблемы: Романчук, Я. В поисках экономического чуда / Я. Романчук. — Минск : Центр Мизеса, 2008; Злотников, Л. В петле популизма: идеология, политика и экономика в независимой Беларуси / Л. Злотников // Сборник статей. — Минск : Энциклопедикс, 2002.

# Стрыжневыя працэсы савецкай беларускай гісторыі другой паловы XX стагоддзя

Пачынаючы экскурс у гісторыю змены жыццяладу ў нашай краіне, варта вылучыць асноўныя сацыякультурныя працэсы, якія задалі як разуменне і тлумачэнне рэальнасці (паняційны і катэгарыяльны апарат), так і кірункі і спосабы сацыяльна-эканамічнай і палітычнай дзейнасці ў гэтай сферы. Такімі найбольш значнымі працэсамі, што вызначалі грамадска-гістарычную сітуацыю краіны на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, былі працэсы паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Яны ж і да гэтага часу вызначаюць сучаснае становішча справаў у Беларусі.

Гэтыя працэсы ў свой час складалі сэнс і змест развіцця сацыяльнага мыслення і дзейнасці ва ўсім свеце (прынамсі, у той частцы свету, якая знаходзілася пад уплывам еўрапейскай цывілізацыі). У цяперашні час яны могуць быць апісаны як працэсы, якія завяршаюцца. Гэта азначае не поўнае спыненне і згортванне індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, а толькі тое, што яны перасталі быць вызначальнымі для грамадска-гістарычнага развіцця. Цяпер яны адбываюцца пад уздзеяннем значна магутнейшых працэсаў першага плана, а менавіта працэсаў глабалізацыі, вестэрнізацыі і інфарматызацыі. Сучаснае становішча рэчаў з якасцю і ладам жыцця ў Беларусі — гэта наступства спецыфічнага працякання ў краіне паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, а наступная праца з імі будзе вызначацца рэструктурызацыяй усіх галінаў жыцця ў рамках глабалізацыі, вестэрнізацыі і інфарматызацыі.

Ніжэй мы разгледзім асобныя аспекты і спецыфіку працякання ў Беларусі працэсаў індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Для гэтага коратка спынімся на вызначэнні асноўных катэгорый і кантэксце, у якім яны будуць выкарыстаныя ў нашых развагах. Пад *індустрыялізацыяй* мы будзем разумець такое пераўтварэнне гаспадарчай дзейнасці ў краіне, якое характарызуецца не столькі эканамічнымі, колькі вытворча-тэхналагічнымі фактарамі і катэ-

горыямі. Нас будзе цікавіць толькі той бок гэтага працэсу, які ў найбольшай ступені ўплывае на якасць і лад жыцця людзей. Гэта арганізацыя буйных вытворчых комплексаў, што прыводзіць да змены структуры занятасці насельніцтва, манапалізацыя і нацыяналізацыя ўласнасці, стандартызацыя спажывання і ладу жыцця. Апрача таго, нам давядзецца спецыяльна надаць увагу індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. У цэлым гістарычныя формы індустрыялізацыі ў розных краінах неабавязкова прадугледжваюць індустрыялізацыю і сельскай гаспадаркі. Пры тым уплыў індустрыялізацыі на вясковы лад жыцця і сельскагаспадарчую вытворчасць і сам па сабе вялікі. Але ж індустрыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці ў Беларусі, як і ў Савецкім Саюзе, мела шэраг асаблівасцей, якія нас адмыслова цікавяць.

Пад *урбанізацыяй* мы будзем разумець хуткі колькасны рост насельніцтва гарадоў. Мы ўсведамляем, што такое разуменне ўрбанізацыі можа здавацца крыху звужаным. Але свядома ідзем на такое звужэнне і аддзяляем працэс урбанізацыі ад працэсаў гарадскога развіцця або развіцця гарадоў. Рост гарадскога насельніцтва неабавязкова суправаджаецца развіццём горада з фармаваннем адпаведнай сацыяльнай арганізацыі і ладу жыцця. Больш за тое, магчымыя выпадкі, калі колькасны рост можа весці да дэградацыі ці гарадскога рэгрэсу. У гэтай сувязі важны аспект урбанізацыі стасоўна Беларусі — крыніцы папаўнення гарадскога насельніцтва. Галоўнай крыніцай была ўнутраная міграцыя з беларускіх вёсак, што вызначыла спецыфіку беларускай урбанізацыі менавіта як колькасны рост насельніцтва гарадоў. Працэс росту гарадоў без гарадскога развіцця можна было б праілюстраваць гістарычным даследаваннем беларускіх мястэчак, якія яшчэ ў XIX ст. ва Усходняй Беларусі і да 1939 г. у Заходняй захоўвалі прыметы горада з элементамі самакіравання, складанай сацыяльнай структуры, суседства, суіснавання і складанага ўзаемадзеяння розных абшчын (яўрэйскай, каталіцкай, праваслаўнай, пратэстанцкай).

Часта ў гэтых мястэчках жыло ад 2-3 да 10-15 тысяч чалавек. У гады савецкай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі мястэчкі павялічыліся ў памерах у некалькі разоў, але страцілі самакіраванне, абшчын-

ную разнастайнасць — зрабіліся монаабшчыннымі і пазбавіліся якіх-кольвек прымет гарадскога жыцця. Але такое даследаванне, прысвечанае гарадскому развіццю, яшчэ мае быць задуманае і рэалізаванае.

Такім чынам, у якасці стрыжневых працэсаў, што задаюць асноўныя параметры і кірункі змен якасці і ладу жыцця ў Беларусі, мы разглядаем урбанізацыю і індустрыялізацыю. Падчас гэтых працэсаў змяняецца не толькі колькасць вясковага і гарадскога насельніцтва, але і адбываецца трансфармацыя адпаведных ладоў жыцця, звязаная з трансляцыяй, вытворчасцю або зменай нормаў, мадэляў паводзін, спосабаў успрымання свету і мыслення. А асноўныя катэгорыі, у якіх разглядаецца, разумеецца гэтая сфера, а затым і аб'екты пераўтварэнняў — гэта гарадскі і вясковы жыццялады.

Шмат якія сучасныя нацыі перажывалі ў сваёй гісторыі перыяд больш або менш бурнай урбанізацыі і індустрыялізацыі. Англія пачала пераўтварацца ў індустрыяльную краіну ў XVIII ст., у перыяд першай прамысловай рэвалюцыі. У большасці еўрапейскіх нацый гэты перыяд прыпаў на другую палову XIX і першую палову XX ст. А вось Беларусь праходзіла стадыі паскоранай урбанізацыі і індустрыялізацыі пасля Другой сусветнай вайны. Прычым пік гэтых працэсаў прыпадае на 1970-я і 1980-я гг. Гэтую акалічнасць не толькі нельга праігнараваць, вывучаючы беларускае грамадства, наадварот: гэта ключ да разумення ўсяго таго, што з беларускім грамадствам адбываецца.

## Паэтапнае разгортванне паскоранай урбанізацыі і індустрыялізацыі

Гістарычныя карані сучаснага стану рэчаў у нашай краіне неабходна аднаўляць як мінімум ад канца XIX ст., але Другая сусветная вайна пакінула на Беларусі і беларусах такі моцны адбітак, што, з аднаго боку, зрабіла нядзейснымі шмат якія з працэсаў, развіццё якіх перапыніла вайна. А з іншага боку, разбурэнні, страты і катастрофы Другой сусветнай вайны патрабавалі запуску такіх магутных працэсаў адбудовы, што жыццё на гэтай тэрыторыі нібыта пачалося

з нуля. Канешне, гэтае «нібыта» ўмоўнае, але яно дае нам магчымасць разглядаць пасляваенны перыяд гісторыі Беларусі як цэласны, бесперапынны, фундаваны тымі самымі сэнсамі, а папярэднюю гісторыю — хутчэй як перадгісторыю, якую нельга абыйсці бокам, нельга адмяніць, але якая, на жаль, не магла значна паўплываць на пасляваеннае развіццё краіны[11].

Вось жа, перыяд пасля 1944 г. і да нашых дзён у рамках нашай тэмы мы можам разглядаць як адзіны і непадзельны і ў адпаведнасці са стрыжнявым працэсам характарызаваць яго як эпоху індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Аднак нават цэласны перыяд, які працягваецца некалькі дзесяцігоддзяў, не можа быць гамагенным. Мы вылучым некалькі перыядаў індустрыялізацыі і ўрбанізацыі ў Беларусі.

**Першы этап** — пасляваенная адбудова і закладка падмурка індустрыялізацыі — ад лета 1944 г. да сярэдзіны 1960-х гг. Велізарныя людскія страты ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны, тым не менш, практычна не змянілі суадносін гарадскога і вясковага насельніцтва ў краіне[12].

---

[11] Нашы даследаванні малых гарадоў Беларусі паказалі: якім багатым і цікавым не было б іх мінулае, яно амаль не мае значэння дзеля разумення іх сучаснага жыцця. І справа не ў тым, што мала захавана ў памяці з даваеннага часу. Нават там, дзе гэтая памяць захоўваецца, пасля вайны былі запушчаныя зусім іншыя працэсы арганізацыі гарадскога жыцця, ніякім чынам не звязаныя з трансляцыяй папярэдніх нормаў гарадскога жыццяладу. Шмат у чым гэта тлумачыцца тым, што носьбіты гэткіх нормаў былі вынішчаны фізічна. Пераважную большасць гарадскога насельніцтва (асабліва малых гарадоў) складалі яўрэі (ад 70 да 90%). У выніку іх знішчэння або высялення не засталося практычна нікога, хто змог бы задаць і распаўсюдзіць нормы даваеннага гарадскога жыцця. Новыя нормы пачалі фармавацца непасрэдна пад уздзеяннем працэсаў паскоранай урбанізацыі і індустрыялізацыі, як з «чыстага аркуша».

[12] Перад вайной у 1941 г. гарадское насельніцтва складала 1968,7 тысяч чалавек супраць 7123,3 тысяч чалавек вясковых жыхароў або 21,7% да 78,3%. У 1950 г. гарадское насельніцтва складала 1619,5 тысяч чалавек супраць 6089,5 тысяч чалавек вясковых жыхароў, або 21% да 79%.

Гэты пасляваенны перыяд традыцыйна (і слушна) звязваюць з адбудовай гаспадаркі, прамысловасці і разбураных гарадоў. Але побач з адбудовай неабходна вылучыць і іншыя працэсы. *Па-першае*, паралельна і нібыта ўнутры працэсаў адбудовы адбываецца *стварэнне новых прадпрыемстваў*, якіх не існавала да вайны. У першую чаргу, гэта буйныя машынабудаўнічыя гіганты — аўтамабільны і трактарны заводы. Стварэнне новых прадпрыемстваў патрабавала міграцыі спецыялістаў у Беларусь і міграцыі працоўнай сілы з вёсак у гарады. Таму паступова змяняліся суадносіны гарадскога і вясковага насельніцтва. *Па-другое*, паралельна з аднаўленчымі і кантруктыўнымі працэсамі разгортваліся *дэструктыўныя працэсы*. Да іх, у першую чаргу, варта аднесці *прымусовую трансгранічную рэпатрыяцыю* — высяленне польска-каталіцкага насельніцтва з Беларусі ў Польшчу і сустрэчны працэс перасялення праваслаўнага насельніцтва з раёнаў, якія адыйшлі да Польшчы, у Брэсцкую вобласць, а таксама *высылка беларускіх сем'яў і ГУЛАГ*, да чаго ў 1950-я гг. дадалося *асваенне цаліны*. Дэпартацыя насельніцтва мела трагічныя наступствы для традыцыйнага жыццяладу, традыцыйнай самаідэнтыфікацыі людзей, сямейных асноваў і маральна-псіхалагічных асаблівасцяў беларускага сялянства.

Прымусовае перамяшчэнне людзей суправаджалася інтэнсіўнай *калектывізацыяй* у трох заходніх абласцях: Брэсцкай, Гродзенскай і ў ліквідаванай пазней Маладзечанскай. Калі не ўлічваць сталінскіх рэпрэсій супраць насельніцтва акупаваных абласцей і карных акцый супраць антысавецкага супраціву, гэтая калектывізацыя насіла больш мяккі характар, чым даваенная ва ўсходніх абласцях. Перш за ўсё таму, што калектывізацыя праводзілася з улікам даваеннага досведу, на фоне больш высокага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і суправаджалася пачаткам індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. З улікам менталітэту і дысцыплінаванасці сялянства Заходняй Беларусі гэтыя працэсы забяспечылі лідарства Гродзенскай і Брэсцкай абласцей у аграпрамысловым комплексе практычна на працягу ўсіх наступных дзесяцігоддзяў. Гэта, аднак, ніяк не зашкодзіла разбурэнню традыцыйнага ладу жыцця.

Яшчэ адным працэсам, які сур'ёзна паўплываў на змену жыццяладу, стаў працяг меліярацыі Палесся ва Усходняй Беларусі і запуск інтэнсіўнай меліярацыі ў Брэсцкай вобласці. З прычыны недастатковай даследаванасці гэтага перыяду мы не можам адназначна кваліфікаваць меліярацыю і спадарожныя ёй працэсы змен традыцыйных формаў сельскага гаспадарання і ладу жыцця. Яны мелі як негатыўныя, так і пазітыўныя бакі. Ацэнка гэтых сацыяльных з'яў патрабуе спецыяльных дадатковых даследаванняў.

Улічваючы ўсё вышэйапісанае, нават у 1990-я гады ў заходніх абласцях, якія ўвайшлі ў склад СССР толькі ў 1939 г., былі б магчымыя (пры іншай дзяржаўнай палітыцы) рэстытуцыя, разгортванне фермерскіх гаспадарак на базе сямейнай уласнасці сялян, якія на той час былі яшчэ жывыя. Аднак час страчаны, і сёння амаль не засталося людзей працаздольнага ўзросту, якія былі б зацікаўлены і мелі б магчымасць заняцца аднаўленнем усяго таго, што знішчыла калектывізацыя пасляваенных гадоў.

Калі для гарадоў і гарадскога насельніцтва перыяд з 1944 па 1965 г. быў дастаткова цэласным, то стасоўна вясковага насельніцтва яго варта разбіць на два падэтапы. Першы з іх характарызуецца ўласна бальшавіцкім сталінскім падыходам да калгаснага сялянства, калі калгаснікі былі цалкам пазбаўлены эканамічнай самастойнасці, а таксама палітычных і грамадзянскіх правоў. Яны былі абмежаваныя ў свабодзе перасоўвання нават у межах краіны з прычыны жорсткага інтытуту прапіскі і адсутнасці пашпартоў. Аплата іх працы, часцей за ўсё, выконвалася «натурай», што вяло да эканамічнага занявольвання і яшчэ большага абмежавання свабод. Другі падэтап можна звязаць з перыядам хрушчоўскіх рэформаў, калі калгаснікі атрымалі роўныя правы з астатнімі грамадзянамі, калі яны сталі атрымліваць заробкі грашыма, пенсію. Канчаткова насельнікі гарадоў і калгасаў выраўняліся ў сваіх правах не раней за сярэдзіну 1960-х гг.

Такім чынам, падчас паскоранай ўрбанізацыі і індустрыялізацыі асноўнымі катэгорыямі ў сферы ладу жыцця сталі «гарадское і вясковае насельніцтва». Гэты падзел быў адэкватны задачам, якія ставіліся ўладамі СССР у дачыненні да ўладкавання жыцця ў

краіне. Адпаведна асноўныя характарыстыкі жыцця прывязваліся да гэтых вызначэнняў і пажаданых узораў гарадскога і вясковага жыццяладаў. Прычым гэтыя ўзоры напаўняліся новым зместам і сэнсам у адпаведнасці з задачамі індустрыялізацыі і ўрбанізацыі.

Вясковы лад жыцця савецкага чалавека задаваўся як супрацьлеглы сялянскаму жыццяладу. Тое самае можна казаць і пра гарадскі лад жыцця. У эпоху індустрыялізацыі ён характарызаваўся, у першую чаргу, прывязкай да індустрыі, вытворчасці, а не да горада як асаблівага спосабу арганізацыі жыцця.

**Другі этап** (канец 1960-х — 1981 г.) умоўна можна называць «машэраўскім», хоць рэальны яго пачатак варта прывязваць да рэформаў у гаспадарча-эканамічнай сферы СССР напрыканцы 1960-х гадоў. Эканоміка папярэдняга перыяду, нягледзячы на «хрушчоўскую адлігу» і рэформы, усё яшчэ насіла рысы бальшавіцкага сталінскага падыходу. У самым агульным выглядзе ён характарызуецца тым, што ўсе гаспадарча-эканамічныя праблемы, усе патрэбы індустрыялізацыі вырашаюцца адміністрацыйна-валюнтарысцкімі метадамі: патрэба ў працоўнай сіле — праз перасяленне з месца на месца вялікай колькасці народу, дэфіцыт падатковых паступленняў — праз канфіскацыю або прымусовае размяшчэнне аблігацый.

У сярэдзіне 1960-х гг. такія метады кіравання народнай гаспадаркай былі прызнаныя неэфектыўнымі. Рэформы 1960-х гг. можна лічыць спробай пераходу ад ваенна-адміністратыўных метадаў да адміністратыўна-эканамічных. Былі зроблены спробы эканамічнага стымулявання ў сферы таварнай вытворчасці і абарачэння, але перавод гаспадаркі на эканамічныя рэйкі быў непаслядоўным і незавершаным. І, тым не менш, нават такія непаслядоўныя эканамічныя рэформы прывялі да таго, што ў Савецкім Саюзе з'явіліся асобныя сегменты рынку, у прыватнасці, рынак працоўнай сілы. Праўда, чым менш кваліфікаванай была працоўная сіла, тым у большай ступені яна рэгулявалася рынкавымі механізмамі. Рынку кваліфікаваных спецыялістаў, прафесіяналаў з вышэйшай адукацыяй па-ранейшаму не было. Дзейнічаў механізм агульнасаюзнага размеркавання спецыялістаў.

Вызваленне калгаснага сялянства разам з ростам прадуктыўнасці і эфектыўнасці працы ў сельскай гаспадарцы прывяло да нечаканай для палітычнай эліты БССР канкурэнтнай перавагі Беларусі перад іншымі рэгіёнамі. Аказалася, што пры адсутнасці карысных выкапняў, што ў той час высока цаніліся, асноўнае багацце Беларусі складае дысцыплінаваная працоўная сіла, якая, будучы вызваленай ад прыгоннай калгаснай залежнасці, пры адсутнасці ГУЛАГа і планавых дэпартацый была гатовая толькі да міграцыі з вёскі ў горад у межах Беларусі. Патэнцыял гэтай працоўнай сілы быў вельмі вялікі. Партыйная і гаспадарчая эліта Беларусі на чале з Пятром Машэравым змагла забяспечыць умовы для выкарыстання гэтага патэнцыялу.

Першая ўмова — лабіраванне ў структурах Дзяржплана і на ўзроўні Саўміна СССР размяшчэння на тэрыторыі Беларусі новых вытворчасцей, што патрабавалі не сыравінных, але чалавекаёмістых рэсурсаў. Да такіх вытворчасцей у 1960-я гг. належалі хімічная, радыёэлектронная і лёгкая прамысловасці.

Другая ўмова звязаная з павышэннем якасці дысцыплінаванай працоўнай сілы. Гаворка пра прафесійную адукацыю. Менавіта ад сярэдзіны 1960-х гг. Беларусь зрабілася лідарам у СССР паводле тэмпаў, узроўню і якасці развіцця сістэмы прафтэхадукацыі. Адпаведна ПТВ рыхтавалі кадры для адбудаваных прадпрыемстваў, а ВНУ рыхтавалі кадры для ПТВ. Развіццё вышэйшай адукацыі ішло ў фарватары развіцця прамысловай вытворчасці. Першапачатковае ж запатрабаванне на кваліфікаваныя кадры з вышэйшай адукацыяй вырашалася за кошт усесаюзнага размеркавання з іншых рэгіёнаў. Гэта стварала дыспрапорцыю ва ўзроўні адукацыі мясцовых жыхароў і мігрантаў. Мігранты з іншых рэгіёнаў мелі адносна вышэйшы ўзровень адукацыі і займалі месца культурнай эліты беларускіх гарадоў. Эліты ў сэнсе спажывання культурных каштоўнасцей, але не іх вытворчасці, што вызначала высокі попыт на рускамоўную культурную прадукцыю на фоне нізкага попыту на беларускамоўную. Беларуская культура і беларускія традыцыі не былі запатрабаваны, і заняпад культуры рэзка кантраставаў з адносным сацыяльна-эканамічным прагрэсам.

Пасля гэта адбілася на тым, што пры распадзе СССР у Беларусі проста не аказалася нацыянальна-адказнай эліты, і ідэя будаўніцтва незалежнай нацыянальнай дзяржавы была чужой верхавіне беларускага грамадства.

Машэраўская палітыка індустрыялізацыі Беларусі была лагічным працягам папярэдняга этапу развіцця і змены характару рассялення ў краіне. На працягу гэтага перыяду гарадское насельніцтва павялічвалася ў сярэднім на 150 тысяч чалавек штогод. Да 1976 г. гарадское насельніцтва перавысіла 50%, а да канца гэтага перыяду склала 57% жыхароў рэспублікі. Пры тым асноўнай крыніцай была ўнутраная міграцыя з вёсак у гарады.

Да гэтага перыяду індустрыялізацыя аграпрамысловага сектара ішла паскоранымі тэмпамі. Яна суправаджалася павышэннем прадуктыўнасці працы і штогадовым вызваленнем дзясяткаў тысяч працоўных рук. Ніякай іншай формы занятасці, акрамя індустрыяльнай жывёлагадоўлі і агравытворчасці, на сяле не існавала, таму вяскоўцы перасяляліся ў гарады, дзе ўжо былі гатовыя месцы для нізкакваліфікаваных рабочых або вучэбныя месцы ў ПТВ.

Варта адзначыць, што на працягу ўсіх гэтых гадоў дынаміка змены прапорцыі гарадскога і вясковага насельніцтва была дастаткова раўнамернай. Доля вяскоўцаў скарачалася ў пасляваенны перыяд у сярэднім на 1% у год. Пры ўсім тым, што гэта дастаткова высокія тэмпы ўрбанізацыі, такая раўнамернасць — перадумова даволі гарманічнага, некрызіснага працякання ўрбанізацыі. За гэты перыяд краіна (рэспубліка — адміністрацыйны рэгіён у складзе СССР) з аграрнай ператварылася ў індустрыяльна-аграрную. Прычым змена рассялення была гарманізавана са зменай адукацыйнага ўзроўню, роду заняткаў і формаў занятасці насельніцтва. Варта таксама падкрэсліць, што гэтая раўнамернасць і нібыта гарманічнасць у перыяд паскоранай ўрбанізацыі не стымулявалі адэкватнага грамадскага ўсведамлення фактычных перамен. Ператварыўшыся ў аграрна-індустрыяльнае грамадства, у якім пераважае гарадское насельніцтва, з па-ранейшаму высокімі тэмпамі ўрбанізацыі, з пераважным эканамічным дамінаваннем гарадоў, беларуская нацыя

па-ранейшаму ўспрымала сябе як вясковы народ[13]. Пры тым варта адзначыць, што сама арганізацыя жыцця на сяле перажыла кардынальныя змены і ўжо не мела аніякага дачынення да вясковых ладу і якасці жыцця даіндустрыяльнай сельскай гаспадаркі.

Індустрыяльная вытворчасць і адпаведная арганізацыя ўсіх бакоў жыцця і ў горадзе, і на сяле канчаткова замацаваліся. Прычым не толькі ў тэорыі і практыцы савецкіх кіраванцаў і палітыкаў, але і ў мове грамадскіх навук, што абгрунтоўваюць, апісваюць і тлумачаць гэтую практыку. Але што яшчэ больш важна: і ў штодзённай мове, ведах і мысленні, у якіх звычайны савецкі чалавек ацэньваў і планаваў сваё жыццё.

**Трэці этап** умоўна назавём «Перабудовай» (1981—1991 гг.), хоць для Беларусі пачатак гэтага этапу з перабудовай ніяк не звязаны. Пачаўся ён пасля гібелі Машэрава і працягваўся да распаду СССР і набыцця рэальнай незалежнасці. Развіццё Беларусі ў папярэднія дзесяцігоддзі не было стыхійным. Каб усведаміць паўсталую канкурэнтную перавагу Беларусі як рэгіёна ў складзе СССР, былі неабходны і адміністратыўны талент галоўных кіраўнікоў БССР, і, няхай і вельмі своеасаблівы, патрыятызм або нават нацыяналізм партыйнай і гаспадарчай эліты. Беларускія кіраўнікі ўмудраліся займець карысць з таго геаэканамічнага становішча ў складзе СССР, якое склалася. Напэўна, падобным чынам паводзілі сябе кіраўнікі некаторых іншых саюзных рэспублік у тыя часы. Праўда, усе звярталіся да розных стратэгій і па-рознаму разумелі карысць і выгаду. Наступныя дзесяцігоддзі ўсё расставілі па сваіх месцах. Грузія, якая здавалася багатай і квітнеючай, у 1990-я гады перажывала глыбокі заняпад. Сціплая Літва атрымала ў спадчыну не толькі Ігналінскую АЭС і Мажэйкяйскі НПЗ, але і найлепшую ў Савецкім Саюзе сетку аўтамабільных дарог. А што атрымала Беларусь?

1980-я гг. для развітых краін свету — постіндустрыяльная эпоха. А вось Беларусь у гэты перыяд уступіла ў фазу найвышэйшага

[13] З прычыны інерцыйнасці грамадскай свядомасці нават у трэцім тысячагоддзі беларусы па-ранейшаму мысляць сябе сялянскім народам, і менавіта гэтай акалічнасцю схільны тлумачыць рознага роду палітычныя феномены і недарэчнасці, а таксама культурную інерцыйнасць.

індустрыяльнага росквіту. Дзесяцігоддзе пасля гібелі Машэрава паказала эфектыўнасць яго эканамічнай палітыкі, прынамсі, у кароткатэрміновай перспектыве. СССР у цэлым з канца 1970-х гг. увайшоў у паласу эканамічнага і культурнага застою. Для Беларусі ж гэты перыяд быў часам адноснага эканамічнага дабрабыту і пачаткам культурнага адраджэння.

Большая частка прамысловых прадпрыемстваў, пабудаваных у папярэдні перыяд, у 1980-я гады выйшла на праектную магутнасць. Капіталаўкладанні ў асноўныя фонды, запланаваныя ў папярэдні перыяд, няхай сабе і са збоямі, працягвалі паступаць у Беларусь. Больш таго, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў СССР, капіталаўкладанні не раскрадаліся, а сапраўды засвойваліся. Беларусь захавала тэмпы індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, характэрныя для папярэдняга перыяду, замацавала свае пазіцыі як індустрыяльна-аграрная краіна, што замацавалася ў грамадскай свядомасці ў выглядзе метафары «зборачны цэх СССР». На апошні год існавання СССР гарадское насельніцтва складала 67%. Адносны дабрабыт 1980-х гг. ствараў у беларусаў ілюзію развіцця і нават пэўны комплекс перавагі над іншымі рэгіёнамі імперыі, якая перабывала ў застоі. Ілюзія развіцця выклікалася тым, што прыбыткі прадпрыемстваў, якія актыўна працуюць, бачны ўсім і кожнаму, тады як маральнае старэнне абсталявання, дыспрапорцыю амартызацыйных адлічэнняў і скарачэнне капітальных укладанняў як у абсалютным, так і ў адносным выражэнні заўважаюць толькі спецыялісты. Але ў 1980-я гг. у Беларусі ўжо не было той таленавітай і патрыятычна настроенай партыйнай і гаспадарчай эліты, якая магла б заўважыць гэтыя невідавочныя негатыўныя бакі эканамічнай сітуацыі. А вось вузкія спецыялісты, якім была даступная аб'ектыўная інфармацыя і зразумелы яе наступствы, былі сканцэнтраваныя ў структурах Дзяржплана і Саўміна ў Маскве.

Знаходзячыся ў такім ілюзорным самаспакушэнні, беларускае грамадства пасіўна ўспрыняла перабудову і не змагло ані выкарыстаць новыя магчымасці, ані падрыхтавацца да патэнцыяльна закладзеных у ёй непрыемнасцей. Галоўнай з гэтых непрыемнасцей, нечаканай і непрадказальнай, зрабілася Чарнобыльская катастрофа.

Пра аварыю на ЧАЭС напісана вельмі шмат, у тым ліку пра эканамічныя наступствы і ўплыў на лад жыцця беларусаў[14]. Менавіта Чарнобыльская катастрофа прывяла да найбольш значнай пасля Другой сусветнай вайны імклівай унутранай міграцыі. У выніку змяніліся не толькі карты рассялення, але і карты гаспадарчай дзейнасці, прыдатнасці тэрыторыяў для сельскагаспадарчага выкарыстання. Сотні тысяч людзей змянілі не проста месца жыхарства, але і тып паселішча, і лад жыцця. Апрача ўсіх іншых наступстваў, аварыя на ЧАЭС самым яскравым чынам паказала дыспрапорцыі ў гаспадарча-эканамічным развіцці Беларусі.

Адна важная для характарыстыкі трэцяга этапу акалічнасць не знайшла адпаведнага адлюстравання ў аналізе наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Гаворка пра спецыфічную гаспадарча-эканамічную арганізацыю рэгіёнаў у складзе СССР. Эканоміка Беларусі, з гледзішча патрабаванняў краіны, была арганізаваная вельмі няправільна. Развіваючы ў перыяд інтэнсіўнай індустрыялізацыі энергаёмістыя вытворчасці, Беларусь цалкам не клапацілася аб прапарцыянальным развіцці энергетыкі. Беларусь не магла сама задаволіць свае энергетычныя патрэбы. Не маючы на сваёй тэрыторыі ніводнай атамнай электрастанцыі, Беларусь была акружана імі з поўначы (Ігналінская АЭС), усходу (Смаленская АЭС) і поўдня (Чарнобыльская АЭС). Мы ўжо адзначалі вышэй дысцыплінаванасць працоўнай сілы Беларусі як адзін з асноўных канкурэнтных фактараў, але гэты фактар цалкам бескарысны ў выпадку тэхнагенных катастроф па-за межамі краіны. Аварыя адбылася ва Украіне, а найбольшыя страты пацярпела Беларусь, якая не мела магчымасцей ні самастойна ўдзельнічаць у ліквідацыі аварыі, ні прымаць рашэнні адносна лёсу Чарнобыльскай АЭС. Як і ў вырашэнні праблем, звязаных з эксплуатацыяй Ігналінскай і Смаленскай АЭС.

Гаспадарка і эканоміка Беларусі развіваліся не ў інтарэсах краіны, нацыі, а ў інтарэсах велізарнай імперыі СССР. Менавіта з гэтай

[14] Лыч, Г. М., Патеева, З. Г. Чернобыльская катастрофа : социально-экономические проблемы и пути их решения. — Минск : Право и экономика, 1999; Шевцов, Ю. Объединенная нация. Феномен Беларуси. — М. : Европа, 2005.

прычыны, нават захаваўшы вельмі высокі ўзровень вытворчасці, як індустрыяльнай, так і сельскагаспадарчай, у 1991 г. Беларусь апынулася ў такім самым сумным становішчы, як і ўсе астатнія аскепкі імперыі. Істотна тое, што наперакор савецкім уяўленням, якія дамінавалі, для эканамічнага развіцця важныя, у першую чаргу, не вытворчыя сілы, а вытворчыя адносіны. Менавіта гэтае адкрыццё ў наіўнай эканамічнай свядомасці ў 1990-я гг. пачалі называць «разрывам эканамічных сувязей». На канец перабудовы зрабілася відавочным, што беларуская эканоміка бязладная. Дакладней, яна ніяк не прывязаная да патрэб, запатрабаванняў, магчымасцей самой Беларусі. Усе гаспадарчыя, тэхналагічныя і маркетынгавыя сувязі не звязаныя ў структуру ў маштабах краіны, а разбэрсаныя па ўсім былым СССР.

У гэтым сэнсе гэты этап індустрыялізацыі і ўрбанізацыі Беларусі можна параўнаць з папярэднім, машэраўскім. Гэтае параўнанне робіць відавочным факт, што індустрыяльныя гіганты, створаныя ў Беларусі ў 1960 — 1970-я гг., былі эфектыўныя толькі ў рамках савецкай гаспадарча-эканамічнай сістэмы. То бок яны прызначаліся не для таварнай вытворчасці, а для выпампоўвання фондаў з саюзнага бюджэту. Калі саюзны бюджэт быў вычарпаны, трэба было тэрмінова пераарыентоўваць індустрыяльныя рэсурсы на таварную вытворчасць, шукаць і засвойваць рынкі збыту, то бок займацца міжнародным гандлем. А для гэтага ў Беларусі не існавала ні адпаведных структур (у СССР гэтым займалася Міністэрства міжнароднага гандлю ды іншыя адпаведныя ведамствы, усе яны мелі прадстаўніцтва ў Маскве), ні спецыялістаў. У прынцыпе, не існавала маркетынгавай дзейнасці як такой. Спецыялістаў у галіне маркетынгу было значна менш за пралетарыяў або калгаснікаў, але, як паказалі наступныя падзеі, менавіта дэфіцыт рэдкіх і нешматлікіх, але сісітэмна значных прафесій і прывёў да таго, што ўсе сувязі былі разарваныя. Прычым у савецкай палітэканамічнай навуцы былі ў дастатковай ступені распрацаваныя ўсе неабходныя тэарэтычныя ўяўленні, але яны разглядаліся як тэарэтычныя, стасоўныя да абстрактнага, нібыта няіснага капіталізму. Адсутнасць новых ведаў і новага мыслення[15]

[15] Пры гэтым «новае мысленне» — адна з самых модных катэгорый перабудовы.

ў момант распаду СССР і сталі галоўнай прычынай усіх гаспадарча-эканамічных праблем.

Адсутнасць ведаў і інтэлектуальных рэсурсаў для рацыянальнага вырашэння сітуацыі, памножаная на крызіс прывяла да таго, што ранейшыя нормы і эталоны савецкага ладу жыцця зрабіліся абгрунтаваннем і апраўданнем кансерватыўнага рэваншу. Яны ляглі ў аснову беларускай дзяржаўнай палітыкі на новым этапе ўжо сучаснай гісторыі.

***

Такая вось перадгісторыя сучаснага стану рэчаў у Беларусі. Такую Беларусь успадчыніў першы ўрад незалежнай дзяржавы. Ні першы ўрад, ні ўсе наступныя ўрады рэжыму, які быў ўсталяваны пасля 1994 г., не змаглі выпрацаваць праграмы выйсця з складанай сітуацыі, не змаглі пераарыентаваць Беларусь адпаведна патрабаванням сучаснасці. На пачатку раздзела мы ахарактарызавалі праграму дзеянняў беларускай дзяржавы як працяг савецкай праграмы індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Скончым гэтую характарыстыку апісаннем сацыяльна-дэмаграфічнага становішча і падвядзем вынікі працэсаў паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі.

## Наступствы індустрыялізацыі і ўрбанізацыі для жыццяладу беларусаў

Не заглыбляючыся ў падрабязны аналіз, пададзім сухую карціну сацыяльна-дэмаграфічных паказчыкаў, якія выразна характарызуюць стан беларускага грамадства.

Да 1994 г. колькасць насельніцтва рэспублікі стала павышалася[16] і дасягнула 10 243 тысяч чалавек, але з 1995 г. пачала зніжацца.

[16] Для Беларусі, у параўнанні з іншымі савецкімі рэспублікамі, дэмаграфічныя наступствы Другой сусветнай вайны выявіліся найбольш негатыўнымі. Беларусь перавысіла даваенную колькасць насельніцтва толькі ў 1972 г., тады як Латвія і Эстонія — да 1950 г., Грузія і Малдова — 1953 г., Расія і Азербайджан — да 1955 г., Украіна — да 1959 г. і Літва — да 1965 г.

І ўжо ў 2000 г. Беларусь перастала быць 10-мільённай нацыяй, што паводле кваліфікацыі экспертаў ААН пагражае пераходам у катэгорыю малалікіх і вымiраючых народаў. У 1993 г. станоўчае сальда натуральнага прыросту насельніцтва змянілася на адмоўнае. На 2004 г. нараджальнасць была роўная 9,1 (у разліку на 1 000 насельніцтва), смяротнасць — 14,3, то бок натуральны прырост роўны — 5,2. Паводле стану на 2005 г. у Беларусі пражывала 9 800 тысяч чалавек[17].

Пры агульным змяншэнні насельніцтва краіны колькасць гарадскіх жыхароў і пасля 1994 г. працягвала расці, хоць і не так, як раней. У 1994 г. гарадскіх жыхароў налічвалася 6 927 тысяч чалавек, а ў 2005 — 7 055 тысяч чалавек. Прычым асноўны прырост гарадскога насельніцтва адбываецца за кошт павелічэння колькасці насельніцтва сталіцы, з 1994 па 2005 г. яно павялічылася на 100 тысяч чалавек. А вось вясковае насельніцтва імкліва змяншаецца: з 3 316,5 тысяч чалавек у 1994 г. да 2 744,2 тысяч чалавек у 2005 г.

На гэтым фоне варта адзначыць, што паказчык спадзяванай працягласці жыцця няўхільна павялічваецца, і да 2005 г. ён складаў 69 гадоў (для параўнання ў Расіі — 66,1, на Украіне — 68,1, у эканамічна развітых краінах — 80 гадоў).

Знешняя міграцыя як крыніца прыросту насельніцтва не пакрывае страт. Асноўны міграцыйны абмен адбываецца з Расіяй, Украінай і Казахстанам, на якія прыпадае 91,5% усіх прыбылых у рэспубліку. Сальда міграцыі з былых савецкіх рэспублік дасягнула піка на 1992 г., затым пачало зніжацца і ў 2004 г. склала толькі 4,7 тысяч чалавек, сярод якіх 37% старэйшыя за 50 гадоў.

Зніжэнне натуральнага прыросту насельніцтва ў комплексе з павелічэннем працягласці жыцця вядуць да істотнага перакосу ў полаваўзроставай структуры насельніцтва. На пачатак 2005 г. асобы ва ўзросце старэйшыя за 65 гадоў складалі 14,5% ад усяго насельніцтва (у 1990 г. — 10,5%). Насельніцтва, у якога гэты паказчык большы за 7%, лічыцца старым. Кожны пяты жыхар рэспублікі

[17] Население Рэспублики Беларусь. Статистический сборник. Министерство статистики и анализа РБ. — Минск, 2005.

(у вёсках — кожны трэці) — персіянер. У сваю чаргу, доля дзяцей маладзейшых за 15 гадоў скарачаецца (з 23,1% у 1990 г. да 15,6% у 2005 г.).

У рамках тэмы якасці і ладу жыцця важнымі паказчыкамі робяцца не толькі колькасць і ўзроставы склад насельніцтва, але і *размеркаванне вясковага і гарадскога насельніцтва.* На сёння ў вясковай мясцовасці ў Беларусі пражывае 28% насельніцтва, у гарадах — 72%. Адзначаны вышэй дэмаграфічны перакос у найбольшай ступені датычыць менавіта вясковых жыхароў. Гэта выяўляецца, у першую чаргу, у дэфармацыі полаваўзроставай структуры вясковага насельніцтва, звязанай як з адмоўным натуральным прыростам, так і з высокай унутранай міграцыяй, адтокам моладзі. Калі сярод гараджан натуральны прырост у 2005 г. склаў 1,4%, то для вясковых жыхароў гэты паказчык роўны —15%. Доля людзей, старэйшых за працаздольны ўзрост у вёсцы складае 31,5%, у горадзе — 17,2%. Смяротнасць насельніцтва складае на вёсцы 23,6%, а ў горадзе — 10,6%, пры тым колькасць жанчын рэпрадуктыўнага ўзросту ў горадзе на 10% вышэйшая за колькасць мужчын, а на вёсцы — на 15% ніжэйшая.

Сярод розных рэгіёнаў Беларусі найменш урбанізаваныя Брэсцкая і Гродзенская вобласці, у іх працэнтнае суаднясенне гарадскіх і вясковых жыхароў складае ад 63% да 37% і 65,7% да 34,3%[18]. Найбольш урбанізаваная (па-за Мінскам) — Магілёўская вобласць (з 73,4% да 26,6%). Параўнанне асобных паказчыкаў жыцця паказвае, што паводле афіцыйных дадзеных да 2004 г. структура выдаткаў гарадскога і вясковага насельніцтва ў цэлым падобная. Аднак суб'ектыўная ацэнка ўзроўню даходаў значна адрозніваецца. Сярод гарадскіх жыхароў трэцяя частка адзначае, што ім хапае грошай на «нармальнае жыццё», тады як сярод вяскоўцаў такіх каля 21%[19].

[18] Асаблівую пазіцыю паводле гэтага паказчыка займае Мінская вобласць, бо з разліку выключаны Мінск, тады як для іншых рэгіёнаў абласныя цэнтры ўключаны, у выніку вясковае насельніцтва гэтай вобласці складае 45,8%.

[19] Бородачева, Е. М., Зразикова, В. М. Методическое обоснование изучения уровня бедности в социологических опросах // Социальные и социокультурные процессы в Беларуси. — Минск, 2005. — С. 61—68.

Паводле асноўных *сфер занятасці* насельніцтва Беларусі размеркаванае наступным чынам[20]. У прамысловасці занята 26,8%, у сельскай гаспадарцы — 10,7%, гандлі і грамадскам харчаванні — 12,4%, адукацыі — 10,5%, будаўніцтве — 7,7%, транспарце і сувязі — 7,6%. За 15 апошніх гадоў найбольш істотна знізілася занятасць у сельскай гаспадарцы (на 8,4%), змяншэнне таксама характарызуе прамысловасць (на 4,1%) і будаўніцтва (3,4%). Павелічэнне адбылося ў гандлі і грамадскам харчаванні (на 6%), а таксама ў галінах, не пададзеных у агульнай структуры.

Змяняецца ўзровень адукацыі працоўнай сілы ў Беларусі. З 1995 г. колькасць працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй павялічылася ў розных рэгіёнах у сярэднім на 45%, а ў сталіцы — на 8,3%. Паводле звестак за 2005 г. сярод працаўнікоў вышэйшую адукацыю мае 34,4% у Мінску і каля 18-19% у абласцях. Паводле ўзроўню адукацыі горад рэзка адрозніваецца ад вёскі. У 1999 г. на 1000 чалавек гарадскога насельніцтва прыпадала 176 чалавек з вышэйшай адукацыяй, а вясковага — менш за 60 чалавек.

Апісаны вышэй характар разгортвання працэсаў паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, а таксама сацыяльна-дэмаграфічная карціна сучаснай Беларусі дазваляюць меркаваць *пра лад і якасць жыцця, якія склаліся ў беларускім грамадстве.*

Відавочна, што сучасныя гарадскія жыхары, якія знаходзяцца ў актыўным узросце або завяршаюць сваю працоўную дзейнасць, у большасці сваёй тыповыя маргіналы — людзі, якія нарадзіліся і выраслі ў вёсцы, тады як рабілі кар'еру і стваралі сям'ю ўжо ў горадзе. А малодшае пакаленне — першае ўласна гарадское масавае пакаленне. Гэта азначае, што ні ў старэйшага, ні ў малодшага пакалення дарослых няма якіх-небудзь устойлівых культурных традыцый і гарадскіх каранёў. А паколькі яны складаюць пераважную большасць гарадскога насельніцтва, то патомныя гараджане і носьбіты гарадскіх традыцый растваряюцца сярод іх. Апынуўшы-

[20] Паводле дадзеных за 2004 г.: Сельское хозяйство Республики Беларусь. Статистический сборник / Министерство статистики и анализа РБ. — Минск, 2005.

ся ў становішчы раскіданай меншасці, яны амаль не маюць уплыву на гарадское жыццё і кіраванне гарадамі.

Яўныя наступствы паскоранай урбанізацыі для гарадскога жыцця дастаткова відавочныя, шматразова апісаны і добра прааналізаваны. Дзеля справядлівасці варта прызнаць, што Беларусі часткова ўдалося пазбегнуць найбольш непрывабных негатыўных наступстваў паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі для гарадскога насельніцтва і нацыі ў цэлым. Як правіла, хуткі рост гарадоў прыводзіць да пралетарызацыі гараджан. У такіх паселішчах грамадская мараль і маральнасць перастаюць выконваць рэгулюючыя функцыі, таму пачынаюць дамінаваць асацыяльныя паводзіны. Беларусі ўдалося правесці ўрбанізацыю без такіх ахвяр. Гэта было абумоўлена некалькімі фактарамі:

1) *надзвычай высокая ступень сацыяльнай абароненасці мігрантаў*. Высокія тэмпы ўрбанізацыі ў Беларусі суправаджаліся не менш высокімі тэмпамі індустрыяльнага кватэрабудаўніцтва (хрушчоўскія праграмы, развіццё буйнапанэльнага будаўніцтва). Апрача таго, у Беларусі дасягнула найвышэйшага ўзроўню (паводле мерак СССР) прафесійна-тэхнічная адукацыя. Яна адкрывала дарогу да вышэйшай адукацыі. Такім чынам, мігранты з вёскі ў горад былі забяспечаны: а) працай; б) жыллём (спярша сацыяльным: інтэрнат, «маласямейкі», а затым і звычайным паводле савецкіх мерак); в) прафесійна-тэхнічнай адукацыяй і магчымасцямі яе працягваць. Праўда, варта адзначыць, што сацыяльныя хваробы ўсё ж сустракаліся ў гарадах, якія самымі першымі ўвайшлі ў перыяд індустрыялізацыі і росту (напрыклад, Орша), а таксама ў гарадах, тып індустрыялізацыі якіх быў нехарактэрны для Беларусі (напрыклад, Светлагорск, большую частку насельніцтва якога склалі перасяленцы з Расіі або іншых рэгіёнаў СССР);

2) *беларуская індустрыялізацыя і ўрбанізацыя ажыццяўляліся на фоне адносна высокага развіцця інфраструктуры, транспарту і сувязі.* Перыяд паскоранай індустрыялізацыі і мадэрнізацыі Беларусі прыпадае на другую палову XX ст., калі краіны першага і другога свету (тады такі быў прыняты падзел) ужо ўступілі ў постіндустрыяльную стадыю развіцця. Спачатку гэта дазволіла захоўваць

устойлівыя і шчыльныя сувязі паміж сем'ямі, створанымі маладымі мігрантамі ў гарадах, і іх бацькамі, якія засталіся ў вёсцы. Гэта тармазіла працэсы разбурэння традыцыйнай маралі і маральнасці, дазваляла падтрымліваць сацыяльнае здароўе нацыі. Устойлівасць і цеснасць гэтых сувязей пачалі слабнуць да 1980-х — 1990-х гадоў, калі ўжо дэградацыя вясковага ладу жыцця зайшла настолькі далёка, што вёска практычна не аказвала ўплыву на гарадскіх жыхароў;

3) *апошнія гады паскоранай індустрыялізацыі і мадэрнізацыі ў Беларусі супалі з пачаткам кардынальных перамен ва Усходняй Еўропе, што павярнула Беларусь і іншыя нацыі рэгіёна да агульнаеўрапейскай гісторыі і да нармальнага развіцця.* То бок, будучы ледзьве што не апошняй еўрапейскай нацыяй, якая прайшла праз стадыю індустрыялізацыі і ўрбанізацыі[21], Беларусь амаль не спазнілася да пачатку агульнаеўрапейскай дэіндустрыялізацыі, уключыўшыся ў працэсы глабалізацыі практычна нароўні з большасцю краін-суседак.

Іншая справа — гэта наступствы для вясковага насельніцтва, вясковага жыццяладу, культуры і інфраструктуры вёскі. Гэтыя наступствы даволі разбуральныя, але недастаткова апісаны і зразумелы [можа быць, за выключэннем мастацкай літаратуры, праўда, не беларускай, а рускай (аўтары «вясковай прозы»)]:

1) *катастрафічны дэмаграфічны перакос.* Міграцыя ў горад закранае, у першую чаргу, вясковую моладзь, што відавочна адбіваецца на нараджальнасці і суправаджаецца паскарэннем дэмаграфічнага старэння насельніцтва, тэмпы якога ў некаторых мясцовасцях супадаюць з фізічным старэннем чалавечага арганізма;

2) *трансфармацыя эканамічных паводзін, а менавіта стаўлення да зямлі і спосабаў гаспадарання.* Вясковая эканоміка не-

[21] Мы не возьмем на сябе смеласць ацэньваць культурна-гістарычныя працэсы некаторых іншых еўрапейскіх нацый, якія, як нам уяўляецца, не прайшлі стадыі індустрыялізацыі і ўрбанізацыі або, можа быць, не завяршылі яе. Напрыклад, Румынія, Албанія, Балгарыя, Малдова і былыя югаслаўскія рэспублікі, акрамя Славеніі.

магчыма без працэсаў атрымання ў спадчыну ўласнасці. Старэнне насельніцтва і адсутнасць дзяцей і моладзі ў вёсцы пазбаўляе сэнсу права на спадчыну як такое, у прыватнасці, маярат. Гаспадаркі, для якіх не прадбачыцца спадчыннікаў, дэградуюць і паміраюць значна раней за іх гаспадароў. Праблема не толькі ў адсутнасці гаспадарчага прагрэсу, але і ў кансервацыі і наступнай дэградацыі ладу жыцця;

3) *фізічнае вымiранне вёсак.* Адсутнасць на сёння вялікай колькасці пакінутых і памерлых вёсак тлумачыцца сельскагаспадарчай палітыкай ў СССР 1960 — 1970-х гг.[22], калі з'явіўся тэрмін «неперспектыўныя вёскі» і была разгорнута праграма ўзбуйнення калгасаў і перасялення калгаснікаў з хутароў і неперспектыўных вёсак ва ўзбуйнёныя вёскі і аграгарадкі. Рэальна ж з карты Беларусі за апошніх 50 гадоў знікла велізарная колькасць вёсак і хутароў;

4) *сацыяльна-псіхалагічныя наступствы.* Свой пераезд у горад вясковец успрымае як поспех і практычна заўсёды ацэньвае яго станоўча. Адпаведна, тых, што засталіся, перасяленцы ў горад успрымаюць як няўдачнікаў. Ды і самі тыя, што засталіся, схільныя лічыць свой лёс няўдалым. Каля 22% сучаснага вясковага насельніцтва Беларусі зарыентаваныя на змену свайго сацыяльнага статусу, то бок гатовыя стаць гарадскімі жыхарамі. Нізкі статус вясковага жыцця спараджае рознага роду комплексы і ў сукупнасці з эканамічнай бесперспектыўнасцю прыводзіць да п'янства і іншых сацыяльных загананаў. Колькасць самагубстваў сярод вяскоўцаў вышэйшая, чым сярод гарадскіх жыхароў[23];

5) *сацыякультурныя наступствы.* Незалежна ад долі вяскоўцаў у насельніцтве краіны, яно ў любым выпадку застаецца традыцыйна кансерватыўным ядром нацыі, захавальнікам этнічных традыцый, асаблівасцей нацыянальнага характару, менталітэту і

[22] Смирнова, Р. А. Социально-экономическая активность белорусского крестьянства в условиях социально-экономических реформ // Социальные и социокультурные процессы в Беларуси. — Минск, 2005. — С. 87—98.

[23] Население Республики Беларусь. Статистический сборник Министерства статистики и анализа РБ. — Минск, 2005.

ўсяго, што ў падобным шэрагу апісваецца даследчыкамі. У пэўным сэнсе стан вясковага насельніцтва можна лічыць паказчыкам здароўя нацыі. Адпаведна, для беларускай нацыі захавальнікамі традыцый, менталітэту, нацыянальных рыс характару выступаюць «няўдачнікі», якія дэманструюць неэфектыўныя эканамічныя паводзіны.

У комплексе наступствы паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі фактычна разбураюць нормы і традыцыі вясковага жыцця, якія надаюць яму асэнсаванасць і ўласную каштоўнасць, што прыводзіць да дэградацыі вясковага жыццяладу як такога. Тут неабходна спецыяльна спыніцца на спецыфіцы гэтых працэсаў, якія вызначылі характар фармавання вясковага і гарадскога ладоў жыцця ў Беларусі.

**Першы** і ў значнай ступені вызначальны фактар для наступстваў, што апісваюцца, — *ахоп індустрыялізацыяй усіх галін гаспадаркі, сельскай гаспадаркі ў тым ліку*. Прынцыпова важна адзначыць, што індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі прывяла да фармавання вытворчага падыходу ў развіцці не толькі вёсак, але і вясковага жыццяладу. Такі падыход мяркуе, што месца мэт развіцця — у вытворчасці і, адпаведна, забеспячэнні інвестыцыйнага значэння вёсак. Якасць і лад жыцця жыхароў гэтых тэрыторый не толькі не ёсць задачай развіцця, але і мае другараднае, вытворнае значэнне. Яны зводзяцца да пашырэння спажывецкай здольнасці насельніцтва. Вясковыя супольнасці, як у вачах кіраўніцтва, так і ў вачах саміх жыхароў перастаюць быць самавартасцю і становяцца проста насельніцтвам, якое жыве і працуе на гэтай тэрыторыі. Вытворчы падыход да развіцця сельскай гаспадаркі абумовіў увесь комплекс наступстваў, якія адносяцца да разбурэння і дэградацыі вясковага жыццяладу як асаблівага спосабу сацыяльнай арганізацыі.

**Другі** важны фактар, што вызначыў наступствы беларускай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, — гэта *адсутнасць паралельнага гэтым працэсам развіцця трэцяга сектара*: грамадскіх аб'яднанняў і мясцовых супольнасцей. Ва ўмовах паскоранай індустрыялізацыі яны выконваюць функцыю афармлення і трансляцыі асноваў жыццяладу, захоўваючы іх перад размываннем і дэградацыяй і такім

чынам перашкаджаючы маргіналізацыі і люмпенізацыі насельніцтва. У савецкай сістэме такога роду аб'яднанні фактычна адсутнічалі, хоць і актыўна імітаваліся. У выніку атамізаванае грамадства выявілася не абароненым перад разбуральнымі працэсамі, так і не гатовым да фармавання і замацавання ў культуры новых нормаў, каштоўнасцей, формаў дзейнасці і мыслення.

**Трэці** фактар, звязаны з першымі двума, — гэта *адсутнасць рэальнага мясцовага самакіравання.* Існыя органы самакіравання — мясцовыя саветы — уключаныя ў агульную адміністратыўную дзяржаўную сістэму і, па сутнасці, ёсць яе часткай. Калі ім і адводзіцца якая-кольвек роля ў арганізацыі жыцця канкрэтнага паселішча, то толькі дарадчая. Таму ступень уздзеяння на гэтыя рашэнні залежыць выключна ад здольнасцей і асабістага ўплыву асобных дэпутатаў. Рашэнні па развіцці тэрыторый, будаўніцтве неабходных устаноў, напрыклад, адукацыйных або выхаваўчых, і стварэнні інфраструктуры (дарогі, транспарт) і г. д. «спускаюцца» па адміністрацыйнай вертыкалі. Такім самым чынам «спускаецца» рэсурснае забеспячэнне выканання гэтых рашэнняў. Мясцовыя саветы, у сваю чаргу, не маюць ні паўнамоцтваў для прыняцця рашэнняў, ні рэсурсаў для іх выканання. Адсутнасць рэальнага менеджменту скажае патрабаванні да пазіцыі мясцовага кіраўніка, яна разглядаецца як выключна выканаўчая і ўбудаваная ў дзяржаўную сістэму кіравання, а не альтэрнатыўная. Такой пазіцыі адпавядаюць і сервільныя нормы паводзін, а таксама мысленне кіраўнікоў. І той, хто займае гэтыя пазіцыі, лічыць іх самімі па сабе зразумелымі і не можа па-іншаму.

Такім чынам, пры абмеркаванні праблем якасці і ладу жыцця мы, на жаль, можам канстатаваць *адсутнасць эталонаў, якія былі б традыцыйнымі для Беларусі, выступалі ўзорамі паводзін, планавання кар'еры хоць колькі значных слаёў насельніцтва.* І гэта датычыць як вясковага, так і гарадскога ладоў жыцця, паколькі першы фактычна разбураны, а другі да канца не сфармаваны.

Наяўныя адрозненні паміж жыццём у горадзе і ў вёсцы абумоўлены, у першую чаргу, адрозненнем ва ўзроўні жыцця. Яно задае пэўныя абмежаванні тых або іншых магчымасцей у спажы-

ванні, перасоўванні, кар'еры. І гэтыя абмежаванні абумоўленыя месцам пражывання: у вёсцы адно кола магчымасцей, у горадзе — іншае. Гэтае адрозненне яскрава выяўляецца ў дзейных стандартах вясковага і гарадскога жыцця, якія не дазваляюць гаварыць пра роўныя магчымасці ў доступе да розных ладоў жыцця. Найперш гэта датычыць даступнасці інфармацыі, магчымасцей фізічнага перамяшчэння, а таксама магчымасцей сацыяльнай мабільнасці — змены сацыяльнага статусу.

Сёння ў Беларусі па інерцыі працягваюцца запушчаныя 30 — 40 гадоў таму працэсы паскоранай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, у той самы час на іх накладаюцца працэсы дэіндустрыялізацыі і зваротнай міграцыі з горада ў вёску, якія набіраюць сілу. Гэта шмат у чым звязана з глабалізацыйнымі працэсамі, у зону дзеяння якіх Беларусь трапляе незалежна ад жадання людзей або кіраўніцтва краіны. Дзеянне гэтых працэсаў выяўляецца ва ўніфікацыі стандартаў жыцця, у стварэнні агульнай інфраструктуры паслуг, незалежнай ад месца жыхарства. Найлепшы паказчык тут — пашырэнне сферы агульных спажывецкіх, а таксама экалагічных стандартаў. Апрача таго, развіццё сродкаў камунікацыі стварае шырокі доступ да інфармацыі пра розны лад жыцця, пашырэння разнастайнасці выбару. Развіццё транспарту пашырае магчымасці рэалізацыі розных ладоў жыцця.

Глабалізацыя робіць ізаляцыю якой-кольвек краіны ў цэнтры ахопленага гэтым працэсам рэгіёна немагчымай. Транспарэнтнасць (празрыстасць и пранікальнасць) тэрытарыяльных, сацыяльных і культурных межаў, якую нясе з сабою глабалізацыя, так або іначай закранае ўсе краіны. Таму супрацьдзеянне глабалізацыі, жаданне захаваць ізаляванае становішча робяцца праблемай і выклікам для краін-суседзяў. Апрача таго, адзіныя стандарты распаўсюджваюцца праз падпісанне самых розных міждзяржаўных пагадненняў.

*Такім чынам, беларускае грамадства знаходзіцца ў няўстойлівым стане, калі фундаментальныя, форматворчыя працэсы накладваюцца адзін на адзін і ствараюць мудрагелістую інтэрферэнцыю, сутнасць якой нельга ахапіць банальнымі канцэпцыямі пераходных грамадстваў.*

Вышэй мы апісалі актуальны стан жыццяладу і перадгісторыю дзейнасці і кіравання ў гэтай сферы. Цяпер наша задача — перайсці ў іншую плоскасць разгляду гэтай сферы. Мы маем разабраць ужо не гістарычны і эмпірычны матэрыял, а **спосабы мыслення** пра гэтую сферу, якія *вызначылі яе цяперашні стан*, і задаць іншыя спосабы і інструменты мыслення і дзейнасці, якія *дазволяць змяніць гэтую сферу.*

# II. Да пабудовы паняццяў ладу і якасці жыцця

## Паняцці і дзеянні

Як было паказана вышэй, сфера жыццяладу і якасці жыцця ў сучаснай Беларусі вымагае рэфармавання. Прычым менавіта з рэфармаваннем гэтай сферы, то бок з вырашэннем крызісу жыццяладу мы звязваем пачатак паэтапнага вырашэння ўсяго сістэмнага крызісу, у якім знаходзіцца Беларусь.

Сутнасць крызісу ладу жыцця палягае ў тым, што новыя індывідуальныя і калектыўныя формы арганізацыі жыцця, паляпшэння якасці жыцця, выбару жыццяладу супярэчаць формам і спосабам прыняцця рашэнняў і рэгулявання, якія склаліся ў грамадстве і дзяржаве. Нягледзячы на існыя дзяржаўныя праграмы, накіраваныя на працу з узроўнем жыцця, уся гэтая сфера складаецца абсалютна стыхійна, паколькі праграмы не бяруць пад ўвагу працэсаў глабалізацыі, што дзейнічаюць незалежна ад іх. Яны па-ранейшаму будуюцца ў рамках індустрыялізацыі і ўрбанізацыі. Дзеянне ж працэсаў глабалізацыі стварае ўмовы для шырокага, практычна неабмежаванага прытоку новых узораў і эталонаў жыцця. Яны засвойваюцца і рэалізуюцца ў беларускай сітуацыі стыхійна. З імі можна змагацца, як з чужымі, або рабіць выгляд, што іх не існуе, не ўключаючы ў апісанне, разуменне, тлумачэнне і ў кіраванне беларускім грамадствам. Менавіта такі падыход мае месца ў беларускай сацыяльнай, кіраўніцкай і палітычнай практыках. Але гэта не вырашае крызіс, а толькі паглыбляе яго.

Новыя сацыяльныя феномены, структуры, сувязі і суб'екты застаюцца па-за рамкамі разумення, тлумачэння і рацыянальных стасункаў, уключна з заканадаўчым рэгуляваннем.

Адбудова менеджменту гэтай сферы і яе рэфармаванне патрабуюць уліку працэсаў, што акурат працякаюць, а гэта немагчыма ў рамках той, папярэдняй сістэмы паняццяў і катэгорый, што абапіраюцца на задачы індустрыялізацыі. Каб прызнаць існаванне і магчымасці неабмежаванага пашырэння разнастайнасці ладоў жыцця, што паўстае дзякуючы працэсам глабалізацыі, неабходны перагляд уяўленняў пра тое, якім павіннае быць беларускае грамадства і як ім можна кіраваць. А гэта патрабуе перавызначэння ўсяго комплексу паняццяў і катэгорый, на якім будуецца сацыяльная практыка.

У любой практыцы людзі могуць рабіць толькі тое, што ўмеюць. Ставяць толькі такія мэты, якія разумеюць. А разуменне забяспечваецца пэўнымі паняццямі і катэгорыямі. Калі палітыкі, грамадазнаўцы і менеджары апісваюць чалавечае жыццё адно ў колькасных (узроўневы) катэгорыях, то ў адпаведнасці з імі будуюцца і дзяржаўная палітыка, і праграма развіцця, дакладней, не развіцця, а росту. Пакуль асноўнымі катэгорыямі ў сферы жыццяладу ў рамках праграм урбанізацыі і індустрыялізацыі былі гарадскі і вясковы лад жыцця, магчымасці рэфармавання ў гэтай сферы будуць абмежаваны зменай колькасных паказчыкаў, якія характарызуюць гэтыя лады жыцця. Калі сёння перад беларускім кіраўніком стаіць задача паляпшэння якасці жыцця на даручанай яму тэрыторыі, спектр рашэнняў, якія ён можа прыняць, абмежаваны рамкамі ўяўленняў пра той лад жыцця, які павінны весці вяскоўцы або гараджане. Калі ў малым горадзе паўстае праблема з занятасцю, то ў адпаведнасці з савецкім індустрыяльным уяўленнем пра гарадскі лад жыцця, рашэнне гэтай праблемы ляжыць у вобласці забеспячэння гараджан працоўнымі месцамі на прадпрыемствах, якія даюць заробак, што адпавядае ўсталяваным стандартам гарадскога жыцця. У гэтай схеме мыслення і кіравання няма месца такім варыянтам, як забеспячэнне максімальнай мабільнасці і стымулявання

прадпрымальніцкай актыўнасці, не мяркуецца разнастайнасці формаў занятасці.

Такім чынам, *магчымасць трансфармацыі сферы ладу і якасці жыцця мы звязваем з распрацоўкай новых паняццяў і катэгорый, у якіх гэтая сфера можа даследавацца, разумецца і ў якіх можа будавацца праграма яе рэфармавання.* І галоўнымі, першараднымі праблемамі робяцца несфармаванасць і нераспрацаванасць у беларускіх гуманітарных навуках уяўленняў, паняццяў і катэгорый, што тлумачаць увесь комплекс з'яў, падзей і працэсаў, звязаных з сучаснай арганізацыяй жыццядзейнасці беларусаў і ладам або ладамі жыцця.

## Культурная палітыка ў сферы жыццяладу

Тэарэтызаванне ў гуманітарных навуках істотна адрозніваецца ад тэарэтызавання ў навуках натуральных, у першую чаргу, сваім прыкладным характарам. Гуманітарнае тэарэтызаванне ідзе ўслед за прагматыкай. З гэтай нагоды гуманітарныя паняцці з большай цяжкасцю аб'ектывізуюцца, і мы ўвесь час павінныя высвятляць, што і навошта будзе рабіцца з іх дапамогай і які яны маюць статус. Тут мы сфармулюем тыя практычныя ўстаноўкі і праблемы, якія матывавалі нас да пераасэнсавання паняццяў і катэгорый ў сферы жыццяладу.

Гэтая праца — працяг шырокай праграмы дзейнасці Агенцтва гуманітарных тэхналогій, якая была распачата ў 1994 г. і з перапынкамі працягваецца і сёння. Гэтую праграму мы называем **«культурнай палітыкай»**[24].

**У самым агульным выглядзе «культурная палітыка» можа быць апісана наступным чынам:**

1) мы зыходзім з таго, што чалавечыя ўчынкі і дзеянні вызначаюцца і рэгулююцца наяўнымі ў людзей *ведамі і разуменнем.*

[24] Мацкевич, В. Вопреки очевидности. — СПб. : Невский простор, 2006.

І няма нічога ў выніках чалавечых учынкаў, чаго не было б да гэтага ў ведах і разуменні актывістаў. Дзеля таго каб змяніць наступствы чалавечых дзеянняў і паводзін, культурная палітыка засяроджвае свае намаганні на ведах і разуменні, кіраванні ведамі і разуменнем. У гэтым яе адрозненне ад звычайнай палітыкі, якая займаецца ўздзеяннем на мэты, матывы і прычыны паводзін і дзеянняў людзей. Таму калі перад грамадствам паўстае задача змяніць сацыяльную рэальнасць, напрыклад, правесці рэформу або з найменшымі стратамі перажыць пераходны перыяд, то, кіруючыся «культурнай палітыкай», варта пачынаць ад эпістэмалогіі і герменеўтыкі, то бок змяняць і ўдасканальваць чалавечыя веды і разуменні. І толькі пасля гэтага можна пераходзіць да звычайных, звыклых палітычных дзеянняў;

2) асноўны спосаб і метад рэалізацыі культурнай палітыкі — шырокі *грамадска-палітычны дыялог*. Паўнавартаснаму дыялогу варта вучыцца. Дыялог — прадмет арганізацыі і клопату культурнага палітыка і не паўстае сам па сабе як штосьці арганічна ўласцівае людзям (як гэта нярэдка падаюць наіўныя дзеячы трэцяга сектара, што лічаць дэмакратычныя працэдуры ўласцівымі чалавеку ад прыроды). Спосаб уключэння чалавека ў дыялог — сумяшчэнне ў чалавеку як у суб'екце палітыкі двух розных планаў: плана мыслення, або аперыравання паняццямі і катэгорыямі, і плана камунікатыўнага дзеяння, або выказвання ўдзельнікам дыялогу паведамленняў і прапаноў. Дасягненне сапраўднага раўнапраўя ў дыялогу ёсць магчымае толькі пры добрай папярэдняй працы і падрыхтоўцы кожнага з удзельнікаў. Патрабуе падрыхтоўкі і мова дыялогу, паняційна-катэгарыяльны апарат, каб ён дазваляў схопліваць сутнасць з'яў, але і ўступаць у дыялог. Большасць катэгорый савецкага грамадазнаўства непрыдатная для камунікацыі, яна мае «аб'ектыўны», заканамерны характар, іх не абмяркоўваюць, а толькі вывучаюць. Супрацьстаўленне гарадскога і вясковаў жыццяладаў не прадугледжвае дыялогу з нагоды саміх жыццяладаў, не дапускае «з'яўлення» новых жыццяладаў і вылучэння новых сацыяльных груп.

Такім чынам, праграма культурнай палітыкі задае дзве асноўныя рамкі нашай працы:

1) паняцці і катэгорыі як асноўны прадмет любой сацыякультурнай і палітычнай дзейнасці;

2) устаноўка на прызнанне за чалавекам свабоды выбару і кіравання сваім жыццём праз уключэнне яго ў дыялог з іншымі індывідуальнымі або калектыўнымі суб’ектамі.

Фіксацыя гэтых рамак вызначае для нас комплекс праблем, якія неабходна вырашыць падчас распрацоўкі паняццяў і катэгорый дзеля рэфармавання сферы жыццяладу. Абмяркоўваючы гэтыя праблемы і магчымасці іх рашэння, мы і будзем прасоўвацца да жаданых паняццяў і катэгорый, а затым і да праграмы даследавання ладу жыцця.

# Прынцыпы распрацоўкі гуманітарных паняццяў

Першае пытанне, якое паўстае пасля дэкларацыі рамак нашай працы: чаму мы не можам проста так запазычыць сучасныя заходнія гуманітарныя веды ў поўным аб’ёме і кіравацца імі? Нам ужо не раз даводзілася крытыкаваць даследаванні і распрацоўкі ў розных гуманітарных абласцях, прысвечаныя Беларусі[25]. Як правіла, памылкі і недахопы гэтых даследаванняў і распрацовак звязаны з *некрытычным запазычаннем тэорый і падыходаў, распрацаваных у іншых сацыякультурных сітуацыях, і нерэфлексійным выкарыстаннем іх у спецыфічнай беларускай сітуацыі.*

Мы далёкія ад думкі, што запазычванне паняццяў і катэгорый з іншых падыходаў і тэорый наогул немагчыма, але пры такім запазычанні вялікае значэнне набывае рэфлексійная адаптацыя і пераасэнсаванне паняццяў. Гэта прадугледжвае крытычны разбор запазычанай тэорыі, вызначэнне яе агульназначнага, інварыянтнага — і сітуацыйнага, аказіянальнага кампанентаў суадносін паміж імі. Агульназначнае і інварыянтнае можна распаўсюдзіць на розныя сацыякультурныя сітуацыі. Усё астатняе шчыльна звязана

[25] Мацкевич, В. Вопреки очевидности. — СПб. : Невский простор, 2006.

з акалічнасцямі сітуацыі, матэрыял якой быў выкарыстаны пры пабудове тэорыі. Таму прамы перанос паняццяў, катэгорый і, пагатоў, высноў з адной сітуацыі на іншую — недапушчальны. Але ж вылучэнне агульназначных кампанентаў любой тэорыі з сітуацыйных і прыватных — зусім не простая справа, якая патрабуе добрага арыентавання ў сітуацыі. Веды і разуменне сацыякультурнага кантэксту не апрыёрныя, гэта вынік даследавання і аналізу. Такім чынам, неабходныя спецыяльныя тэарэтычныя і метадалагічныя ўяўленні. Можна сказаць, што спроба запазычыць гатовыя тэорыі, паняцці і ўяўленні не толькі не эканоміць намаганні даследчыка, але патрабуе значна большых высілкаў.

У адным з першых тэкстаў даследчай праграмы АГТ «Беларусь наперакор відавочнасці» спецыяльна разбіралася метадалагічнае пытанне, як магчымы аналіз індывідуалізаваных і ўнікальных аб'ектаў. Мы не будзем вяртацца да абмеркавання гэтага пытання тут, але, спаслаўшыся на гэта, зафіксуем прынцып гуманітарных даследаванняў: *не існуе ў гуманітарных ведах такіх паняццяў і катэгорый, выкарыстанне якіх правамоцнае ў любым даследаванні.* Любая сітуацыя, якую мы збіраемся даследаваць, павінна быць нейкім чынам катэгарызаваная і атрымаць паняційнае афармленне. Для нашай працы гэта азначае, што нам варта катэгарызаваць нашу сітуацыю, высветліць яе падабенствы і адрозненні ў параўнанні з тымі сітуацыямі, дзе былі распрацаваныя паняцці, на якія мы абапіраемся або ад якіх адштурхоўваемся.

Каб зрабіць гэта, варта разабраць яшчэ шэраг прынцыпаў гуманітарнага тэарэтызавання. У першую чаргу, гэта **прынцып гістарычнасці**. З аднаго боку, гістарычнасць гуманітарных ведаў азначае, што яны праўдзівыя толькі для пэўнага часу, канкрэтнай эпохі і страчваюць сваё значэнне ў іншую. З іншага боку, у адрозненне ад натуральна-навуковых ведаў, сацыяльна-гуманітарныя характарызуюцца сучаснасцю, сінхронным існаваннем разнастайных ведаў, што дазваляе вырашаць гэтыя праблемы. Натуральнанавуковыя веды захоўваюць сваю праўдзівасць незалежна ад іх практычнай актуальнасці. Калі няма патрэбы кожны дзень вымяраць электрычнае супраціўленне, гэта ніяк не ўплывае на закон

Ома. Калі нам чарговы раз неабходна яго выкарыстаць, мы будзем выкарыстоўваць яго ў тым самым выглядзе, у якім той быў сфармуляваны. Зусім іншая справа — чалавечае супраціўленне пераменам і новаўвядзенням. Асэнсаваўшы і памераўшы ступень супраціву людзей пераменам у адной сітуацыі, мы не можам выкарыстоўваць гэтыя веды ў іншай сітуацыі непасрэдна. Мы можам памятаць пра гэта як пра прэцэдэнт, апеляваць да яго па аналогіі, але не больш за тое. У кожнай новай гістарычнай сітуацыі нам давядзецца наноў аналізаваць прычыны і прыроду чалавечых паводзін і дзеянняў.

*Вялікія сацыяльна-гуманітарныя канцэпцыі, падыходы і тэорыі ускрай шчыльна звязаныя гістарычнай сітуацыяй, што іх спарадзіла.* Лагічныя законы спажывання, якімі аперуюць марксізм і іншыя канцэпцыі палітэканоміі, мала што тлумачаць у паводзінах людзей сучаснага заходняга грамадства спажывання, а канцэпцыі грамадства спажывання 1960-х — 1970-х гадоў не дапамагаюць зразумець спажывецкіх паводзін савецкіх людзей. І тады нам даводзіцца канстатаваць, што катэгорыя «спажыванне» адносна грамадства спажывання на Захадзе ў 1970 — 1980-я гг. і да эканомікі дэфіцыту таго самага часу ў СССР павінна напаўняцца розным сэнсам і зместам. Адрозніваюцца ў гэтых адметных сацыякультурных або гістарычных сітуацыях не толькі спосабы задавальнення патрэб, але і самі патрэбы. Таму і немагчыма ўвесь комплекс гуманітарных ведаў, сфармаваны на Захадзе ў эпоху грамадства спажывання, пераносіць у СССР таго самага часу і на пераходныя грамадствы, што ўзніклі пасля распаду Саюза. Яго нельга распаўсюдзіць нават на сучаснае інфармацыйнае грамадства глабалізацыі на самім Захадзе. Гэта характэрна для любога вялікага комплексу гуманітарных ведаў, прывязанага да культурна-гістарычнай сітуацыі яго нараджэння.

Спецыфіка гуманітарных ведаў, такім чынам, палягае ў тым, што кожнае грамадства, якое прэтэндуе на аўтаномнае, суверэннае развіццё ў кожную культурна-гістарычную эпоху, павінна ствараць для сябе адпаведны комплекс сацыяльных і гуманітарных ведаў. Калі беларускія інжынеры могуць лёгка карыстацца напрацоўкамі амерыканскіх фізікаў або японскіх хімікаў, то ніхто не можа

пазбавіць беларускіх гуманітарыяў неабходнасці ствараць уласныя беларускія тэорыі і канцэпцыі беларускага грамадства. Уласна дзеля гэтага кожная краіна павінна быць забяспечаная адпаведнымі інстытутамі, якія распрацоўваюць канцэпцыі і даследуюць грамадства ва ўсіх яго аспектах. А кожнае даследаванне або распрацоўка павінныя мець тэхнічныя або прынцыповыя заданні, у якіх агаворваецца не толькі тое, *якія веды і адносна чаго неабходна атрымаць*, але і дзеля чаго, *з якімі мэтамі і ў якіх умовах гэтыя веды будуць выкарыстоўвацца.*

Неабходнасць вызначэння мэт і ўмоў паняційнай працы актуалізуюць ролю і значэнне **прагматыкі** пры фармаванні гуманітарных паняццяў і катэгорый. Часам існуе спакуса апісваць сацыяльнае і індывідуальнае жыццё людзей у квазінатуралісцкіх аб'ектывісцкіх паняццях, катэгорыях і паказчыках. Возьмем для прыкладу цалкам натуральна-навуковыя паказчыкі (тое, што стасуецца пры даследаванні прыроды) — сярэднія тэмпературныя паказчыкі паветра. Мы лёгка можам параўнаць паводле гэтых паказчыкаў умовы жыцця ў розных гарадах і рэгіёнах. Мы нават можам на падставе такіх параўнанняў рабіць некаторыя высновы пра камфортнасць або некамфортнасць асяроддзя пражывання, што так або інакш ўваходзіць у склад паняцця якасці жыцця. Але як толькі мы пераходзім ад апісанняў і параўнанняў да прыняцця рашэнняў, то аказваецца, што гэтыя параўнанні і апісанні не маюць ніякай карысці без дадатковых ведаў пра таго, для каго прымаецца рашэнне. Скажам, розныя фізіялагічныя паказчыкі арганізма чалавека могуць тое самае асяроддзе пражывання прызнаваць або камфортным, або цалкам непрыдатным для жыцця. Таму *мы павінны мець адны катэгорыі і паняцці для апісання асяроддзяў, умоў, сітуацыяў і іншыя катэгорыі і паняцці для прыняцця рашэнняў.*

Апрача таго, мы павінны мець *розныя паняцці і катэгорыі як для прыняцця грамадскіх, палітычных, сацыяльных рашэнняў, так і для індывідуальных рашэнняў*. У такім выпадку фармулёўка і вызначэнне гуманітарных паняццяў і катэгорый шмат у чым вызначаецца тым, якія рашэнні і кім будуць прымацца з выкарыстаннем гэтых паняццяў і катэгорый.

Разбяромся з тым, якія *рашэнні і кім павінны прымацца на падставе катэгорый, што мы распрацоўваем.* Гэта не такое простае пытанне, як часам хацелася б думаць. Ліберальныя, дэмакратычныя падыходы грунтуюцца на прыярытэтах асабістых індывідуальных рашэнняў адносна арганізацыі ўласнага жыцця над агульнымі або знешнімі. Тады як сацыялістычныя і этатысцкія аддаюць перавагу агульным, абшчынным, дзяржаўным рашэнням. Паколькі нікім і нідзе не адмаўляецца сацыяльная істота і прырода чалавека, то нікім усур'ёз не аспрэчваецца, што жыццё кожнага чалавека часткова вызначаецца рашэннямі, якія ён прымае самастойна, а часткова тым, што за яго вырашаюць сям'я, грамадскія інстытуты, дзяржава і г. д. І гаварыць пра баланс агульных і індывідуальных рашэнняў, з аднаго боку, і пра дапасаванасць або недапасаванасць паняццяў і катэгорый, якія выкарыстоўваюцца пры прыняцці тых або іншых рашэнняў, — з другога. Бадай, адзін з найбольш распаўсюджаных тыпаў сацыяльнага канфлікту палягае ў недапасаванасці ўяўленняў пра добрае, якімі кіруецца індывід, і тымі ўяўленнямі, якія навязваюцца яму звонку іншымі людзьмі або грамадскімі інстытутамі.

Беларуская дзяржава сама вызначае сябе як сацыяльную. Выкажам меркаванне, што дзяржава кіруецца найлепшымі намерамі, але аўтарытарны тып дзяржавы, высокая ступень нацыяналізацыі эканомікі парушаюць баланс паміж індывідуальнымі рашэннямі людзей і дзяржаўнымі. Але пры гэтым ніколі ў сацыяльна-гуманітарных навуках Беларусі не ставілася і не ўздымалася пытанне пра тое, наколькі дапасаваны паміж сабою паняцці, катэгорыі і ўяўленні дзяржаўнай ідэалогіі і людзей, што насяляюць Беларусь. Хоць можна сустрэць мноства спекулятыўных разважанняў адносна беларускага менталітэту і дзяржавы, прырода якой нібыта грунтуецца на гэтым менталітэце. Але такія апеляцыі не маюць дачынення да працэдуры дапасавання, яны толькі выконваюць функцыю абгрунтавання дзяржаўных рашэнняў.

Распрацоўваючы паняційна-катэгарыяльны апарат і тэарэтычныя ўяўленні ў рамках культурнай палітыкі, мы зыходзім з таго, што прапанаваныя намі паняцці і катэгорыі могуць быць вы-

карыстаны ў грамадскіх і дзяржаўных праграмах рэфармавання і ўладкавання, пры тым, што яны павінны прадугледжваць працэдуру дапасавання мноства ўяўленняў, што маюць грамадзяне Беларусі. Гэта азначае, што катэгорыі, якія распрацоўваюцца, павінныя ствараць *магчымасць дыялогу паміж рознымі суб'ектамі* (ад індывіда да дзяржавы) і *дапасоўваць рашэнні* ў сферы арганізацыі і рэгулявання сацыяльнага жыцця.

Разабраўшыся з гэтымі патрабаваннямі для працы з паняццямі і катэгорыямі са сферы ладу жыцця, мы можам зафіксаваць кантэкстуальныя, гістарычныя і прагматычныя **адрозненні нашай сітуацыі**, з аднаго боку, ад сітуацыі ў СССР, а з іншага, ад сітуацыі ў сучасных заходніх грамадствах.

У дачыненні да катэгарыйнага апарату *савецкага, а пазней і беларускага грамадазнаўства* варта адзначыць:

1) неадпаведнасць тых сацыяльных працэсаў, якія разглядаюцца як стрыжнявыя ў адной і другой сацыякультурнай сітуацыі. Гэта індустрыялізацыя і ўрбанізацыя — у савецкай сітуацыі, і інфарматызацыя і глабалізацыя — у сучаснай сітуацыі;

2) разыходжанне або нават апазіцыю ва ўяўленнях пра суб'екты, спосабы і метады рэалізацыі сацыяльных і палітычных рэформаў, а таксама пра суб'ектаў, спосабы і метады кантролю і кіравання рознымі бакамі жыцця, яго арганізацыі. Для нас гэта дыялог і дапасаванне, для савецкага грамадазнаўства — рэалізацыя заканамернасцей з дапамогаю ўлады і сілы.

У дачыненні да *сучасных заходніх ведаў* і катэгарыяльнага апарату рэгулявання і кіравання ў сферы ладу жыцця існуюць адрозненні іншага роду. Гэтыя адрозненні звязаныя з *прыдатнасцю паняццяў для развіцця ўжо наяўнага і непрыдатнасцю іх для рэфармавання, стварэння новай арганізацыі сацыяльнага жыцця.* У Беларусі і Еўропе маюць месца розныя стадыі адных і тых жа працэсаў. І тое, што ёсць слушным на стадыі завяршэння, можа быць зусім не слушным на пачатковай стадыі. Неабходныя нам катэгорыі і паняцці павінныя рашаць пытанні пераўладкавання сферы жыццяладу, а не падтрымання і павышэння якасці жыцця.

# Перфарматыўнасць «ладу жыцця» як гуманітарнага паняцця

Праблему перфарматыўнасці[26] гуманітарных ведаў у агульных рысах можна акрэсліць наступным чынам: «Ці існавалі сацыяльныя і гуманітарныя з'явы да таго, як яны былі кімсьці названы, канцэптуалізаваны і зрабіліся прадметам даследавання?» Можна задаць сабе наіўнае пытанне: ці існаваў лад жыцця да таго, як гэтую катэгорыю ўвялі ва ўжытак гуманітарных навук і паўсядзённую мову? Пры ўсёй наіўнасці такога пытання цікава прааналізаваць магчымыя адказы на яго. Бо, напрыклад, магчымы такі адказ: калі раней жыццё розных людзей было непадобным адно да аднаго, рэзонна выказаць меркаванне, што гэтыя адрозненні ў жыцці можна называць рознымі ладамі жыцця, а значыць, лад жыцця існаваў і раней. Такое разважанне не менш наіўнае, чым само пытанне. Безумоўна, людзі жылі па-рознаму, але мыслілі пра гэта і тлумачылі розніцу ў іншых катэгорыях (не ў катэгорыях ладу жыцця), а значыць, і ставіліся да гэтага інакш.

Уявім горад на досвітку капіталізму і пратэстанцкай этыкі, які цікавіў Макса Вебера, напрыклад, Жэневу, Страсбург або Бостан у Новай Англіі. Ці можна было разважаць у гэтых гарадах пра розныя лады жыцця? Надта сумнеўна. Пратэстанцкая этыка, якая так захапляла ўяўленне Вебера, прадугледжвала дастаткова суворую норму арганізацыі жыцця, рэгламентуючы любыя вымушаныя і выпадковыя адхіленні ад яе, прызнаючы некаторыя дапушчальнымі, іншыя — недапушчальнымі ні пры якіх умовах. Пры наяўнасці такой суворай рэгламентацыі і падрабязнага апісання нормаў жыцця няма неабходнасці ў такой катэгорыі, як лад жыцця. Катэгорыя «лад жыцця» тут магла б выкарыстоўвацца толькі як

---

[26] Услед за Джонам Остынам мы называем перфарматыўнасцю ўласцівасць выказвання быць адначасова дзеяннем (ад аб'яднання анг. *perfom* «выконваць, ажыццяўляць, прадстаўляць» і *action* «дзеянне»): Остин, Дж. Как производить действия при помощи слов. — М. : Идея-Пресс, 1999.

інструмент тыпалагічнага метаду для пазначэння адрозненняў у жыцці розных людзей. *Сам па сабе «лад жыцця» не мае ўласнага зместу.* Зафіксаваць і апісаць наяўныя адрозненні можна, толькі дадаўшы да «ладу жыцця» нейкае змястоўнае паняцце. Напрыклад, «гарадскі лад жыцця» або «вясковы лад жыцця». Але ў такім выкарыстанні гэтых катэгорый мы фактычна не атрымліваем ніякага прырастання зместу і ведаў. Дзеля гэтага дастаткова саміх катэгорый «горад» і «вёска». Калі яны дастаткова глыбока распрацаваны, то яны ўключаюць і нормы арганізацыі жыцця і паводзін у горадзе і ў вёсцы. А пры традыцыйным грамадскім ладзе яны былі распрацаваны і ўнармаваны падрабязна.

Што дае нам у такім выпадку выкарыстанне катэгорыі «лад жыцця»? Зразумець гэта можна тады, калі мы выкарыстоўваем гэтую катэгорыю не для апісання ўжо вядомых адрозненняў у жыцці людзей, а для пошуку і абазначэння яшчэ невядомых і неапісаных. Але сама спроба апісаць і зафіксаваць новыя адрозненні — гэта ўжо *не проста даследчая працэдура, але дзеянне па змене сацыяльнай структуры грамадства і нормаў рэгулявання яго жыцця.*

Ужыванне катэгорыі «лад жыцця» ва ўмовах ранняга капіталістычнага горада эпохі Рэфармацыі было б раўназначным закліку да рэвалюцыйнага пераўтварэння існага парадку або прывяло б да абструкцыі і выгнання кожнага, хто адстойваў бы права на ўласны жыццялад, адрозны ад прынятага. Безумоўна, і тады людзі ў горадзе, нават у межах адной пратэстанцкай абшчыны, маглі жыць па-рознаму. Але гэтыя адрозненні ўспрымаліся як варыяцыі адной нормы, адной ідэі або анталогіі жыцця. Нехта жыў багацей, нехта — бядней, хтосьці меў дзяцей і вялікую сям'ю, хтосьці заставаўся без сям'і. Але рэгламентацыя часу, паводзін, спажывання, забаваў і нават інтымнага жыцця не прадугледжвалі вялікай разнастайнасці. Для традыцыяналісцкіх грамадстваў нават і не дапускалася, што можа існаваць нейкая іншая завядзёнка.

Адсюль зразумелае адрозненне ў выкарыстанні катэгорыі ладу жыцця і яе ролі ў рэгламентацыі грамадскіх адносін.

*Лад жыцця як інструментальная катэгорыя тыпалагічнага метаду дазваляе апісваць і нармаваць штодзённае жыццё ў рам-*

*ках ужо існай і нязменнай структуры грамадства.* Такое выкарыстанне характэрнае для традыцыйных закрытых грамадстваў. І ў разважаннях пра лад жыцця ў гэтым кантэксце ён заўсёды паўстае з канкрэтызацыяй — гарадскі, вясковы, буржуазны, арыстакратычны і г. д.

У сваю чаргу *лад жыцця як прававая катэгорыя можа быць выкарыстаны ў практычных і палітычных мэтах змены сацыяльнай структуры і дачыненняў*. То бок, катэгорыя «ладу жыцця» можа прыцягвацца для абгрунтавання права жыць не так, як іншыя, з яе дапамогаю можна дамагацца свабоды ад рэгламентацыі і прэскрыпцый. Перфарматыўны характар катэгорыі «лад жыцця» выяўляецца ў тым, што тое, што лічылася раней адхіленнем ад нармальнага жыцця або варыяцыяй нормы, пачынае прызнавацца як іншая, такая ж законная норма. І гэта характэрна для сучасных адкрытых грамадстваў. Рознае зместавае напаўненне і выкарыстанне гэтай катэгорыі задае адпаведную сацыяльную, палітычную і практыку ўпраўлення.

## Якасць жыцця: свабода выбару або дэтэрмінаванасць

Паколькі нашая праца арыентавана на змену палітыкі кіравання і сацыяльных праграм у краіне, неабходна ў першую чаргу акрэсліць, чаго мы хочам дасягнуць у сферы жыццяладу. Таму пачнем з катэгорыі **«якасць жыцця»**, бо тая мае мадальны, ацэначны характар («добра — дрэнна», «якасна — няякасна»). Змест гэтай катэгорыі задае крытэрыі ацэнкі жыцця і спосабы працы з сацыяльнай рэальнасцю.

Разбярэмся з тым, як гэтая катэгорыя ўжываецца ў розных даследчыцкіх традыцыях.

У *сучаснай заходняй навуцы* гэтае паняцце дастаткова добра прапрацавана і даведзена да вымерных паказчыкаў і індыкатараў, якія шырока выкарыстоўваюцца ў палітычнай і сацыяльна-кіраўнічай практыцы. Якасцю жыцця называюць сукупнасць матэ-

рыяльных, сацыяльна-дэмаграфічных, палітычных і да т. п. умоў жыцця і ўзровень іх развітасці. Асаблівае значэнне пры выкарыстанні гэтай катэгорыі мае ацэнка ўзроўню дэмакратызацыі, стану здароўя насельніцтва і стану навакольнага асяроддзя, магчымасці адукацыі, ступень сацыяльнай абароненасці і г. д. То бок ацэньваюцца «істотныя абставіны жыцця насельніцтва, якія вызначаюць ступень годнасці і свабоды асобы кожнага чалавека»[27].

У выніку гэтае паняцце фіксуе максімальна шырокі спектр чалавечых патрэб і дэкларуе неабходнасць умоў дзеля іх рэалізацыі незалежна ад якіх-небудзь сацыяльных, эканамічных, этнічных і іншых характарыстык чалавека. Ён не звязаны наўпрост з паняццямі і катэгорыямі, якія фіксуюць якасны, зместавы бок арганізацыі жыцця (лад або стыль жыцця). Ён хутчэй за ўсё фіксуе наяўнасць або адсутнасць умоў для рэалізацыі розных спосабаў, тыпаў, ладоў і стыляў жыцця. Мяркуецца, што выбар ладу жыцця адбываецца свабодна, у рамках існых умоў. Таму задачы сацыяльнай і палітычнай практыкі палягаюць у тым, каб палепшыць гэтыя ўмовы і такім шляхам палепшыць якасць жыцця.

Для *савецкага грамадазнаўства* характэрны цалкам іншы падыход да вызначэння якасці жыцця. Уласна катэгорыі «якасць жыцця» ў савецкай навуцы не існавала. І гэта звязана з базавымі ўяўленнямі пра арганізацыю жыцця. Як і ў любой закрытай грамадскай сістэме, усе характарыстыкі і бакі жыцця (ацэнка, лад, узровень і г. д.) разглядаліся як дэтэрмінаваныя падзелам на класы, слаі або групы. Прычым самі класы і слаі вызначаліся на падставе прадпісаных, аб’ектыўных характарыстык, такіх як паходжанне, месца нараджэння і г. д. Пытанне пра ацэнку або параўнанне характарыстык жыцця магло ставіцца толькі ў дачыненні да дынамікі тых або іншых, у першую чаргу, колькасных характарыстык у рамках кожнага класа або слою паасобку, але не паміж імі.

Аднак у якасці альтэрнатывы заходняй «якасці жыцця» ў савецкім грамадазнаўстве пачало распрацоўвацца іншае паняцце — «лад жыцця». Яно мела адначасова і мадальны, і апісальны

[27] Крупнов, Ю. Качество жизни [Электронный ресурс] / Ю. Крупнов. — Режим доступа : http://www.kroupnov.ru/5/178_1. shtml.

бакі[28]. У гэтай катэгорыі фіксаваліся якасныя, зместавыя адрозненні арганізацыі жыцця ў розных слаях. Праз лад жыцця давалася пэўнае апісанне таго, як наладжана штодзённае жыццё таго або іншага сацыяльнага слоя. З іншага боку, лад жыцця меў нарматыўны і ідэалагічны статусы, як апісанне **ўзорнага** спосабу арганізацыі штодзённага жыцця людзей. «Якаснасць» жыцця раскрывалася непасрэдна ў зместавых характарыстыках ладу жыцця, праз параўнанне таго, што ёсць, з тым, якім павінна быць жыццё савецкіх рабочых, калгаснікаў і г. д. Найбольш паказальным у гэтым плане (і найбольш ідэалагічна нагружаным) быў «сацыялістычны лад жыцця», які канцэнтраваў усе перавагі савецкага грамадства над буржуазным. Менавіта як апісанне належнага, слушнага ён выкарыстоўваўся пры прыняцці кіраўніцкіх рашэнняў, абмяжоўваючы ўяўленні тых, хто прымае рашэнні пра патрэбныя або дапушчальныя спосабы парадку штодзённага жыцця грамадзян.

Такім чынам, пытанне пра якасць жыцця разглядалася толькі ў рамках ўжо існых сацыяльных катэгорый (вясковыя / гарадскія жыхары, рабочыя / калгаснікі / інтэлігенцыя), прывязаных да жорсткай сацыяльнай структуры. І сутнасць пытання зводзілася да таго, наколькі адпавядае існы лад жыцця ідэальным і ідэалагічным уяўленням пра патрэбы дадзенай групы людзей. Раслі патрэбы (дзякуючы клопату савецкай дзяржавы) — змяняўся лад жыцця.

У такім ужытку «лад жыцця» заўсёды другасны: хоць з яго дапамогай штосьці апісваюць і нармуюць, сам ён задаецца аб'ектыўнай сацыяльнай структурай. Таму ладоў жыцця больш не можа быць больш за сацыяльныя групы або слаі. З'яўленне новага ладу жыцця, які не ўпісваецца ў існыя ўяўленні пра сацыяльныя структуры, можа быць расцэнена як маргінальная з'ява, якую можна «выправіць». Новы лад жыцця не можа змяніць сацыяльнай структуры і сацыяльных дачыненняў, не можа зрабіцца падставай для разгляду

[28] «Лад жыцця — паняцце айчыннай сацыялогіі, якое характарызуе канкрэтныя сацыякультурныя інтэр'еры (тыповыя формы, спосабы і механізмы) жыццядзейнасці сацыяльных суб'ектаў»: Абушенко, В. Образ жизни / В. Абушенко // Социология: энциклопедия. — Минск : Книжный Дом, 2003.

новага слоя, класа або групы. Зыходзячы з такіх паняццяў ладу і якасці жыцця, новыя жыццялады, якія пачалі трапляць у Беларусь, лічацца маргінальнымі. Іх існаванне і іх носьбіты не ўлічваюцца пры прыняцці кіраўніцкіх рашэнняў па арганізацыі «якаснага жыцця».

І хоць за апошнія дзесяцігоддзі ў катэгарыяльны апарат беларускай навукі і кіраўніцкай практыкі было перанесена заходняе паняцце «якасць жыцця», само па сабе яно не змагло змяніць спосабу мыслення і дзейнасці ў гэтай сферы. Паколькі перанесеныя былі ўжо стандартызаваныя паказчыкі і індыкатары вымярэння ўмоў жыцця. Іх можна фармальна прыкладаць да любога грамадства. Дзеля змен у гэтай сферы неабходна сфармуляваць такое паняцце, якое б адлюстроўвала і фіксавала трансфармацыю асноў у разуменні «якаснага» і «няякаснага» жыцця.

Гэта прыводзіць нас да вызначэння *«якасці жыцця» як характарыстыкі, якая задае свабоду выбару і магчымасць рэалізацыі любога абранага ладу жыцця.*

Гэта прадугледжвае, па-першае, *наяўнасць экспазіцыі, веера магчымых ладоў жыцця,* а па-другое, *забеспячэнне магчымасці іх рэалізацыі.* Але ці можам мы выбіраць і рэалізоўваць абраны лад жыцця індывідуальна або гэты выбар — вынік сацыяльных узаемадзеянняў? Відавочна, што мы ўплываем на лад жыцця адзін аднаго, і на выбар, і на рэалізацыю. А калі ўжо ўплываем, то павінны дамаўляцца. Таму ў катэгорыю якасці жыцця мусяць быць уключаны *ўмовы дзеля дыялогу і дапасавання розных ладоў жыцця.*

Такое разуменне якасці жыцця блізкае сучасным заходнім уяўленням. Але ёсць і істотныя адрозненні. Каб вырашыць гэтую задачу і карэнным чынам змяніць практыку працы з ладамі жыцця, мы робім акцэнт на *дзейнасці, на штучным стаўленні* да гэтай сферы. Гэта датычыць і *стварэння* экспазіцыі ладоў жыцця, *забеспячэння* магчымасцей рэалізацыі і *фармавання* механізмаў пагаднення. У дачыненні да заходніх грамадстваў гэтая катэгорыя стасуецца ўжо для **ацэнкі** задаволенасці і развітасці ўмоў, для рэалізацыі любых ладоў жыцця. Адпаведна, яна акцэнтаваная на *дынаміцы росту або паніжэння паказчыкаў.* А вось для нас важней-

шая фіксацыя якаснай змены прынцыпаў і спосабаў працы ў гэтай сферы.

Прапанаваная катэгорыя якасці жыцця задае іншыя, у параўнанні з савецкім варыянтам, суадносіны паміж катэгорыямі ўзроўню і ладу жыцця. У закрытым савецкім грамадстве і лад, і ўзровень жыцця — гэта дзве характарыстыкі жыцця тых або іншых класаў, груп або слаёў. Змена ўзроўню жыцця канкрэтных груп або слаёў адпавядала змене іх спажывецкага кошыка. Гэта, у сваю чаргу, прыводзіла да росту патрэбаў і з'яўлення новых спосабаў іх задавальнення. У выніку росту ўзроўню жыцця змяняўся і лад жыцця. Прычым рост узроўню жыцця не прыводзіў да замены аднаго ладу жыцця на іншы — гарадскога на вясковы, ладу жыцця рабочага на лад жыцця інтэлігента. Рост узроўню жыцця прыводзіў да замены старога гарадскога ладу жыцця новым гарадскім ладам жыцця. Такім чынам, характарыстыкі ладу жыцця змяняюцца ўслед за узроўнем жыцця.

Катэгорыя якасці жыцця, якую мы ўводзім, задае зваротныя суадносіны. Калі для нас важная магчымасць выбару з шырокага спектра ладоў (узораў) жыцця, якія не звязаныя з прыналежнасцю да сацыяльных слаёў або груп, тады ўзровень жыцця становіцца **задачай,** або **ўмовай**, якую неабходна выканаць, каб скарыстацца гэтай свабодай рэалізацыі таго ці іншага ладу жыцця. Узровень жыцця робіцца «залежным» ад таго, які лад жыцця абраны. Для адных ладоў жыцця набор матэрыяльных, сацыяльных і іншых даброт можа быць вельмі высокі, для іншых — вельмі нізкі, але за кожным разам гэты набор задаецца не прыналежнасцю да сацыяльнага слою, групы, класа, а абраным ладам жыцця.

## Аперыраванне паняццем «лад жыцця»

Сфармуляваная намі вышэй катэгорыя «якасці жыцця» патрабуе змены і пераасэнсавання катэгорыі «лад жыцця». Звернемся да супярэчнасці паміж *зменлівасцю ладу жыцця* з аднаго боку, і *мультыплікацыяй ладоў жыцця* — з другога. Можна задаць наіўнае пытанне: «А ці можа змяняцца лад жыцця?» Першая рэакцыя на

такое пытанне — здзіўленне: «А як жа? Усё ў гэтым свеце змяняецца». Канешне, усё ў гэтым свеце змяняецца, але навошта змяняцца ладу жыцця, калі лады жыцця хутчэй памнажаюцца? Калі камусьці не хочацца жыць так, як іншыя, ён можа пачынаць жыць так, як сам таго хоча. Сучасная грамадская думка, засвоіўшы катэгорыю «лад жыцця», не толькі дазваляе гэта, але нават настойвае на тым, каб кожны жыў так, як сам лічыць патрэбным і слушным. І мы гэта абмяркоўвалі, калі гаварылі пра перфарматыўнасць катэгорыі «лад жыцця».

Калі мы дапускаем зменлівасць ладу жыцця, то тым самым прызнаем яго аб'ектыўны змест і аўтаномнае існаванне. Значыць, ёсць чаму змяняцца, значыць, ёсць тое, што змяняецца. Тады «лад жыцця» ўжо не можа заставацца толькі інструментальнай катэгорыяй тыпалагічнага метаду пазнання і інструментальнай палітычнай катэгорыяй, што выкарыстоўваецца для дасягнення свабоды і легітымізацыі разнастайнасці. Лад жыцця можа быць выкрыты ў рэальнасці і нават апісаны і вымераны ў сваёй нязменнасці (статыцы), з аднаго боку, і ў сваёй зменлівасці (дынаміцы) — з іншага боку. Такая аб'ектывізацыя ладу жыцця раскрывае цалкам іншыя перспектывы яго даследавання. А на практыцы з'явы, што аб'ектыўна існуюць, падлягаюць кантролю, рэгуляванню, кіраванню, заканадаўчаму афармленню.

Асабліва красамоўна гэта выяўляецца ў сферы інтымных стасункаў і сэксу. Славутая фраза «У СССР сексу няма!» не такая бессэнсоўная і дурная, як можа падавацца на першы погляд. Секс у СССР быў сапраўды інтымнай сферай, пра яго не гаварылі, на ўзроўні грамадскага рэгулявання жыцця секс прыцягваў увагу толькі ў радыкальных праявах на мяжы або па-за мяжой крымінальнага кодэкса. Пра секс не гаварылі, але захоўваліся негалосныя нормы пра дапушчальныя формы сексуальных адносін (шлюб), пра месца і час, пра дапушчальныя спосабы і позы і г. д. І толькі ў грамадстве плюралізму ладоў жыцця стала патрэбнай рэгламентацыя сексуальных стасункаў, і гэты працэс цяпер знаходзіцца ў самай актыўнай стадыі (прынамсі, што да пытання гомасексуалізму). Такая рэгламентацыя зрабілася магчымай, калі гэтая сфера

была прызнаная як аўтаномная, аб'ектыўна існая. Пры такім стаўленні яна прадугледжвае даследаванне і фіксацыю, у тым ліку заканадаўчую.

Гэтыя разважанні пра зменлівасць або мультыплікацыю ладоў жыцця дазваляюць зафіксаваць два моманты, змешчаныя ў самой этымалогіі слова «лад»:

— *лад жыцця — гэта пэўны спосаб жыцця чалавека або групы людзей*, тыповасць, рэгулярнасць, якасная спецыфіка, якая хаваецца за разнастайнасцю розных праяў і парадкуе іх. Гэта тое, што падлягае змяненню, аб'ектывацыі і даследаванню дынамікі;

— *лад жыцця — гэта адлюстраванне, карціна, злепак, зафіксаваная норма і эталон.* У гэтай якасці ён не падлягае змяненню, кожная змена — гэта новы лад жыцця, які, будучы зафіксаваным ва ўзоры, можа зрабіцца прадметам трансляцыі і рэалізацыі.

Гэтыя два розныя аспекты «ладу жыцця» патрабуюць цалкам розных стратэгій даследавання. Для аб'ектывізацыі і рэгулявання ўласна і патрэбны колькасныя паказчыкі (распаўсюджанасць таго або іншага жыццяладу, характарыстыкі спажывання, даступнасць сацыяльных дабротаў і г. д.). У тым ліку зменлівасць або кансерватыўнасць, сацыяльная мабільнасць і да т. п. Для стварэння і падачы шырокага спектра ладоў жыцця неабходна герменеўтычная праца з узорамі, іх фіксацыяй і прэзентацыяй.

На дадзеным этапе развіцця гуманітарных ведаў мы маем у наяўнасці неабходны інструментарый для даследавання ладу жыцця і ўсёй сферы чалавечых стасункаў, з гэтым звязанай. Але мы дакладна не ведаем, якое кола з'яў падлягае першачарговаму даследаванню і аналізу. Каб разабрацца з гэтым, варта выявіць: як і навошта гэта рабіць? Але спярша трэба высветліць, што ў гэтай сферы ёсць **натуральным**, а што **штучным**.

Дзе мае месца магчымае ладажыццёвае прагрэсарства і дэндызм, а дзе неабходная экалогія ладу жыцця?

У сферы ладу жыцця ўсё, так або інакш, — прадукт чалавечай дзейнасці і мыслення або, у крайнім выпадку, ускоснае спараджэнне гэтай дзейнасці. *Аднак гаворка не пра тое, якімі ёсць рэ-*

*чы, аб'екты і з'явы самі па сабе, а пра тое, якім чынам да гэтых рэчаў і з'яў ставяцца людзі, як яны пра іх мысляць.* І гэтае стаўленне выяўляецца ў катэгорыях, што выкарыстоўваюцца для апісання і разумення рэчаў. Таму пры распрацоўцы і фармулёўцы паняццяў і катэгорый неабходна ўлічваць гэтую акалічнасць: штучнымі або натуральнымі ёсць адносіны.

Справа ў тым, што распаўсюджаная памылка пры разглядзе сацыяльных з'яў і працэсаў, у тым ліку і ў сферы, звязанай з ладам жыцця, — ставіцца да іх, як да натуральных або квазіпрыродных. Так, нібыта яны існуюць самі па сабе (аб'ектыўна) і ніяк не звязаны з тым, што людзі пра ўсё гэта думаюць і ведаюць. Існаванне натуральных, прыродных аб'ектаў і з'яў не залежыць ад ведаў пра іх, чаго нельга сказаць пра штучныя працэсы і з'явы. Штучнае дачыненне прадугледжвае, што мы разглядаем сацыяльныя з'явы як вынік і як прадмет мэтанакіраванай чалавечай дзейнасці. Калі мы хочам зменаў у сферы ладу і якасці жыцця, то нам неабходнае **«абштучненне»** з'яў і працэсаў у гэтай сферы.

Калі ж мы з тых або іншых прычын не ведаем, не ўмеем, не можам або не хочам абыходзіцца з працэсамі і з'явамі як са штучнымі, яны, па сутнасці справы, становяцца квазінатуральнымі і пачынаюць існаваць самі па сабе (прынамсі, для тых, хто так іх успрымае). Адбываецца **«абнатуральванне»** сацыяльных працэсаў і з'яў.

Некаторыя сацыяльныя працэсы маглі быць выкліканы творчасцю і актыўнасцю людзей і кантралявацца людзьмі. Але захаванне кантролю патрабуе пэўнай кваліфікацыі і падрыхтоўкі. Тады штучнасць або натуральнасць гэтых з'яў становіцца ў залежнасць ад захавання падрыхтоўкі і кваліфікацыі людзей. Калі з тых або іншых прычын патрэбны ўзровень кваліфікацыі не ўдаецца падтрымліваць, то запушчаныя працэсы перастаюць кантралявацца людзьмі і абнатуральвацца. Гэтую з'яву можна апісваць запазычаным з марксізму тэрмінам **адчужэнне**. «Абнатуральванне» сацыяльных працэсаў і з'яў адбываецца тады, калі пачынаецца *адчужэнне дзеяча ад дзейнасці па кантролі і кіраванні гэтымі працэсамі.*

У дачыненні да працэсаў і з'яў са сферы жыццяладу таксама можна гаварыць пра адчужэнне чалавека ад кантролю і кіравання

ў гэтай сферы. Калі лад жыцця абстаўляецца вялікай колькасцю перадумоў, умоў і акалічнасцей, не сувымерных з магчымасцямі чалавека кіраваць імі, то кіраванне і кантроль робяцца немагчымымі. Варта прызнаць, што для большасці людзей у большасці культур кіраванне і кантроль у сферы жыццяладу недаступныя, але мы зараз абмяркоўваем *прынцыповую магчымасць штучных або натуральных адносін да працэсаў і з'яў у сферы жыццяладу.* Толькі наяўнасць такое прынцыповае магчымасці робіць нашую працу асэнсаванай.

Можна выказаць меркаванне, што адна з галоўных дамінантных тэндэнцый грамадска-гістарычнага — дасягненне для чалавека ўсё большага кантролю над ладам жыцця і засваенне метадаў і спосабаў кіравання ў гэтай сферы. З гэтага меркавання выводзіцца і дадатковы крытэрый падзелу грамадстваў на традыцыйныя (закрытыя) і сучасныя (адкрытыя). Традыцыйныя грамадствы характарызуюцца такімі гуманітарнымі ведамі і такою моваю апісання працэсаў і з'яў у сферы жыццяладу, пры якіх кіраванне працэсамі і з'явамі ў гэтай сферы прынцыпова немагчымае. А пашырэнне гуманітарных ведаў і камплектацыя прафесійных моў паняццямі і катэгорыямі, што дапускаюць штучнае стаўленне да працэсаў і з'яў у сферы жыццяладу, характарызуюць адкрытае грамадства. Важнай ёсць наяўнасць самой прынцыповай магчымасці кантролю і кіравання ў гэтай сферы. Такая магчымасць дазваляе пераадольваць адчужэнне чалавека ад дзейнасці ў дачыненні да ўсяго чалавецтва. Зразумела, што і ў адкрытым грамадстве далёка не для кожнага і не заўсёды даступны кіраванне і кантроль у сферы ладу жыцця, нягледзячы на новыя магчымасці.

*Наш падыход і ўведзеныя вышэй уяўленні пра якасць жыцця прадугледжваюць, што паняццем «лад жыцця» павінны апісвацца і ахопліваецца як натуральныя, так і штучныя з'явы і працэсы з магчымасцю далейшага «абштучнення» або «абнатуральвання».* Дасягнуць гэтага можна, калі развесці і патлумачыць два аспекты паняцця «лад жыцця», якія мы ўжо закранулі.

**Першы** — гэта лад жыцця як пэўны набор нормаў, згодна з якімі арганізуецца жыццё чалавека або групы людзей, гэта тое, чым і

як жыве чалавек. Ён, як правіла, пагружаецца ў сітуацыю рэалізацыі адной з нормаў і разглядае яе як дадзенасць, як натуральнае асяроддзе. З цягам часу гэтае асяроддзе можа змяняцца, у выніку змяняецца і лад жыцця людзей. Па-за спецыяльнымі асаблівымі сітуацыямі гэта не ўсведамляецца як мэтанакіраваны і арганізаваны працэс. У гэтым дачыненні лад або лады жыцця падлягаюць даследаванню, апісанню, фіксацыі. Праз уяўленні пра разнастайнасць і зместавыя адрозненні ладоў жыцця мы можам «схапіць» і зразумець актуальнае жыццё ў краіне, пашыранасць і зместавае напаўненне тых або іншых нормаў і спосабаў жыцця.

Штучны бок паняцця ладу жыцця звязаны з **другім** аспектам, з стаўленнем да «ладу жыцця» як да знака, узору, элемента дыялогу і дапасавання паміж празнымі сацыяльнымі суб'ектамі. Тут важнае не змястоўнае апісанне і аб'ектыўныя характарыстыкі распаўсюджанасці таго або іншага ладу жыцця, а фіксацыя яго як нормы, узору, які неабходна залучыць у дыялог. У гэтай якасці лад жыцця выступае як элемент прыняцця кіраўніцкіх і палітычных рашэнняў, накіраваных на забеспячэнне ўмоў суіснавання разнастайных ладоў жыцця ў адной прасторы, а таксама магчымасцей рэалізацыі такой разнастайнасці.

Падводзячы высновы нашым разважанням над паняццямі ладу і якасці жыцця, варта зафіксаваць наступнае. Дзеля таго, каб забяспечыць якасць жыцця як магчымасць вольнага выбару любога ладу жыцця, неабходна прызнаць, што:

— усе наяўныя ў беларускім грамадстве спосабы арганізацыі жыцця ўяўляюць сабою культурную і сацыяльную каштоўнасць;

— усе яны маюць права на існаванне і ўключэнне ў пабудову грамадскіх адносін.

Аднак простага прызнання будзе недастаткова, паколькі забеспячэнне якасці жыцця патрабуе вырашэння шэрагу задач:

**1. Інвентарызацыя, апісанне і фіксацыя ўсіх наяўных ладоў жыцця.** Прычым гэтая інвентарызацыя і складанне экспазіцыі ладоў жыцця ў Беларусі не разавым дзеянне, якое заканчваецца складаннем закрытага спіса. Гэта павінна быць сталая дасслед-

чыцкая праца і маніторынг ладоў жыцця ў рамках адкрытага спісу. Тут лады жыцця паўстаюць фенаменальна — апісальна і праз пазначэнне прыкладаў, эталонаў і ўзораў. *Мы павінныя даследаваць, апісваць і замацоўваць, фіксаваць у выглядзе ўзораў ўсю разнастайнасць ладоў жыцця, існых і магчымых у Беларусі.*

**2. Даследаванне ўмоў і магчымасцей трансляцыі і рэалізацыі кожнага з вылучаных і апісаных ладоў жыцця.** Трансляцыя нормаў і спосабаў арганізацыі жыцця, механізмы і ўмовы іх рэалізацыі складаюць характарыстыкі быцця (існавання) дадзенага ладу жыцця ў сацыяльнай рэальнасці. Таму апрача фенаменальнага апісання самога ладу жыцця як пэўнай нормы, узору і эталона нам неабходна даследаваць і зафіксаваць наступныя моманты:

— *суб'екты рэалізацыі* розных ладоў жыцця (носьбіты);

— *формы арганізацыі* і інстытуцыялізацыі, у якіх ажыццяўляецца трансляцыя розных ладоў жыцця (школы, вучнёўства, прэзентацыі і г. д.) і іх рэалізацыі (формы арганізацыі, спецыяльныя ўмовы і г. д.);

— *суб'екты, якія мэтанакіравана займаюцца трансляцыяй* тых або іншых ладоў жыцця. Тыя, хто клапоціцца і адказвае за рэпрадукцыю гэтых ладоў жыцця. Такімі суб'ектамі не могуць быць асобныя індывіды, задача арганізацыі трансляцыі ладу жыцця сумерная толькі да груп, супольнасцей;

— *інфраструктура трансляцыі і рэалізацыі.* Наяўнасць матэрыяльных, чалавечых, тэхнічных і іншых умоў, якія неабходны для рэалізацыі пэўнага жыццяладу.

**3. Забеспячэнне магчымасці рэалізацыі розных ладоў жыцця**[29]. Для таго, каб стварыць такія ўмовы, лады жыцця павін-

[29] Палітычныя і кіраўніцкія рашэнні, арыентаваныя на забеспячэнне якасці жыцця, павінныя зыходзіць не з канкрэтнага апісання належнага, годнага ладу жыцця, а з задачы забеспячэння інфраструктуры для рэалізацыі ўсіх існых і магчымых жыццяладаў. Параметры гэтай інфраструктуры могуць задавацца з характарыстык неабходнай прасторы, часу, мабільнасці і г. д. Розніца паміж наяўнымі і неабходнымі характарыстыкамі і ёсць падставай для прыняцця рашэнняў. Гэта

ныя быць апісаныя ўжо не ў змястоўных характарыстыках, а праз агульныя *фармальныя параметры*:

— *прасторы* для рэалізацыі таго або іншага ладу жыцця, геаграфічнай і сацыяльнай.

— суадносін у тым або іншым ладзе жыцця вольнага і неабходнага *часу*;

— *інтэнсіўнасці*: характарыстык тэмпу, мабільнасці і рытму таго або іншага ладу жыцця;

— *мадальнасці*: ацэнкі ладоў жыцця як годных або нягодных, сучасных або не, добрых або дрэнных.

**4. Стварэнне магчымасці выбару праз рэпрэзентацыю шырокага веера, экспазіцыю ладоў жыцця.** Гаворачы пра экспазіцыю, мы не маем на ўвазе выставу або музей у любой іх форме. Арганізацыя экспазіцыі ладоў жыцця магчыма толькі праз перасячэнне або судакрананне ў адной прасторы людзей з рознымі ладамі жыцця. Арганізацыя такога судакранання заклікана забяспечыць якасць жыцця і ёсць падстава для прыняцця рашэнняў. Дзеля «сустрэчы» розных ладоў жыцця ў адной геаграфічнай прасторы патрабуюцца, напрыклад, скасаванне інстытуту прапіскі, змена візавага рэжыму, развіццё інфраструктур і г. д. Дзеля сустрэчы ладоў жыцця з рознымі сацыяльна-культурнымі характарыстыкамі — свабода выбару школы для дзяцей, арганізацыя не клубных і зачыненых культурных мерапрыемстваў, а адчыненых і свабодных канцэртаў, дзе культуры могуць «сустракацца» адна з адною, дзе людзі могуць назіраць экспазіцыю і рабіць выбар.

Адпаведна, лады жыцця ў практыцы палітычных і кіраўніцкіх рашэнняў павінны задавацца не апісальна, а фармальна і сістэмна,

азначае, што і рашэнні, якія прымаюцца, павінны забяспечваць магчымасць рэалізацыі ў пэўнай прасторы ладоў жыцця з максімальна разнастайнымі характарыстыкамі. Напрыклад, у горадзе павінна быць магчымасць весці жыццё ў розным тэмпе і з рознай інтэнсіўнасцю, павінна быць магчымасць высокай геаграфічнай і сацыяльнай мабільнасці і магчымасць весці аселы лад жыцця, і магчымасць самому вызначаць, што добра і што дрэнна.

праз характарыстыкі прасторы, часу, інтэнсіўнасці і г. д. І гэтыя характарыстыкі маюць колькаснае выражэнне.

Усведамляючы маштабнасць і сістэмнасць гэтых задач, мы разумеем, што першы крок у іх ажыццяўленні — гэта арганізацыя даследавання сферы жыццяладу ў сучаснай Беларусі з выкарыстаннем прапанаванага катэгарыяльнага апарату. Падчас такога даследавання мы будзем мець магчымасць не толькі атрымаць карціну актуальнага стану якасці і ладу жыцця ў Беларусі, але і развіць, напоўніць зместам катэгорыі, якія мы распрацоўваем.

# III. Праграма даследавання жыццяладу ў рамках сучаснай сацыяльнай гісторыі Беларусі і культурнай палітыкі

Складаючы праграму даследавання, мы ставім сабе задачу спраўдзіць меркаванні, зробленыя намі падчас апісання сацыяльнай гісторыі Беларусі і распрацоўкі паняццяў якасці і ладу жыцця. Атрыманыя вынікі варта накласці на тэарэтычныя і канцэптуальныя напрацоўкі, пададзеныя ў гэтай кнізе, для таго, каб быў атрыманы якасны і адэкватны інструмент для апісання і разумення сферы жыццяладу, а таксама для прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў і арганізацыі дзейнасці ў гэтай сферы.

Праведзены аналіз змен, якія адбыліся за апошнія 15 гадоў у сацыяльнай сферы, хоць і не дазваляе даць поўнага апісання новага стану рэчаў, але дае магчымасць убачыць праблемныя месцы і сфармуляваць кірункі даследчыцкай актыўнасці, лакалізаваць яе.

Другасная індустрыялізацыя і ўрбанізацыя не вядуць да адбудовы сацыяльнай структуры буйных гарадоў і індустрыяльных цэнтраў, ідэнтычнай той, якая склалася ў іх на канец 1980-х гг., але яны па-ранейшаму застаюцца індустрыяльнымі гарадамі, але з істотна ўскладненай сацыяльнай структурай. І зусім інакш выглядаюць

справы з малымі гарадамі, у якіх або не было індустрыяльнай вытворчасці і раней, або яна была разбурана ў гады крызісу.

Малыя гарады ўяўляюць сабою нібыта лабараторыю, у якой можна назіраць дынаміку жыццяладаў. Можна было б чакаць, што працэс урбанізацыі закране і малыя гарады і ў іх можа пачацца нармаванне і акультурванне, падцягвання да горада і распаўсюджванне гарадскога ладу жыцця. Малыя гарады — натуральня мадэль або правобраз негатыўных, дэструктыўных тэндэнцый у буйных гарадах. З іншага боку, будучы блізкімі да вёсак, такія гарады маглі б зрабіцца лідарамі і заканадаўцамі «модаў» у нармалізацыі і мадэрнізацыі вясковага жыццяладу. Таксама магчымыя і зваротныя тэндэнцыі, калі на малыя гарады пашыраюцца негатыўныя тэндэнцыі, што дзейнічаюць у вёсках ва ўмовах паскоранай і дрэнна кіруемай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі.

З аднаго боку, індустрыялізацыя і ўрбанізацыя ў Беларусі прывялі да таго, што малыя гарады саступаюць па сваім значэнні буйным індустрыяльным цэнтрам і не робяць моцнага ўплыву на працэсы ў нацыянальным маштабе. З іншага боку, крызісныя з’явы і спадарожныя ім праблемы і сацыяльнае напружанне выяўляюцца ў іх значна яскравей. Таму змена і эрозія ладу жыцця ў малых гарадах уяўляе для даследчыка вялікую цікавасць. І хоць сацыяльныя працэсы, што закранаюць лад жыцця ў буйных гарадах, у большай ступені бачны і ўплываюць на жыццё краіны ў цэлым, але іх даследаванне вымагае значна большых выдаткаў і рэсурсаў, уключна з большымі навукова-даследчымі цэнтрамі. А паколькі сфера навукі, як акадэмічная, так і ўніверсітэцкая, сёння не здольная ставіць такія задачы, і даследчыцкі патэнцыял захоўваецца толькі ў малых групах і рэсурсна-незабяспечаных фабрыках думкі, то малыя гарады — аптымальны аб’ект для даследавання ў рамках нашай тэмы.

**Мэта даследавання** — выкрыццё і апісанне стану спраў у даследаванай сферы, які можа стаць падмуркам інавацыйных праграм паляпшэння якасці жыцця з паралельным забеспячэннем праграм у стадыі распрацоўкі новымі ідэямі, канцэптамі і катэгорыямі.

**Аб’ект даследавання** — лады жыцця, рэпрэзентаваныя ў малых гарадах сучаснай Беларусі. Зыходзячы з апісаных вышэй уяў-

ленняў пра лад жыцця, гэты аб'ект уключае ў сябе як *зместавы бок разнастайных ладоў жыцця* (фенаменальнае апісанне) і *ацэнку ступені распаўсюджанасці*, так і *ўмовы, і характарыстыкі кіраўніцкай і палітычнай практык* у дачыненні да ладоў жыцця, *умовы забеспячэння іх трансляцыі*, *экспанавання і далучэння* да камунікацыі і *ўмовы рэалізацыі*.

**Прадмет даследавання** — планы, задумы суб'ектаў рознага маштабу адносна арганізацыі іх жыцця і жыцця ў краіне (разам з дзяржаўнымі праграмамі, праграмамі лакальнага развіцця і асабістымі планамі) у комплексе з існымі ўмовамі рэалізацыі гэтых планаў, іх рэсурсным забеспячэннем.

**Асноўныя гіпотэзы:**

1) падзел на вясковы і гарадскі лады жыцця неадэкватны для сучасных умоў;

2) арганізацыя гарадскога і вясковага асяроддзя ў сучаснай Беларусі не адпавядае дыверсіфікацыі ладоў жыцця, якая пачынае акрэслівацца;

3) праграмы лакальнага развіцця, што рэалізуюцца беларускай дзяржавай, не адпавядаюць запатрабаванням і патрэбам людзей у змененых умовах і не забяспечваюць належнай якасці жыцця;

4) у распрацоўнікаў і рэалізатараў гэтых праграм адсутнічае тэарэтычны і канцэптуальны апарат дасягнення пададзеных адпаведнасцей.

**Арганізацыя экспедыцый і парадак даследавання:**

1) прыязджаючы ў горад, экспертным метадам ацэньваем узровень і стандарты жыцця ў ім, вызначаючы суадносіны гарадскога і вясковага ладу жыцця;

2) вызначаем месцы ў горадзе, дзе мы можам разлічваць сустрэць праявы розных ладоў жыцця. Гэта могуць быць музеі, дамы культуры, цэрквы і касцёлы, месцы адпачынку, майстэрні, клубы і г. д.;

3) наведваючы вызначаныя месцы, шукаем людзей, чый лад жыцця, так або інакш, уключае ў сябе функцыянальнае выкарыстанне (чытачы, тэатралы, гандляры, вернікі) гэтых месцаў або найбольш

яскравых прадстаўнікоў жыццяладаў, прафесійна звязаных з гэтымі месцамі (працаўнікі культуры, бібліятэкары, святары і г. д.);

4) даследуем гарадское асяроддзе і інфраструктуру на наяўнасць прыметаў, што сведчаць аб прысутнасці ў населеным пункце ладоў жыцця, якія адрозніваюцца ад найбольш распаўсюджаных і традыцыйных, вылучаюцца з агульнай масы;

5) высвятляем асноўныя віды заняткаў мясцовых жыхароў у адпаведнасці з выяўленымі ладамі жыцця, спосабы і віды баўлення вольнага часу;

6) шукаем і вывучаем месцы, спосабы і інтэнсіўнасць камунікацый і перакрыжаванняў розных жыццяладаў;

7) збіраем меркаванні і ўяўленні прадстаўнікоў розных жыццяладаў пра развіццё і змены іх населенага пункта і пра іх уласныя планы на будучыню;

8) вывучаем праграмы развіцця, якія рэалізуюцца ў населеным пункце;

9) высвятляем ступень удзелу грамадзян у вызначэнні праграм развіцця іх населенага пункта, далучанасці да рэалізацыі гэтых праграм, а таксама ступень уплыву мясцовых улад і мясцовай супольнасці на рэалізацыю іх уласных планаў;

10) высвятляем, ці зацікаўлены мясцовыя жыхары ў вядомых ім інавацыях і ініцыятывах або ў тых, якія мы самі можам ім прапанаваць, зыходзячы з нашых магчымасцей. Стараемся ацаніць і зразумець іх рэакцыю на гэтыя прапановы.

## Сціслы нарыс па першых выніках экспедыцый

Сёння мы толькі пачынаем рэалізоўваць акрэсленую праграму. На працягу 2007-2008 гг. мы пабывалі з экспедыцыямі прыкладна ў 15 малых гарадах. Практычна паўсюль мы выявілі абрысы дыверсіфікацыі ладоў жыцця, эклектыку гарадскога і вясковага ладоў жыцця, змешанасць традыцыйных для савецкіх гарадоў і

вёсак ладоў жыцця і новых, якія пачынаюць афармляцца. Разам з тым паўсюль выяўляецца неўладкаванасць гарадской арганізацыі і інфраструктуры практычна для любога ладу жыцця. У гэтых гарадах ужо немагчыма жыць звыклым з савецкіх часоў жыццём, але і для новых ладоў жыцця яны непрыстасаваныя. Амаль паўсюдна жыхары беларускіх малых гарадоў ізаляваны ад удзелу ў планаванні мясцовага развіцця, непраінфармаваныя пра існыях праграмы і планы і, на жаль, не бачаць у гэтым праблемы і самі не вельмі цікавяцца гэтым бокам арганізацыі іх жыцця.

Найбольш распаўсюджаным спосабам для рэалізацыі ўласных жыццёвых планаў актыўныя людзі лічаць міграцыю або ў больш буйныя гарады, або за межы краіны. Відавочная надзённая патрэба ў перспектыўным планаванні і праграмаванні мясцовага развіцця. Ні ў адным з наведаных намі гарадоў мы не выявілі мясцовых суб’ектаў, здольных да такога планавання і праграмавання. Больш за тое, у большасці гарадоў не ўдаецца выявіць нават тых, хто быў бы гатовы да супрацоўніцтва са знешнімі суб’ектамі. Усяго толькі ў некалькіх малых гарадах удалося сустрэць людзей, мікрасупольнасці або арганізацыі, зацікаўленыя ў зменах ва ўласным горадзе і гатовыя супрацоўнічаць з іншымі суб’ектамі, супольнасцямі і арганізацыямі дзеля рэалізацыі гэтых змен.

З некаторымі гарадамі нам удалося наладзіць супрацоўніцтва, якое працягваецца. Такім чынам хоць бы часткова пераадольваюцца закасцянеласць і кансерватызм абывацельскага гарадскога асяроддзя, інерцыйнасць мясцовых улад і няўпэўненасць суб’ектаў лакальнага развіцця ва ўласных сілах і магчымасцях. І гэта дае нагоду для аптымізму. Патэнцыял мясцовага развіцця мы вымушаныя ацэньваць як надзвычай нізкі. Таму супярэчнасць паміж ладам жыцця, які хоць і павольна, але змяняецца, і неадаптаваным да гэтых зменаў гарадскім асяроддзем і інфраструктурай у бліжэйшай будучыні будзе нарастаць. А вынік гэтай супярэчнасці — або некантралюемая міграцыя і заняпад малых гарадоў, або паскораная планавая мадэрнізацыя.

У выніку такога сціслага нарыса мы можам толькі канстатаваць настойлівую неабходнасць мадэрнізацыі малых гарадоў у

Беларусі. Тады як распрацоўка адэкватных да новых умоў праграм мясцовага развіцця патрабуе больш глыбокага і дэталёвага апісання і абмеркавання ўжо атрыманых і планаваных вынікаў даследавання.

*Сцiслыя агляды і справаздачы па выніках экспедыцый у асобныя гарады размешчаныя на сайце http://methodology.by. У найбліжэйшы час паводле гэтага матэрыялу будзе падрыхтаваная асобная кніга*[30].

[30] У 2009 г. выйшла кніга, якая падсумоўвала вынікі даследавання: Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси / сост., науч. ред. Т. Водолажская. — Минск : И. П. Логвинов, 2009.

# Станаўленне нацыі ў Беларусі: ад падданства да грамадзянства

Уладзімір Мацкевіч
Андрэй Ягораў
Таццяна Вадалажская

*Перакладчык:* Аляксандр Карцель
*Рэдактар:* Марыя Мартысевіч

# Змест

# Уводзіны

Агенцтва гуманітарных тэхналогій (АГТ)[31] у апошнія гады некалькі разоў звярталася да тэмы грамадзянскай адукацыі. Зваротным момантам для нас у гэтай тэме была распрацоўка стандартаў грамадзянскай адукацыі[32], якой мы заняліся па ініцыятыве беларускай Асацыяцыі грамадзянскай адукацыі ў 2006 г. Да гэтага нам даводзілася займацца асобнымі аспектамі гэтай тэмы[33], а праца над стандартамі дала магчымасць ахапіць усю сферу грамадзянскай адукацыі цалкам. У 2007-2008 гг. мы працавалі над канцэпцыяй грамадзянскай адукацыі ў Беларусі, распрацоўвалі комплекс навучальна-метадычных матэрыялаў па тэме і праводзілі навучанне трэнераў і спецыялістаў у гэтай сферы. У працэсе працы

---

[31] Агенцтва гуманітарных тэхналогій (АГТ) — нефармальны гурток аналітыкаў і метадолагаў, якія сабраліся вакол Уладзіміра Мацкевіча ў 1994 г. Гэтае ўтварэнне працягвае сваё існаванне ў розных арганізацыйных формах. З 2007 г. яно ўяўляе сабою праектную групу Цэнтра сацыяльных інавацыяй (ЦСІ).

[32] Мацкевич, В., Мацкевич, С., Водолажская, Т. Подходы к стандартам и стандартизации в неформальном образовании // Адукатар, 3 (9), 2006. — С. 13—21.

[33] Гл.: Крупник, С., Мацкевич, В. Функциональная грамотность в системе образования Беларуси. — Минск, 2003; Водолажская, Т. В. Представления о гражданской принадлежности как инструмент изучения самоопределения гражданской общности // Социологическое знание и социальные процессы в современном белорусском обществе. — Минск : ООО «ФУАинформ», 2003.

Таксама іншыя артыкулы Уладзіміра Мацкевіча і Сяргея Мацкевіча.

выяўляліся тэарэтычныя хібы і нявызначанасць паняццяў, прычым не толькі ў адукацыйна-педагагічных аспектах, але і ў самім змесце паняццяў «грамадзянін», «грамадзянства», «грамадзянскасць».

З аднаго боку, мы ўсё больш заглыбляемся ў тэматыку і праблемы грамадзянскай адукацыі, прапрацоўваючы стандарты, метады, змест да канкрэтных адукацыйных методык. Адначасова мы сутыкаемся з няпэўнасцю ў грамадскай думцы і ў тэорыі адносна ўяўленняў, што такое беларуская нацыя[34]. А не маючы сталых уяўленняў пра нацыю, вельмі цяжка сфармуляваць паняцце пра яе элемент, то бок пра грамадзяніна. Пакуль у спрэчках і дыскусіях пра тое, хто такія беларусы і што такое беларускі народ, не будзе мінімальнага кансэнсусу, любыя ўяўленні пра канкрэтнага грамадзяніна Беларусі будуць паддавацца сумневам, зыходзячы з гэтай верхняй рамкі.

Тэма нацыянальных і грамадзянскіх дачыненняў, нацыянальнай і грамадзянскай ідэнтычнасці — ледзь не галоўная ў сучаснай навуковай і калянавуковай гуманітарыстыцы вакол Беларусі. Амаль што ўсе аўтары ў той або іншай ступені звярталіся да гэтай тэмы. Здаецца, такая пільная ўвага тлумачыцца тым, што ў разгадцы таямніцы беларускай нацыі шукаюць ключ да разумення і пераадолення ўсіх драм і трагедый нацыянальнай гісторыі, а таксама да спасціжэння ўсіх калізій і супярэчнасцей сучаснасці. І хоць такая пастаноўка пытання і можа выглядаць значным перабольшаннем, але тым не менш, яна блізкая да сутнасці. Безумоўна, гэта не адзіная форма, у якой можа і павінная мысліцца Беларусь, але не разабраўшыся з гісторыяй і актуальным станам працэсаў нацыянальнага і грамадзянскага будаўніцтва, вельмі складана зразумець што-небудзь пра сучасны стан краіны.

Папулярнасць тэмы сама па сабе яшчэ не забяспечвае якаснага зместу, дастатковага дзеля зразумення беларускіх актуалій. Але

[34] І сама грамадская думка, і гісторыя станаўлення беларускай нацыі могуць быць пададзены як катастрофы. Гл.: Мацкевич, В. Особенности национальных отношений на фоне культурных катастроф / В. Мацкевич // Белорусский климат. — № 4. — 1997. — С. 23—27.

гаворка не пра тое, што ўсе працы на гэтую тэму памылковыя, а мы прапануем сваю, слушную версію ў вырашэнні гэтага пытання. Зусім не, гаворка пра іншы падыход да такога аб'екта, як Беларусь і беларуская нацыя. Раней даследчыкі і мысляры спрабавалі па-мастацку, па-філасофску або навукова апісаць і растлумачыць, што ўяўляе сабою беларуская нацыя і чаму яна такая. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся розныя тэорыі і канцэпцыі, адбудоўваліся гістарычныя, палітычныя, сацыяльныя і культурныя перадпасылкі і г. д. Нягледзячы на адрозненні ў гэтых апісаннях і іх інтэрпрэтацыях, усіх даследчыкаў аб'ядноўвае тое, што яны імкнуцца да спасціжэння праўдзівага, найбольш слушнага і дакладнага апісання.

Нашая мэта іншая. Нам неабходнае спасціжэнне Беларусі, прыдатнае для дзейнаснага, кіраўніцкага да яе стаўлення. Таму для нас важней высветліць не як яно было або ёсць на самой справе, але якім чынам неабходна ўбачыць Беларусь, каб можна было зразумець актуальную сітуацыю і асэнсавана, і эфектыўна ў ёй дзейнічаць. Фармаванне беларускай нацыі і стан нацыянальнай свядомасці павінны паўстаць не як вынік напластавання гераічных і трагічных гістарычных падзей, не толькі як канчаткова здзейснены факт, дадзены нам дзеля творчага перажывання і навуковага аналізу, але як дынамічны працэс, што паддаецца волі і рацыянальным стасункам людзей. Неабходна вызваліць ад чараў і рацыяналізаваць гісторыю беларускай нацыі, каб авалодаць і ўсвядомлена кіраваць ёю. Адзін з найважнейшых аспектаў такой працы звязаны з распрацоўкай і рэалізацыяй канцэпцыі грамадзянскай адукацыі ў Беларусі.

Існыя сёння ў грамадстве ўяўленні не суадносяцца з тэарэтычнымі, а самі тэарэтычныя ўяўленні няпоўныя. Аднак нягледзячы на тэарэтычную нераспрацаванасць і павярхоўнасць уяўленняў пра нацыю і грамадзянства ў грамадскай думцы, марудзіць не выпадае. Беларуская сістэма адукацыі, арганізацыі трэцяга сектара патрабуюць канцэптуальнага забеспячэння працы па грамадзянскай адукацыі дзяцей і дарослых. Адсюль праблема: неабходна прапрацаваць змест і метады грамадзянскай адукацыі на ўзроўні рэалізацыі адукацыйнага працэсу, але немагчыма вызначыцца

з выбарам канцэпцый і падыходаў вышэйшага парадку. То бок нам давядзецца распрацоўваць канцэпцыю грамадзянскай адукацыі ва ўмовах адсутнасці трывалай канцэпцыі беларускай нацыі.

Гэтая брашура мае на мэце хоць у нейкай ступені ліквідаваць канцэптуальную няпэўнасць і запоўніць тэарэтычныя прагалы ў канцэпцыі грамадзянскай адукацыі. Мы хацелі б таксама нагадаць чытачам, што гэта ўжо чацвёртая кніга ў серыі «Беларусь для пачаткоўцаў», ініцыяваная творчым калектывам АГТ / ЦСІ. Ніводная з кніг серыі не прэтэндуе на поўнае апісанне і спасціжэнне нашай краіны, нашай маладой дзяржаўнасці і ўсёй складанасці праблем грамадскага жыцця Беларусі. Аднак мы імкнемся знаходзіць малараспрацаваныя тэмы і праблемы, пачынаючы развіваць іх у надзеі, што зможам прыцягнуць да іх увагу чытачоў, нашых калег і спецыялістаў, як у Беларусі, так і за мяжой.

# I. Выклікі грамадзянскай адукацыі

## Цяжкія ўрокі грамадзянскай адукацыі

Грамадзянскай і палітычнай адукацыяй у Беларусі займаецца шмат розных арганізацый, як дзяржаўных, так і недзяржаўных. Некаторыя НДА дэкларуюць грамадзянскую адукацыю як асноўны кірунак сваёй дзейнасці. Аднак пры бліжэйшым разглядзе выяўляецца дзіўная рэч: прадстаўнікі грамадзянскай адукацыі ў Беларусі не задумваюцца пра паняцці «грамадзянін» і «грамадзянскасць». У трэцім сектары грамадзянскай адукацыяй пачынаюць называць усё, што заўгодна, калі адукацыяй займаюцца не дзяржаўныя ўстановы, а НДА. А вось у дзяржаўным сектары да гэтага часу карыстаюцца савецкімі тэарэтычнымі і ідэалагічнымі ўстаноўкамі, часта зводзячы грамадзянскую адукацыю да патрыятычнай або ваенна-патрыятычнай. У апошнія гады, калі мы пачалі займацца праблемамі грамадзянскай адукацыі, мы сутыкнуліся з праблемамі дэфініцый і цяжкасцямі камунікацыі. Высветлілася, што большая частка спецыялістаў, занятых у гэтай сферы, проста адмаўляецца звязваць грамадзянскую адукацыю з паняццямі «грамадзянін» і «грамадзянскасць», а у сваёй практыцы выкарыстоўвае нейкія дзіўныя абрыўкі паняццяў і блытаецца ў змесце і аб’еме паняццяў.

Так, напрыклад, ёсць вялікія складансці з тэрмінам «грамадзянін Беларусі». Выяўляецца, што тыя, хто працуе паводле праграм і методык, запазычаных з Еўропы і ЗША, нават не задумваліся

пра тое, што яны працуюць не з абстрактнымі грамадзянамі, а з грамадзянамі Беларусі. У іх метадычках і дапаможніках пра гэта папросту нічога не сказана. Там не сказана і пра грамадзян Германіі, Швецыі або ЗША — на гэтай падставе трэнеры і спецыялісты кажуць, што няма патрэбы і ў паняцці «грамадзянін Беларусі». Нам гэта здаецца дзіўным і наіўным. Нават касмапаліты, то бок «грамадзяне свету» выхоўваюцца і фармуюцца ў адукацыйных сістэмах канкрэтных краін з грамадзян канкрэтных дзяржаў.

Не менш дзіўным нам падаецца і пануючае ў асяроддзі трэнераў НДА меркаванне, што грамадзянская адукацыя не звязаная з дзяржавай, а грамадзянскасць — з дзяржаўнасцю. Недзяржаўныя арганізацыі лічаць, што і адукацыя, якую яны арганізуюць, павінная быць максімальна недзяржаўнай, ігнаруючы тую акалічнасць, што паняцце «грамадзянін» зместава вызначаецца менавіта адносна паняцця «дзяржава». Розныя тыпы дзяржавы прадугледжваюць розныя тыпы грамадзянскасці і выклікаюць да жыцця розныя сістэмы грамадзянскай адукацыі. Трэнеры НДА ў найлепшым выпадку вучаць правам чалавека, забываючыся на тое, што правы чалавека ўніверсальныя і не залежаць ад грамадзянства, але ў грамадзян розных дзяржаў яны па-рознаму забяспечаны, і грамадзяне розных дзяржаў у рознай ступені могуць карыстацца сваімі правамі і бараніць іх. І гэта вызначаецца не правамі чалавека, а правамі грамадзяніна. Але не толькі правамі, але і абавязкамі, і тым, як грамадзяне ў розных краінах ставяцца да сваіх правоў і абавязкаў. У сваю чаргу, гэтая розніца ў стаўленні грамадзян да сваіх правоў і абавязкаў можа тлумачыцца розніцай у змесце і формах грамадзянскай адукацыі ў розных краінах.

Выяўленыя праблемы арганізацыі адукацыйнага працэсу маглі б падацца выключна тэхнічнымі цяжкасцямі, якія вырашаюцца перанавучаннем трэнераў і складаннем нармальных праграм. Але паглыбленне ў гэтую сферу дзейнасці прымусіла нас наноў пераглядзець і прааналізаваць усё, што мы ведаем пра грамадзянскасць у Беларусі. Вынікі такога аналізу паказалі, што цяжкасці і недарэчнасці ў арганізацыі нефармальнай грамадзянскай адукацыі не лакальныя, а комплексныя. Праблемы, звязаныя са зместам

грамадзянскай адукацыі ў сучаснай Беларусі, выяўляюцца яшчэ ў дзвюх прасторах:

— *у прасторы грамадскай думкі*, то бок у вобразах, устаноўках і ўяўленнях пра беларускую нацыю, грамадзянства і саму Беларусь, якія падзяляюць жыхары краіны;

— *у прасторы ідэй*, то бок у такіх тэарэтычных распрацоўках, ідэалагемах, праектах, у якіх адлюстроўваецца інтэлектуальная праца па фармаванні зместу грамадзянскай адукацыі — канцэптуальных уяўленняў пра Беларусь, нацыю, грамадзянства і г. д.

Гэтыя дзве прасторы, безумоўна, звязаныя адна з адною. Уяўленні пра грамадзянства, пра народ і краіны, пачуцці, якія мы можам выказаць у грамадскай думцы, учынкі і дзеянні, што характарызуюць грамадскія паводзіны, — гэта вынікі грамадзянскай адукацыі. Пры гэтым змест такіх уяўленняў і ўзоры для дзеянняў паўстаюць не самі па сабе. Яны абапіраюцца на вынікі інтэлектуальнай (філасофскай, гістарычный, аналітычнай) працы. Па сутнасці, грамадская думка — гэта адаптаваныя і спрошчаныя дзеля «штодзённага выкарыстання» тэорыі нацыі і грамадзянства, якія сталіся зместам грамадзянскай адукацыі. З іншага боку, інтэлектуальная праца немагчыма без аналізу і рэфлексіі стану грамадскай думкі па гэтых пытаннях. Немагчыма таксама ўявіць працу ў гэтай галіне як рафінаванае тэарэтызаванне, ачышчанае ад усіх установак, каштоўнасцей і перакананняў, уласцівых інтэлектуалам як грамадзянам і прадстаўнікам нацыі.

Але нягледзячы на адзначаную звязанасць, гэтыя дзве прасторы кардынальна адрозніваюцца адна ад адной. Яны адметныя паводле структуры, прынцыпаў арганізацыі, фактараў і заканамернасцей змен, тыпаў праблем, якія ў іх паўстаюць. У прасторы грамадскай думкі важныя *ахоп*, *распаўсюджанасць* базавых уяўленняў пра грамадзяніна Беларусі і беларускае грамадзянства, *вызначанасць*, *дакладнасць* і *несупярэчлівасць* іх зместу (насычаныя вобразы, зразумелыя ідэалы, выразныя сэнсы і г. д.), *устойлівасць* гэтых уяўленняў у часе, перадача іх ад пакалення да пакалення.

Адзінства, зместавая насычанасць і ўстойлівасць уяўленняў пра нацыю і грамадзяніна ў канчатковым выніку дазваляюць судзіць пра

сфармаванасць нацыі, пра яе цэласнасць і пра якасць грамадзянскай адукацыі. І хоць ў рэальнасці немагчымыя ні поўнае аднадумства, ні поўная нязменнасць, ані адсутнасць спрошчанасці і заган зместу, тым не менш менавіта ад гэтых крытэрыяў як ад ідэалу мы адштурхоўваемся ў ацэнцы сітуацыі.

Прастора інтэлектуальнага афармлення ідэй і канцэптаў беларускай нацыі і беларускага грамадзянства ацэньваецца паводле іншых характарыстык. Крытэрыі ацэнкі поля інтэлектуальнай працы — характарыстыкі зместу тэорый, канцэпцый і ідэй: іх *сучаснасці, адэкватнасці задачам, якія стаяць перад нацыяй, грамадзянамі і краінай, іх глыбіня, паўната* і г. д. Яшчэ адзін аспект ацэнкі гэтай прасторы — *інтэлектуальная камунікацыя* паміж рознымі праектамі, канцэпцыямі і ідэямі. Гаварыць пра сфармаванасць нацыі мы можам толькі тады, калі адна з канцэпцый будзе мець бясспрэчны прыярытэт і дамінаванне. Але гэты аўтарытэт і дамінаванне павінны быць «заваяваныя» ў выніку палкіх дыскусій, крытыкі і шчыльнага дыялогу. Менавіта тут адбываецца сапраўднае зместавае развіццё і разгортванне асноўных канцэптаў, крышталізацыя найважнейшых і найбольш прадуктыўных ідэй. Калі ж гэты этап не пройдзены і дамінаванне забяспечваецца коштам іншых механізмаў і фактараў (палітычнага, адміністратыўнага), то гэта ставіць пытанні пра якасць зместу дамінантных канцэпцый. Без стадыі рэальнай крытыкі і камунікацыі крайне складана разлічваць на сапраўдную глыбіню, паўнату, сучаснасць і змястоўнасць прапанаваных ідэй.

Тут мы не маем магчымасці разгарнуць паўнавартасны аналіз і крытыку абедзвюх прастораў. Часткова гэта звязана з фарматам выдання і іншымі прыярытэтнымі мэтамі гэтага дапаможніка. Часткова ж варта прызнаць, што існыя на сённяшні дзень веды як пра стан грамадскай думкі, так і пра сферу інтэлектуальных распрацовак няпоўныя, фрагментарныя і дрэнна сістэматызаваныя. Гэта складае прадмет і перспектыву далейшай працы. У той самы час нам важна абазначыць стан гэтых прастораў і праблемы, якія мы ў іх бачым.

# Грамадзянства і грамадзянскасць у грамадскай свядомасці беларусаў

Абапіраючыся на існыя даследаванні ў галіне беларускай ідэнтычнасці, этнічнасці і грамадзянства, мы можам вылучыць некалькі характарыстык грамадскай свядомасці[35].

Па-першае, варта адзначыць дастаткова высокую ступень распаўсюджанасці і ўстойлівасці грамадзянскай і этнічнай самаідэнтыфікацыі беларусаў. За час існавання незалежнай Беларусі такія самавызначэнні, як «беларус» і «грамадзянін Беларусі» сталі для жыхароў краіны звыклымі, нават значнымі і каштоўнымі. У гэтым плане карціна грамадскай думкі Беларусі даволі аднародная і ўстойлівая. Але гэта толькі адзін і хутчэй фармальны бок праблемы. Больш істотнае пытанне — што азначае для людзей быць грамадзянамі, як яны ўяўляюць сваю краіну, свой народ, яго сучаснасць і будучыню. У гэтым плане карціна беларускай грамадскай свядомасці больш складаная і праблемная.

У калектыўнай свядомасці жыхароў краіны існуе комплекс уяўленняў пра Беларусь, грамадзянства, нацыю, які мае ўстойлівасць, шырокую распаўсюджанасць і пазітыўны матывацыйны патэнцыял. Але ён невялікі як паводле свайго аб'ёму, так і паводле глыбіні і змястоўнасці напаўнення. Уяўленні, якія адназначна, несупярэчліва і ўпэўнена падзяляе большасць насельніцтва краіны, крайне нявызначаныя, фармальныя і неглыбокія паводле свайго зместу. Значыць, яны недастатковыя дзеля таго, каб быць сапраўднай падставай аб'яднання і развіцця нацыі і краіны. Гэта датычыць уяўленняў і пра Беларусь, і нацыю, але найбольш яскрава выяўляецца менавіта ва ўяўленнях пра грамадзянства.

У сучаснай сітуацыі мы назіраем *адсутнасць дамінантных уяўленняў пра тое, што такое грамадзянін, што азначае быць грамадзянінам Беларусі.* Адны звязваюць грамадзянства з нара-

[35] Науменко Л. И., Водолажская Т. В. Этническая и гражданская принадлежность в восприятии населения современной Беларуси. — Минск : Белорус. наука, 2006. — 183 с.

джэннем і пражываннем на тэрыторыі краіны, іншыя — з наяўнасцю палітыка-прававога статусу і спадарожных яму фармальных атрыбутаў (пашпарта, правоў, абавязкаў і г. д.), трэція, наадварот, падкрэсліваюць, перш за ўсё, эмацыянальную і каштоўнасную прывязанасць да краіны (быць грамадзянінам — гэта любіць сваю радзіму), чацвёртыя найважнейшай характарыстыкай лічаць сацыяльна-палітычную актыўнасць. Прычым долі беларусаў, што аддаюць перавагу таму або іншаму вызначэнню, блізкія і супастаўляльныя адна з адной. Пэўная тэндэнцыя прасочваецца пры параўнанні розных пакаленняў: людзі старэйшага ўзросту, чыё дзяцінства і юнацтва прыпадала на ваенныя і пасляваенныя гады, бачаць грамадзянства толькі як тэрытарыяльную прыналежнасць і пачуццё прыхільнасці да краіны; «шасцідзясятнікі» дэманструюць іншае разуменне грамадзянства, у якім узмацняецца патрыятычны рамантызм, але ў той жа час ужо выразна прасочваюцца ўяўленні пра грамадзянства як палітыка-прававы статус, хоць бы і фармальны. Гэта вынік пранікнення і пашырэння ў савецкім грамадстве ідэй дэмакратыі і права ў перыяд «адлігі».

Наступныя два пакаленні, ажно да тых, чыё юнацтва прыпала на перыяд брэжнеўскага застою, дэманструюць поўную эклектыку і разнастайнасць свайго разумення грамадзянства. Тут няма якіх-небудзь відавочна дамінантных уяўленняў. Прычым трэба адзначыць, што гэтыя пакаленні праз свой узрост маюць найбольшы палітычны, эканамічны, сацыяльны і культурны ўплыў, а значыць, шмат у чым вызначаюць сацыяльную практыку, у тым ліку і асноўныя кірункі развіцця краіны.

Маладым людзям уласціва хутчэй фармальна-статуснае разуменне грамадзянства, чым эмацыйная прыхільнасць і тэрытарыяльная прывязанасць. У наймаладзейшага пакалення, якое вырасла ўжо ў часы кіравання Аляксандра Лукашэнкі, гэта выяўляецца найбольш яскрава і, можна сказаць, замацавана. Для іх грамадзянства, перш за ўсё, — гэта фармальны (наяўнасць пашпарта) і прававы (выкананне правоў і абавязкаў) статус і ў найменшай ступені пачуцце прыхільнасці да краіны.

Такім чынам, ад пакалення да пакалення прасочваецца якасны зрух у змесце ўяўленняў пра сутнасць грамадзянскай прыналежнасці.

Увогуле можна казаць, што адныя дамінантныя ўяўленні змяняюцца разнастайнасцю і няпэўнасцю, а затым больш або менш выразнымі іншымі ўяўленнямі. Асноўная лінія змен звязана з роляй і месцам краіны ў разуменні грмадзянства. Калі старэйшыя пакаленні ўспрымаюць грамадзянства праз сувязь з краінай: або фармальную, або эмацыянальна і каштоўнасна падмацаваную, то маладое пакаленне разглядае яго пераважна як атрыбут, статус ці сацыяльна-палітычную практыку чалавека, па-за сувяззю з канкрэтнай краінай і нацыяй.

Гэты зрух пацвярджаецца і ў выбары пажаданага грамадзянства, гатоўнасці яго змяніць і ў стаўленні да сваёй грамадзянскай прыналежнасці. Для маладога пакалення ўспрыманне сябе як грамадзяніна не мае жорсткай сувязі з канкрэтнай краінай, народам, нацыяй і разглядаецца як фармальная ўмова для самарэалізацыі. Па сутнасці, у новым разуменні грамадзянства адсутнічае які-небудзь насычаны сэнсавы змест, тое, што ствarала б матывацыйны патэнцыял для рэалізацыі сябе як грамадзяніна. Тут назіраецца зместавы вакуум.

Вастрыня праявы зруху і зместавай пусткі ўзмацняецца сярод людзей з вышэйшай адукацыяй, што жывуць у гарадах, асабліва ў сталіцы. І гэтая акалічнасць паказвае на крайне нізкі патэнцыял і перспектывы хуткага вырашэння гэтай праблемы. Калі ўжо сярод самых актыўных і адукаваных людзей назіраецца найбольшы дэфіцыт сэнсавага напаўнення паняцця «грамадзянства», то найбольш імаверная перспектыва — гэта перспектыва рэстаўрацыі і рэпрадукцыі стэрэатыпаў і ўяўленняў мінулага.

## Сучасныя праекты для Беларусі: утопія і рэальнасць

На жаль, сучасны стан інтэлектуальнай працы ў сферы нацыянальных і грамадзянскіх стасункаў не дазваляе спадзявацца, што адзначаныя праблемы будуць вырашаныя ў хуткім часе. Гэтыя праблемы звязаныя, у першую чаргу, не з пашырэннем і трансляцыяй новых ідэй, сэнсаў і каштоўнасцей, а з адсутнасцю адэкватнага

зместу. У полі інтэлектуальных распрацовак цяпер фактычна няма таго матэрыялу, які б мог трансляваецца, распаўсюджвацца і запаўняць той зместавы вакуум, які суправаджае працэс станаўлення нацыі і нацыянальнай дзяржаўнасці. Такая ацэнка датычыць не толькі дзяржаўнай ідэалогіі, але і іншых альтэрнатыўных інтэлектуальных праектаў[36]. Ніводзін з іх не задавальняе патрэб у сучасных, зместава адэкватных уяўленнях пра нацыю ў цэлым, пра краіну і грамадзян. У такіх уяўленнях, якія маглі б быць не фармальнай, а рэальнай падставай для разумення і ўспрымання беларускай нацыі і выбудоўвання дзеянняў і паводзін у адпаведнасці з такім зразуменнем і ўспрыманнем.

У якасці *крытэрыяў* такой адэкватнасці і перспектыўнасці інтэлектуальных праектаў мы бачым:

— *арыентацыю ідэй, вобразаў і канцэптаў на будучыню, на станаўленне новых формаў сацыяльных, эканамічных і палітычных узаемаадносін.* Гэта не выключае гістарычный памяці, пераемнасці і г. д., але ідэі і праекты, якія цалкам абапіраюцца на рэпрадукцыю нейкіх старажытных, няхай сабе і найлепшых узораў, — архаічныя, нежыццяздольныя і бесперспектыўныя для краіны;

— *суаднясенне і сінхранізацыю развіцця Беларусі і беларускай нацыі* з асноўнымі сусветнымі сацыякультурнымі ды палітычнымі працэсамі і тэндэнцыямі. Усе мадэлі, канцэпты або ідэі, якія не аперыруюць гэтымі ўмовамі і не закліканы ўпісаць Беларусь у сусветны кантэкст, разглядаючы яе ізалявана, утапічныя і не маюць дачынення да сацыяльна-гістарычнай практыкі;

— *захаванне балансу*, з аднаго боку, у дынамічнасці, гнуткасці, адкрытасці будучыні нацыі і краіны для новых сацыяльных і палітычных формаў, а з іншага боку, у выразнасці і вызначанасці базавых прынцыпаў, якія задаюць стрыжань для ідэй, канцэптаў і стварэння вобразаў будучыні. У гэтым балансе важна, каб дынамічная

[36] Інтэлектуальны праект — цэласны (у большай або меншай ступені) комплекс уяўленняў пра Беларусь, беларускую нацыю, яе сутнасць, гістарычнае мінулае і кірункі яе развіцця.

і «адкрытая» частка датычыла формаў арганізацыі, сацыяльна-палітычных структур, сувязяў і дачыненняў, а жорсткая і прынцыповая — каштоўнасных установак, ідэалаў, маральных нормаў і г. д.

Гэтыя крытэрыі не датычаць непасрэднага зместу праектаў у распрацоўцы, але пэўныя рамкі для зместу задаюць. У прыватнасці, усе яны арыентаваны на еўрапейскі спосаб мыслення. І яшчэ адзін крытэрый, які датычыць не толькі распрацовак у галіне нацыянальных і грамадзянскіх стасункаў, але і ацэнкі якасці любых інтэлектуальных прадуктаў — гэта змястоўнасць і глыбіня, наяўнасць уласных, новых разумовых хадоў і распрацовак.

Сцісла апішам існыя на дадзены момант у Беларусі інтэлектуальныя праекты, у якіх тым або іншым чынам афармляюцца ўяўленні пра беларускую нацыю і грамадзянства[37]. Хоць адразу варта адзначыць, што канцэптуалізацыя беларускага грамадзянства прадстаўленая далёка не ва ўсіх з «праектаў».

***Афіцыйны праект.*** Найбольш поўна гэты праект прадстаўлены ў ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці[38]. Асноўная «часавая» арыен-

---

[37] Падставамі для вылучэння праектаў сталіся: выразнасць зместавых адрозненняў і аформленасць ідэй у рамках дзейнасці дзяржаўных або грамадскіх арганізацый, рухаў, сацыяльных або культурных праектаў і г. д. Вылучаныя праекты маюць розную ступень цэласнасці, прапрацаванасці і прэзентаванасці ў беларускім дыскурсе. Уласна паўнавартаснымі праектамі можна назваць толькі два першыя; яшчэ тры хутчэй філасофскія або ідэалагічныя кірункі. Тым не менш, улічваючы іх, мы можам скласці больш поўную карціну беларускай інтэлектуальнай рэчаіснасці.

[38] Пачаў канцэптуальна афармляцца ў выглядзе ідэалогіі ад 2003 г., ідэйна і ідэалагічна легітымізуючы сучасную беларускую дзяржаву і асноўныя прынцыпы яе пабудовы і развіцця. Гл.: О состоянии идеологической работы и мерах по ее совершенствованию. Материалы постоянно действующего семинара руководящих работников республиканских и местных государственных органов. — Минск : Академия управления при Президенте РБ, 2003; Основы идеологии белорусского государства : Курс лекций : в 2-ух частях / под общ. ред. С. Н. Князева, С. В. Решетникова. — Минск : Академия управления при Президенте Республики Беларусь. — 2004. — 340 с. і інш.

тацыя праекта — «сучаснасць». Зыходзячы з актуальнага стану беларускага грамадства і патрэбаў, што паўстаюць тут і цяпер, фармулююцца асноўныя канцэпты, ідэалы і ўзоры. Абгрунтаванне тых або іншых ідэй будуецца наступным чынам: «Народ выразна выказаўся...» Адпаведнасць інтарэсам і сітуацыям бягучай хвіліны і ёсць ключавым і нязменным кампанентам прапанаваных уяўленняў пра беларускую нацыю і грамадзянства. Пры такой устаноўцы ніякая філасофская, гістарычная або сацыялагічная праца не толькі не патрэбная, але і практычна немагчымая. У выніку ідэалогія беларускай дзяржаўнасці — эклектычная зборка найбольш агульных, фармальных і адначасова пафасных пастулатаў, лозунгаў і агульных абстрактных ведаў пра дзяржаву, палітычную сістэму, нацыю і ўніверсальныя агульнапрызнаныя каштоўнасці (на ўзроўні рыторыкі).

Устаноўка на забеспячэнне і абслугоўванне актуальнай сітуацыі першапачаткова і не прадугледжвала ўласна аналізу праблем, пошуку рашэнняў. Крыніцай ключавых кампанентаў «ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці» зрабіліся добравядомыя распрацоўнікам савецкія грамадазнаўства і палітэканомія. Пагатоў, адзін з нешматлікіх, выразна акрэсленых кіраўніцтвам краіны арыенціраў між усіх уяўленняў пра будучыню — пераемнасць савецкай сістэмы з касметычнымі зьмяненнямі і дапаўненнямі, прадыктаванымі неабходнасцю ўпісацца ў сучасную еўрапейскую прастору, дзе Беларусь апынулася геаграфічна. Пры гэтым рэальная задача ўзаемнага дапасавання каштоўнасцей і ўстановак дэмакратычнага і таталітарнага савецкага ладу ў адным уяўленні пра нацыю і грамадзянства нікім не вырашаецца, калі наогул можа быць вырашана. Таму кампаненты еўрапейскага разумення нацыі і грамадзянства выкарыстоўваюцца ў «ідэалогіі» як рытарычныя фігуры.

Эклектычнасць і павярхоўнасць «ідэалогіі» дазваляе захоўваць неабходную гнуткасць. Але такі стан не задавальняе нават замоўцаў гэтага інтэлектуальнага прадукту з прычыны сваёй абуральнай беззмястоўнасці. Апрача таго, наяўны набор савецкіх ідэйных загатовак і дэмакратычных рытарычных фігур не можа задавальняць сітуацыі, што імкліва змяняецца, у прыватнасці, неабход-

насці выбудоўваць адносіны з суседнімі дзяржавамі. Вызначэнне геапалітычнага месца Беларусі як *«фарпост славянскага свету»* або як *«мост паміж Усходам і Захадам»* не мае ніякіх больш або менш прапрацаваных канцэптуальных і дзейнасных уяўленняў пра механізмы рэалізацыі гэтай місіі.

Нават пры абсалютнай зместавай і прынцыповай гнуткасці распрацаваная «ідэалогія» не выконвае сваёй функцыі і практычна не адпавядае ніводнаму з абазначаных намі крытэрыяў.

***Нацыянальна-дэмакратычны праект «Адраджэнне».*** Да яго мы адносім сукупнасць ідэй, якія не рэпрэзентуюць адзінай, лагічна пабудаванай сістэмы ўяўленняў, але тым не менш апазнаюцца як прыналежныя да адной агульнай плыні. У беларускім дыскурсе ён абазначаецца, перш за ўсё, словамі «беларускае Адраджэнне»[39]. Гэты «праект» — нашчадак развіцця «беларускай нацыянальнай ідэі» канца XIX — пачатку XX ст., што абапіралася на каноны этнакультурнага нацыяналізму, які ў той час перажываў бум у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Аднак гэтае развіццё было перарванае рэалізацыяй савецкай версіі беларускай нацыі. Чарговы росквіт і развіццё праект атрымаў напрыканцы 1980-х — 1990-х гг. Пасля крушэння Савецкага Саюза яго ідэі выявіліся запатрабаванымі ў сацыяльна-палітычным і культурным жыцці краіны.

[39] Крыніцы асноўных ідэй у рамках гэтага праекта — класічныя творы нацыянальнага руху канца XIX — пачатку XX стст. Францішка Багушэвіча, Усевалада Ігнатоўскага, Янкі Купалы і інш., сучасныя гістарычныя, этнаграфічныя даследаванні Міколы Ермаловіча, Адама Мальдзіса, інш., а таксама мастацкія творы і публіцыстыка Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Сяргея Дубаўца, і інш. Распрацоўка і трансляцыя асноўных ідэалагем звязаных з дзейнасцю Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны (Скарынаўскі цэнтр), газет «Наша Ніва», «Літаратуры і мастацтва», часопіса «Крыніца» і інш. Найбольш выразна ў цэласным выглядзе нацыянальна-дэмакратычны праект, сфармуляваны ў праграмных дакументах партыі Беларускі Народны Фронт (БНФ), якія ўбіраюць і ідэі этнакультурнага адраджэння, і ідэі так званага «літвінізму» як арыенціра ў сацыяльна-палітычным ладзе Беларусі.

Гэты праект мае рэтраспектыўны характар, што і адлюстравана ў асноўнай базавай катэгорыі — «адраджэнне». Ён выяўляецца ў часавай арыентацыі асноўных мадэляў, ідэалаў і ўзораў, перш за ўсё, сацыяльна-палітычнага характару — аднаўлення раней уласцівых беларускаму народу і дзяржаве прававой і палітычнай культуры, сацыяльнай арганізацыі і г. д., дзе арыенцірамі выступаюць Вялікае Княства Літоўскае (залаты век) і Беларуская Народная Рэспубліка (незавершаная рэалізацыя сучаснасці). Савецкі перыяд разглядаецца як перарванне традыцыі нацыябудаўніцтва паводле этнакультурнага канону, якая патрабуе аднаўлення і працягу.

Пры гэтым ані за гады дысідэнцтва, ані за гады, што мінулі ад часу ўтварэння Рэспублікі Беларусь, ідэі нацыянальнага адраджэння практычна не падлягалі наступнай канцэптуальнай і тэарэтычнай распрацоўцы. Ідэальная Беларусь, беларуская нацыя і грамадзянства на мяжы XX і XXI стст. уяўляюцца ў цэлым такімі самымі, як і на мяжы XIX і XX стст. Гэтая акалічнасць практычна выводзіць праект за рамкі сучаснасці і адэкватнасці сённяшнім умовам і задачам. Ён не можа служыць арыенцірам для развіцця беларускай нацыі, хоць асноўныя вобразы, канцэпты і ідэі застаюцца моцнымі паводле матывацыі, натхнення, пачуцця гонару і патрыятызму. Архаічнасць поглядаў на беларускую нацыю не дазваляе выбудаваць і нармальнага ўяўлення пра геапалітычнае месца Беларусі, паколькі ўсе разважанні базуюцца на катэгорыях і ўзорах амаль стогадовай даўніны. У выніку фармулююцца даволі агульныя і дэкларацыйныя ўяўленні, якія не маюць рэальных механізмаў рэалізацыі, ўяўленні: «*...будаваць незалежную, вольную Беларусь у геапалітычнай сістэме Эўропы ... Трэба ўзаемадзейнічаць з цывілізаванай Еўропай і захаваць мірныя дачыненні з Усходам*»[40].

У апошні час неадэкватнасць сучасным працэсам зрабілася відавочнай для шмат якіх прадстаўнікоў гэтага інтэлектуальнага кірунку. Такое разуменне пакуль не выйшла за межы засваення еўрапейскай дыскусіі пра новыя формы існавання нацыі ў сучасным

[40] З Кансерватыўна-хрысціянскай партыі «Беларускі Народны Фронт» (КХП-БНФ)

свеце. Праект захоўвае патэнцыял «рухомасці» і развіцця, але пакуль рэальных канцэптуальных распрацовак не назіраецца.

***«Крыўскі праект»***[41] можа быць разгледжаны як адно з адгалінаванняў праекта «Адраджэнне». «Крыўскі праект», з аднаго боку, мае ўласныя, глыбока распрацаваныя і найбольш радыкальныя ідэі пра паходжанне беларусаў і іх спрадвечную традыцыйную культуру. З іншага боку, ён абмежаваны развіццём менавіта гэтага кампанента, па вялікаму рахунку ігнаруючы пытанні сацыяльнага і палітычнага парадку.

Гэтыя ідэі — сродак (сама)крытыкі беларускасці як дзяржаўнага (афіцыйнага) узору, так і нацыянальна-дэмакратычнага. Асноўны змест ідэй у межах праекта, у якім этнагенез беларусаў паддаецца найглыбейшаму перагляду, сканцэнтраваны на аднаўленні сапраўднасці паходжання беларускага народу, а дакладней, народу, *«праз памылку называнага беларусамі»*. У гэтым дачыненні дадзены праект яшчэ больш несучасны, паколькі цэнтруецца выключна вакол этнакультурнага кампанента беларускай нацыі, абмяжоўваючыся культурнай археалогіяй і антрапалогіяй. У той самы час, адсутнасць гатовых, ужо прадуманых і аформленых узораў палітычнага і сацыяльнага ладу нацыі магла б быць падставай і крыніцай разгортвання інтэлектуальнай працы. Тым больш, што сярод прадстаўнікоў гэтага кірунку ёсць такі патэнцыял. Аднак тыя нешматлікія спробы афармлення палітычных і сацыяльных формаў існавання беларускай нацыі цяпер апелююць пераважна да данацыянальных або архаічных мадэляў без усялякіх абгрунтаванняў і прапрацоўкі магчымасці іх убудавання ў сучасны свет. Выключэннем можна лічыць перакананне, што спрадвечна ўласцівае беларусам паганства найбольш адэкватнае сучасным ідэям плюралізму. Па сутнасці ж самавызначэнне беларусаў у свеце звязваецца з закан-

[41] Развіваецца, галоўным чынам, у навукова-інтэлектуальнай сферы (гісторыя, этнаграфія, філасофія — ад Вацлава Ластоўскага да Сержука Санько, Аляксея Дэрманта і інш.) і ў літаратуры і музыцы — Тодар Кашкурэвіч, Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, «Guda» і інш. «Ідэалагічны» цэнтр развіцця гэтага праекта — «Цэнтр этнакасмалогіі “Крыўя”» («Kryuja»), які выдае свой часопіс «Друвіс».

чэннем дэкаланізацыі, пазбаўленнем ад «рускасці», якое павінна адбыцца праз змену назвы краіны і этноніма. У межах развіцця «крыўскай ідэі» не разглядаюцца пытанні нацыі, нацыянальнай дзяржавы, не кажучы ўжо пра грамадзянства.

***Ліберальна-дэмакратычны праект.*** Да яго мы адносім сукупнасць ідэй ліберальна-дэмакратычнага кірунку, у якіх жаданая будучыня Беларусі і беларускага народа апісваецца ў катэгорыях «сучаснай еўрапейскай нацыянальнай дзяржавы» і развітай грамадзянскай супольнасці як асновы нацыі. Асноўны акцэнт зроблены на палітычных, прававых і сацыяльна-эканамічных аспектах. Паводле сваёй часавай скіраванасці гэта сапраўдны праект, ён цалкам арыентаваны на будучыню, то бок на такі стан беларускай нацыі, якога не было раней і няма цяпер, але ён можа і мае быць. Асноўны носьбіт зместу гэтага праекта — рускамоўная інтэлігенцыя (інтэлектуалы, палітыкі, дзеячы культуры), якая, з аднаго боку, не прымае этнанацыянальную мадэль праекта «Адраджэнне», а з іншага, афіцыйнай версіі дзяржаўнай ідэнтычнасці з каштоўнасных і светапоглядных прычын[42].

Галоўнай ідэяй для кансалідацыі беларускага народа прызнаецца грамадзянства, а асноўны лозунг гэтага комплексу ідэй можа быць сфармуляваны як «вяртанне да Еўропы». Прызнаецца несучаснасць этнанацыянальнай мадэлі нацыі, яе неадпаведнасць апошнім еўрапейскім узорам. Усё гэта істотна вылучае яго на фоне папярэдніх праектаў. Аднак тут назіраюцца іншыя праблемы. У прыватнасці, будучыня, што прапануецца, апісваецца толькі з боку формаў арганізацыі жыцця, якія, з гледзішча адэптаў праекта, усяго толькі павінны быць перанесеныя на беларускую глебу. Пытанні механізмаў такога пераносу, канцэптуалізацыі ўнікальнасці Беларусі і ў прынцыпе ўласнага зместавага і каштоўнаснага напаўнення гэтых формаў практычна не ўздымаюцца. Апрача таго, хоць інтэлектуалы гэтага кірунку стала апелююць да еўрапей-

[42] Найпаўней гэтыя ідэі прадстаўленыя ў праграмных дакументах Аб'яднагай грамадзянскай партыі (АГП), аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі, а таксама ў публікацыях Аляксандра Грыцанава, Рыгора Міненкова, Алега Манаева, Андрэя Суздальцава, Янава Палескага і інш.

скай дыскусіі, што тычыцца змены сутнасці грамадзянства ў сучасным свеце, тым не менш, гэта не адлюстроўваецца ў якіх-небудзь пошуках або распрацоўках адносна Беларусі. У гэтым плане, калі пытанне датычыць таго, што павінна ўяўляць сабою «еўрапейская Беларусь», дзейнічаюць хутчэй шаблоны і лозунгі, без нейкага зместавага і дзейнаснага напаўнення.

У выніку, нягледзячы на перспектыўную скіраванасць і сучаснасць (асабліва адносна папярэдніх праектаў), ліберальна-дэмакратычны праект не адпавядае задачам нацыябудаўніцтва праз дэкларатыўнасць і фармальнасць.

***Постмадэрнісцкі праект.*** Сукупнасць інтэлектуальных пошукаў сучаснай беларускай ідэнтычнасці, дзе сучаснасць разглядаецца з пазіцый постмадэрнізму і посткаланіялізму[43]. Пакуль ён збудаваны хутчэй на метафарах, чым на катэгорыях. Гэты праект, або хутчэй інтэлектуальная інтэнцыя, арыентаваны на асэнсаванне сучаснасці Беларусі і беларускага народа такімі, якімі яны ёсць «тут і цяпер». Але ў адрозненне ад першага (афіцыйнага, дзяржаўнага), які таксама абапіраецца на сучаснасць, тут прапануецца выкарыстоўваць іншыя інструменты асэнсавання і апісання (катэгорыі, паняцці і г. д.) — «памежжа», «каланізацыя», «крэольства», «іншы», «складка» і г. д., што актыўна распрацоўваюцца ў заходняй гуманітарыстыцы. Гэтыя інтэлектуальныя пошукі не маюць і не могуць мець прагматычных памкненняў, а адпаведна і не могуць аформіцца як канцэптуалізацыя Беларусі, беларускага грамадзянства і нацыі. Гаворка хутчэй пра самавызначэнне беларусаў, але не Беларусі або беларускай дзяржавы. Гэты кірунак прыцягвае нашу ўвагу, перш за ўсё тым, што ўбірае значны інтэлектуальны патэнцыял. Хоць яго прадстаўнікі пазбягаюць абмяркоўваць сацыяльныя і палітычныя формы, прынцыповыя зместавыя і каштоўнасныя ўстаноўкі.

[43] Сярод асноўных персаналій, якія развіваюць гэты «праект», варта назваць Ігара Бабкова, Уладзіміра Абушэнку, Вольгу Шпарагу, Паўла Церашковіча. Распрацоўка і трансляцыя ідэй ажыццяўляецца, перш за ўсё, у часопісах «Фрагменты», «Перекрестки», «Паміж», а таксама ў рамках семінараў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

Такім чынам, у інтэлектуальнай прасторы Беларусі назіраецца разнастайнасць інтэлектуальных праектаў. Большасць з іх зместава «рухомая», то бок іх канцэпты могуць вытрымаць больш або менш істотныя змены. Для адных гэта абумоўлена спецыфікай часавай арыентацыі, для іншых звязана з тым, што яны знаходзяцца на пачатковай стадыі распрацоўкі. Аднак у ніводным асобным праекце няма змястоўных і адэкватных адказаў на выклікі часу. Апрача таго, нягледзячы на адзначаную разнастайнасць, поле інтэлектуальнай працы не структураванае і не арганізаванае ў дастатковай ступені дзеля таго, каб пераадольванне праблем сталася магчымым. Да гэтага часу змястоўная камунікацыя паміж праектамі практычна адсутнічае, што значна звужае патэнцыял узаемнага развіцця.

Агульны стан гуманітарных і палітычных ведаў у Беларусі, грамадзянскай адукацыі і сферы грамадскай свядомасці выводзяць нас на неабходнасць аналіза, крытыкі і распрацоўкі фундаментальных паняццяў і катэгорый, што ляжаць у аснове палітычнай, культурнай і адукацыйнай практыкі, якая задае і рэгулюе сферу грамадзянскіх адносін. І цэнтральнае паняцце, якое вымагае распрацоўкі і канцэптуалізацыі — гэта паняцце «грамадзянін Беларусі».

# II. Грамадзянін Беларусі: подступы да канструявання паняцця

## Паняцце «грамадзянін»: тры спосабы канструявання

У падмурку любой грамадзянскай адукацыі ляжыць адпаведная канцэпцыя. І ў залежнасці ад зместу гэтай канцэпцыі адрозніваюцца сістэмы рэалізацыі грамадзянскай адукацыі. У сваю чаргу, аснову любой канцэпцыі грамадзянскай адукацыі складае *паняцце* грамадзяніна. Гэтае паняцце ляжыць у ядры разгорнутага комплексу *ўяўленняў пра* грамадзяніна. Прычым не толькі пра грамадзяніна канкрэтнай краіны, але і наогул пра тое, што такое грамадзянін той або іншай нацыі ў сучасным свеце і ў той частцы свету, у якой спрабуе самавызначыцца гэтая краіна. Мы не можам пабудаваць паняцце пра беларускага грамадзяніна, не ўлічваючы тых гістарычных змен, якія адбываюцца з уяўленнем пра грамадзяніна і грамадзянства ў той частцы свету, дзе самавызначаецца Беларусь, — у сучаснай Еўропе.

Распрацоўваючы паняцце пра грамадзяніна і грамадзянства, мы можам дзейнічаць як мінімум трыма спосабамі. Першы — лагічны спосаб, калі мы канструюем паняцце паводле законаў логікі і на матэрыяле тых прадметных ведаў, якія пры гэтым неабходны (юрыдычныя, паліталагічныя, гістарычныя, сацыялагічныя і г. д.).

Другі спосаб — генетычны або гістарычны, калі мы не канструюем аб'ёмнае паняцце ў яго лагічнай паўнаце і карэктнасці, а акцэнтуем увагу на зменах і прырашчэннях ва ўяўленнях пра грамадзяніна і грамадзянства ў мінулым і ў будучыні, у тым, да чаго мы рухаемся або імкнемся рухацца.

Трэці спосаб можна кваліфікаваць як тыпалагічны метад або метад ідэальных тыпаў (Макс Вэбер). У першым набліжэнні гэты метад можна апісаць так: на падставе аналізу і крытыкі эмпірычнага матэрыялу вылучаюцца ідэальныя тыпы, якія афармляюцца як абагульненыя схемы або прынцыпы. А затым ужо гэтыя схемы і прынцыпы выкарыстоўваюцца для інтэрпрэтацыі і разумення канкрэтных сацыяльных і дзейнасных сітуацый, для арганізацыі і кіравання сістэмамі дзейнасці ў гэтых сітуацыях. У нашым выпадку — для арганізацыі грамадзянскай адукацыі. Трэці спосаб сінтэтычны. Ён спалучае логіку (лагічнае канструяванне) з гістарычнымі зменамі і прырашчэннямі ў разуменні грамадзянства.

Які спосаб фармавання паняцця мы не абралі б, мы павінныя зразумець і ўсвядоміць, што паняцце распрацоўваецца і фармуецца ў метапрадметных галінах[44]. У прынцыпе, ідэальныя ўяўленні пра «грамадзяніна» і «грамадзянства» могуць быць распрацаваны ў рамках паліталогіі або сацыялогіі, але рэальная практыка ў гэтай галіне патрабуе прыцягнення педагагічных, эканамічных, гістарычных, юрыдычных і інш. ведаў. Пры гэтым мы не можам аперыраваць выключна катэгорымі памянёных навук, неабходна суадносіць іх паміж сабою. Пабудова такіх метапрадметных паняццяў і катэгорый першапачаткова ажыццяўляецца ў метадалагічнай і філасофскай працы, а потым яны ўводзяцца ў паасобныя навуковыя прадметы і дысцыпліны (апрадмечваюцца). Гэта змяняе і развівае самі навуковыя прадметы.

Таму мы не прэтэндуем на строгую дысцыплінарнасць, знаходзячыся ў сферы міждысцыплінарных ведаў, мы будзем буда-

[44] Щедровицкий, Г. П. Методологические замечания к проблеме существования термина / Г. П. Щедровицкий // Актуальные проблемы лексикологии. Тезисы докладов третьей лингвистической конференции 3—7 мая. —1971 г. — Ч. 1. — Новосибирск : НГУ, 1971.

ваць схемы або ідэальныя тыпы, прыдатныя для разгортвання і канцэптуальнага афармлення паняцця «грамадзянін Беларусі». Пры гэтым акцэнтуем увагу на неабходнасці наступнай працы па прадметным афармленні філасофскіх і метадалагічных распрацовак.

## Грамадзянін, грамадзянства, грамадзянскасць: вобласць вызначэння паняццяў

Рамка ахопу або вобласць вызначэння паняцця «грамадзянін» — сфера палітыкі. Так або іначай змест грамадзянскасці ахоплівае магчымасці, сродкі, правы і абавязкі чалавека дзеля ўдзелу ў палітыцы, то бок, скарыстоўваючы старадаўнюю трактоўку Арыстоцеля, можна сказаць, што грамадзянін — гэта той, хто мае магчымасці і правы ўдзельнічаць у вядзенні супольных спраў. Відавочна, што гэтыя магчымасці і правы ў розных людзей могуць быць рознымі, але змест паняццяў «грамадзянін» і «грамадзянскасць» ахоплівае іх *неабходны і дастатковы мінімум*. Такім чынам, вызначаючы грамадзяніна ў палітычнай сферы, мы павінны вызначыць межы гэтай сферы. Уласна, мяжа пралягае там, дзе прызнаюцца правы грамадзяніна на ўдзел у вядзенні супольных спраў, і там, дзе магчымасці грамадзяніна актуальна рэалізуюцца. Іншымі словамі, мяжа палітычнай сферы супадае з межамі дзяржавы (прынамсі, гэта слушна для пэўнага гістарычнага этапу), аднак межы дзяржавы нельга разумець вузка, адно ў тэрытарыяльным сэнсе. Гэтыя межы пралягаюць не толькі па тэрыторыі, але ляжаць у сферы права, этыкі, свядомасці.

Межы палітычнай сферы, якія супадаюць з межамі дзяржавы, не замыкаюць грамадзяніна толькі ўнутры гэтых межаў. Грамадзянін можа ўдзельнічаць (мае такія правы і магчымасці) у вядзенні спраў і па-за межамі дзяржавы. Але ў гэтым выпадку змяняецца змест грамадзянскага ўдзелу і грамадзянскіх паводзін. Унутры палітычнай сферы, то бок дзяржавы, грамадзянін уступае ў адносіны з іншымі грамадзянамі або з дзяржавай у цэлым ад свайго імя,

будучы самастойным і аўтаномным суб’ектам палітыкі. Аднак паза абшарам дзяржавы ён выступае як прадстаўнік гэтай дзяржавы з абумоўленымі спецыяльна правамі і паўнамоцтвамі, то бок перастае быць самастойным і аўтаномным суб’ектам палітыкі.

Да ўзнікнення грамадзянскай супольнасці дзяржава, пры ўсёй разнастайнасці яе формаў, заставалася практычна адзіным спосабам арганізацыі цывілізаванага грамадства. Ніводны з недзяржаўных інстытутаў (напрыклад, царква, універсітэт, рамесніцкія цэхі або купецкія гільдыі) не распаўсюджвалі свайго ўплыву на ўсё грамадства, а наадварот, паддаваліся адзяржаўленню. Альтэрнатыву дзяржаве складалі толькі традыцыйныя грамадствы, якія не дасягнулі стадыі дзяржаўнасці.

Пачынаючы ад эпохі Асветы (другая палова XVIII ст.), дзяржава пачынае абмяжоўвацца і ўнутры сваіх тэрыторый. Нараджаецца і ўмацоўваецца аўтаномная грамадзянская супольнасць, а побач з публічнай, абшчыннай, грамадскай і сацыяльнай сферай выспявае сфера прыватнага жыцця[45]. Грамадзянская супольнасць і ўсвядомлена замацаваная сфера прыватнага жыцця абмяжоўвае дзяржаву знутры. Ад гэтага часу даводзіцца гаварыць не толькі аб правах і абавязках грамадзяніна, але і правах чалавека, якія закрываюць для дзяржавы і палітыкі магчымасць умяшальніцтва

[45] Тут паўстае метадалагічная і тэарэтычная праблема: ці можна гаварыць пра існаванне аўтаномнага прыватнага жыцця да эпохі Асветы? Гэта магло б зрабіцца тэмай асобнага філасофска-сацыялагічнага даследавання, мы ж абмяжуемся фармулёўкай сваёй сённяшняй пазіцыі. Да эпохі Асветы можна гаварыць пра побыт і штодзённасць, пра аўтаномію сем’яў, пра наяўнасць асаблівасцяў жыцця жанчын, дзяцей, але ніяк не пра аўтаномнае прыватнае жыццё. Сферы прыватнага жыцця, як такога не існавала, паколькі гэтая частка жыцця людзей не проста праходзіла на вачах ўсёй абшчыны, супольнасці або гораду, але жорстка рэгламентавалася норавамі, звычаямі і нават сацыяльнымі інстытутамі, напрыклад, царквою. Умоўна аб прыватным жыцці папярэдняй эпохі можна гаварыць толькі адносна тых нязначных праяваў прыватнай ініцыятывы і свабоды ўнутры сем’яў, дзе панавала самаўпраўнасць галавы сям’і, сацыяльнае становішча якога гарантавала яму неўмяшальніцтва з боку абшчыны, дзяржавы або царквы ў зону яго адказнасці.

ў прыватнае жыццё. Правы чалавека не адмяняюць і не замяняюць правоў і абавязкаў грамадзяніна, яны дабудоўваюцца да грамадзянскіх правоў і суіснуюць з імі ў складаным комплексе.

У папярэднія гістарычныя эпохі індывідуальнае жыццё чалавека рэгламентавалася хутчэй этыкай, мараллю, эмпатыяй, звычаямі народаў. І страта грамадзянскіх правоў рабіла чалавека практычна неабароненым з прававога гледзішча, пакідаючы яго на волю звычаяў і нораваў асяроддзя. Эпоха Асветы і наступныя стагоддзі звузілі і абмежавалі сферу палітычнага, спрыяючы пашырэнню сферы прыватнага жыцця і непалітычных грамадскіх дачыненняў. Але разам з тым у эпоху Асветы жорсткай мяжы паміж палітычным і прыватным жыццём не праводзілася, гэтыя дзве сферы развіваліся і парадкаваліся ў цесным узаемадзеянні. Сфера прыватнага жыцця страчвала адвольнасць і эвалюцыяніравала ў бок большай гуманнасці, чалавечнасці, сфера палітыкі, у сваю чаргу, таксама напаўнялася гуманістычным і маральным зместам. Гэта не азначае, што палітыка перастала быць прагматычнай і фармальнай, проста з цягам часу ў палітыцы даводзілася ўсё больш улічваць маральныя аргументы і кіравацца меркаваннямі гуманізму. Мы можам заяўляць гэта, нават памятаючы пра найбольшыя злачынствы таталітарных дзяржаў XX стагоддзя. Таталітарныя рэжымы Савецкага Саюза і фашысцкай Германіі ні ў якім разе нельга лічыць маральнымі і гуманнымі. Зразумела, яны з іх індустрыяй смерці, генацыдам і пагардай да прыватнага, індывідуальнага жыцця выразна выпадаюць з доўгачасовай гістарычный тэндэнцыі. Але агульны трэнд апошніх двух-трох стагоддзяў, тым не менш, захоўваецца. Ён дзейнічаў да з'яўлення гэтых рэжымаў і працягвае дзейнічаць пасля іх падзення.

Сфера палітыкі перакрыжоўваецца або адчувае на сабе ўплыў не толькі маралі і гуманізму, але і іншых сфер, напрыклад, навукі. У сваю чаргу, на гэтыя сферы ўплывае палітыка. У нашу задачу не ўваходзіць разгляд і аналіз усіх узаемаадносін і ўзаемных уплываў, але мы не можам абыйсці бокам тыя аспекты, дзе сфера палітыкі ўзаемадзейнічае з іншымі сферамі ў вызначэнні і рэгуляванні правоў і свабод грамадзяніна.

Не забягаючы наперад у нашых разважаннях, разгледзім узаемадзеянне палітыкі і ведаў на прыкладзе гісторыі станаўлення і распаўсюджання сучаснага тыпу грамадзянства. У гісторыі нічога не ўзнікае ў гатовым выглядзе. Нават тое, што з цягам часу пачынае ўспрымацца як нешта само сабою зразумелае, простае, выразнае і фундаментальнае, калісьці адваёўвала сваё права на існаванне ў барацьбе з тым, што таксама здавалася зразумелым, простым і фундаментальным. Так у XVIII ст. пачыналі ўсталёўвацца сучасныя ўяўленні пра грамадзяніна, грамадзянства, грамадзянскія правы і свабоды, але ўсё гэта ніяк не датычыла жанчын, прадстаўнікоў нябелай расы і шмат якіх іншых людзей. І ўся гісторыя фармавання новых уяўленняў вызначалася супрацьстаяннем і «высвятленнем стасункаў» паміж правамі грамадзяніна і правамі чалавека.

Эпоха Асветы атрымала ад папярэдніх гістарычных фармацый некаторыя элементы дэмакратыі. У прыватнасці, гарадское самакіраванне, якое пазней зрабілася мадэллю для пабудовы нацыянальных дзяржаў, што ўзніклі ў выніку вялікіх рэвалюцый XVIII ст., у першую чаргу, амерыканскай і французскай. Але нават пасля гэтых рэвалюцый выбарчае права, якое сёння здаецца фундаментальным і непахісным, было даступнае вельмі нязначнай частцы насельніцтва.

У пэўным сэнсе выбарчае права (права выбіраць сваіх прадстаўнікоў ва ўладу) можна лічыць найфундаментальнейшым правам грамадзяніна. Але першапачаткова яно абмяжоўвалася цэлым шэрагам выключэнняў, умоўнасцей, цэнзаў. Ім не былі надзеленыя жанчыны, дзеці, людзі без уласнага дома (цэнз аседласці), уласнасці наогул (маёмасны цэнз), а таксама непісьменныя, асуджаныя злачынцы і г. д. Атрымліваецца, што ўласна грамадзяне — гэта ўсяго толькі нязначная частка нацыі. І хоць ў рэвалюцыйнай Францыі прыняты быў зварот «грамадзянін», а не «спадар», — гэтая мода была выклікана хутчэй марай пра роўнасць, чым усталяванай роўнасцю. Кожны дарослы мужчына ў Еўропе таго часу ведаў і разумеў, якім чынам ён можа набыць грамадзянскія правы. Яму ўсяго толькі было неабходна набыць уласнасць,

сталае жыллё і плаціць падаткі, каб зрабіцца аселым членам якой-небудзь мясцовай абшчыны, навучыцца чытаць і пісаць. Але жанчына, якая нават мела ўсё згаданае, фундаментальных грамадзянскіх правоў была пазбаўленая. Таму жаночы рух за выбарчыя правы, які разгарнуўся ў Англіі ў першай палове XIX ст., быў першым сур'ёзным выклікам правоў чалавека ў бок правоў грамадзяніна. Барацьба суфражыстак працягвалася амаль паўтара стагоддзя. У працэсе гэтага супрацьстаяння жанчыны дамагліся сур'ёзнага пашырэння сваіх правоў у розных галінах, але выбарчае права ў найбольш кансерватыўных краінах Еўропы яны атрымалі толькі пасля Другой сусветнай вайны. Барацьба жанчын за выбарчыя правы была самай працяглай. Значна хутчэй выбарчыя правы атрымалі іншыя сацыяльныя катэгорыі: наёмныя рабочыя, вайскоўцы і г. д. Уласна эвалюцыю і надыход дэмакратыі ў XIX — XX стст. можна апісаць як няўхільнае пашырэнне колькасці выбаршчыкаў адносна агульнай колькасці насельніцтва ў краіне, пакуль выбарчае права не было распаўсюджана на 100% паўналетніх жыхароў краіны.

Дамагаючыся права выбіраць і быць абраным, было неабходна ісці на кампрамісы і, набываючы правы, браць на сябе ўсё больш і больш абавязкаў. Найбольш яскравым прыкладам гэтых абавязкаў можа быць усеагульны вайсковы абавязак. Прырода гэтых грамадзянскіх кампрамісаў, так або інакш звязана з пасягальніцтвам на прыватнае жыццё. Дамогшыся 100% распаўсюджання выбарчага права (ну і, з пэўнымі выняткамі, паўнаты грамадзянскіх правоў), грамадзяне пачалі змагацца супраць пасягальніцтва на сваё прыватнае жыццё і за яшчэ большую аўтанамізацыю грамадзянскай супольнасці. Але такая барацьба, у сваю чаргу, патрабуе развіцця грамадзянскай самасвядомасці, развіцця грамадзянскасці. Аргументамі ў гэтай барацьбе выступаюць і навуковыя веды з галіны біялогіі, псіхалогіі, гісторыі, педагогікі. Яшчэ ў XIX ст. біялогія, псіхалогія, а таксама еўгеніка выкарыстоўваліся для доказу расавай і гендарнай няроўнасці. Найбольш яскрава неабходнасць навуковай аргументацыі выявілася ў барацьбе за раўнапраўе неграў. Першыя рухі супраць рабства і

за раўнапраўе чарнаскурага насельніцтва ў XVIII ст. карысталіся рэлігійным абгрунтаваннем (Клэфемская секта). Але ў XIX ст. антрапалогія і расавая тэорыя выступалі контраргументам хрысціянскай трактоўцы чалавечай роўнасці. Таму барацьба з расізмам праходзіла не толькі ў палітычнай прасторы, але і ў навуковых дыскусіях. Наступны рост навуковых ведаў, у тым ліку ведаў пра грамадства і чалавека, ужо ў XX ст. прывёў да таго, што паняцці пра грамадзянства і грамадзянскасць зрабіліся комплекснай міждысцыплінарнай праблемай.

# III. Змена ўяўленняў пра грамадзяніна і грамадзянства ў гісторыі

Грамадзянін — паняцце культурна-гістарычнае, яно напаўняецца рознымі сэнсамі і значэннямі ў розных гістарычных сітуацыях. Таму змястава-генетычны аналіз — вывучэнне паходжання і развіцця гістарычных формаў грамадзянства і грамадзянскасці — абавязковы пры працы з паняццем «грамадзянін». Сучаснае грамадзянства складалася цягам стагоддзяў, часткова праз эвалюцыю старажытных архаічных формаў, часткова праз запазычванне рознымі культурамі і народамі формаў і стасункаў грамадзянскасці ад іншых народаў, часткова праз увядзенне заваёўнікамі сваіх нормаў сярод заваяваных народаў. Гісторыя поўная разнастайных формаў грамадзянскасці і грамадзянскіх адносін. Калі прытрымлівацца гістарычный навуковай строгасці, то мы сутыкнемся з неабсяжным матэрыялам і патонем у розных дэталях і нюансах. Таму яшчэ да гістарычнага аналізу нам неабходна вылучыць нейкія лагічныя тыпы, прапанаваць лагічныя мадэлі, якія могуць быць пакладзеныя ў аснову змястава-генетычнага аналізу, эвалюцыі і зменлівасці паняцця «грамадзянін», а таксама гістарычных формаў і адносін грамадзянскасці.

**Грамадзянства — адносіны чалавека да дзяржавы і дзяржавы да чалавека, якія ўключаюць узаемнае прызнанне суверэннасці, узаемныя абавязкі.** Дзяржава прызнае неад'емныя правы свайго грамадзяніна і яго палітычную

суб'ектнасць і аўтаномнасць, грамадзянін прызнае суверэнітэт дзяржавы і дэлегуе ёй частку сваіх правоў.

**Грамадзянскасць — ступень валодання чалавекам сваімі суверэннымі неад'емнымі правамі і свабодамі, здольнасць да грамадзянскіх паводзінаў і дзеяння.**

Грамадзянскасць вызначае здольнасці і жаданне грамадзяніна карыстацца сваімі правамі і свабодамі, яго ўдзел у справах грамадтва і дзяржавы. Чалавек вольны карыстацца сваімі правамі або не карыстацца, дэлегаваць іх камусьці або пакідаць незапатрабаванымі.

Большасць сучасных людзей — грамадзяне якой-небудзь дзяржавы або нават некалькіх, калі іх законы дазваляюць падвойнае і больш грамадзянства. Бываюць выключэнні — некаторыя катэгорыі людзей аказваюцца асобамі без грамадзянства. У даўнейшыя часы гэтая з'ява (асобы без грамадзянства) мала каго клапаціла, а сёння такі казус робіцца прадметам спецыяльнай увагі нацыянальнай і міжнароднай грамадскасці і, так або інакш, знаходзіць сваё вырашэнне. Аднак людзі мала задумваюцца пра тое, як і чаму яны сталі грамадзянамі або атрымалі грамадзянства. Для пераважнай большасці грамадзянства даецца паводле нараджэння. То бок дзеля яго набыцця не даводзіцца рабіць якіх-небудзь намаганняў. Аднак і грамадзянства паводле нараджэння неаднароднае. У адных выпадках трэба нарадзіцца ў сям'і грамадзян, і тады аўтаматычна атрымаеш грамадзянства аднаго з бацькоў. У некаторых выпадках можна нарадзіцца на тэрыторыі, якая належыць дзяржаве (напрыклад, ЗША). За выключэннем спадчыннага грамадзянства або грамадзянства паводле нараджэння практыкуецца заяўнае набыццё грамадзянства. У розных дзяржавах прадугледжаныя розныя працэдуры натуралізацыі. Рэдка, але нават у сучасным свеце сустракаецца наданне грамадзянства жыхарам заваяваных або анексаваных тэрыторый. Нягледзячы на розныя бюракратычныя складанасці ў працэдурах натуралізацыі або надання грамадзянства, у сучасным свеце набыццё грамадзянства, так або інакш, аўтаматызаванае. Але так было не заўсёды. Былі часы, калі набыццё грамадзянства, а раней падданства, патрабавала асабістага дзеяння.

Напрыклад, прынясення прысягі манарху. Ніякага аўтаматызму прысяга не прадугледжвае, нават калі прысягу даюць вялікія масы людзей заваяваных гарадоў або абласцей. У гісторыі шмат якіх народаў ёсць эпізоды, калі прадстаўнікі гэтых народаў закладалі новыя дзяржавы, часам гэта адбывалася ў выніку рэвалюцый, часам — у выніку распаду імперый.

Але якім чынам не набывалася б сучаснае грамадзянства, гістарычна яно ўзыходзіць да нейкага свядомага дзеяння, калі нейкія чалавечыя супольнасці закладалі дзяржаву. Формы яе заснавання маглі быць самыя розныя. І рашэнне народнага збору племя, што ўсталёўвае суверэнітэт над нейкай тэрыторыяй. І індывідуальныя рашэнні жыхароў нейкай тэрыторыі, што прызнаюць суверэнітэт манарха або заваёўніка, які дзейнічае на іх тэрыторыі. Лёс або выпадак, які дазваляў заснаваць дзяржаўнасць, выпадае на долю аднаму з шэрагу пакаленняў людзей. Наступныя пакаленні, хоць і маюць пэўную магчымасць паўплываць на рашэнне продкаў, але пераважна жывуць паводле ўсталяваных правілаў і нормаў, вывучаючы пастановы першых грамадзян, засвойваючы іх і рэалізуючы ў новых гістарычных умовах. Мы паспрабуем звесці разнастайнасць грамадзянскіх адносін да некалькіх ідэальных тыпаў. Пры гэтым, вылучаючы такія тыпы, мы будзем улічваць некалькі параметраў:

1) спосаб усталявання грамадзянства;

2) спосаб удзелу грамадзяніна ў справах дзяржавы і дзяржавы ў справах грамадзяніна;

3) узаемныя правы і абавязкі грамадзяніна і дзяржавы.

Нават абмежаваўшыся такой невялікай колькасцю параметраў, мы сутыкаемся з велізарнай разнастайнасцю гістарычных формаў. Дачыненні дзяржавы і грамадзян няспынна змяняліся, таму нам давядзецца разглядаць гэтыя параметры ў самым агульным выглядзе. У аснову нашага падыходу мы кладзем ідэю пра чатыры тыпы або гістарычныя фармацыі грамадзянства і грамадзянскасці, якім можна знайсці адпаведнасць у грамадска-гістарычный практыцы: *квірыт, падданы, грамадзянін нацыянальнай дзяржавы, грамадзянін аб'яднанай Еўропы.*

Абагульняльным тэрмінам *«квірыт»* мы называем практыкі ўсталявання і рэгламентавання грамадзянства і грамадзянскасці ў працяглым гістарычным перыядзе, дзе закладвалася еўрапейская цывілізацыя. Асновы гэтага тыпу грамадска-гістарычный практыкі пачалі закладацца ў антычных гарадах-дзяржавах і завершылі сваё фармаванне ў гарадах з самакіраваннем Сярэднявечча і Новага часу.

Тэрмінам *«падданы»* мы акрэсліваем грамадска-гістарычную практыку, якая рэгламентуе ўзаемаадносіны чалавека і дзяржавы ў перыяд фармавання еўрапейскіх нацый, што знайшоў сваё завершанне ў абсалютысцкіх манархіях і імперыях, якія праіснавалі да пачатку XX ст.

Тэрмінам *«грамадзянін нацыянальнай дзяржавы»* мы акрэсліваем практыку стасункаў чалавека і дзяржавы, якая пачалася ад вялікіх амерыканскай і французскай рэвалюцый і ахоплівае перыяд фармавання і існавання сучасных еўрапейскіх нацый і грамадзянскай супольнасці ў яе сучасным разуменні.

Тэрмінам *«грамадзянін аб'яднанай Еўропы»* мы акрэсліваем тэндэнцыю грамадска-гістарычнай практыкі рэгламентаваць дачыненні чалавека, дзяржавы і грамадзянскай супольнасці, якая складаецца ў Еўропе другой паловы XX ст., што аб'ядноўваецца і пашыраецца. Разгледзім гэтыя тыпы больш падрабязна.

## Квірыт: грамадзянства гарадоў—дзяржаў

Першы тып грамадзянскасці ўзнікае ў аўтахтонных дзяржавах старажытнага свету, якія паўставалі на базе дадзяржаўных племянных і абшчынных адносін. Незалежна ад таго, заснoўвалі такія дзяржавы заваёўнікі або мясцовыя жыхары, агульным правілам для такіх дзяржаў быў выразны і жорсткі падзел людзей на грамадзян і неграмадзян, на тых, хто надзелены правам удзелу ў палітыцы і справах дзяржавы, і тых, каму ў гэтым праве адмоўлена. І не важна, што гэта права можа насіць чыста сімвалічны харак-

тар або быць зведзеным да мінімуму. Найбольш чыстыя формы гэты тып набывае ў гарадах-дзяржавах, што склаліся ў старажытных цывілізацыях ад Індыі да Міжземнамор'я і існавалі ў Еўропе ажно да XIX ст. у выглядзе вольных гарадоў з самакіраваннем. Гэты самы тып мог сустракацца і ў сельскіх абласцях (кшталту швейцарскіх кантонаў), але ў гэтых выпадках ён рэдка дасягаў якіх-небудзь высокіх формаў развіцця і яшчэ радзей афармляўся ў пісьмовым праве. Такую форму грамадзянства і грамадзянскасці мы будзем называць старажытнарымскім тэрмінам «квірыт» (лат., *quiris*; родны склон — *quiritis*).

**Квірыт** (гараджанін-грамадзянін, бюргер, буржуа) — грамадзянін горада-дзяржавы паводле права народзінаў і спадчыннасці палітычнай правааздольнасці ў рамках гэтага горада-дзяржавы. Гэтым тэрмінам рымскага права мы акрэсліваем усе палітычна праваздольныя асобы, якія бралі ўдзел у кіраванні гарадамі-дзяржавамі Антычнасці і вольнымі дзяржавамі з самакіраваннем Сярэднявечча і Новага часу. У Беларусі да гэтай катэгорыі могуць быць аднесеныя гараджане старажытнага Полацку і гарадоў, якія карысталіся магдэбургскім правам у Вялікім Княстве Літоўскім.

Найбольш характэрныя рысы гэтага тыпу грамадзянскасці:

1. *Выразны падзел на грамадзян, для якіх дэкларуюцца ўсе палітычныя правы, і неграмадзян* — чужынцаў, рабоў, заваяванага насельніцтва, падданых астракізму злачынцаў, здраднікаў і г. д. Як правіла, грамадзяне — гэта нашчадкі або спадчыннікі таго гераічнага пакалення продкаў, якое заснавала дзяржаву або падзяліла тэрыторыю, прыняўшы на сябе ўзаемныя абавязкі па ахове і жыццязабеспячэнні гэтай тэрыторыі.

2. *Удзел грамадзян у палітычнай жыцці.* Квірыты (або як бы яны не называліся ў адпаведных гарадах-дзяржавах) — крыніца дзяржаўнай улады і прыняцця рашэнняў на самым высокім узроўні. У найбольш ранніх гарадах-дзяржавах удзел у палітычным жыцці мог абмяжоўвацца ўдзелам у народных сходах. А памеры народнага сходу абмяжоўваліся памерамі дзяржавы. Аратар мог дакрычацца да дзесяці тысяч чалавек, і гэтыя дзесяць тысяч маглі

яго пачуць, зразумець, згадзіцца або не згадзіцца. Дзяржава з большай колькасцю грамадзян першымі тэарэтыкамі такой дзяржаўнасці і грамадзянскасці прызнавалася немагчымай. У Афінах у перыяд росквіту поліснай дэмакратыі пражывала значна больш людзей, але народны сход збіраўся не большы за дзесяць тысяч чалавек. Дэмаграфічныя, эканамічныя, палітычныя, ваенныя фактары прыводзілі да таго, што народны сход станавіўся неэфектыўным, і пры развіцці гарадоў-дзяржаў паўставалі ўсё больш і больш складаныя формы рэалізацыі палітычнай волі грамадзян. З аднаго боку, гэта вылівалася ў вынаходніцтва формаў прадстаўнічай дэмакратыі і ўскладненне дзяржаўнага ладу, які патрабаваў развітага пісьмовага права. З іншага боку, вяло да вылучэння асаблівага палітычнага класа, які ўзурпаваў кіраўніцтва дзяржавай, захоўваючы палітычныя правы астатніх грамадзян у чыста дэкаратыўным выглядзе. Як гэта было, напрыклад, на позніх этапах існавання Генуі і Венецыі. У выпадку, калі грамадзяне не маглі вырашыць складанасці дзяржаўнага кіравання, улада пераходзіла да тыранаў і дыктатараў у Антычным свеце, або такія гарады-дзяржавы пераходзілі пад суверэнітэт феадальных князёў і каралёў у эпоху Сярэднявечча. Часам грамадзяне самі прымалі рашэнне пра запрашэнне князя і адмаўляліся ад суверэнітэту і ўдзелу ў палітычным жыцці (сярэднявечныя Ноўгарад, Пскоў, Полацк).

3. *Звышкаштоўнасць аўтаноміі гарадоў-дзяржаў*. Вартасць свабоды, уключаючы палітычную свабоду, — адметная рыса гэтага тыпу грамадзянскасці. А абарона свабоды, якая ідэнтыфікуецца з аўтаноміяй (то бок з жыццём паводле ўласных законаў, якія грамадзяне прымаюць самастойна), — галоўная дамінанта палітычнага жыцця гарадоў-дзяржаў. Калі гэта было магчыма, такія гарады захоўвалі аўтаномію нават у складзе абсалютысцкіх манархій Новага часу. А іх законы, нормы, правілы кіравання, адна з найвышэйшых праяваў якіх — рымскае права, дажылі да нашых дзён і складаюць аснову сучаснай лакальнай дэмакратыі і самакіравання.

4. У квірытаў і грамадзян аналагічных гарадоў-дзяржаў культывуецца *асаблівага роду патрыятызм*, звязаны з індывідуалізмам і свабодай.

Асноўныя палажэнні полiснай дэмакратыі і характэрныя рысы поліснага патрыятызму, сфармуляваныя яшчэ Перыклам у яго славутай прамове над магіламі ваяроў, што палі ў Пелапанескай вайне (431 г. да н. э.). Іх маглі б паўтарыць палітыкі, лідары і проста грамадзяне шматлікіх гарадоў-дзяржаў ад старажытнасці (Антычнасць) і да нашых дзён:

*«Уладкоўваючы сваю дзяржаву, мы не пераймалі чужаземных звычаяў. Наадварот, мы хутчэй самі ўяўляем узор для астатніх, чым наследуем іншым. Такі лад называецца дэмакратычным, паколькі ён рупіцца не пра карысць малой купкі людзей, а пра інтарэсы большасці. Калі паглядзець на нашы законы, яны даюць роўныя магчымасці ўсім, з улікам асабістых адрозненняў кожнага. Калі казаць пра ўшанаванне, то на ганаровыя пасады грамадзянін высоўваецца ў адпаведнасці з яго добрым імем, пры гэтым больш зважаюць на ягоныя цноты, чым на ягоны стан. Беднасць або цьмянае паходжанне не можа зашкодзіць чалавеку атрымаць нейкую пасаду, калі ён здольны зрабіць нешта карыснае для краіны. У сваёй дзяржаве мы жывём свабодна, унікаючы ўзаемных вымог адносна штодзённых звычаяў і нораваў. Калі сусед робіць тое, што яму даспадобы, мы не выказваем прыкрасці, хоць і бясшкоднай, але непрыемнай для кагосьці. Цярплівыя ў прыватных адносінах, мы і ў грамадскім жыцці не парушаем законаў, галоўным чынам праз павагу да іх. Мы падпарадкоўваемся і прыслухоўваемся да законаў, асабліва да ўсталяваных для абароны пакрыўджаных, а таксама да няпісаных, парушэнне якіх прыносіць усеагульную ганьбу»*[46].

Такога роду патрыятызм моцна адрозніваецца ад рыцарскай вернасці ранняга Сярэднявечча і вернападданніцкага патрыятызму эпохі абсалютызму і імперый XIX ст. і таталітарных рэжымаў XX ст.

---

[46] Пераклад са старажытнагрэчаскай Ягора Прыстаўкі зроблены для гэтага выдання.

# Падданы: феадальна—абсалютысцкія дзяржавы

Іншы тып грамадзянскасці фармаваўся на базе феадальных дачыненняў Сярэднявечча і феадальнага права. Раннія феадальныя дзяржавы таксама, як і старажытныя гарады-дзяржавы, маглі засноўвацца заваёўнікамі або племяннымі ўтварэннямі на ўласнай тэрыторыі. Але лад жыцця, звязаны з малаэфектыўным сельскагаспадарчым ладам, патрабаваў іншых стасункаў паміж людзьмі. У большай ступені цаніліся ваенныя доблесці, у тым ліку ўзаемныя ваенныя паслугі адзін аднаму, сацыяльныя стасункі будаваліся на вернасці і адданасці ў большай ступені, чым на палітычных свабодах. Таму феадальныя дзяржавы засноўваліся пераважна вайсковымі правадырамі, якія кантралявалі тэрыторыю, і дзяржавы першапачаткова будаваліся як манархічныя. Манарх быў крыніцай суверэнітэту, апошнім арбітрам і не меў патрэбы ў прыцягненні іншых людзей да прыняцця дзяржаўных рашэнняў. У сярэднявечных феадальных дзяржавах функцыянавала ўяўленне аб праве, якое моцна адрознівалася ад рымскага права або права гарадоў-дзяржаў. Калі права квірытаў забяспечвала ім роўныя або квазіроўныя правы, рэгулявала спрэчныя пытанні паміж роўнымі грамадзянамі, то феадальнае права трактавалася як права на што-небудзь: права не здымаць капялюш перад каралём або права збіраць падаткі з жыхароў пэўнай тэрыторыі, права кантраляваць гандлёвыя шляхі і г. д. Права не ўраўноўвала, а сегрэгавала розных людзей у межах адной дзяржавы. У такіх дзяржавах не было *грамадзян*, нават такіх, як апісаныя вышэй квірыты, у такіх дзяржавах былі *падданыя* манарха. Квірытам можна было нарадзіцца таксама, як можна было нарадзіцца ў сям'і арыстакрата-феадала, але падданым якога-небудзь феадальнага сюзерэна ўсялякі арыстакрат рабіўся асабіста ці то праз узвядзенне ў рыцары, ці то праз прысягу манарху. Феадальныя дзяржавы асацыяваліся не з сукупнасцю грамадзян, а з адной асобай, якая мела поўны суверэнітэт. На працягу свайго жыцця любы феадал мог пабываць падданым некалькіх манархаў.

Раннія феадальныя формы падданства былі развіты і ўдасканалены ў абсалютысцкіх манархіях Новага часу. Калі ў Сярэднявеччы феадалы-землеўладальнікі суіснавалі з грамадзянамі-квірытамі вольных гарадоў, уступалі з імі ў складаныя адносіны, ваявалі, то ў эпоху абсалютысцкіх манархій пачалася ўніфікацыя гэтых тыпаў дзяржаўных дачыненняў і дачыненняў грамадзянскасці. Абсалютысцкая дзяржава, з аднаго боку, імкнулася распаўсюдзіць на ўсё свабоднае насельніцтва феадальныя адносіны, а з іншага боку — рэгламентаваць гэтыя адносіны на падставе пісанага права, якое культывавалася ў гарадах. Калі ў Сярэднявеччы кароль або іншы феадал мог захапіць горад, то, падпарадкоўваючы яго сабе палітычна і эканамічна, ён прысягаў (кляўся) захоўваць гарадскія вольнасці і паважаць гарадскую аўтаномію і законы. У эпоху абсалютысцкіх дзяржаў ад грамадзян гарадоў, што траплялі пад юрысдыкцыю манарха, патрабавалася ці то персанальная прысяга манарху, ці то калектыўная, якая абвяшчалася абраным прадстаўніком. Яшчэ напрыканцы XVIII ст. грамадзянін Каралеўца Імануіл Кант складаў прысягу расійскай імператрыцы, якая захапіла Усходнюю Прусію.

Характэрныя асаблівасці падданства:

1. *Асабістае прынцыпе падданства.* У дачыненні падданства асноўную нагрузку нясуць элементы феадальнага звычайнага права. Падданства не аўтаматычнае, нават калі факт нараджэння або паходжання прыярытэтны, тым не менш, падданства патрабуе самавызначэння і сталага пацверджання. Падданства можа быць зменена, дапускаецца пераход ад падданства аднаму манарху ў падданства іншаму.

2. *Няроўнасць падданых.* Розныя катэгорыі падданых могуць мець розныя прывілеі і феадальныя правы. Феадальныя свабоды і вольнасці істотна адрозніваюцца ад зразумення гэтых катэгорый у вольных гарадах, у якіх дзейнічае папярэдні тып грамадзянства, названы намі квірыцкім.

3. *Бяспраўе або прыгонны стан вялікіх груп насельніцтва на тэрыторыі.* Ад ранніх сярэднявечных часоў за свабоднымі людзьмі, вясковымі і гарадскімі абшчынамі захоўваюцца некаторыя

правы. Аднак абсалютысцкая дзяржава не схільная прымаць іх у разлік, калі толькі яны не пацвярджаюцца спецыяльнымі дамовамі або не наданы вышэйшымі асобамі. Арганізаваныя супольнасці маглі дамагацца пацверджання або ўсталявання нейкіх сваіх правоў або прывілеяў.

4. *Падданства будуецца на дамоўнай падставе.* Узаемныя правы і абавязкі манарха і падданага ўсталёўваюцца кожным разам асобна для кожнага выпадку. Сама катэгорыя падданства азначае добраахвотны пераход пад чыюсьці абарону або заступніцтва і звязана з прыняццем на сябе пэўных абавязкаў перад манархам. Манарх, у сваю чаргу, прымае на сябе абавязкі па абароне сваіх падданых, а таксама па ахове іх правоў і прывілеяў. Феадальная трактоўка свабоды прадугледжвае свабоду пераходу пад заступніцтва іншага манарха, калі той у большай ступені гарантуе абарону і прывілеі.

У працэсе эвалюцыі і развіцця абсалютысцкіх манархій стасункі падданства распаўсюджваюцца на ўсё больш шырокія катэгорыі насельніцтва падкантрольных тэрыторыяў. Арганізаваныя групы насельніцтва і абшчыны дамагаюцца ад манарха дэкларавання сваіх правоў і прывілеяў, прынамсі, у тых выпадках, калі могуць даказаць сваю заможнасць і здольнасць плаціць падаткі і падтрымліваць дзяржаву матэрыяльна. Амаль ва ўсіх абсалютысцкіх манархіях у той або іншай форме дзейнічае саслоўны прынцып, у якім выразна вылучаюцца падданыя сервітутных саслоўяў, якія маюць гарантыі абароны сваіх правоў і прывілеяў з боку дзяржавы, і падатковыя саслоўі, то бок тыя, якія купляюць абарону і гарантыі сваіх правоў за пасярэдніцтвам добраахвотнай аплаты падаткаў. Зразумела, гэтую добраахвотнасць варта разумець са значнай ступенню ўмоўнасці, і, тым не менш, па меры эканамічнага ўмацавання падатковых саслоўяў пачало ўваходзіць у практыку пытаць згоды іх прадстаўнікоў пры рашэнні пытанняў вайны і міру, павелічэння падаткаў. Стала практыкавацца скліканне агульнанацыянальных сходаў (генеральныя штаты ў Францыі, вальны сойм у Рэчы Паспалітай або земскія саборы ў Масковіі). З цягам часу адносіны падданства распаўсюдзіліся на ўсе саслоўі, якія пражываюць

на тэрыторыі, што знаходзіцца пад юрысдыкцыяй манарха, за выключэннем асабіста залежных (прыгонных). З пачатку XIX ст. ў Еўропе, а з другой паловы XIX ст. і ў Расійскай імперыі катэгорыя падданства была распаўсюджаная практычна на ўсё насельніцтва адпаведных дзяржаў.

Стасункі падданства не ўтрымліваюць ніякіх указанняў на тое, якія грамадзянскія правы нададзены чалавеку або якімі правамі ён карыстаецца. У некаторых выпадках моцная дзяржава, не надаючы чалавеку ніякіх грамадзянскіх правоў, здольная ў большай ступені абараніць яго ад самаўпраўнасці як у краіне, так і па-за яе межамі, чым слабая, але дэмакратычная дзяржава. Але падданы, будучы абароненым ад самаўпраўнасці або агрэсіі з боку іншых суб'ектаў, можа застацца цалкам безабаронным перад абліччам уласнай дзяржавы.

**Падданы — чалавек, на якога распаўсюджваецца прыналежнасць да нейкай дзяржавы і заступніцтва дзяржавы.**

Шмат у чым статусы грамадзяніна нацыянальнай дзяржавы і падданага супадаюць. Дзяржава, да якой яны належаць, можа ў аднолькавай ступені аказваць ім сваю абарону і апеку, гарантаваць ім абарону як у краіне, так і па-за ёй. Падданы адрозніваецца ад грамадзяніна нацыянальнай дзяржавы ступенню ўдзелу у грамадскім і палітычным жыцці краіны, а таксама тым, што правы і свабоды грамадзяніна безумоўныя і неад'емныя, у той час як правы і свабоды падданага абумоўленыя ладам дзяржавы, да якой ён належыць, законамі гэтай дзяржавы і практыкай праваўжывання. Грамадзянін сам — крыніца сваіх правоў і свабод і выступае як суб'ект палітычнай волі. І, наадварот, у дачыненні да падданага дзяржава выступае крыніцай яго правоў, свабод і прывілеяў; у грамадскім і палітычным жыцці сваёй краіны падданы ўдзельнічае ў той ступені, якая дазволена законамі дзяржавы, звычаямі або практыкай стасавання права, распаўсюджанымі ў краіне.

Дзяржаўнасць, ахапіўшы ўсю тэрыторыю Еўропы, затым распаўсюдзілася на ўвесь цывілізаваны свет, у якім не засталося тэрыторый, што не падпадаюць пад юрысдыкцыю той або іншай дзяржавы. У цывілізаваным свеце ўсё насельніцтва было распісана

паміж гэтымі дзяржавамі, усе былі падданымі якой-небудзь дзяржавы, але гэта зусім не значыла, што ўсе яны былі грамадзянамі і карысталіся грамадзянскімі правамі. У міжнародных стасунках, у прыватных справах, у бізнесе падданыя Расійскай імперыі, Асманскай імперыі, Французскай Рэспублікі або Злучаных Штатаў Амерыкі ўспрымаліся як падобныя суб’екты. Але тым не менш, яны мелі цалкам адрозны прававы статус і магчымасці ўдзельнічаць у справах сваёй дзяржавы. Шмат у якіх дзяржавах у XX ст. падданыя дамагліся грамадзянскіх правоў у выніку рэвалюцый або дэмакратычных пераўтварэнняў. Але ўсталяванне таталітарных рэжымаў тармазіла гэты працэс, таму насельніцтва Савецкага Саюза заставалася ў статусе падданых ажно да яго развалу. Жыхары еўрапейскіх і іншых дэмакратычных дзяржаў вучыліся быць грамадзянамі новага тыпу на працягу многіх пакаленняў. Для большасці савецкіх людзей розніца паміж падданствам і нацыянальным грамадзянствам да гэтага часу невідавочная.

Яскравы прыклад недыферэнцыяцыі грамадзянства і падданства дэманструюць слоўнікавыя артыкулы савецкага часу:

**«Гражданин, гражданина,** мн. Граждане

1. Подданный какого-нибудь государства. *Американский гражданин. Вот он (пролетариат), творец мирового труда и гражданин всей вселенной. Самобытник.*

2. Сознательный член общества, человек; подчиняющий свои личные интересы общественным (ритор.). *Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан.* Некрасов.

3. Взрослый человек, мужчина (нов.). *Неизвестный гражданин раздавлен трамваем.* I Формула обращения к мужчине (нов.). *Гражданин, постойте!*

4. Потомственный почетный гражданин (дореволюц.) — звание, присваивавшееся лицам недворянского сословия за какие-нибудь заслуги или в силу образовательного ценза».

*(Толковый словарь русского языка: в 4 т. / под ред. Д. Н. Ушакова. — Т. 1. — М., 1935; Т. 2. — М., 1938; Т. 3. — М., 1939; Т. 4. — М., 1940).*

**«Гражданство —** принадлежность лица к данному государству, следствием чего является распространение на него прав и обязанностей, установленных законодательством этого государства с обеспечением государственной защиты его прав. В государствах с монархической формой правления применяется термин подданство».

**Подданство**, см. в ст. «Гражданство» (*Большая Советская Энциклопедия*).

# Грамадзянін: нацыянальная дзяржава

Трэці тып грамадзянства пачынае складвацца ў XVIII ст. У працэсе развіцця абсалютысцкіх манархій фармаваліся еўрапейскія нацыі. Нацыянальная аднастайнасць паступова сцірала этнічныя адрозненні, барацьба за свае правы ўшчэмленых саслоўяў і абмежаванне правоў прывілеяваных саслоўяў павялічвалі сацыяльную аднастайнасць. У той самы час, у XVIII ст. суіснавалі, здаралася ў складзе той самай дзяржавы, дзве сістэмы, два парадкі ўзаемаадносін паміж дзяржавай і чалавекам. У вольных гарадах з самакіраваннем і ў архаічных рэспубліках дзейнічалі перайначаныя варыянты дачыненняў, якія мы акрэслілі тэрмінам «квірыт». А ў замацаваных абсалютысцкіх манархіях усталяваліся адносіны падданства. Правы квірытаў паслужылі падставай для фармавання сацыяльнага і грамадзянскага ідэала. Аднак тэарэтычнае абгрунтаванне гэтага ідэала ў працах старажытных філосафаў і тэарэтыкаў дэмакратыі не дазваляла рэалізоўваць яго ў дзяржавах, якія кантралявалі велізарныя тэрыторыі са шматмільённым насельніцтвам. І толькі эпоха Асветы змагла тэарэтычна абгрунтаваць і развіць такія ўяўленні пра грамадзянскія правы і ўпарадкаванні дзяржавы, якія маглі быць рэалізаваныя ў сацыяльнай практыцы.

Першай вялікай дзяржавай, якая змагла распаўсюдзіць грамадзянскія правы на ўсё насельніцтва, былі Злучаныя Штаты Амерыкі, калі яны вызваліліся ад панавання англійскай манархіі. Але і ў іх рэалізацыя гэтага тыпу грамадзянства і грамадзянскасці была частковай.

Па-першае, у большай або меншай ступені набліжэнне да паўнаты рэалізацыі грамадзянскіх правоў было магчыма толькі ў межах асобных штатаў. Таму заснавальнікі Злучаных Штатаў будавалі канфедэратыўную дзяржаву паводле ўзору Швейцарыі, непасрэдная дэмакратыя замыкалася ў асобных штатах і не працавала на федэральным узроўні.

Па-другое, у грамадзянстве было адмоўлена чарнаскурым рабам і аўтахтоннаму індзейскаму насельніцтву. Але тым не менш, Злучаныя Штаты як федэратыўная дзяржава сталі, з аднаго боку, лабараторыяй адпрацоўкі пераходу ад непасрэднай дэмакратыі на лакальным узроўні да прадстаўнічай дэмакратыі на агульнанацыянальным. З іншага боку, у іх меў месца пераход ад архаічнай формы дзяржаўных саюзаў і аб'яднанняў малых гарадоў-дзяржаў або дэмакратычна кіраваных тэрыторый (прыкладам якіх маглі быць Ганзейскі саюз, Швейцарская канфедэрацыя або Злучаныя правінцыі Нідэрландаў) да ўнітарнай дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы. Наступнае развіццё грамадзянскіх дачыненняў звязанае з Вялікай французскай рэвалюцыяй.

**Грамадзянін нацыянальнай дзяржавы — праваздольны суб'ект усіх грамадскіх і палітычных адносін у рамках дзяржавы і грамадзянскай супольнасці.**

Мы вымушаны абмяжоўваць паняцце «грамадзянін» у некалькіх сэнсах.

Па-першае, прыналежнасцю да пэўнай дзяржавы. Менавіта дзяржава прызнае або не прызнае чалавека сваім грамадзянінам і адпаведным чынам сведчыць яго грамадзянскі статус. Чалавек можа нарадзіцца і ўсё жыццё пражыць на тэрыторыі нейкай дзяржавы, але пры гэтым не быць грамадзянінам гэтай дзяржавы, што абмяжоўвае яго магчымасці ўдзельнічаць у грамадскім і палітычным жыцці. Ён можа быць ці то грамадзянінам іншай дзяржавы, ці то асобай без грамадзянства.

Па-другое, праваздольнасцю. Непаўналетнія юрыдычна прызнаюцца дзяржавай як грамадзяне, але не валодаюць магчымасцю ўдзельнічаць у грамадскім і палітычным жыцці з прычыны сва-

ёй неправаздольнасці. Яны карыстаюцца абаронай з боку дзяржавы, ім могуць быць гарантаваны іх грамадзянскія правы ў будучыні, а ў сучаснасці яны могуць мець нейкія спецыфічныя правы, якія кампенсуюць іх узроставую недзеяздольнасць. У гэтым дачыненні яны хутчэй падпадаюць пад вызначэнне падданых.

Катэгорыі **«грамадзянства»** і «грамадзянскасць» стасоўныя да грамадзяніна і нестасоўныя да **падданага**. Падданы характарызуецца хутчэй вернасцю, законапаслухмянасцю і патрыятызмам. Ад яго не чакаюцца грамадзянскія дзеянні і палітычная ініцыятыва.

Вялікую французскую рэвалюцыю часта называюць буржуазнай. У савецкім грамадазнаўстве тэрміны «буржуа», «буржуазны» былі спрошчаны да вульгарнай марксісцкай трактоўкі. Першапачатковае значэнне паняцця — жыхар горада, гараджанін — было нівелявана, а пакінута толькі значэнне «эксплуататар», «прыватны ўласнік». Вяртаючыся да арыгінальнага сэнсу, можна сказаць, што Вялікая французская рэвалюцыя была барацьбой гараджан за пашырэнне грамадзянскіх дачыненняў зыходнага «квірыцкага» тыпу на ўсё насельніцтва. Гэта адбывалася коштам адмовы ад правоў, гарантаваных каралеўскай уладай, і заменай іх «правам квірытаў».

Зразумела, адмова прывілеяваных саслоўяў ад сваіх правоў не была і не магла быць добраахвотнай, таму неабходна было наогул ліквідаваць саслоўны падзел. Ідэалагічным абгрунтаваннем ліквідацыі падзелу грамадства на саслоўі з іх рознымі правамі сталіся катэгорыі свабоды, роўнасці, братэрства, якім надавалася ўсеагульнае значэнне. Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна была заклікана рэалізаваць гэтую ідэалогію. Усе людзі прызнаваліся роўнымі, і кожны з іх надзяляўся грамадзянскімі правамі. Дэкларацыя таму і дэкларацыя, што яна толькі абвяшчае некаторыя прынцыпы, рэалізацыя якіх можа расцягнуцца на дзесяцігоддзі. І, тым не менш, французская рэвалюцыя ўпершыню ў гісторыі рэалізавала правы грамадзяніна, якія ў той або іншай ступені абвяшчаліся яшчэ ў рымскім праве і былі даступны нешматлікім гараджанам свабодных гарадоў-рэспублік, у маштабах вялізнай краіны са шматмільённым насельніцтвам і ва ўнітарнай дзяржаве.

Грамадзянства і грамадзянскасць, усталяваныя Французскай Рэспублікай, абвешчаны ў Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна і заканадаўча афармленыя ў Кодэксе Напалеона, зрабіліся нормай і ўзорам для іншых еўрапейскіх нацый. Часткова разам з Кодэксам Напалеона гэты тып распаўсюдзіўся падчас рэвалюцыйных войнаў пачатку XIX ст. Такім чынам гэты тып грамадзянства ўсталяваўся ў Бельгіі, Нідэрландах, Швейцарыі і ў заходніх нямецкіх дзяржавах. Затым ён распаўсюджваўся і ўводзіўся праз шэраг буржуазных рэвалюцый, якія раз-пораз успыхвалі ў еўрапейскіх краінах, і ў войнах за аб'яднанне Італіі і Германіі. У краінах Скандынавіі гэтая форма грамадзянства была ўведзена мірным чынам па добрай волі кіраўнікоў краін.

**Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна**

*Прынята Устаноўчым сходам 26 жніўня 1789 г.*

Прадстаўнікі французскага народа, стварыўшы Нацыянальны сход і мяркуючы, што невуцтва, забыццё правоў чалавека або пагарда да іх — адзіная прычына грамадскіх бедстваў і сапсаванасці ўрадаў, прынялі рашэнне выкласці ва ўрачыстай Дэкларацыі натуральныя, неад'емныя і святыя правы чалавека, каб гэтая Дэкларацыя, нязменна знаходзячыся перад вачыма ўсіх удзельнікаў грамадскага саюзу, увесь час нагадвала ім пра іх правы і абавязкі, каб дзеянні заканадаўчай і выканаўчай улады, якія ў любы час можна было б параўнаць з мэтай кожнага палітычнага інстытуту, сустракалі ўсё большую павагу; каб памкненні грамадзян, заснаваныя з гэтага часу на простых і бясспрэчных прынцыпах, накіроўваліся да выканання Канстытуцыі і да ўсеагульнага дабра. Адпаведна, Нацыянальны сход прызнае і абвяшчае перад абліччам і пад заступніцтвам Вярхоўнай істоты наступныя правы чалавека і грамадзяніна.

**Артыкул 1.** Людзі нараджаюцца і застаюцца вольнымі і роўнымі ў правах. Грамадскія адрозненні могуць грунтавацца толькі на агульнай карысці.

**Артыкул 2.** Мэта ўсялякага палітычнага саюзу — забеспячэнне натуральных і неад'емных правоў чалавека. Такімі ёсць свабода, уласнасць, бяспека і супраціў прыгнёту.

**Артыкул 3.** Крыніца суверэннай улады — нацыя. Ніякія ўстановы, аніводны суб'ект не могуць валодаць уладаю, якая не сыходзіць наўпрост ад нацыі.

**Артыкул 4.** Свабода грунтуецца на магчымасці рабіць усё, што не чыніць шкоды іншаму: такім чынам, ажыццяўленне натуральных правоў кожнага чалавека абмежаванае толькі тымі межамі, якія забяспечваюць іншым членам грамадства карыстанне тымі самымі правамі. Межы гэтыя могуць быць вызначаныя толькі законам.

**Артыкул 5.** Закон мае права забараняць толькі дзеянні, шкодныя для грамадства. Усё, што не забаронена законам, дазволена, і ніхто не можа быць прымушаны рабіць тое, што не прадпісана законам.

**Артыкул 6.** Закон ёсць выраз супольнай волі. Усе грамадзяне маюць права ўдзельнічаць асабіста або праз сваіх прадстаўнікоў у яго стварэнні. Ён павінны быць адзіным для ўсіх, ахоўвае ён або карае. Усе грамадзяне роўныя перад ім і таму маюць роўны доступ да ўсіх пастоў, публічных пасад і заняткаў адпаведна сваім здольнасцям і без якіх-небудзь іншых адрозненняў, акрамя тых, што абумоўленыя іх цнотамі і здольнасцямі.

**Артыкул 7.** Ніхто не можа паддавацца абвінавачанню, затрыманню або зняволенню інакш, як у выпадках, прадугледжаных законам і ў акрэсленых ім формах. Той, хто патрабуе, аддае, выконвае або прымушае выконваць заснаваныя на самаўпраўнасці загады, падлягае пакаранню; але кожны грамадзянін, выкліканы або затрыманы з прычыны закону, павінны бяспярэчна падпарадкоўвацца: у выпадку супраціву ён нясе адказнасць.

**Артыкул 8.** Закон павінен вызначаць пакаранні толькі строга і бясспрэчна неабходныя; ніхто не можа быць пакараны інакш, як з прычыны закону, прынятага і абнародаванага да здзяйснення правапарушэння і належным чынам застасаванага.

**Артыкул 9.** Паколькі кожны лічыцца невінаватым, пакуль яго віна не даведзена, у выпадках, калі прызнаецца неабходным арышт асобы, любыя залішне суворыя захады, якія не ёсць неабходнымі, павінны самым строгім чынам быць спыненыя сілай закону.

**Артыкул 10.** Ніхто не павінны цярпець прыгнёт за свае погляды, нават рэлігійныя, пры ўмове, што іх выказванне не парушае грамадскага парадку, усталяванага законам.

**Артыкул 11.** Свабоднае выказванне думак і меркаванняў ёсць адным з найкаштоўнейшых правоў чалавека; таму кожны грамадзянін можа свабодна выказвацца, пісаць, друкаваць, адказваючы толькі за злоўжыванне гэтай свабодай у выпадках, прадугледжаных законам.

**Артыкул 12.** Для гарантыі правоў чалавека і грамадзяніна неабходная дзяржаўная моц; яна ствараецца ў інтарэсах усіх, а не для асабістай карысці тых, каму яна давераная.

**Артыкул 13.** На ўтрыманне ўзброенай сілы і на выдаткі па кіраванні неабходныя агульныя ўнёскі; яны павінныя быць раўнамерна размеркаваны паміж усімі грамадзянамі адпаведна да іх магчымасцей.

**Артыкул 14.** Усе грамадзяне маюць права ўстанаўліваць самі або праз сваіх прадстаўнікоў неабходнасць дзяржаўнага абкладання, добраахвотна згаджацца на яго збіранне, сачыць за яго выдаткоўваннем і вызначаць яго долевы памер, падставу, парадак і працягласць збірання.

**Артыкул 15.** Грамадства мае права дамагацца ад любой службовай асобы справаздачы пра яе дзейнасць.

**Артыкул 16.** Грамадства, дзе не забяспечана гарантыя правоў і няма падзелу ўладаў, не мае Канстытуцыі.

**Артыкул 17.** Таму што ўласнасць ёсць права недатыкальнае і святое, ніхто не можа быць пазбаўлены яе інакш, як у выпадку ўсталяванай законам відавочнай грамадскай неабходнасці і пры ўмове справядлівай і папярэдняй кампенсацыі.

(*Déclaration des droits de l'homme et du citoyen de 1789 паводле: http://www.assemblee-nationale.fr/histoire/dudh/1789.asp.*)

Характэрныя асаблівасці грамадзянства і грамадзянскасці нацыянальнай дзяржавы:

1. *Грамадзянскія правы, свабоды* і роўнасць усіх людзей перад законам у гэтым тыпе грамадзянства *маглі быць рэалізаваны толькі у маштабах нацыі* і з дапамогай або за пасярэдніцтвам нацыянальнай дзяржавы. Уласна, менавіта такі тып грамадзянства і грамадзянскасці вызначае сучасныя нацыі, адзінства якіх складалася яшчэ ў абсалютысцкіх манархіях і імперыях або ў іх этнічных правінцыях. У пэўным сэнсе нацыя, нацыянальная дзяржава і грамадзянская супольнасць фармуюцца сінхронна ў тых самых тэрытарыяльных межах і ў тую самую гістарычную эпоху. Нацыянальнае адзінства і развітая грамадзянская супольнасць гарантуе стабільнасць і ўстойлівасць нацыянальнай дзяржавы, тады як сама нацыянальная дзяржава стварае і забяспечвае ўмовы існавання, функцыянавання і развіцця нацыі і грамадзянскай супольнасці. Грамадзянін гэтага перыяду самавызначаецца як частка гэтых трох цэлых: нацыі, грамадзянскай супольнасці і дзяржавы. Еўрапейцы засвойвалі гэты тып грамадзянства на працягу паўтара стагоддзя.

2. *Грамадзяне адной нацыі былі роўныя паміж сабою* і свабодныя ў той ступені, у якой гэта дапускалася дзяржавай, што была імі заснавана і дзейнічала ад іх імя. *Але грамадзяне адной дзяржавы не маглі быць роўныя з грамадзянамі іншай.* Абарона і гарантыя правоў і свабод грамадзян вызначалася сілай, магутнасцю, стабільнасцю і ўстойлівасцю дзяржавы.

**Няроўнасць грамадзян розных дзяржаў востра гучыць у «Вершах пра савецкі пашпарт» Уладзіміра Маякоўскага:**

К одним паспортам —
улыбка у рта.
К другим —
отношение плевое.
С почтеньем
берут,
например, паспорта
с двухспальным
английским
левою.

Глазами
доброго дядю выев,
не переставая
кланяться,
берут,
как будто берут чаевые,
паспорт
американца.
На польский
глядят,
как в афишу коза.
На польский —
выпяливают глаза
в тугой полицейской слоновости
откуда, мол,
и что это за
географические новости?
И не повернув
головы кочан
и чувств
никаких
не изведав,
берут,
не моргнув,
паспорта датчан
и разных
прочих
шведов.

*1929*

*(В. В. Маяковский. Стихотворения, поэмы, пьесы. — Минск : Изд-во БГУ им. В. И. Ленина, 1977).*

Нацыянальная дзяржава, нацыя і грамадзянская супольнасць, месцячыся ў адных прасторавых і часавых межах, развіваюцца нераўнамерна. У асобных выпадках стварэнне, умацаванне і развіццё дзяржавы апераджае станаўленне нацыі і грамадзянскай

супольнасці. Як гэта было, напрыклад, у Германіі. Аб'яднанне Германіі ў адзіную дзяржаву з вызначальнай і дамінантнай роллю Прусіі вяло за сабою станаўленне нямецкай нацыі. Але з прычыны аўтарытарнай прыроды дзяржавы, што з'явілася, і мілітарызму, які ўкараняўся пануючым класам Прусіі, тармазілася развіццё грамадзянскай супольнасці. Супрацьлеглы прыклад дэманструюць славянскія нацыі ў складзе Аўстрыйскай імперыі, дзе нацыяналізм і нацыянальнае развіццё апераджалі развіццё грамадзянскай супольнасці і нацыянальнай дзяржаўнасці, якое стрымлівала імперыя.

**У нашым кантэксце пад нацыяй мы разумеем вялікую сукупнасць людзей, на якой вызначаецца дзяржаўнасць, або якая можа прэтэндаваць на самавызначэнне і стварэнне дзяржавы ў агляднай гістарычнай перспектыве.**

Нацыя супадае паводле аб'ёму паняцця з нацыянальнай дзяржавай. У гэтым сэнсе гістарычна нацыя можа быць супрацьстаўленая гораду-дзяржаве. Для нашых мэт няма неабходнасці заглыбляцца ў разгляд этнічных, канфесійных, культуралагічных аспектаў паняцця «нацыя». Паўстанне грамадзянскай супольнасці таксама вызначаецца на той самай сукупнасці людзей. У перыяд складання і існавання нацыянальных дзяржаў аб'ёмы і межы дзяржавы, нацыі і грамадзянскай супольнасці ў прасторы і ў часе практычна супадаюць.

Рамкі нашай тэмы не прадугледжваюць падрабязнага абмеркавання катэгорый нацыі і нацыяналізму, нацыянальнага развіцця; прадмет нашай цікаўнасці — грамадзянства, грамадзянскасць і часткова грамадзянская супольнасць. Стасоўна да Беларусі, як, зрэшты, і да іншых нацыянальных ускраін былой Расійскай імперыі, гэтыя працэсы варта было б разгледзець асобна. Працэс уключэння беларусаў у адзіную нацыю ўнітарнай Рэчы Паспалітай пачаўся амаль адначасова з Французскай буржуазнай рэвалюцыяй. Канстытуцыя 3 мая 1791 г. абвяшчала ўнітарную дзяржаву адзінай Рэчы Паспалітай, якая замяняла сабою ліквідаваную федэрацыю двух народаў, пабудаваную паводле саслоўнага прынцыпу з элементамі абсалютызму. Але абвешчаная дзяржава аказалася

слабай перад абліччам навакольных абсалютысцкіх імперый і была падзеленая паміж імі.

У той частцы, якая адышла да Расіі, было практычна цалкам спыненае развіццё грамадзянскай супольнасці. Былі ліквідаваны нават перадумовы да гэтага, якія існавалі ў гарадах з самакіраваннем, што карысталіся правам (хоць і архаічным, сярэднявечным) да самакіравання. Таму ў народаў Расійскай імперыі заставалася адзіная магчымасць — нацыяналізм і афармленне ў нацыю, няхай сабе і пад імперскім прыгнётам. Гэтая акалічнасць выратавала беларусаў ад асіміляцыі і растварэння ў адзінай нацыі ўнітарнай Рэчы Паспалітай, але адарвала беларусаў ад агульнаеўрапейскага развіцця.

Спецыфічны тып развіцця ў гэтую эпоху дэманструе Фінляндыя. Фінляндыя мела вельмі высокую ступень аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі. Станаўленне фінскай нацыі праходзіла ў мяккіх формах эмансіпацыі ад Швецыі і шведскага культурнага дамінавання, чаму часткова спрыяла залежнасць Фінляндыі ад Расійскай імперыі, а аўтаномія спрыяла станаўленню грамадзянскай супольнасці. Да моманту набыцця незалежнасці ў Фінляндыі сфармаваліся і дасягнулі пэўнага ўзроўню ўсе элементы грамадзянскай супольнасці, якія былі магчымыя на пачатак XX ст. У нечым Фінляндыя нават лідзіравала, так, напрыклад, яна першай у Еўропе распаўсюдзіла выбарчае права на жанчын.

Такая гетэрахроннасць, нераўнамернасць развіцця дзяржавы, нацыі і грамадзянскай супольнасці параджала шматлікія супярэчнасці і канфлікты як унутры асобных дзяржаў, так і ў агульнаеўрапейскім кантэксце. Кульмінацыі ўсе гэтыя канфлікты і супярэчнасці дасягнулі перад Першай сусветнай вайной. Незалежна ад фармальнага выніку гэтай вайны, у ёй прайгралі архаічныя дзяржавы, у першую чаргу — абсалютысцкія імперыі: Аўстра-Венгерская, Расійская, Асманская. Падпарадкаваныя гэтым імперыям народы ў выніку вайны змаглі рэалізаваць права нацыі на самавызначэнне. У Германіі, якая панесла паражэнне, завершылася станаўленне адзінай нямецкай нацыі, але грамадзянская супольнасць заставалася слабай і не змагла супрацьстаяць

нацысцкай дыктатуры. Заканчэнне апісаных намі працэсаў для большай часткі еўрапейскіх нацый прыпала на перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Тады таксама стала зразумела, што дзяржава, выступаючы гарантам правоў і свабод грамадзяніна, здольна забяспечыць гэтыя правы і свабоды толькі ў межах самой сябе, але недзеяздольная перад знешнімі пагрозамі. Правы і свабоды грамадзяніна, тым больш чалавека як такога, аказаліся негарантаванымі і неабароненымі ў кантынентальнай і сусветнай палітыцы.

## Грамадзянін аб'яднанай Еўропы: тып грамадзянства ў працэсе станаўлення

Пасля Першай сусветнай вайны еўрапейскія дзяржавы зрабілі спробу супольна вынайсці няісны механізм абароны правоў грамадзяніна і чалавека на міждзяржаўным узроўні. Гаворка вядзецца пра стварэнне Лігі Нацый (1920 — 1946 гг.), а таксама пра двух- і шматбаковыя дамовы і пагадненні гэтага перыяду. У прыватнасці, была зробленая спроба нармалізаваць прававы статус асоб без грамадзянства, якія маглі атрымаць асаблівага роду дакументы, так званыя Нансенаўскія пашпарты. Іх правы і свабоды павінна была гарантаваць сусветная супольнасць. Але важна адзначыць, што і Ліга Нацый, і двух- і шматбаковыя дамовы былі спараджэннем дзяржаў, што атаясамліваліся з нацыямі, а грамадзянская супольнасць не брала ў гэтым практычнага ўдзелу. На гэты час проста не склалася грамадзянская супольнасць па-за нацыямі і дзяржавамі. Грамадзянская супольнасць не была суб'ектам міжнародных адносін.

**«Нансенаўскія пашпарты»** былі часовымі пасведчаннямі асобы, якія замянялі сабою нацыянальныя пашпарты для бежанцаў і асоб без грамадзянства. Былі ўведзеныя Лігай Нацый у 1922 г. паводле рашэння Жэнеўскай канферэнцыі. Ініцыятарам увядзення пашпартоў для асобаў без грамадзянства быў нарвежскі вучоны і грамадскі дзеяч Фрыцьёф Нансен. Асобы, якія мелі такі паш-

парт, карысталіся правам пражываць і перамяшчацца ў краінах-удзельніцах Жэнеўскіх пагадненняў, у іх адносінах не дзейнічаў шэраг абмежаванняў, прадугледжаных для тых, хто не меў грамадзянства.

Другая сусветная вайна была найгрубейшым у гісторыі чалавецтва прэцэдэнтам поўнай пагарды правамі чалавека і грамадзяніна. Ніякія правы чалавека, ні само яго жыццё не былі ні гарантаваныя, ні абароненыя. Індустрыя масавага знішчэння людзей не толькі падчас вайны, але і у саміх таталітарных дзяржавах, якія падрыхтавалі і ініцыявалі гэтую вайну, дасягнула гіганцкіх маштабаў. Мільёны людзей падпалі пад рэпрэсіі, фізічнае знішчэнне, дэпартацыю без якой-небудзь віны або асабістай адказнасці. І ніякія асабістыя спробы не маглі супрацьстаяць гэтай індустрыі. Пасля заканчэння гэтай вайны на сусветнай павестцы дня найвастрэй стаяла пытанне аб правах чалавека, пра тое, што або хто можа гэтыя правы гарантаваць і якім чынам гэтыя гарантыі можна забяспечыць. Па-ранейшаму галоўным суб’ектам заставалася дзяржава, і менавіта дзяржавы-пераможцы ўзялі на сябе ініцыятыву па вырашэнні гэтых праблем. Замест Лігі Нацый была створана Арганізацыя Аб’яднаных Нацый, і, акрамя ўсіх іншых, у задачу ААН уваходзіла забеспячэнне правоў чалавека, у тым ліку *абарона гэтых правоў ад пасягальніцтваў дзяржавы.* Калі Ліга Нацый засяроджвалася на вырашэнні міждзяржаўных пытанняў і праблем, то ААН дэкларавала абарону правоў чалавека і грамадзяніна незалежна ад таго, грамадзянінам якой дзяржавы ён з’яўляецца.

У 1948 г. ААН прыняла *Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.* Яна не толькі развівала і дапаўняла палажэнні Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна, але распаўсюджвала гэтыя правы на ўсіх людзей без выключэння, незалежна ад грамадзянства і падданства. Французская Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна абвяшчала роўнасць людзей у рамках і маштабах нацыі і прывязвала рэалізацыю гэтай роўнасці да нацыянальнай дзяржавы. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ліквідавала гэтыя абмежаванні. Усе людзі абвяшчаліся роўнымі, заставалася толькі незразумелым тое, хто, як і якімі сродкамі будзе і зможа гэтую роўнасць забяс-

печваць. Уся гісторыя, сусветная палітыка першай паловы ХХ ст. прадэманстравалі, што дзяржавы, а ў некаторым сэнсе і нацыі не здольны забяспечыць роўнасць, правоў і свабод не толькі ўсіх людзей, але нават і сваіх уласных грамадзян або падданых.

Трэба было неадкладна шукаць або вынаходзіць новыя механізмы, што дазволілі б забяспечыць роўныя правы і свабоды для людзей, і новых суб'ектаў, здольных узяць на сябе адказнасць за гэта. Такім новым суб'ектам зрабілася *грамадзянская супольнасць*, якая пераадолела нацыянальныя бар'еры і дзяржаўныя межы. Урады дэмакратычных дзяржаў, што перамаглі ў Другой сусветнай вайне і задавалі тон у міжнародных арганізацыях, аказаліся здольнымі адмовіцца ад сваёй манаполіі ў вырашэнні міжнародных пытанняў і пачалі падключаць да іх рашэння нацыянальныя структуры грамадзянскай супольнасці. Выходзячы на міжнародны ўзровень, гэтыя структуры і асобы, якія бралі ў іх удзел, запачаткавалі сусветную супольнасць. Наступная гісторыя можа быць паданая як узаемадзеянне і супрацоўніцтва дзяржаў на ўзроўні іх урадаў і грамадзянскай супольнасці.

Вынікам такога ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва варта лічыць з'яўленне прынцыпова новых агульнаўрапейскіх інстытутаў і міжнародных дамоў, якія не мелі гістарычных прэцэдэнтаў. Галоўныя з іх — Еўрасаюз, Савет Еўропы і Хельсінскія пагадненні. Бадай, найгалоўнейшае інстытуцыянальнае дасягненне супрацоўніцтва дзяржаў і грамадзянскай супольнасці — абмежаванне суверэнітэту дзяржаў як ва ўнутранай, так і ў знешняй палітыцы, прынамсі, у той частцы, дзе гэты суверэнітэт вядзе да самаўпраўнасці дзяржаў і эгаізму кіруючых эліт. Менавіта добраахвотная адмова ад часткі суверэнітэту робіцца магчымасцю і ўмовай для ўдзелу краіны ў Савеце Еўропы, а пагатоў у Еўрасаюзе.

Калі ў перыяд ад амерыканскай і французскай рэвалюцый XVII — XVIII стст. да заканчэння Другой сусветнай вайны дзяржава і нацыя былі абмежавальнай рамкай вызначэння правоў і свабод чалавека і грамадзяніна (і яны ж у найбольшай ступені абмяжоўвалі гэтыя правы і свабоды, хоць заклікана былі іх бараніць і гарантаваць), то ў другой палове ХХ ст. правы і свабоды чала-

века і грамадзяніна вызначаюцца ў рамках наднацыянальнай грамадзянскай супольнасці і гарантуюцца міжнароднай супольнасцю без уліку нацыянальных межаў. Суверэнітэт нацыянальных дзяржаў у дачыненні да правоў і свабод сваіх грамадзян прызнаецца толькі ў той ступені, у якой нацыянальныя нормы і заканадаўствы прыведзены ў адпаведнасць агульнаеўрапейскім нормам, якія гарантуюць правы і свабоды чалавека.

Асноўныя міжнародныя дамоўленасці адносна правоў чалавека, а таксама галоўныя падзеі, звязаныя з падпісаннем і рэалізацыяй гэтых дамоўленасцей, добра апісаныя і шырокавядомыя. Звычайна яны разглядаюцца непасрэдна ў сувязі са зместам правоў чалавека ў іх прававых і арганізацыйных аспектах. Але ж для нас важны аспект змены зместу паняццяў і ўяўленняў пра грамадзяніна, грамадзянства і грамадзянскасць. Мы можам падкрэсліць, што з моманту прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека паняцці «грамадзянін», «грамадзянства» і «грамадзянскасць» перажываюць не проста колькасныя і якасныя, але прынцыповыя змены.

Раней грамадзянін быў цалкам прывязаны да дзяржавы, у рамках якой мог выяўляць і рэалізоўваць свае правы і свабоды, а таксама сваю палітычную волю. Да дзяржавы грамадзянін мог таксама апеляваць як да апошняй інстанцыі ў выпадку парушэння сваіх правоў і свабод, і толькі ў свай дзяржаве ён мог уплываць на палітычныя рашэнні. Па меры станаўлення і развіцця еўрапейскіх інстытутаў грамадзянін эмансіпуецца ад дзяржавы. У цяперашні час правы і свабоды еўрапейцаў гарантуюцца не толькі дзяржавай, і нават не столькі дзяржавай, колькі еўрапейскай супольнасцю. Еўрапейскія выбарцы наўпрост абіраюць Еўрапейскі парламент і могуць стаць яго дэпутатамі, то бок маюць магчымасць рэалізаваць сваю палітычную волю па-за дзяржаўнымі рамкамі, у складзе еўрапейскіх партый і саюзаў. Фракцыі Еўрапейскага парламента арганізаваны не паводле нацыянальнага прынцыпу, а паводле партыйнага. Грамадзянін можа апеляваць да Еўрапейскага суда, канфлікты паміж грамадзянінам і дзяржавай могуць вырашацца як у нацыянальных судах, так і ў Еўрапейскім судзе.

Рамкі, якія вызначаюць правы і свабоды чалавека, а таксама змест паняццяў «грамадзянін» і «грамадзянскасць» задаюцца ўжо не дзяржавай, а грамадзянскай супольнасцю, што выйшла паза межы нацыі і дзяржавы. Ліміты і маштабы самавызначэння і ідэнтычнасці асобы ў перыяд да Другой сусветнай вайны абмяжоўваліся нацыянальнай дзяржавай, дапускаючы таксама лакальную або рэгіянальную ідэнтычнасць. Сёння да гэтага дадаецца еўрапейская ідэнтычнасць. Сёння кожны чалавек у Еўропе самавызначаецца не толькі лакальна і нацыянальна, але і як еўрапеец. Што з гэтых узроўняў самавызначэння і ідэнтыфікацыі выходзіць на першае месца або дамінуе, кожны чалавек вырашае самастойна. Хтосьці можа быць валонам, яўрэям, палешуком у першую чаргу, і толькі потым бельгійцам, французам або беларусам, хтосьці, наадварот, усведамляе сябе пераважна еўрапейцам і толькі ў сувязі з гэтым іспанцам або каталонцам, палякам або кашубам.

Гістарычна апісаныя тут еўрапейскія працэсы належаць да апошніх 50 — 60 гадоў. Гэтыя працэсы далёкія ад свайго завяршэння. Гэта значна менш за паўтара стагоддзя, на працягу якіх прадстаўнікі еўрапейскіх нацый вучыліся быць грамадзянамі сваіх нацыянальных дзяржаў. І, тым не менш, ужо зараз мы можам гаварыць пра тое, што ў Еўропе складваецца новы тып грамадзян і адносін грамадзянства і грамадзянскасці. Кажучы гэта, мы разумеем, што такі тып грамадзяніна і грамадзянскасці слаба пашыраны, ён суіснуе побач з папярэдняй грамадзянскай ідэнтычнасцю і, відаць, яшчэ доўга будзе суіснаваць. Бо і цяпер можна сустрэцца з асобнымі людзьмі, нават вялікімі групамі людзей, якія ўсведамляюць сябе хутчэй падданымі, чым грамадзянамі.

Станаўленне чацвёртага з апісаных намі тыпаў у цяперашні час толькі разгортваецца, а ў дзяржавах, створаных з аскепкаў былога СССР, яшчэ не скончыўся працэс станаўлення нацый, не кажучы ўжо пра грамадзянскую супольнасць. Цяжка за паўтара дзесяцігоддзя прайсці шлях, які іншыя праходзілі за паўтара стагоддзя. Усё гэта параджае дадатковыя праблемы і цяжкасці, якія можна ўмоўна падзяліць на дзве вялікія групы.

Першая група — гэта цяжкасці спазнення і адставання асобных нацый і культурных рэгіёнаў Еўропы, якія вымушаныя даганяць і гістарычна падстройвацца пад лідараў. З чатырох апісаных намі тыпаў грамадзяніна, грамадзянства і грамадзянскасці ў сучаснай Еўропе не сустракаецца, бадай, толькі квірыт. Сучасныя еўрапейскія народы сумяшчаюць у сабе тры тыпы або тры лады грамадзянскасці: падданства, нацыянальнае грамадзянства і еўрапейскае грамадзянства пры ўсёй умоўнасці апошняга і як тэрміна, і як з'явы. У розных рэгіёнах Еўропы камбінацыя гэтых трох тыпаў рэпрэзентаваная па-рознаму.

У краінах былога СССР, на Балканах значная частка насельніцтва адчувае сябе падданымі дзяржавы, у палітычным жыцці якой яны не могуць, не ўмеюць або не хочуць браць удзел. За іх ўсё вырашаюць бюракратыя і ўладныя эліты. Ні бюракратыю, ані эліты, ні нават імітацыйным шляхам абраных дэпутатаў падданыя не ўспрымаюць як сваіх прадстаўнікоў або як суб'екты, з якімі яны маглі б весці дыялог на роўных. Дзяржаўныя ўстановы, урадавая бюракратыя, а таксама ўладныя эліты ўспрымаюцца падданымі як крыніца сваіх правоў, прывілеяў або льгот.

Іншая справа — грамадзяне ў гэтых самых краінах, якія ідэнтыфікуюць сябе з нацыяй або грамадзянскай супольнасцю, разумеюць сябе як крыніцу суверэнітэту дзяржавы і крыніцу тых паўнамоцтваў, якімі надзеленыя ўрады і парламенты. Адпаведна, паміж той часткай насельніцтва, якая ўсведамляе сваё месца ў нацыі і дзяржаве ў катэгорыях падданства, і іншай часткай, якая ўсведамляе сябе грамадзянамі, нязменна ўзнікаюць напружанні, якія час ад часу перарастаюць у канфлікты. Добра, калі гэтыя канфлікты вырашаюцца палітычнымі сродкамі, калі суадносіны частак (падданых і грамадзян) дапускае разумны кампраміс. У гэтым выпадку нават спробы асобных палітыкаў выкарыстаць гэтую складаную сітуацыю ў сваіх эгаістычных інтарэсах не прыводзяць да катастрофы або гвалту.

У якасці яскравага прыкладу можна было б згадаць выпадак з Роландасам Паксасам у Літве. Паксас выйграў выбары, эксплуатуючы патэрналісцкія настроі літоўскіх падданых. І адразу ж

паспрабаваў абмежаваць грамадзянскія правы і палітычныя свабоды. Сфармаваная да таго часу грамадзянская супольнасць у Літве змагла дастаткова хутка адрэагаваць на небяспеку і ўрэгуляваць сітуацыю, застаючыся ў рамках Канстытуцыі. Іншы расклад сіл сустракаецца ў Беларусі, ва Украіне, каўказскіх дзяржавах і на Балканах. Інстытуты грамадзянскай супольнасці ў гэтых краінах вельмі слабыя. Большая частка насельніцтва ідэнтыфікуецца як падданыя, якія не ведаюць сваіх грамадзянскіх правоў і не ўмеюць імі карыстацца. Яны лёгка пагаджаюцца з самаўпраўнасцю дыктатуры ўзамен за эканамічныя ільготы або прывілеі. Часам у гэтых краінах сустракаецца квазісаслоўная арганізацыя грамадства. Ва ўсялякім выпадку, распаўсюджаныя з'явы этнічнай або канфесіянальнай дыскрымінацыі. Правы трактуюцца не ў грамадзянскім сэнсе, як тое, што робіць людзей роўнымі, а ў архаічным, амаль феадальным сэнсе, калі правы разглядаюцца як штосьці, што даруецца зверху або надаецца. Этнічныя, канфесіянальныя або сацыяльныя групы ў такіх краінах змагаюцца за нейкія асаблівыя правы для сябе, дамагаюцца нейкіх прывілеяў, але не за роўныя правы для ўсіх. Часам такія з'явы сустракаюцца ў краінах-удзельніцах Еўрасаюза, напрыклад, палітычныя паводзіны рускамоўнага насельніцтва Латвіі можна зразумець і патлумачыць такім чынам. Нават у старых чальцоў Еўразвязу ўльтраправыя або нацыяналістычныя групы час ад часу дзейнічаюць менавіта паводле такой логікі, дамагаючыся ці то асаблівых правоў для тытульнай нацыі, ці то абмежавання правоў меншасцей.

Адначасова з гэтым у краінах Еўрасаюза, а таксама ў краінах, якія прэтэндуюць або мараць пра ўваходжанне ў Еўрасаюз, з'яўляецца і пашыраецца пласт людзей з еўрапейскай ідэнтычнасцю, якія ўсведамляюць сябе грамадзянамі вялікай Еўропы і вучаюцца ўсё лепш і лепш карыстацца еўрапейскай інфраструктурай, актыўна ўдзельнічаючы ў еўрапейскіх інстытутах.

Другая група цяжкасцей — гэта цяжкасці, з якімі еўрапейцы сутыкаюцца ўпершыню. Яны выкліканы станаўленнем новага тыпу грамадзянства і грамадзянскасці. У перыяд нараджэння нацыянальных грамадзянскіх адносін правы чалавека ў адноснай

паўнаце рэалізаваліся толькі для грамадзян, і толькі грамадзяне ў рамках нацыянальнай дзяржавы маглі імі карыстацца, а неграмадзяне, так або інакш, сутыкаліся з абмежаваннямі правоў і свабод. На пачатак XXI ст. і правы чалавека, і правы грамадзяніна распаўсюджаныя фактычна на тое самае мноства людзей. Гэта прыводзіць, з аднаго боку, да аўтаномнасці і самадастатковасці правоў чалавека, а з іншага боку, да зместавага звужэння паняцця пра грамадзянства і грамадзянскія правы. Грамадзянскія правы рэдукуюцца да палітычных, і ў нейкай ступені акцэнт пераносіцца з правоў на палітычныя абавязкі. Рэалізацыя грамадзянскіх палітычных правоў робіцца вялікім цяжарам. Каб выбіраць мясцовыя ўлады, патрэбны адзін узровень ведаў і кампетэнцый, каб паўнавартасна ўдзельнічаць у палітычным жыцці на нацыянальным і еўрапейскім узроўні, выбіраць нацыянальныя і еўрапейскія ўлады, ды яшчэ і кантраляваць потым іх дзейнасць, неабходны іншы ўзровень ведаў і кампетэнцый. Паколькі гэтымі правамі карыстаюцца ўсе, то гэта зніжае якасць прадстаўнічай дэмакратыі, а таксама матывацыю грамадзянскага ўдзелу. Расце колькасць грамадзян, якія не разумеюць, не цямяць у тым, за што і за каго яны галасуюць і якім чынам іх галасаванне ўплывае на іх уласныя жыцці. Але зваротнай дарогі няма. Сёння ўжо нельга вярнуцца да цэнзаў і абмежаваць у грамадзянскіх правах тых або іншых людзей. Таму ўзрастае нагрузка на грамадзянскую адукацыю, а еўрапейскія інтэлектуалы заклапочаныя новым зместам грамадзянскай адукацыі і канцэптуалізацыяй паняццяў «грамадзянін» і «грамадзянскасць».

# Заканчэнне

Паданая тыпалогія грамадзянства і грамадзянскасці дазваляе не толькі атрымаць схему для аналізу рэальнай праблемнай сітуацыі ў сучаснай Еўропе і яе складніку — Беларусі. Яна неабходная дзеля канкрэтызацыі праблем, поспехаў і паражэнняў, дасягненняў і страт у рэалізацыі стратэгіі развіцця грамадзянскай супольнасці Беларусі, у мадэрнізацыі эканамічнай, палітычнай і культурнай галін. Сёння вельмі часта канктрэтыка падмяняецца абстрактнымі схемамі, некрытычна запазычанымі з досведу краін, сітуацыя у якіх цалкам іншая, чым у Беларусі. Калі краінам Заходняй Еўропы даводзіцца галоўным чынам вырашаць праблемы, якія спараджаюцца станаўленнем новага тыпу грамадзянскасці, то ў Беларусі справа ўскладняецца невырашанымі праблемамі папярэдніх тыпаў. Адны праблемы накладаюцца на іншыя. І справа не толькі ва ўскладненні і нагрувашчванні праблем, справа ў нераспрацаванасці паняццяў і ўяўленняў, у слабасці і неразвітасці гуманітарных ведаў і непадрыхтаванасці палітыкаў, менеджараў і спецыялістаў.

Метадалогія сацыяльных ведаў, атрыманая ў спадчыну ад гістарычнага і дыялектычнага матэрыялізму, навязвае прынцып заканамернасці і дэтэрмінаванасці гістарычнага развіцця. Але гісторыя не мае аб’ектыўнай дэтэрмінацыі. Фармацыі і тыпы грамадскага ладу не змяняюцца аўтаматычна пад уздзеяннем натуральных законаў. Яны змяняюцца намаганнямі людзей, якія разумеюць выклікі часу, мысляць канкрэтна або не разумеюць і дзейнічаюць на падставе агульных, абстрактных ўяўленняў.

У грамадзянскай адукацыі ў Беларусі мы сутыкаемся з тым, што вялікі аб’ём працы, велізарныя чалавечыя намаганні безвыніко-

выя, таму што накіраваны не на вырашэнне канкрэтных задач, а проста імітуюць досвед іншых краін або рэпрадукуюць старыя стэрэатыпы. Палітыкі, педагогі, трэнеры грамадзянскай адукацыі ў трэцім сектары дзейнічаюць без разумення канкрэтнай сітуацыі.

Тыпалогія, прапанаваная намі, паняцці і катэгорыі, якія мы распрацоўваем, не прызначаны для непасрэднай трансляцыі ў грамадзянскай адукацыі. Яны могуць быць выкарыстаныя дзеля мэтавызначэння, фармулёўкі задач у канкрэтных сітуацыях грамадзянскай адукацыі, у канкрэтныя прамежкі часу. Яны закліканыя трансфармаваць хаатычную, немэтанакіраваную дзейнасць трэцяга сектара ў грамадзянскай адукацыі ў праграмную і мэтанакіраваную. З іншага боку, яны супрацьстаўляюцца мэтанакіраванасці дзяржаўнай грамадзянскай адукацыі, якая транслюе архаічныя формы грамадзянскасці (падданства).

Дарэчы будзе тут нагадаць, што паняцці і катэгорыі дзейнічаюць не самі па сабе, а як інструменты, то бок тады, калі на іх падставе распрацаваны канкрэтныя навучальныя праграмы, методыкі, навучальныя дапаможнікі і калі ўся сістэма грамадзянскай адукацыі прыведзена ў адпаведнасць мэтам і ўстаноўкам, сфармуляваным і выведзеным з гэтых паняццяў і катэгорый.

Гэтая тыпалогія выкарыстоўвалася праектнай групай АГТ пры распрацоўцы канцэпцыі грамадзянскай адукацыі, стандартаў грамадзянскай адукацыі, навучальнага курса для трэнераў і арганізатараў на падставе гэтай канцэпцыі і навучальна-метадычнага комплексу. Яна дазволіла вызначыцца з перспектывамі і задачамі для развіцця зместу грамадзянскай адукацыі і яе арганізацыі ў кантэксце агульнай эвалюцыі грамадзянскасці.

У *кароткатэрміновай перспектыве* стаіць задача змяніць суадносіны пасіўных падданых з этатысцкімі і патэрналісцкімі ўстаноўкамі і людзей з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй да таго ўзроўню, каб грамадзянская супольнасць магла кантраляваць беларускую дзяржаву, падахвочваць яе дзейнічаць у агульнанацыянальных інтарэсах.

У *сярэднетэрміновай перспектыве* задачай грамадзянскай адукацыі ў Беларусі можа стацца забеспячэнне або навучанне

беларускіх грамадзян агульнаеўрапейскім каштоўнасцям, забеспячэнне еўрапейскай ідэнтычнасці беларусаў. На дадзены момант навучанне еўрапейскай ідэнтычнасці накладаецца на грамадзянскую пасіўнасць і вядзе не да пашырэння грамадзянскага ўдзелу, а насупраць, да спажывецкіх адносін.

*Лозунгам і каштоўнасцю* грамадзянскай адукацыі ў Беларусі ў *кароткатэрміновай перспектыве* можа і павінна стаць **беларусізацыя**, якая разумеецца як завяршэнне фармавання беларускай нацыі, пабудова сучаснай дзяржавы ў адпаведнасці з патрабаваннямі міжнароднай і, перш за ўсё, еўрапейскай супольнасці і абмежаванай моцнай і актыўнай грамадзянскай супольнасцю. Дзеля дасягнення гэтага разумення неабходная крытыка і дэмантаж распаўсюджанай трактоўкі беларусізацыі як сцісла нацыяналістычнага праекта, сканцэнтраванага на моўных, этнічных і культурных задачах.

*Лозунгам і асноўнай каштоўнасцю* беларускай грамадзянскай адукацыі ў *сярэднетэрміновай перспектыве можа* і павінна зрабіцца **еўрапеізацыя**, а менавіта дапаўненне грамадзянскай адукацыі ў рамках нацыянальнай дзяржавы чацвёртым з апісаных намі тыпам грамадзянскасці, далучэнне Беларусі да асноўных еўрапейскіх інстытутаў і праграм. Прычым не важна, які спосаб далучэння будзе абраны беларускай дзяржавай і грамадзянскай супольнасцю: уваходжанне ў Еўрасаюз ці падключэнне да еўрапейскіх інстытутаў і праграм так, як гэта робяць Швейцарыя або Нарвегія. Дзеля гэтага неабходныя крытыка і дэмантаж уяўленняў пра еўрапеізацыю як пра вестэрнізацыю, якая зводзіцца пераважна да заходніх стандартаў спажывання.

У *доўгатэрміновай перспектыве* беларуская нацыя і грамадзянская супольнасць нароўні з іншымі еўрапейскімі нацыямі і ў рамках агульнаеўрапейскай грамадзянскай супольнасці можа ўключыцца ў вырашэнне новых праблем і задач, якія да таго часу зробяцца актуальнымі. Але без вырашэння задач у кароткаі сярэднетэрміновай перспектыве гэта немагчыма.

# Змест

# Прадмова

Гэтая кніга разгортвае ідэі трох вялікіх гульняў, якія ладзіліся Цэнтрам сацыяльных інавацый і Агенцтвам гуманітарных тэхналогій у рамках рэалізацыі праграмы культурнай палітыкі. Пачатак быў пакладзены ў 2006 г. падчас арганізацыйна-дзейнаснай гульні «Ад агульных падстаў — да салідарных дзеянняў: праграма ўдзелу Беларусі ў працэсе еўрапейскай інтэграцыі», якая была арганізаваная пры садзеянні фонду «Erinnerung, Verantwortung und Zukunft» і ў супрацоўніцтве з Народнай школай Марыяшпрынг[47] (паблізу Гётынгена) у Германіі. У якасці працягу працы над тэмай была праведзеная канферэнцыя «Дэсаветызацыя і экран масавай грамадскай свядомасці ў Беларусі». У 2007 г. мы акцэнтавалі ўвагу на праблемах грамадзянскай адукацыі: у сакавіку адбылася арганізацыйна-дзейнасная гульня «Грамадзянская адукацыя: працяг ці пачатак», пасля якой сфармавалася Канцэпцыя грамадзянскай адукацыі і выйшла кніга «Станаўленне нацыі ў Беларусі: ад падданства да грамадзянства».

Наступным этапам стаўся зварот да праблем культуры і гісторыі. У 2010 г. адбылася чарговая арганізацыйна-дзейнасная гульня «Распрацоўка праграмных і стратэгічных прапаноў развіцця культуры Беларусі: ад дэсаветызацыі да еўрапеізацыі». Яна мела працяг у артэфактах featureзнага парадку. Гэтак, пасля гульні майстры культуры, якія ў ёй удзельнічалі, абвясцілі «Дэкларацыю адзінства культуры» (у пэўных колах яе пачалі называць «Гётынгенскім працэсам»). Пасля быў прачытаны курс публічных лекцыяў аб праб-

[47] Усе наступныя гульні таксама ладзіліся ў Народнай школе Марыяшпрынг (Германія).

лемах кіравання культурай і культурнай палітыкай. У той самы шэраг можна паставіць і гэтую кнігу.

На гульні 2006 г. для культурнай палітыкі сучаснай Беларусі была прапанавана формула «*дэсаветызацыя — беларусізацыя — еўрапеізацыя*». Нават у найбольш ідэалізаваным выглядзе гэтую формулу цяжка ўявіць як паслядоўнасць трох крокаў. Хутчэй за ўсё тры працэсы разгортваюцца аднachасова. Немагчыма адкладаць еўрапеізацыю да таго, як скончыцца дэсаветызацыя. Дый ці можа дэсаветызацыя ў аглядны час завершыцца цалкам і поўнасцю? Крок за крокам пераадольваючы спадчыну савецкай мінуўшчыны, мы разам з тым праводзім і беларусізацыю, і еўрапеізацыю. У кожным з гэтых працэсаў свой змест і свае праблемы. Але і пастаноўка праблемы, і спосабы іх вырашэння вызначаюцца не іманентным зместам працэсаў, а комплексам фактараў мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні. Складанасць палягае яшчэ і на тым, што мы нават не можам правесці дакладнай мяжы паміж мінуўшчынай, сучаснасцю і будучыняй. У чымсьці мы ўжо еўрапеізаваны, і будучыня прысутнічае тут і цяпер, у нечым яшчэ ў палоне савецкага, і таму мінуўшчына суіснуе разам з будучыняй.

Некалькі гадоў таму мы распачалі серыю кампактных кніг пад агульнай назвай «Беларусь для пачаткоўцаў». У задуме мелася на ўвазе, што «пачаткоўцы», якім мы адрасавалі кнігі, — гэта тыя, хто прыязджае на Беларусь і толькі пачынае з ёй знаёміцца. Таму кнігі выдаваліся адразу на дзвюх мовах — рускай і англійскай. Але пасля нам давялося пашырыць тлумачэнне слова «пачатковец». У нейкім сэнсе мы ўсе ў Беларусі — пачаткоўцы. Як толькі мы паглыбляемся ў пэўныя праблемы альбо тэмы, дык разумеем, як мала гэтыя тэмы прапрацаваны і на якіх дальніх подступах мы знаходзімся ў вырашэнні праблем, што стаяць перад намі. Таму адрасацыя кніг серыі «Беларусь для пачаткоўцаў» пашырылася. Цяпер яны прызначаны не толькі для тых, хто ўпершыню знаёміцца з краінай, але і тым, хто ў самой краіне далучаецца да вырашэння нацыянальных праблем.

Перыяд існавання незалежнай Беларусі мізэрны ў маштабах гісторыі — усяго толькі 20 гадоў. Мы ўсе пачаткоўцы. Пачаткоўцы

новага перыяду гісторыі краіны. І як усе пачаткоўцы, мы не заўсёды ўмеем рабіць тое, што павінныя, і бывае нават не ведаем, а што ж, уласна, мы павінныя рабіць. Тэма гэтай кнігі была сфармулявана ў дыскусіях з прадстаўнікамі сферы мастацтва і дзеячамі культуры пра еўрапейскія каштоўнасці, уключна з дэмакратычнымі свабодамі і правамі чалавека. Галоўнай праблемай дыскусіі сталася адаптацыя еўрапейскіх каштоўнасцей і тое, як гэта спалучаецца з развіццём уласна беларускай культуры. У пэўныя моманты дыскусіі каштоўнасці ды ідэалы беларусізацыі і еўрапеізацыі пачалі супрацьстаўляцца адно аднаму — ва ўсялякім выпадку, на ўзроўні індывідуальнага самавызначэння майстроў культуры. Беручы як абстрактныя беларусізацыю і еўрапеізацыю, кожны суб'ект беларускай культуры рашае сам для сябе, а што менавіта ён робіць у гэтых працэсах і які ў іх ягоны асабісты ўнёсак.

Аднаму з трох фундаментальных працэсаў у сучаснай Беларусі — дэсаветызацыі — у праграме нашых прац мы прысвяцілі канферэнцыю, аналізуючы ў тым ліку і ролю дзеячаў культуры. У гэтай кнізе мы засяродзімся толькі на еўрапеізацыі, а дакладней — на ролі, месцы і значэнні культурнага развіцця, а таксама дзейнасці прадстаўнікоў сферы культуры і мастацтва ў прамоцыі і замацаванні еўрапейскіх каштоўнасцей у сучаснай Беларусі. То бок тэма гэтай кнігі і праблемы, якія ў ёй уздымаюцца, знаходзіцца на скрыжаванні працэсаў еўрапеізацыі і беларусізацыі. Зразумела, ні сама тэма, ні закрананыя ў ёй праблемы не могуць быць вычарпаны адной кнігай. Мы ў самым пачатку працэсу. Мы самі пачаткоўцы і пішам для пачаткоўцаў.

Як і ўсялякая іншая, гэтая кніга мае аўтара, але тут яго аўтарства надзвычай умоўнае. Аўтар усяго толькі выказвае шэраг сваіх роздумаў над матэрыялам шматлікіх і шматгадовых дыскусій. Ён мог бы прызнаць сваімі суаўтарамі ўсіх супольнікаў па арганізацыйна-дзейнаснай гульні «Распрацоўка праграмных і стратэгічных прапаноў развіцця культуры Беларусі: ад дэсаветызацыі да еўрапеізацыі», а таксама сяброў метадалагічнага семінара Агенцтва гуманітарных тэхналогій, якія рыхтавалі гэтую гульню і ана-

лізавалі яе вынікі. Асноўным апанентам і крытыкам пры стварэнні кнігі была Таццяна Вадалажская. Кніга была б значна бяднейшай без матэрыялаў, падрыхтаваных аўтару Андрэем Ягоравым. Суаўтарамі можна назваць і нашых калегаў з Народнай школы Марыяшпрынг (яе кіраўніка Борхарта) і фонду «Erinnerung, Verantwortung und Zukunft», якія ўжо шмат год падтрымліваюць нас і спрыяюць працы над праблемамі дэсаветызацыі і еўрапеізацыі Беларусі. Такая колькасць суаўтараў зусім не азначае, што пададзеныя ў гэтай кнізе тэзісы і меркаванні падзяляюцца ўсімі ўдзельнікамі памянёных дыскусій. Гэтая кніга ўсяго толькі рэпліка, якая вымагае адказаў і працягу.

# Уводзіны. Гісторыя як культурная традыцыя: кантэкст і метадалагічныя рамкі дыскусіі

Спрэчкі пра беларускую культуру не сціхаюць цягам ўжо паўтара стагоддзя. У гэтых спрэчках культура разглядаецца і крытыкуецца з самых розных пазіцый і ў шматлікіх аспектах: ад анталагічнага пытання пра існаванне беларускай культуры як самастойнага феномена да тэхналагічных праблем кіравання культурай, вытворчасці і выкарыстання артэфактаў культуры. Асаблівае месца ў гэтых спрэчках займае пытанне пра родавую прыналежнасць беларускай культуры. Родавой у лагічным сэнсе, то бок пра суадносенне беларускай культуры з агульным цэлым. Тут сфармавалася некалькі канфліктных пазіцый, якія бывае перакрыжоўваюцца ў асобных аспектах, а часам катэгарычна абсалютызуюць адну з версій. Агучым некаторыя сярод іх, вылучаючы тыя, што маюць багатую традыцыю альбо знаходзяцца на этапе яе актыўнага фармавання. Дзве найбольш абгрунтаваныя пазіцыі далучаюць беларускую культуру альбо да еўрапейскай, альбо да расійскай родавай культуры, супрацьстаўляючы іх адна адной. Першая традыцыя апелюе да шматлікіх войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскім княствам, а пазней з Расіяй. У гэтым гістарычным працэсе падкрэсліваюцца агульныя з еўрапейскімі рысы і характарыстыкі беларускай гісторыі, палітыкі, мастацтва, грамадскага і побыта-

вага ўкладу. Альтэрнатыўная пазіцыя абапіраецца на традыцыі праваслаўя, моўнага падабенства, роднасныя сувязі прадстаўнікоў пануючага класа ды супрацьлеглую версію гісторыі, у якой згаданыя вышэй войны матываваліся вызваленнем беларусаў ад панавання польскіх і літоўскіх уладароў. Гэтыя дзве пазіцыі прадстаўленыя багатай навуковай і палемічнай літаратурай. У сярэдзіне кожнай з іх можна вылучыць як кампрамісныя, гэтак і радыкальныя плыні.

Апошнім часам распрацоўваюцца падыходы і пазіцыі, якія супрацьстаяць вышэйпамянёным. Так альбо іначай, яны сцвярджаюць тутэйшую ўнікальнасць і абгрунтоўваюць адрозненне беларусаў і беларускай культуры як ад еўрапейскай, гэтак і ад расейскай («крыўская» і «ліцьвінская» традыцыі, хаця адэпты гэтых кірункаў могуць і не пагадзіцца з нашай ацэнкай іх канцэптаў). Яны падкрэсліваюць адметнасць і аўтахтоннасць беларускай культуры ў больш ці менш радыкальным варыянце. Так, беларускую культуру адносяць да балцкай супольнасці альбо звязваюць паміж сабой славянскія ды балцкія характарыстыкі і ўзаемныя ўплывы ў фармаванні беларускай унікальнасці. Больш радыкальныя варыянты абгрунтоўваюць герметычную аўтахтоннасць ды поўную незалежнасць беларускай культуры і традыцыі ад усіх іншых супольнасцей.

Гэтая працяглая палеміка ўяўляе для нас цікавасць у некалькіх аспектах.

Першы аспект звязаны з працягласцю самой дыскусіі. Грамадскія дыскусіі часам доўжацца дзесяцігоддзямі, але калі за паўтара стагоддзя праблема не наблізілася да завяршэння, то гэта азначае, што яна не мае простага вырашэння, а таксама што паглыбленне і ўмацаванне аргументацыі прывесці да яе вырашэння не зможа. Працягла дыскутаваныя грамадскія праблемы вырашаюцца не перамогай аргументаў, а шляхам перафармулявання самой праблемы.

Другі аспект, які ўяўляе для нас цікавасць, звязаны з пошукам абгрунтаванняў і аргументаў ў мінулым. Тады як нам уяўляецца, што сама дыскусія і матывацыя апанентаў, якія ў ёй ўдзельнічаюць, мусіць быць скіравана на самавызначэнні і выбары шляхоў

развіцця, то бок на сучаснасць і будучыню. У гэтым сэнсе важна не столькі зразумець, чым і якой была беларуская культура ў мінулым, колькі звязаць гэтае мінулае з тым, якой ёй быць у будучыні.

Трэці аспект датычыць саміх удзельнікаў гэтай працяглай дыскусіі. На ўсіх яе этапах у ёй брала ўдзел невялікае кола прафесіяналаў — гісторыкі, пісьменнікі, філосафы, дзеячы культуры. Часам да яе далучаліся святары розных канфесій, радзей палітыкі, менеджары і спецыялісты ў галіне гуманітарных тэхналогій і практык. Найбольш адметны перыяд, калі палітыкі сталіся найбольш актыўнымі ўдзельнікамі гэтай дыскусіі, — гэта перыяд развалу Расійскай імперыі і спроба ўсталявання незалежнай беларускай дзяржаўнасці (БНР). Пасля таго, як гэтая спроба не спраўдзілася, палітыкі абмежаваліся прыняццем рашэнняў, што ўплываюць на культуру і культурнае жыццё, але мала цікавіліся ходам і зместам працягу дыскусіі ў асяродку пісьменнікаў і навукоўцаў. Другі перыяд актывізацыі палітыкаў прыпадае на 80-я — 90-я гг. XX ст., калі Беларусь сталася суверэннай дзяржавай, але гэтая актыўнасць не аслабіла дыскусіі, бо не наблізіла да вырашэння пастаўленых у ёй праблем. Чарговы ўсплёск характарызуе і сітуацыю пачатку XXI ст. Сама дыскусія ў гэты перыяд ускладняецца неабходнасцю геапалітычнага выбару.

Два дзесяцігоддзі існавання незалежнай беларускай дзяржавы найперш характэрныя тым, што Беларусь за гэты час не змагла вызначыцца з геапалітычным вектарам свайго развіцця. Не толькі розныя грамадска-палітычныя сілы арыентаваныя ў розныя кірункі (на саюз з Расіяй альбо збліжэнне з Еўрасаюзм), але і актуальная палітыка дзяржавы рэгулярна дэманструе змену арыентацыі. Пры гучных дэкларацыях «роднаснасці» з Расіяй і палітычнага саюзу з ёй беларуская знешняя палітыка нагадвае карабель пад ветразямі, які рухаецца галсамі. Пры гэтым агульны трэнд хутчэй аддаляе яго ад Расіі, хаця і не набліжае да Еўропы. Такая несамавызначанасць у актуальнай палітыцы тлумачыцца тым, што так і не было сфармуляванае аптымальнае рашэнне ў апісанай вышэй дыскусіі. Такое рашэнне, якое калі б і не вынайшла «ісціны», то хаця б магло быць пакладзеным ў падмурак рэальнай палітыкі.

У сваю чаргу, незавершанасць дыскусій пра культуру звязана з тым, што геапалітычны выбар не быў зроблены. Да таго ж, у тыя перыяды, калі Беларусь была ўсяго толькі правінцыяй Расійскай імперыі ці ўваходзіла ў склад СССР, ён уяўляўся калі не абстракцыяй дык вельмі аддаленай перспектывай. Таму можна было не спяшацца з самім выбарам, яго проста не было б каму рэалізоўваць. Цяпер Беларусь як геапалітыны суб'ект з'явілася, і адсутнасць самавызначэння істотна ўскладняе як існаванне ўсёй краіны, так і ўласна беларускай культуры. Прычым гэты суб'ект, то бок беларуская дзяржава, лёгка мог бы прыняць адзін з варыянтаў геапалітынага выбару, калі б гэты выбар быў забяспечаны грамадскай згодай, але праблема палягае менавіта ў тым, што ў грамадзянскай супольнасці Беларусі, у асяродку дзеячаў культуры і навукі і ў грамадскай свядомасці такой згоды няма. Таму далейшае зацягванне дыскусіі аб беларускай культуры і «вырашэнне» пытання пра яе родавую прыналежнасць у наш час мае не толькі акадэмічны характар і не можа быць справай адно гісторыкаў, філосафаў і дзеячаў культуры. Гэта праблема ўсяго грамадства ў цэлым.

Якога ўяўлення пра культуру мы б не прытрымліваліся, кожнаму зразумела, што ўсе падзеі ў культуры і з культурай вызначаюцца не толькі і не столькі аб'ектыўным яе станам, але і — у нашмат большай ступені — уяўленнем, рэфлексіяй ды інтэрпрэтацыяй носьбітаў гэтай культуры. Апошняе патрабуе ад нас звярнуцца да метаду інтэрпрэтацыі, рэфлексіі і ўяўлення грамадствам усяго, што звязана з культурай, традыцыяй і гісторыяй.

Адной з найбольш значных прастораў, у якіх адбываецца рэфлексія і асэнсаванне беларускай культуры, ёсць гісторыя. Сучасная гістарычная навука ў Беларусі — прастора канфліктаў і спрэчак, у якіх удзельнічаюць не толькі спецыялісты (навукоўцы-гісторыкі), але і палітыкі, ідэолагі, грамадзянская супольнасць. Гісторыя Беларусі сёння не проста пішацца, але перапісваецца, і мы вымушаныя з гэтым лічыцца. Праўда, сама канстатацыя гэтага факта палохае перш за ўсё тым, што перапісванне гісторыі адсылае нас да досведу таталітарнай мінуўшчыны. У Савецкім Саюзе гісторыя бясконца перапісвалася пад непасрэдныя ідэалагічныя мэты і за-

дачы. Дагэтуль у акадэмічнай навуцы Беларусі актыўна дзейнічаюць тыя, хто добра спрычыніўся да савецкай практыкі перапісвання гісторыі. Большасць сучасных беларускіх гісторыкаў адмаўляецца ад падобнага, але і яны вымушаны перапісваць гісторыю. Хаця у гэтым перапісванні яны ўжо кіруюцца этасам навукоўца-гісторыка, які разумеецца як неабходнасць аднавіць аб'ектыўную гістарычную карціну і замяніць ёю перакручаную «ідэалагічную» візію краіны. Але этас навукоўца-гісторыка (які імкнецца да аб'ектыўнай праўды) уваходзіць у супярэчнасць з практыкай гістарычных даследаванняў, што рэалізуюцца носьбітамі гэтага этасу.

Гэтая супярэчнасць палягае на тым, што гісторыя пішацца і перапісваецца, і ў гэтым перапісванні ўдзельнічаюць розныя пакаленні гісторыкаў. Прыхільнікі савецкай версіі гісторыі Беларусі дакараюць новае пакаленне даследчыкаў у тым самым, у чым новае пакаленне дакарала іх, — у перакручванні гісторыі. Што можа гарантаваць аб'ектыўнасць і праўдзівасць гістарычнай карціны? Гэтае пытанне зрушвае праблему ў плоскасць крытыкі гістарычнага метаду, але ў дадзеным тэксце недарэчна разгортваць яго паўнавартасную крытыку[48]. Мы абмяжуемся тут толькі канстатацыяй агульных прынцыпаў адносна гісторыі, гістарычнай навукі і гістарычнага абгрунтавання ў вырашэнні праблем культуры і геапалітычнага выбару. Гэта прынцыпы, якія ствараюць рамкі для гістарычных апеляцыяй і працы з гістарычным матэрыялам, што прэзентуюцца ў дадзенай кнізе.

Першы прынцып. Гістарычныя факты і падзеі мы абавязаныя ўспрымаць як аб'ектыўную рэальнасць, аднак пры гэтым памятаць, што гістарычная навука займаецца *выяўленнем* гэтых фактаў і падзей. Яна выяўляе факты паводле паказанняў сведкаў, ускосных прымет, матэрыяльных альбо іншых доказаў. *Неабходна адрозніваць аб'ектыўнасць фактаў (гістарычных фактаў і падзей) і аб'ектыўнасць гістарычнай навукі, якая ёсць дзейнасцю*

[48] Усе крытычныя адсылы ў галіну гістарычнай навукі, якія тут падаюцца, ужо даўно сталіся распаўсюджанымі ў сучаснай метадалогіі гісторыі, аднак у Беларусі яны яшчэ не агульнапрынятыя з увагі на шэраг прычынаў — *заўвага навук. рэд.*

*па выяўленні гэтых фактаў*. Аб'ектыўнасць дзейнасці пралягае на выкананні законаў доказу, аспрэчвання і сумневу. Да фактаў мы ставімся аб'ектыўна, а да гістарычнай навукі мы ставімся як да дзейнасці па выяўленні гэтых фактаў, а не як да каталога, збору фактаў. Гістарычная навука — гэта барацьба доказаў і аспрэчванняў наяўнасці альбо адсутнасці фактаў, а не самі факты. Таму перапісванне гісторыі палягае не на адмене альбо прыдумванні фактаў, а на доказах аспрэчванняў, сумневах, высоўванні гіпотэз, пошуку новых доказаў.

Другі прынцып. Нават даказаныя гістарычныя факты не змяшчаюць самі ў сабе дзейнасных ацэнак гэтых фактаў. Можа быць з дастатковай ступенню пэўнасці выяўлены факт вайны на нейкай тэрыторыі ў канкрэтным годзе, але характар (вызваленчы альбо захопніцкі) гэтай вайны не мае аб'ектыўных параметраў і можа быць сфармуляваны толькі па-за гістарычнай навукай. Статус перамогі альбо паражэння ў вайне трапляе ў зону гістарычных інтэрпрэтацый, а не аб'ектыўнага зместу. Перапісванне гісторыі, пры якім адныя факты ўлічваюцца, а іншыя замоўчваюцца, — гэта недапушчальна. Але ж *перапісванне гісторыі больш чым дарэчнае ў інтэрпрэтацыях характару ды значэння гэтых выяўленых фактаў*.

Трэці прынцып. Перапісванне гісторыі не заўсёды ёсць заменай адной сістэмы інтэрпрэтацый на іншую. Падчас перапісвання магчымы паўтарэнні, у радыкальным варыянце перапісванне можа быць капіраваннем. Тое агульнае, што ёсць у розных версіях ды інтэрпрэтацыях гісторыі, становіцца традыцыяй. Гісторыя, выяўленая ў розных версіях, прэзентуе сабой сукупнасць традыцый, якія вызначаюць культуру народа і нацыі. Такім чынам, *пісаная і перапісаная гісторыя ў адным модусе свайго існавання выступае як навука, а ў іншым — як зафіксаваная культурная традыцыя*.

Чацверты прынцып. *Гісторыя як культурная традыцыя апрача фактаў і інтэрпрэтацый уключае сістэму ацэнак*. Фактам, падзеям, гістарычным персанажам надаюцца ідэйныя, ідэалагічныя, этычныя і эстэтычныя сэнсы ды адзнакі. Нейкія падзеі ідэа-

лізуюцца і нават сакралізуюцца, гістарычныя дзеячы і персанажы гераізуюцца ці дэманізуюцца. Часцей за ўсё гісторыя перапісваецца менавіта з мэтай пераацэнкі і перагляду гэтых кампанентаў. Гісторыя як навука ў меншай ступені схільная да змен, а гісторыя як аснова культурнай традыцыі — у большай ступені.

Пяты прынцып. Аб'ектыўнае значэнне і нават аб'ектывізаваныя інтэрпрэтацыі таго альбо іншага гістарычнага факта ў малой ступені змяняюцца пры паўтарэнні гэтага факта ў розных тэкстах. Але для фарміравання культурнай традыцыі колькасць паўтарэнняў адыгрывае надзвычай істотную ролю. Гістарычны факт не змяняе свайго аб'ектыўнага статуса нават калі ён становіцца зместам мастацкага твора, і практычна ніяк не залежыць ад эстэтычных вартасцей. *А вось для фармавання і трансляцыі культурнай традыцыі эстэтычнае і эмацыянальнае ўздзеянне мастацкага твора альбо мастацкай інтэрпрэтацыі можа мець вырашальнае значэнне.*

Шосты прынцып. Прафесійныя навукоўцы-гісторыкі, заангажаваныя ў перапісванне гісторыі, не ёсць адзінымі актыўнымі ўдзельнікамі гэтага працэсу. *Працэс перапісвання гісторыі базуецца на навуковых даследаваннях і пошуках, але большай часткай складаецца з папулярных, адукацыйных, палемічных ды публіцыстычных тэкстаў. Цэнтральнае месца ў гэтым працэсе надаецца мастацкім творам ды інтэрпрэтацыям.*

Такім чынам, разгортванне дыскусіі пра культуру і геапалітычны выбар, а тым больш дасягненне грамадскай згоды па гэтым пытанні патрабуе не толькі гістарычных пошукаў. Яны даюць ўсяго толькі аб'ектывізаваны змест. Неабходна арганізацыя інтэрпрэтацыі, ацэнкі і пераацэнкі выяўленых фактаў у грамадскай камунікацыі, уключэнне іх у культурны працэс. Таму праблему мы бачым найперш у тым, як арганізавана грамадская камунікацыя па гэтых пытаннях, дзе ў ёй знаходзяць свае месца і прызначэнне яе ўдзельнікі — дзеячы культуры, гісторыкі, палітыкі, навукоўцы і г. д. Адна з галоўных перашкод, што замінае нармальнай арганізацыі гэтай камунікацыі, палягае ў скажоных уяўленнях пра культуру і культурны працэс, пра магчымасці кіравання апошнім і пераацэнцы каштоўнасцей, пра месца і значэнне мастацтва ў гэтых працэсах.

У дадзенай працы мы будзем імкнуцца актуалізаваць уяўленні пра культуру, якія здольны запусціць рэфлексію не толькі яе аб'ектыўнага зместу, але і рэфлексію дзейнасці, найперш дзеячаў мастацтва і культуры, іх месца і прызначэння ў культурным працэсе і грамадскай дыскусіі.

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая прысвечаная ўяўленням пра культуру, а другая — пытанням аднаўлення еўрапейскай гісторыі Беларусі.

# Як адказваць на пытанні гісторыі і практыкі ў культуры? Уяўленні пра культуру і культурны працэс

*Што можна аднесці да культуры, альбо лагічны аб'ём паняцця «культура». Пераацэнка каштоўнасцей: маральнае права і грамадская практыка. Ці можна пра каштоўнасці спрачацца і дамаўляцца? Аргументы мастацтва ў культурнай камунікацыі. Мастацкая творчасць і камунікацыя: бар'еры і стэрэатыпы. Рацыяналізацыя творчасці, альбо ці можна замовіць натхненне?*

Праблемнасць і вастрыня сучаснага стану беларускай культуры могуць быць зафіксаваны ў наступных канкрэтных пытаннях: «Якую гісторыю трэба выкладаць беларускім дзецям: з савецкіх падручнікаў, з падручнікаў першых гадоў незалежнасці альбо з падручніка Трашчанка[49]?; «Ці забяспечаныя роўныя ўмовы для беларускай і рускай мовы ў краіне, калі Канстытуцыя прадугледжвае дзве дзяржаўныя мовы, і не робіцца ніякіх адрозненняў да патрабаванняў адносна іх выкарыстання?; «75% беларускай музыкі ў эфіры — добра гэта ці дрэнна?» — і г. д. Але тут дзеля разгорт-

[49] Якаў Трашчанок — аўтар падручніка для вышэйшых навучальных установ «Гісторыя Беларусі. У 2-х частках», які з 2003 г. пачаў актыўна ўводзіцца ва ўсе навучальныя ўстановы гістарычнага профілю. Прыклад надзвычай тэндэнцыйнага абыходжання з гістарычным матэрыялам.

вання сваіх меркаванняў пра культуру мы абмяжуемся адным наіўным пытаннем: «Навошта і чаму разбураюцца архітэктурныя помнікі і ці з'яўляецца гэта праявай безкультур'я?» Разбурэнне архітэктурнай спадчыны ёсць актуальнай праблемай не толькі сённяшняга дня, яна доўжыцца на Беларусі цягам некалькіх стагоддзяў. Адказ на гэтае пытанне можна не шукаць глыбей XVIII ст. альбо эпохі Асветы. Да гэтай эпохі помнікі архітэктуры разбураліся, можна сказаць, натуральным шляхам — і сіламі прыроды, і з удзелам людзей, але іх адказнасць ў тыя часы павінна абмяркоўвацца ў іншых катэгорыях, чым пасля эпохі Асветы.

Вылучаная эпоха становіцца для нас мерай адліку таму, што гэта пара, калі катэгорыя культуры была адрэфлексаваная і сфармуляваная ў значэнні, блізкім да сучаснага. Нельга ставіцца да нечага як да культурнай спадчыны, калі адсутнічае паняцце культуры[50]. Пры яго адсутнасці збудаванні і рэчы ўспрымаюцца проста як чыясьці ўласнасць. Адпаведна, і ставяцца да іх толькі як да прадметаў уласнасці. Да пэўнай пары ўладальнікі на ўласны капыл перабудоўвалі палацы і дамы, якія ім належалі, замкавыя муры сярэднявечных гарадоў разбіраліся на будаўнічыя матэрыялы паводле таго як страчвалі сваё абарончае значэнне. І толькі дзеячы эпохі Асветы навучыліся бачыць у рэштках старажытнага нешта, што ўяўляе самастойную вартасць, зразумелі іх культурны сэнс і значэнне. Хаця разбурэнне і перабудова з дасягненнем такога разумення яшэ не спыніліся (натуральна, мы не разглядаем экстрэмальныя выпадкі ваенных дзеянняў альбо рэвалюцыяў). Напэўна, можна абгрунтаваць меркаванне, што постсавецкія і сучасныя разбуральнікі архітэктурных збудаванняў не маюць паняцця пра культуру, а таму жывуць па-за ёю, але ж гэта вельмі сумнеўнае меркаванне. Бо разбурэнне помнікаў часцей за ўсё ўплецена ў нейкую дзейнасць — гаспадарчую альбо палітычную. А любая дзейнасць

[50] Паняцце культуры ў тым выглядзе, у якім яно было сфармулявана ў эпоху Асветы, фармавалася на працягу больш як трох стагоддзяў асэнсавання і рэфлексіі, пачынаючы ад захаплення спадчынай класічнай старажытнасці сярод італьянскіх гуманістаў ранняга Адраджэння і заканчваючы Гердэрам ды Гётэ, якія пераадолелі светапогляд класіцызму.

адбываецца не сама па сабе, яна нармаваная культурай. Таму больш імаверным выглядае меркаванне, што разбурэнне ёсць таксама праявай культуры альбо сутыкненне, вайна культур.

Пры такім разуменні мы павінны гаварыць пра культуру ў множным ліку, то бок пра культуры, якія сутыкаюцца на адной прасторы — часавай, сацыяльнай і г. д. Калі гэта так, то нельга спыніць разбурэння помнікаў простым заклікам да культуры альбо выхаваннем разбуральнікаў. Іх неабходна разглядаць як людзей пэўнай культуры, а з гэтага вынікае, што папярэдзіць разбурэнне помнікаў можна толькі шляхамі, якія абапіраюцца на ўяўленне аб множнасці культур. У пошуку гэтых больш складаных шляхоў мы павінны звярнуцца да крытыкі, пераасэнсавання і дабудовы паняцця культуры. Наперад толькі варта абмовіцца, што гэтае пераасэнсаванне палягае ў рамках праблемы сутыкнення культур. Апошняе азначае, што нам патрэбны такія ўяўленні пра культуру, у якіх будуць не проста тлумачэнні і апісанні паўсталай сітуацыі, але і магчымыя вырашэнні акрэсленых праблем.

Уяўленні пра культуру як важны інструмент, які арганізуе нашае мысленне і нашы практычныя захады ў сферы культуры, сталіся адным з галоўных пытанняў на арганізацыйна-дзейнай гульні «Распрацоўка праграмных і стратэгічных прапаноў развіцця культуры Беларусі: ад дэсаветызацыі да еўрапеізацыі»[51]. Цягам тыдня шырокае кола заангажаваных у праблемы культуры ўдзельнікаў гульні аналізавалі прынцыповыя магчымасці і канкрэтныя дзеянні

---

[51] Арганізацыйна-дзейнасная гульня «Распрацоўка праграмных і стратэгічных прапаноў развіцця культуры Беларусі: ад дэсаветызацыі да еўрапеізацыі» адбылася 17 — 21 траўня 2010 г. у Германіі, у Народнай школе Марыяшпрынг. У гэтай гульні бралі ўдзел дзеячы культуры Беларусі, крытыкі, мастакі, прадстаўнікі грамадскіх культурных аб’яднанняў і кампаній. Гульня праводзілася Цэнтрам сацыяльных інавацый і Агенцтвам гуманітарных тэхналогій; кіраўнік гульні — У. Мацкевіч.

Падрабязныя матэрыялы пра гульню можна знайсці на сайце http://www.methodology.by (http://www.methodology.by/index.php?option=com_content&task=blogcategory&id=37&Itemid=78).

ў сферы кіравання культурай. Было закранута шмат аспектаў і пытанняў, аднак далёка не ўсе яны атрымалі станоўчае вырашэнне. Таму ўзнятыя тэмы і праблемы знайшлі свой працяг ў серыі публічных лекцый і чакаюць наступных дыскусій. Мы не разлічваем тут прэзентаваць сістэматызаваную версію найбольш слушных «уяўленняў пра культуру». Па-першае, гэтага не дазваляе фармат кнігі, а па-другое, тыя ўяўленні, да якіх мы апелюем, знаходзяцца ў стане фармулявання і развіцця. Яны ўзнікаюць як вынік дыялогаў, роздумаў, спроб «тут і цяпер» знайсці адэкватныя адказы на складаныя комплексныя пытанні, у якіх цесна пераплецены лагічныя, аксіялагічныя, прагматычныя ды іншыя аспекты.

З гэтага мы вырашылі, што найбольш адэкватнай формай аналізу і абмеркавання ўяўленняў пра культуру, што дазваляюць вырашаць актуальныя праблемы, будзе дыялог, які закранае найбольш вострыя і важныя пытанні і аспекты. Удзельнікамі дыялогу будуць «Аўтар» і «Крытык». Аўтар з пазіцыі культурнага палітыка разгортвае свае ўяўленні, прапануе адказы на пытанні, пастулюе і сцвярджае. Крытык, адпаведна, спраўджвае гэтыя уяўленні з дапамогаю логікі, сумняецца і крытыкуе.

***

**Аўтар:** У абранай намі тэме гэтак шмат пытанняў і аспектаў, якія датычаць праблем культуры наогул і беларускай культуры ў прыватнасці, што валаводзіцца з усім гэтым можна доўгія гады. Таму калі мы пачынаем высвятляць што тут да чаго, дык найперш нам давядзецца сябе неяк абмежаваць.

***Крытык:** Зразумела, давядзецца. На гульні пытанні ўсплывалі, але не атрымлівалі развіцця, кожны казаў пра тое, што ведае і разумее, а праблемы — гэта тое, чаго мы не ведаем і не разумеем. Як жа мы можам з незразумелым паразумецца?*

**Аўтар:** А чаму не можам? Нават у гульні па некаторых пытаннях мы змаглі паразумецца. Толькі давай не будзем ставіць перад сабой недасяжных мэт. Будзем разбірацца толькі з тым, з чым не можам не разбірацца. Будзем гаварыць адно пра тое, пра што немагчыма маўчаць.

***Крытык:*** *Давай паспрабуем, хаця я сумняваюся, што мы зможам утрымацца ў гэтых рамках.*

**Аўтар:** А што нам перашкаджае абмежавацца колам пытанняў, звязаных, да прыкладу, з праблемай помнікаў Леніну: зносіць іх альбо пакідаць на ранейшых месцах?

***Крытык:*** *І якое дачыненне гэта мае да праблем культуры?*

**Аўтар:** Мне падаецца — наўпроставае. Хіба ж помнікі на вуліцах гарадоў — гэта не творы мастацтва? Хіба ж гэта не частка культуры? Хіба ж гэта не мае дачынення да гістарычнай і культурнай памяці?

***Крытык:*** *Вось менавіта. Калі гэта творы мастацтва — тады навошта іх зносіць? А калі гэта толькі ідэалагічныя аб'екты, то якое дачыненне яны маюць да культуры і мастацтва? Трэба раздзяляць пытанні палітычныя і пытанні культуры. Пытанні культуры — гэта пытанні эстэтычнай і мастацкай вартасці, гармоніі з навакольным асяроддзем і г. д. А знос помнікаў — палітычнае дзеянне, і грунтуецца ён далёка не на культурных аргументах.*

**Аўтар:** То бок ты хочаш сказаць, што можна паказаць на нейкую рэч пальцам і дакладна вызначыць, культура гэта альбо не культура? Мастацтва альбо не мастацтва?

***Крытык:*** *Я як раз хачу сказаць наадварот: немагчыма адназначна сказаць, што мае дачыненне да культуры, а што не мае, што ёсць твор, а што — не. Звычайна, калі патрабуюць зносу помнікаў, не разбіраюцца ў тым, гэта твор мастацтва альбо халтура. А трэба разабрацца: калі гэты твор мае дачыненне да культуры — то знасіць нельга.*

**Аўтар:** А я прапаную знесці ўсё. Пры гэтым я разумею, што сярод гэтага ўсяго будуць і творы мастацтва, і звычайныя падробкі. Але ж усё гэта культура. І ўсталяванне помнікаў на нашых вуліцах, і іх знос — усё гэта культурныя падзеі.

***Крытык:*** *Вось як! То бок ты ведаеш, што такое культура?*

**Аўтар:** Ды хто ж гэтага не ведае?

***Крытык:*** *Як раз у гэтым я і маю сумнеў. Пра культуру так шмат і такога featureнага сказана! Таму я думаю, што не можа быць нейкага адзінага паняцця «культура».*

**Аўтар:** Значыць, з гэтым і неабходна разбірацца перадусім.

## Што можна аднесці да культуры, альбо Лагічны аб'ём паняцця «культура»

**Аўтар:** Культура настолькі добра знаёмае ўсім слова і настолькі ўжытковае ў тэкстах і мове паняцце, што гэтая ўсюдыіснасць злосна з яго пакпіла. Звычайны чытач, слухач альбо тэлеглядач рэагуе на слова «культура» асацыятыўна. І першая асацыяцыя, якая прыходзіць да галавы, звязаная з мастацтвам. Сапраўды, большасць згадак пра культуру датычыць розных відаў і жанраў мастацтва. Хаця і іншыя выкарыстанні тэрміна «культура» не ёсць рэдкасцю. Напрыклад, культура побыту, культура вытворчасці, палітычная культура. І звычайна ў канкрэтнай сітуацыі паняцце «культура» абмяжоўваецца адной сферай дзейнасці альбо чалавечых стасункаў. А нас цікавіць нацыянальная культура без падзелу на сферы і галіны. Але ж «непадзеленая» не азначае «неабмежаваная». Катэгорыя культуры мае настолькі агульны характар і лагічны аб'ём, што калі ўжываць яе без абмежаванняў, дык з прычыны сваёй універсальнасці яна становіцца беззмястоўнай і губляе сэнс.

***Крытык:*** *Слушна. Беззмястоўнай і бессэнсоўнай. Калі культурай называць ўсё запар, дык у гэтым няма ніякага сэнсу.*

**Аўтар:** Мы будзем называць культурай толькі тое, што <u>транслюецца і рэалізуецца, то бок рэпрадукуецца ў дзейнасці і чалавечых стасунках</u>.

***Крытык:*** *На першы погляд гэта не супярэчыць усяму таму, што кажуць пра культуру іншыя аўтары, якія не лакалізуюць яе ў нейкай адной сферы, напрыклад, у мастацтве. Аднак што азначае акцэнт на трансляцыі і рэалізацыі ды чалавечых стасунках?*

**Аўтар:** Ён азначае, што ўва ўсіх аб’ектах, якія можна аднесці да сферы альбо прасторы культуры, мы мусім вылучыць тое, што з’яўляецца трансляваным і рэалізаваным зместам. Такім зместам ёсць нормы, узоры, эталоны і прататыпы — узоры прыгажосці, нормы паводзінаў, прататыпы сацыяльных інстытутаў і г. д.

Разглядаючы нейкую рэч, напрыклад, твор мастацтва альбо атрыбут старажытнага побыту, мы бачым у іх культурны змест, які ёсць нечым дадатным стасоўна ўтылітарных функцый гэтых рэчаў. Напрыклад, абраз ў сялянскай хаце мае цалкам розны культурны змест для яе гаспадароў і для мастацтвазнаўцаў альбо краязнаўцаў. У норме жыцця вяскоўцаў у хаце маецца пэўнае месца (покуць), дзе павінен быць абраз. І яны, у прынцыпе, гатовыя замяніць пачарнелую «дошку» на новую друкарскую выяву святога. А вось для мастацтвазнаўцы ці краязнаўцы абраз ёсць узорам пэўнай тэхнікі жывапісу альбо побыту папярэдняй эпохі.

***Крытык:*** *Атрымліваецца, што вясковец і мастацтвазнавец у тых самых рэчах бачаць разны культурны змест.*

**Аўтар:** Дакладна. І гэты змест часам настолькі розны, што спараджае культурныя канфлікты. Сутыкненне розных культурных зместаў з асаблівым напружаннем праяўляецца ў дачыненні архітэктурнай спадчыны, калі старыя пабудовы не ўпісваюцца ў новую норму арганізацыі гарадскога побыту і гарадскога асяроддзя.

***Крытык:*** *Такім чынам, зместам культуры ёсць не рэчы як такія, не падзеі, не людзі, а толькі тое, што звязана з імі, што транслюецца і рэалізуецца — нормы, эталоны, прататыпы, узоры дзейнасці, увогуле дачыненні чалавека да навакольнага свету, сябе і людзей, якія ўвасоблены альбо зафіксаваны ў гэтых рэчах, падзеях і людзях. Я слушна разумею?*

**Аўтар:** Так. Менавіта так. Не рэчы. А тое, што па-за рэчамі.

***Крытык:*** *Але як толькі мы ставім такія абмежаванні для вызначэння зместу культуры, якія апелююць да дзейнасці чалавека (нехта транслюе, нехта рэалізуе), то прастора культуры адразу становіцца полем сутыкнення ўстановак, перакананняў, мэт і да т. п. Гэта відавочна і ў пададзеным прыкладзе, і*

*знаёма нам з уласнага досведу. Пры гэтым мы прызвычаіліся мець дачыненне да культуры як да чагосьці, што захоўвае свой статус незалежна ад канкрэтнай сітуацыі. Культура як «схарон». Гэткае стаўленне да культуры слушнае ці не?*

**Аўтар:** Вылучэнне дачыненняў трансляцыі і рэалізацыі, якія абмяжоўваюць сферу культуры, схіляюць да думкі, што ва ўяўленнях пра культуру неабходна развесці два розных модусы, альбо выявы, існавання гэтай задзіночанасці.

З аднаго боку, да нормаў, узораў і эталонаў мы ставімся безацэначна, яны існуюць і ёсць тымі альбо іншымі паводле свайго зместу. Такімі яны паўстаюць ва ўсведамленні культуры, у мысленні пра яе. Мы можам апісаць і каталагізаваць тыя ці іншыя сукупнасці нормаў як існуючыя.

***Крытык:*** *Існуючыя аб'ектыўна?*

**Аўтар:** Так, аб'ектыўна, гэта анталогія культуры.

Але ў кожнай канкрэтнай гістарычнай сітуацыі нормы, узоры ды эталоны існуюць яшчэ і ў іншым модусе. Яны паўстаюць як ідэалы і каштоўнасці. Апрача свайго непасрэднага зместу яны набываюць аксіялагічнае значэнне. Нейкая з нормаў прызнаецца ідэалам, а нейкая нагружаецца адмоўным зместам. Таму ў канкрэтнай гістарычнай сітуацыі дзеля таго, каб быць рэалізаванымі ў жыцці, нормы, узоры і эталоны патрабуюць ацэнкі ды інтэрпрэтацыі. Таму што ў самой канкрэтнай сітуацыі яны могуць існаваць толькі як каштоўнасці і як ідэалы.

***Крытык:*** *То бок апрача анталогіі культуры, мы маем справу яшчэ і з аксіялогіяй культуры. Анталогію, альбо аб'ектыўны змест культуры, мы можам апісваць і даследаваць, а што мы можам рабіць з аксіялогіяй?*

**Аўтар:** Практычна тое ж самае, толькі ўжо іначай.

Вартасці бываюць адмоўнымі, ідэалы чужымі — нявартаснымі для канкрэтнай культуры. Разбуральнікі помнікаў разумеюць, што яны разбураюць каштоўнасці культуры. Але ж для іх гэта адмоўныя ўзоры — узоры іншай культуры. Таму на месцы гэтых

помнікаў яны ўсталёўваюць нешта сваё, паводле ўласных нормаў, у адпаведнасці са сваімі каштоўнасцямі ды ідэаламі. У змаганні за захаванне альбо разбурэнне культурнай спадчыны мы бачым сутыкненне не проста нормаў і ўзораў, але нормаў і ўзораў у выглядзе каштоўнасцей ды ідэалаў. З гэтага, дзеля вырашэння практычных праблемаў абмяркоўваць даводзіцца не толькі каштоўнасці ды ідэалы, але таксама працэсы ацэньвання ды інтэрпрэтацыі, якія ляжаць у аснове гэтай з'явы культуры.

І тады дыскусіі аб праблемах культуры не могуць абмяжоўвацца даследаваннямі і абмеркаваннямі ў навуковым жанры, у абстрактнай манеры, падобнай да этнаграфічнага апісання і даследавання. Нельга аддзяляць культуру і творы мастацтва ад палітыкі ды ідэалогіі. Кожны ўдзельнік культурных дыскусіяў знаходзіцца ў канкрэтнай гістарычнай сітуацыі і так альбо іначай заангажаваны ў яе. Яго заангажаванасць можа быць апісаная структурай яго каштоўнасцей ды ідэалаў.

***Крытык:*** *Калі ў кожнай канкрэтнай сітуацыі мы сустракаемся з культурай у выглядзе каштоўнасцей ды ідэалаў, якія да таго ж сутыкаюцца адно з адным, дык ці можна наогул казаць пра «культуру» як цэласнасць, пра культуру ў адзіночным ліку?*

**Аўтар:** У паняцце культуры мы ўключаем толькі тое, стасоўна чаго слушныя абодва гэтыя дачыненні — трансляцыя і рэалізацыя. Гэта азначае, што аднойчы рэалізаванае мы не можам разглядаць як культуру, калі яно не транслюецца і не гатовае быць рэалізаваным у іншай сітуацыі альбо ў іншы час. Дакладна гэтак сама ў аб'ём паняцця «культура» не трапляе тое, што толькі транслюецца, але не рэалізуецца. Супрысутнасць, альбо камплексаванне, у паняцці культуры двух розных па сваёй сутнасці стасункаў — трансляцыі і рэалізацыі — надае культуры дынамічны характар. І статус самога існавання культуры становіцца дваістым. Гэтая дваістасць добра бачная, напрыклад, праз артыклі англійскай мовы — «a culture» і «the culture». Стасоўна трансляцыі мы можам казаць пра ўсю культуру як адзіную, выкарыстоўваючы «культуру» як катэгорыю, што не мае множнага ліку. А вось стасоўна рэалізацыі — наадварот. Тут мы ніколі не кажам пра адзіную

і цэласную культуру, паколькі ў кожным разе маем дачыненне да адной са шматлікіх магчымых культур. Транслюецца адзіная, а рэалізуецца адна са шматлікіх. І ў гэтым палягае ўнутраная супярэчнасць паняцця культуры (у яе анталагічным сэнсе), якая ёсць падставай яе дынамізму і развіцця.

***Крытык:*** *Адна са шматлікіх культур за кожным разам рэалізуецца ў канкрэтнай сітуацыі, то бок у пэўным месцы і ў пэўны час. На гэтае месца і час можа прэтэндаваць некалькі са шматлікіх культур — комплексу нормаў, эталонаў ды ўзораў. І аб'ектыўны змест культуры не дае нам ніякіх крытэрыяў, каб аддаць перавагу таму альбо іншаму комплексу нормаў перад якімсьці іншым.*

**Аўтар:** Менавіта так. Аб'ектыўнае ўяўленне пра культуру не дазваляе нам аддаць перавагу адной норме альбо ўзору перад іншай нормай ці ўзорам. Крытэрыі перавагі трэба шукаць у аксіялагічным модусе культуры. Пры любым выбары перавага аддаецца каштоўнасцям ды ідэалам, якія прызнаюцца безумоўна (г. зн. абсалютна і без абмовак) пазітыўнымі.

***Крытык:*** *Аднак ці ёсць каштоўнасці ды ідэалы безумоўна пазітыўнымі альбо негатыўнымі? Бо нормы, прататыпы і ўзоры становяцца каштоўнасцямі ды ідэаламі толькі ў выніку ацэнкі. А значыць, у якасці каштоўнасцей ды ідэалаў яны абумоўленыя працэдурай ацэнкі і не ёсць безумоўнымі, а, наадварот, фармуюцца ў выніку дыскусіі, камунікацыі, канвенцыі.*

**Аўтар:** Абсалютызацыя нормаў, узораў, эталонаў дапушчальная толькі ў іх безацэначнай форме, у трансляцыі. А вось у рэалізацыю нават абсалютызаваныя нормы, узоры і эталоны трапляюць праз працэдуру ацэньвання, дасягненне грамадскай згоды і канвенцыі. Выбар той з культур, якая будзе рэалізаваная «тут і цяпер», непасрэдна звязаны з працэсам і працэдурай ацэньвання, ператварэння агульных нормаў і эталонаў ва ўласныя каштоўнасці ды ідэалы. І гэты выбар робіцца па-за культурнай прасторай, ці, дакладней, ён робіцца не ўнутры саміх нормаў і ўзораў, што прэтэндуюць на рэалізацыю, а ў рамках «трэцяй» культуры.

***Крытык:*** *Слушна ў тэорыі. А як гэта можа быць на практыцы?*

**Аўтар:** Уявім канкрэтны прыклад. Скажам, мяркуецца будаўніцтва новага храма праваслаўнай царквы. Паводле якіх узораў і прататыпаў яе будаваць? Архітэктурныя традыцыі ВКЛ шмат у чым адрозніваюцца ад традыцый праваслаўнай архітэктуры Маскоўскага княства альбо Візантыі. Ці можна аддаць перавагу адной з традыцый (назавем іх дзеля прастаты нацыянальнымі культурамі), застаючыся ўнутры саміх нацыянальных культур, дзе іншая традыцыя ўяўляецца як некультурная. У сучасным свеце падобныя пытанні звычайна вырашаюцца праз выйсце з архітэктурна-канфесійных нормаў і прататыпаў у нормы палітыкі, у нормы рэалізацыі агульных справаў. У сферы палітыкі існуе некалькі спосабаў вызначэння і надання статусу ідэала тым альбо іншым узорам і прататыпам. Адзін з іх — колькасць прыхільнікаў той ці іншай традыцыі і вырак на карысць большасці. Іншы спосаб — сілавы, альбо ўладны. Яго версіяй можна лічыць пажаданне спонсара ці інвестара будаўніцтва. І трэці, «культурна-палітычны» спосаб, калі перавага і вартасць вызначаюцца не працягам і рэпрадукцыяй той альбо іншай традыцыі, а антыцыпацыяй будучыні.

У кожным з гэтых спосабаў вырашэння архітэктурна-канфесійнага пытання ўблытаная палітыка, якая, як любая дзейнасць, рэалізуе нейкія нормы, узоры і прататыпы, то бок можа і павінна сама разглядацца як культура. Гэтая трэцяя культура — палітычная — уключае ў сябе і тыя, паводле якіх адбываецца «ацэньванне», дыскусія і канвенцыя з нагоды прызнання тых альбо іншых узораў і прататыпаў у якасці ідэалаў у канкрэтнай сітуацыі.

***Крытык:*** *Дапусцім, што мы прымаем комплексны характар культуры альбо нормаў, узораў, прататыпаў і эталонаў, якія існуюць у трансляцыі і рэалізацыі. З аднаго боку, як нормы і эталоны, культура абсалютная, як узоры і прататыпы — безумоўная. Але ж калі тыя самыя нормы, эталоны, узоры і прататыпы выступаюць як каштоўнасці ды ідэалы, культура, наадварот, выяўляецца нечым абумоўленай і магчымая толькі праз прагаворванне, а затым дасягненне згоды і канвенцыі.*

*Але нават такой комплекснасцю не вычэрпваюцца ўсе складанасці і праблемы культуры, тым больш калі мы кажам пра кіраванне культурай.*

**Аўтар:** Што ты маеш на ўвазе?

## Пераацэнка каштоўнасцей: маральнае права і грамадская практыка

***Крытык:*** *Калі каштоўнасці ды ідэалы не ёсць абсалютамі, а абумоўленыя камунікацыяй і ўзаемадзеяннем паміж людзьмі, дык нам трэба разабрацца з дачыненнямі паміж аксіялогіяй — з аднаго боку, этыкай і правам — з другога, а таксама рацыянальнасцю, крытыкай і логікай — з трэцяга. Пытанне можа быць пастаўлена наступным чынам: ці можам мы ўплываць на каштоўнасці ды ідэалы і змяняць іх, то бок ці даступныя каштоўнасці рацыянальным дачыненням і лагічнаму спарадкаванню? Ці маем мы маральнае альбо нейкае іншае права змяняць каштоўнасці? Ці мы можам іх толькі апісваць і даследаваць, амаль як аб'ектывізаваныя нормы, узоры і эталоны? Няхай сабе і крыху інакш, аднак не пераступаючы за межы навуковага метаду. Навука апісвае і даследуе свет, але не стварае і не змяняе яго. Нават калі гэта свет культуры. Бо не будзем жа мы рэгламентаваць мастака, якімі нормамі і эталонамі ён мае кіравацца?*

**Аўтар:** Так, рэгламентаваць не будзем. А вось з правам уплываць на каштоўнасці ды ідэалы і змяняць іх усё крыху больш складана.

У сучасным свеце да ідэалаў і каштоўнасцей ставяцца з вялікім піетэтам, вызнаючы іх прыватнай справай кожнага чалавека — таму ўмяшальніцтва ў сферу каштоўнасцей лічыцца заганай. Але ж так было не заўсёды. Сучаснае стаўленне склалася ў выніку працяглага змагання за індывідуальныя свабоды, за эмансіпацыю і аўтаномію асобы. Гэтую барацьбу адначасна распачалі гуманісты эпохі Адраджэння і пратэстанты, што змагаліся за свабоду сумлення. Пасля сюды дадаліся рухі за сацыяльную, расавую і гендарную роўнасць. У канчатковым выніку цывілізацыйнае развіццё прывяло

да пастулявання недатыкальнасці правоў чалавека, асобы і індывідуальнасці, ядром якіх і ёсць сістэма каштоўнасцей ды ідэалаў. Сёння гэтая аўтаномія і недатыкальнасць гарантуюцца ўсім дэмакратычным сацыяльным ладам. А ўмяшальніцтва ў сферу каштоўнасцей ды ідэалаў, ідэалагічны кантроль лічацца праявай таталітарызму і прызнаюцца недапушчальнымі ў цывілізаваным свеце. Да таго ж, паліткарэктнасць бароніць такі парадак перад крытыкай.

Тым не менш, на досвітку еўрапейскай цывілізацыі, у сакратычных школах, у прыватнасці, кінікамі, ставілася задача пераацэнкі каштоўнасцей. Напярэдадні XX ст. тую самую задачу вырашаў Ніцшэ.

***Крытык:*** *Можна было б пагадзіцца з апошнім. У пэўным сэнсе менавіта пераацэнкай каштоўнасцей у XX ст. займаліся найбольш уплывовыя філасофскія і светапоглядныя рухі, у прыватнасці, марксізм і псіхааналіз. Твар сучаснага свету сфармаваўся ў выніку гэтых ініцыятыў па пераацэнцы каштоўнасцей. Дарэчы, пераацэнку звычайна ладзілі розныя радыкальныя сілы, а супрацьстаялі ім кансерватары. Ці значыць гэта, што пераацэнка каштоўнасцей ёсць пэўнай палітычнай ідэалогіяй?*

**Аўтар:** Я далёкі ад думкі, што недатыкальнасць стасоўна каштоўнасцей характарызуе толькі кансерватыўны і рэтраградны светапогляд, а імкненне да іх пераацэнкі ёсць прэрагатыва рэвалюцыйных радыкалаў. Недатыкальнасць каштоўнасцей і абарона іх ад крытыкі стасуецца і з традыцыяй лібералізму, які ахоўвае індывідуальную свабоду, то бок характарызуе хутчэй левы спектр грамадскай думкі.

Таксама не магу пагадзіцца з тым, што пераацэнка каштоўнасцей характэрная толькі для таталітарных грамадстваў. Наадварот, менавіта дэмакратычныя дзяржавы, свабодныя і адкрытыя грамадствы ў XX ст. паспяхова практыкавалі пераацэнку каштоўнасцей у змаганні з дыскрымінацыяй і сегрэгацыяй усіх тыпаў. У сучасным грамадскім парадку нейкім дзіўным чынам ужываюцца і суіснуюць установка на недатыкальнасць індывідуальных каштоўнасцей ды ідэалаў і практыка іх масавай пераацэнкі. Гэтая

практыка настолькі інтэнсіўная, што ў XX ст. цягам жыцця аднаго-двух пакаленняў мяняліся найбольш фундаментальныя сістэмы каштоўнасцей, якія ў мінулым здаваліся непарушнымі. Найбольш яскравымі прыкладамі такой практыкі ёсць дэнацыфікацыя Германіі, пераадоленне сегрэгацыі паводле расавай прыметы і расізму ў масавай свядомасці ЗША, адмаўленне ад апартэіду ў ПАР, мінімізацыя маскулiннага характару еўрапейскай культуры, змена стаўлення да нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Усё гэта — пераасэнсаванне і пераацэнка нормаў, эталонаў і прататыпаў сацыяльнага ладу і індывідуальных паводзін, якія прызнаюцца ў якасці каштоўнасцей ды ідэалаў.

***Крытык:*** *Атрымлiваецца, што практыкі пераацэнкі каштоўнасцей у дэмакратычных і таталітарных грамадствах розняцца не паводле наяўнасці ці адсутнасці такіх практык, а паводле сродкаў і метадаў іх рэалізацыі — паводле нормаў ды ўзораў кожнай з гэтых палітычных культур.*

**Аўтар:** Адважымся выказаць меркаванне, што кіраванне сферай каштоўнасцей ды ідэалаў у таталітарных грамадствах пераважна рэалізуецца праз сілавыя спосабы ўлады, у тым ліку праз сістэму адукацыі, манапалізаваныя СМІ і ўніфікацыю ладу жыцця. А вось у дэмакратычных краінах не менш эфектыўна пераацэнка каштоўнасцей адбываецца праз камунікатыўныя практыкі і сродкамі культуры (у вузкім сэнсе). Пры гэтым сістэма адукацыі і свабодныя СМІ ўключаныя ў пераацэнку каштоўнасцей як інфраструктура камунікацыі, а не як сродкі рэалізацыі ўлады.

***Крытык:*** *Такім чынам, права на пераацэнку каштоўнасцей у кожнай з палітычных культур абумоўлена тымі механізмамі ды інструментамі рэалізацыі гэтага права, якія прызнаюцца справядлівымі і слушнымі. Тады было б не лішне асобна разгледзець спецыфіку палітычнай культуры і нормаў пераацэнкі каштоўнасцей у пераходных грамадствах раўнуючы з грамадствамі з даўнімі дэмакратычнымі традыцыямі.*

**Аўтар:** Так. У кожным дэмакратычным грамадстве існуюць і ўдзельнічаюць у палітыцы (а значыць, і ў працэдурах ацэньвання ды інтэрпрэтацыі) носьбіты таталітарнага светапогляду. Стаў-

ленне да такіх палітычных сіл істотным чынам адрозніваецца ў пераходных грамадствах і ў грамадствах з даўнімі дэмакратычнымі традыцыямі. У пераходных грамадствах бывае што нават даводзіцца забараняць таталітарна арыентаваныя партыі і адхіляць ад удзелу ў культурна-палітычным працэсе харызматычных лідараў, якія імкнуцца да рэстаўрацыі таталітарызму. У грамадствах з усталяванымі традыцыямі дэмакратыі ў гэтым няма неабходнасці. Да забароны таталітарных партый і лідараў у пераходных грамадствах падштурхоўвае не толькі рэальная небяспека рэстаўрацыі таталітарызму, але і тое, што такога роду забарона паказвае грамадству на неабходнасць перагляду сістэмы каштоўнасцей.

***Крытык:*** *Мы пачалі размову з тэмы разбурэння помнікаў архітэктуры і культурнай спадчыны. Давай паспрабуем высветліць гэтыя адрозненні на прыкладах захавання альбо разбурэння помнікаў.*

**Аўтар:** Таталітарныя рэжымы нават за кароткі тэрмін свайго існавання пакідаюць мноства помнікаў, істотна змяняюць культурны ландшафт гарадоў, прадукуюць велізарную колькасць твораў мастацтва. Перад дэмакратычна арыентаванымі рэжымамі, што прыходзяць ім на змену, паўстае праблема захавання альбо разбурэння таталітарнай культурнай спадчыны. Для постсавецкіх грамадстваў гэта ператвараецца ў вельмі канкрэтныя пытанні: зносіць альбо пакідаць помнікі Леніну, якім творам у школьнай праграме аддаваць перавагу і да т. п. Усе гэтыя пытанні маюць комплексны характар — гэта адначасова пытанні палітыкі, эстэтыкі, эканомікі, і ў кожным разе гэта пытанні культуры.

***Крытык:*** *Прыхільнікі захавання спадчыны таталітарнай мінуўшчыны даволі часта настойваюць на яе эстэтычнай і культурнай вартасці і апелююць да гістарычнай памяці, зважаючы, што нельга перапісваць гісторыю і выкрэсліваць з яе нейкія старонкі, каб дагадзіць сучаснай палітычнай кан'юнктуры.*

**Аўтар:** Так. У гэтым сэнсе ў пераходным грамадстве складваецца патавая сітуацыя. Дысідэнты і супернікі таталітарных рэжымаў у барацьбе за захаванне культурнай гістарычнай спадчыны,

якая разбураецца таталітарнымі рэжымамі, выпрацавалі сістэму аргументацыі і адпаведную рыторыку. У сітуацыі пераходу да дэмакратычнага ладу гэтымі самымі аргументамі пачынаюць карыстацца прыхільнікі рэстаўрацыі таталітарызму. З гэтага праблема пачынае выглядаць далёка не адназначнай і становіцца цяжка вырашальнай. Змагары за захаванне культуры, за аб'ектыўную гісторыю, не скажоную таталітарнымі ідэолагамі павінны альбо прыняць усе аргументы, што вяртаюцца ім іх апанентамі, альбо адмовіцца ад абсалютызацыі сваіх аргументаў і прызнаць уласную рыторыку ўсяго толькі часткова слушнай ці сітуацыйнай.

***Крытык:*** *І што нам рабіць у такім выпадку?*

**Аўтар:** Гэтая праблема становіцца прынцыпова вырашальнай, калі мы не забудземся на дваісты характар культуры, пра што была гаворка вышэй. Мы можам пагадзіцца з недатыкальнасцю ці захаваннем і трансляцыяй аб'ектыўнага і абсалютнага ў культуры, то бок узораў, прататыпаў і эталонаў. Але ж мы павінны дамовіцца наконт змены іх канвенцыйнага зместу, сэнсу і статусу. То бок аб'екты культуры павінны быць пераацэнены, мусіць быць зменены іх статус і сэнс ідэалаў.

***Крытык:*** *Але тады нам неабходна вярнуцца да акрэсленых вышэй дачыненняў паміж аксіялогіяй і логікай, крытыкай, рацыянальнасцю. Ці магчыма дамовіцца пра каштоўнасці? Ці падлягаюць каштоўнасці рацыяналізацыі? Ці спрачаюцца пра каштоўнасці?*

## Ці можна пра каштоўнасці спрачацца і дамаўляцца

**Аўтар:** Мы зыходзім з прынцыповага меркавання, што змена сэнсу і каштоўнаснага статусу таго, што транслюецца і рэалізуецца, не проста магчыма, але магчыма якраз на рацыянальных падставах і менавіта праз камунікацыю. Гэта азначае, што пра каштоўнасці трэба і можна гаварыць і дамаўляцца. Пра каштоўнасці спрачаюцца! Каштоўнасці ды ідэалы змяняюцца ў працэсе

камунікацыі. Дакладней, могуць змяняцца, а значыць, могуць і не змяняцца.

**Крытык:** *Калі гэта так, то мы абавязаны знайсці адрозненні паміж камунікацыяй, у якой каштоўнасці ды ідэалы мяняюцца, і камунікацыяй, у якой каштоўнасці не мяняюцца. Дакладна гэтаксама мы павінны паразумецца і з рацыянальнасцю. Якое месца і ролю мае рацыянальнасць у камунікацыі, што змяняе каштоўнасці?*

**Аўтар:** Так, і нашыя пошукі адказаў на гэтыя пытанні будуць разгортвацца вакол дзвюх катэгорый — рэфлексіі і мастацтва.

Забягаючы наперад, вызначымся, што толькі рэфлексійная камунікацыя вядзе да змены каштоўнасцей ды ідэалаў. Дакладней, рэфлексійнасць у камунікацыі — неабходная ўмова пераацэнкі каштоўнасцей ды ідэалаў, але наўрад ці дастатковая. Дастатковасць у такой камунікацыі дасягаецца сродкамі мастацтва. У мастацтве, у сваю чаргу, нам неабходна адрозніць ірацыянальныя і рацыянальныя кампаненты.

**Крытык:** *Хацелася б аналізаваць гэтую праблему не абстрактна, а на прыкладах культурна-гістарычных прэцэдэнтаў.*

**Аўтар:** Добра. Дзеля гэтага мы звернемся да трох персанажаў беларускай гісторыі: Язафата Кунцэвіча, Тадэвуша Касцюшкі і Фелікса Дзяржынскага. Але ж спачатку паспрабуем адказаць на больш агульныя пытанні па-за межамі беларускай гісторыі і культуры. Успомнім адзін з найстаражытных твораў еўрапейскага мастацтва — эпічную паэму пра вайну ахейцаў з траянцамі «Іліяду», якая прыпісваецца Гамеру. Паводле «Іліяды» ды гістарычных звестак, якія ў нас маюцца, Троя (альбо Іліён) была разбурана ахейцамі, аднак не ўсе траянцы загінулі — некаторым удалося ацалець. А цяпер ўявім, што эпас пра пагібель Троі склалі б выжыўшыя траянцы, а не рапсоды ахейцаў. Як у гэтым эпасе былі б прадстаўленыя асноўныя героі — Адысей, Патрокл і Гектар, Ахілес і Парыс?

**Крытык:** *Зразумела, часцей за ўсё эпасы складаюць пераможцы, а не выжыўшыя пераможаныя.*

**Аўтар:** Гэтаксама можна ўявіць апісанне разбурэння Ерусаліма і палаeconненне іўдзеяў вачыма вавілонскіх паэтаў. Відавочна, што

аб'ектыўны гістарычны змест напісаных пэўнымі аўтарамі твораў і ўяўленых намі ад імя іх апанентаў, павінен быць тым самым. А вось каштоўнасць перамог і паражэнняў, ацэнка самой падзеі як перамогі ці паражэння, характарыстыка дзеючых асобах як герояў ці злодзеяў былі б рознымі. Абапіраючыся на відавочнасць уяўнага, вернемся да рэальных персанажаў беларускай гісторыі. Гістарычная біяграфія Язафата Кунцэвіча ў савецкіх падручніках і жыціе ўніяцкага святога, пакутніка Язафата Кунцэвіча, зусім па-рознаму ацэньваюць факт яго забойства жыхарамі Віцебска. Але ж у трансляцыю трапляюць не толькі факты жыцця і смерці Кунцэвіча, але і ўяўленне пра яго як пра святога альбо як пра здрадніка. Яшчэ больш складаная сітуацыя з двума іншымі персанажамі. Жыццё і дзейнасць беларускага шляхціца Тадэвуша Касцюшкі самым непасрэдным чынам адбіліся на гістарычным лёсе беларускага народа, але помнікі яму ўсталяваны ў Польшчы, ЗША, Францыі — дзе заўгодна, толькі не на Беларусі. Факты пра дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі транслююцца ў беларускіх падручніках гісторыі, але ў беларускім мастацтве ён амаль адсутнічае як гераічны персанаж ды ўзор дзеля пераймання. Затое мы маем лічы супрацьлеглую сітуацыю з Феліксам Дзяржынскім, беларускім палякам паводле паходжання, якога зусім не паважаюць у Польшчы. Разбурэнне помніка Феліксу Дзяржынскаму сталася адной з вызначальных падзей пераацэнкі каштоўнасцей у Маскве падчас перабудовы, а вось ў Беларусі і сёння ёсць горад Дзяржынск. А вуліцы яго імя і помнікі яму захаваліся шмат у якіх беларускіх гарадах і мястэчках.

***Крытык:*** *Амаль усе старажытныя народы ўдзельнічалі ў розных войнах і бітвах, пеpажылі захопы і разбурэнні гарадоў, перамогі і паражэнні. Кожнае, нават найменшае племя ў рэальнай гісторыі мела волатаў і ваяроў, падобных да Ахіла ці Гектара. Але ад большасці з іх не засталося ніякай памяці. Яны не сталі ні прататыпамі нацыянальнага характару, ні ўзорамі для пераймання ў наступных пакаленнях.*

**Аўтар:** Каб Ахіл зрабіўся такім узорам, а іншыя персанажы «Іліяды» ды «Адысеі» сталіся прататыпамі нацыянальнага харак-

тару грэкаў, спатрэбілася гераізацыя гэтых персанажаў сродкамі мастацтва. Герояў «Іліяды» ды «Адысеі» пераймалі шматлікія пакаленні грэчаскіх юнакоў. І нават пазней, калі на арэне сусветнай гісторыі з'явіліся рымляне, яны адчулі на сабе ўплыў грэчаскай культуры, і для іх героі «Іліяды» станавіліся кумірамі. Яны ўбіралі грэчаскія ўзоры, эталоны і нормы паводзін як свае каштоўнасці ды ідэалы. Аднак пакрысе сітуацыя змянялася, адбывалася дэвальвацыя старых каштоўнасцей, патрабаваліся новыя ідэалы. Рымская культура і мастацтва гатовыя былі прапанаваць іх, аднак трэба было нешта рабіць з трансляцыяй старых каштоўнасцей, паколькі творы Гамера заставаліся хрэстаматыйнымі для адукаваных рымлян. Таму спатрэбілася «Энеіда» Вергілія, якая выбудавала сродкамі мастацтва міфалогію паходжання рымлян ад траянцаў, што засталіся ў жывых. Праз «Энеіду» запускалася рэфлексія каштоўнасцей ды ідэалаў гамераўскага эпасу, ішла іх пераацэнка. У выніку на месцы старых ідэалаў усталёўваліся новыя, замест былых герояў і ўзораў для пераймання прапанаваліся новыя героі ды ўзоры.

***Крытык:*** *Як усё памянёнае дапамагае нам разабрацца ў тым, якая камунікацыя дазваляе пераацэньваць каштоўнасці, а якая не? Імаверна, неабходна адмыслова абумовіць пэўныя параметры камунікацыі, у якой адбываецца пераацэнка каштоўнасцяў.*

**Аўтар:** Агучаныя прыклады сведчаць, што такая камунікацыя мае гістарычнае вымярэнне, і рэплікамі ў ёй (аргументамі, тэзісамі, довадамі) служаць навуковыя вынаходніцтвы, творы мастацтва, палітычныя захады і г. д. Пры пэўнай генералізацыі мы можам прэзентаваць усю гісторыю як камунікацыю, прысвечаную пераацэнцы каштоўнасцей. Гэта істотна разумець, калі мы ставім перад сабой задачы пераацэнкі каштоўнасцей, а значыць, і арганізацыі камунікацыі. Важна, што гэта не нейкае лакальнае «мерапрыемства», у выніку якога мы дасягаем згоды. Далей пачынаюцца дзеянні па рэалізацыі дасягнутых дамоў. Культурная камунікацыя, у якой адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, — гэта працэс, у якім мы жывем і дзейнічаем, дзе ў крайнім выпадку, кожны крок можа выглядаць як аргумент «за» альбо «супраць» прызнання тых ці іншых нормаў і ўзораў у якасці каштоўнасцей ды ідэалаў.

***Крытык:*** *Наступнае пытанне — гэта пытанне рэфлексійнасці камунікацыі. Лёгка сказаць, што праз «Энеіду» запускалася рэфлексія каштоўнасцей ды ідэалаў гамераўскага эпасу. А што забяспечвае рэфлексійнасць? Бо не ўсялякую камунікацыю можна ахарактарызаваць як рэфлексійную.*

**Аўтар:** Напэўна, не кожную. Камунікацыя можа быць і не рэфлексійнай. У апісаным выпадку важна было, каб «Іліяда» (і папярэднія героі ды ідэалы) не знікла з культурнага ўжытку, а засталася прысутнічаць у агульнай прасторы разам з «Энеідаю». Толькі ў гэткім разе сам факт пераацэнкі каштоўнасцей становіцца не толькі відавочным, але і трапляе ў камунікацыю, робіцца яе атрыбутам. А рэплікі ў гэтай камунікацыі бяруцца з улікам таго, што гэта камунікацыя дзеля пераацэнкі, то бок рэплікі ды аргументы падаюцца асэнсавана.

## Аргументы мастацтва ў культурнай камунікацыі

***Крытык:*** *Аднак вернемся да яшчэ адной заяўленай катэгорыі, без якой немагчыма разглядаць культурны працэс і пераацэнку каштоўнасцей, — катэгорыі «мастацтва». На прапанаваным раней прыкладзе дэманструецца роля твораў мастацтва ў гэтым працэсе. Але ж гэты прыклад не дазваляе меркаваць пра неабходнасць альбо межы ўключэння мастацтва ў апісаныя вышэй працэсы. Ці магчыма дасягнуць гэткага самага эфекту пераацэнкі каштоўнасцей не сродкамі мастацтва, а нейкімі іншымі?*

**Аўтар:** Пытанне застаецца адкрытым нягледзячы на шматлікія спробы вырашыць падобнага роду задачы без мастацтва. Гісторыкі, археолагі могуць па-рознаму апісваць Траянскую вайну і нават сумнявацца ў тым, ці мела яна наогул месца. Але ж гістарычныя апісанні паводле моцы ўздзеяння непараўнальныя з паэзіяй міфаў «Іліяды», «Адысеі» ды «Энеіды».

***Крытык:*** *Тады давай зноў звернемся да персанажаў беларускай гісторыі. Значэнне паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша*

*Касцюшкі дастаткова добра прааналізавана ды апісана ў гістарычнай навуцы. Аднак высвятляецца, што польская і расійская інтэрпрэтацыі гісторыі радыкальна адрозніваюцца адна ад другой.*

**Аўтар:** Фармальна можна меркаваць, што версія беларускіх гісторыкаў, якая адрозніваецца ад польскай і расійскай, знаходзіцца ў тым самым шэрагу і раўнапраўная. Але ж гэта ілюзія. Беларуская версія гісторыі раўнапраўная з польскай ды расійскай толькі ў той частцы культуры, якая палягае на абсалютызаванай і аб'ектывізаванай форме трансляванага і рэалізаванага. Аднак яна не можа быць пастаўленая ў адзін шэраг у сэнсе транслюемых каштоўнасцей ды ідэалаў. Вобраз нацыянальнага героя Польшчы Тадэвуша Касцюшкі апеты ў розных жанрах мастацтва, транслюецца сродкамі мастацтва як ідэал і нават рэалізуецца праз сістэму адукацыі і выхавання, калі дзецям і падлеткам патрэбны ідэалы і ўзоры дзеля пераймання. Зразумела, што для расійскай культуры Тадэвуш Касцюшка не ёсць ні героем, ні ідэалам. У расейскай версіі гісторыі гераізаваная фігура Аляксандра Суворова, які задушыў паўстанне і вызваленчы рух на Беларусі-Літве ды ў Польшчы. Але пакаленні будучых беларускіх афіцэраў выхоўваюцца ў сувораўскіх, а не ў касцюшкаўскіх вучылішчах. У беларускім мастацтве герой Тадэвуш Касцюшка практычна адсутнічае, а Аляксандр Сувораў, калі і не з'яўляецца папулярным персанажам, дык ўсё ж прэзентуецца ў ім выключна ў якасці станоўчага героя. Непадалёку ад радзімы Касцюшкі размешчаны музей Суворава, куды арганізуюцца экскурсіі беларускіх школьнікаў, тады як Касцюшка не мае ні музею, ні помніка. Параўноўваючы транслюемы змест культуры ў аб'ектыўных формах з трансляцыяй у форме каштоўнасцей ды ідэалаў, мы бачым, што рэалізацыйны эфект транслюемых каштоўнасцей ды ідэалаў у шмат разоў большы за трансляцыю аб'ектывізаванага зместу.

***Крытык:*** *Цяжка спрачацца з тым, што перададзены ў каштоўнасцях ды ідэалах змест становіцца больш важкім аргументам у камунікацыі, чым аб'ектывізаваны змест. Да таго ж мы разумеем, што ідэалы і каштоўнасці лепш за ўсё выяўляюцца*

*праз творы мастацтва. Але тут паўстае пытанне пра рацыянальныя і ірацыянальныя кампаненты культурнай камунікацыі. Рэплікі мастацтва ў камунікацыі па пераацэнцы каштоўнасцей важкія, аднак наколькі яны могуць быць прадуманымі, рацыянальнымі? Наколькі такая камунікацыя можа быць кіраванай?*

**Аўтар:** Так, рэалізацыйны эфект мастацтва часцей за ўсё асацыюецца з нерэфлексійнымі характарыстыкамі ды атрыбутамі вытворчасці і спажывання прадметаў, рэчаў мастацтва. Нерацыянальнымі альбо ірацыянальнымі лічацца талент і натхненне творцаў, катарсіс і экстаз спажыўцоў. Разам з тым рацыянальная па сваёй прыродзе ёсць праца мастакоў і паэтаў над матэрыяламі і сюжэтамі твораў. Рацыянальнай ёсць праца чытача і гледача па параўнанні розных твораў, па крытыцы саміх твораў, па пераглядзе свайго стаўлення да гістарычных падзей, герояў і г. д.

Трэба меркаваць, што старажытныя рымляне зусім іншым чынам чыталі «Іліяду» Гамера да таго, як Вергілій у «Энеідзе» «растлумачыў» ім, што яны ёсць нашчадкамі траянца, горад якога быў разбураны героямі «Іліяды». Пасля «Энеіды» рымляне чыталі «Іліяду» нашмат больш рэфлексійна.

***Крытык:*** *Рэфлексійнае ды, адпаведна, рацыянальнае стаўленне, якое ўзнікае ў выніку ўключэння ў камунікацыю твораў мастацтва, мы ўжо абмяркоўвалі. Відавочна таксама, што і тэхніка стварэння твора мастацтва падлягае рацыянальнаму прачытанню, але гэта непасрэдна не звязана з удзелам дзеячаў культуры і творцаў у камунікацыі па пераацэнцы каштоўнасцей. То бок іх унёсак і эфект вялікі, але рацыянальны складнік датычыць не самога ўнёску ці ўдзелу, а тэхнікі працы.*

**Аўтар:** Гамер пачынае сваю паэму ад звароту да багіні па натхненне і дапамогу, каб найлепш уславіць Ахілеса. А вось Вергілій апяваў Энея. Ахіл і Эней — прадстаўнікі варагуючых бакоў. Цалкам рэзонна ды апраўдана было б усталяваць помнік Энею, як продку заснавальнікаў Рыма, але ці дарэчным быў бы побач з помнікам Энею помнік Ахілесу? Адказаць на гэтае пытанне для Рыма не так і проста. Але абсалютна відавочна, што помнік Ахілесу быў бы недарэчным у адбудаванай Троі.

Кіравацъ натхненнем Гамера і Вергілія пэўна няварта, ды і наўрад ці падобнае магчыма, але рашэнне аб помніку ў горадзе прымаецца не скульптарам, які кіруецца натхненнем, а грамадзянамі альбо іх прадстаўнічымі структурамі. Пра гэтае рашэнне дамаўляюцца. Пасля таго як дамоўленасць дасягнутая, фармулюецца замова мастаку, і ён яе альбо прымае, альбо не прымае. Калі ён яе прымае, яму патрабуецца натхненне, каб стварыць мастацкі твор. Такім чынам, мы атрымліваем схему культурнага працэсу, які ўключае рацыянальныя кампаненты: грамадскую канвенцыю пра неабходнасць ўсталявання помніка і замову на яго ўвасабленне. А з другога боку ірацыянальныя кампаненты: натхненне мастака і стварэнне мастацкага твора.

**Крытык:** *Адновім лагічную канструкцыю, якая ўпарадкоўвае гэтае разважанне. У ёй павінныя быць задзейнічаны пазіцыя мастака і пазіцыя грамадзян, якія дамаўляюцца між сабой. Абедзве гэтыя пазіцыі падвойваюцца альбо нават патройваюцца і выяўляюць сябе ў рацыянальных ды ірацыянальных дзеяннях. Паспрабуем прааналізаваць гэтыя дзеянні.*

**Аўтар:** Давай пачнем ад замовы. Мастак атрымлівае замову ад грамадзян, якая афармляецца праз працэдуру камунікацыі альбо дамовы, прадметам якой ёсць цалкам рацыянальныя рэчы — цана, тэрміны, матэрыяльныя характарыстыкі будучага твора і г. д. У якойсьці сваёй частцы гэтая камунікацыя нагадвае гандаль. Пасля пагаднення мастак прыступае да стварэння, і тут ужо дзейнічаюць ірацыянальныя кампаненты — талент, густ, натхненне. Аднак не знікаюць і рацыянальныя — тэхніка працы, мера майстэрства. Пасля таго як твор гатовы, адбываецца прыём выкананай замовы, які таксама ўключае ірацыянальныя і рацыянальныя кампаненты — выкананне ўмоў замовы, адпаведнасць з каштарысу...

**Крытык:** *Прыёмка працы на рацыянальных падставах здаецца простай: тут працуе сістэма аргументаў, доказаў і аспрэчанняў, збудаваная на логіцы і здаровым сэнсе. Іншая справа — ірацыянальныя кампаненты. Скульптура можа спадабацца альбо не спадабацца замоўцы, а гэта залежыць ад густу, этычных, маральных ды ідэалагічных установак — усяго таго, пра што*

*складана спрачацца, у чым не спрацоўваюць звычайныя канвенцыянальныя нормы.*

**Аўтар:** На практыцы праца мастака ніколі не можа задаволіць усе густы і запатрабаванні, але найчасцей яна прымаецца, а яе эфект выяўляецца паступова. Будучы прынятай у якасці ўвасаблення тых каштоўнасцей, пра якія дамовіліся грамадзяне, праца скульптара мае і дадатны сэнс, тое, што ўклаў у вобраз творца, яго ўласны погляд на героя стварае адпаведны эфект. Гэты эфект палягае на трансфармацыі думак грамадзян, згода якіх сталася крыніцай замовы на твор мастацтва. Так мастак адтэрмінаваным спосабам бярэ ўдзел у камунікацыі, якая папярэднічала замове на яго твор.

***Крытык:*** *То бок мастак у любым выпадку ўключаны ў камунікацыю і культурны працэс, таму што сваім творам ён пакідае ў ім уласную рэпліку. Тады пытанне рацыянальнага стаўлення палягае ў тым, ці разумее сам мастак змест і сэнс разгорнутай ў часе камунікацыі, у якой ён удзельнічае, ствараючы свае творы?*

**Аўтар:** Гэта залежыць ад многіх фактараў. У першую чаргу, ад самавызначэння мастака ў сферы мастацтва і культуры. Каб паразумецца ў гэтым пытанні, неабходна больш заглыблена звярнуцца да таго, якім чынам уключана мастацкая творчасць альбо мастацтва ў працэс культурнай камунікацыі.

## Мастацкая творчасць і камунікацыя: бар'еры і стэрэатыпы

**Аўтар:** У найбольш агульным выглядзе ўсялякую камунікацыю можна ўявіць як абмен рэплікамі і паведамленнямі. Тэзіс — адказ, за адказам новы тэзіс — і так да бясконцасці альбо да вычарпання тэзісаў і адказаў. Любы твор мастацтва можна разглядаць як рэпліку ў камунікацыі. Аўтар-мастак, ствараючы твор мастацтва, накіроўвае яго свету (гледачу, чытачу) як рэпліку-паведамленне, тэзіс, аргумент, доказ альбо аспрэчванне. Спажывец, чытач, глядач атрымлівае гэтую рэпліку-паведамленне, чытае яго, дэ-

шыфруе, інтэрпрэтуе і асэнсоўвае. Але ж ці можа ён адказаць на гэтую рэпліку? Вельмі рэдка спажывец твора мастацтва мае сувязь непасрэдна з аўтарам. Таму звычайна гэты адказ мае пакручастую і непразрыстую форму. І да аўтара ён даходзіць у апрычоным выглядзе. Напрыклад, нехта прачытаў, зразумеў ды палюбіў кнігу вершаў пэўнага паэта. Распавёў пра гэта сваім сябрам, а тыя — сваім. Некаторыя з іх набылі асобнікі кнігі, і паэт атрымлівае чытацкі адказ у выглядзе попыту на яе. Крытыкі і мастацтвазнаўцы могуць адказаць на твор мастацтва сваім прафесійным спосабам. Непасрэдна ж на ўсю паўнату сэнсу і зместу твору мастацтва можа адказаць толькі іншы мастак, ствараючы як альтэрнатыву альбо ў працяг уласны твор мастацтва; і гэтак можа стацца як пры жыцці аўтара, так і праз шмат гадоў пасля яго смерці. Камунікацыя ў культуры адрозніваецца ад жывых, непасрэдных зносін не толькі часавай працягласцю паміж рэплікамі і адказамі, але і некампліментарнасцю і гетэраморфнасцю рэплік ды адказаў, а таксама тым, што аўтар рэплікі не ведае і не бачыць адрасата сваіх паведамленняў.

***Крытык:*** *Дык вось ў гэтым і палягае праблема. Апісаныя тут уласцівасці і характарыстыкі камунікацыі ў культуры ўскладняюць усведамленне самой камунікацыі і ўключанасці ў яе. Больш таго, удзельнікі культурнай камунікацыі маюць вялізную колькасць фільтраў і бар'ераў, якія перашкаджаюць не толькі ўяўляць і аналізаваць гэтую камунікацыю, свядома дзейнічаць у ёй, але і бачыць яе, ставіцца да яе як да прысутнай у рэальнасці. Ці можна паказаць гэта больш канкрэтна і наглядна?*

**Аўтар:** Вернемся да прыкладу з замовай скульптару помніка. Скульптар абмяркоўвае замову з непасрэдным замоўцам, якім можа выступаць канкрэтны чалавек альбо інстытут. Напрыклад, магістрат горада ці выканкам. Але ж замове магла папярэднічаць палітычная (навуковая, ідэалагічная) дыскусія. Прычым не толькі ўласна дыскусія, але і камунікацыя з нагоды прызнання грамадскай каштоўнасці нейкай гістарычнай асобы ці падзеі, якая павінна быць выяўлена ў скульптуры. Прымаючы замову, мастак абавязаны ўлічваць гэтую папярэднюю дыскусію, таму што калі

яго твор будзе завершаны, ён можа стаць наймацнейшым аргументам у гэтай самай дыскусіі.

**Крытык:** *Абавязаны — гэта ў ідэале. Абавязаны ідэальны мастак, не рамеснік. І гэта не азначае, напэўна, што кожны рэальны скульптар, прымаючы замову, улічвае папярэднюю дыскусію і камунікацыю з нагоды каштоўнасцей ды ідэалаў.*

**Аўтар:** Больш за тое, найчасцей як раз і не ўлічвае, таму што яго вучылі (і ён сам шчыра ў гэтым пераканаy), што мастак павінен быць па-за палітыкай, і падобныя дыскусіі яго не датычаць.

**Крытык:** *Як гэта стасуецца да таго факта, што творчае пераасэнсаванне зместу помніка, гістарычнага персанажа альбо падзеі становіцца вельмі значным аргументам у палітычнай спрэчцы? Лагічна гэта не стасуецца.*

**Аўтар:** У мастака і на гэты конт ёсць прынцып, сутнасць якога ў тым, што мастак не адказвае за тое, як яго твор разумеецца і інтэрпрэтуецца публікай. І гэтаму прынцыпу мастакоў таксама вучаць, і яны шчыра так лічаць.

**Крытык:** *Гэта мае сваё рацыянальнае і прагматычнае тлумачэнне, але менавіта гэтая прагматыка, закліканая бараніць мастакоў ды іх творчасць ад палітычнай кан'юнктуры, стварае падманную ўяву мастацкай творчасці, а таксама месца і ролі мастацтва ў культурнай камунікацыі. Наша ж задача палягае ў тым, каб аднавіць сапраўдную карціну, зразумець і схематызаваць ролю і месца мастацтва і мастацкай творчасці ў культурнай камунікацыі, дзе адбываецца пераацэнка каштоўнасцей.*

**Аўтар:** Так, і пачынаць аналіз варта з характарыстыкі камунікатыўнай адзінкі, то бок рэплікі, якой у нашым выпадку ёсць твор мастацтва. Гэтая рэпліка характарызуецца прасторава-часавымі параметрамі, мадальнасцю, інтэнсіўнасцю, сэнсам і зместам.

**Крытык:** *Давай прааналізуем структуру гэтай камунікатыўнай адзінкі больш дэталёва.*

**Аўтар:** Прастора-часавая структура твора мастацтва як рэплікі ў камунікацыі характарызуецца тым, што твор мастацтва, прынамсі вялікі, мае амаль неабмежаваную працягласць у часе і ста-

навіцца цэнтрам арганізаванай вакол яго культурнай прасторы. Рэпліка ў звычайнай размове і нават у пісьмовай мове вельмі хутка адсоўваецца ў мінулае і засланяецца іншымі адказамі і рэплікамі. А вось твор мастацтва як рэпліка і паведамленне гучыць альбо прысутнічае ў камунікацыі, па-першае, доўга (здараецца, стагоддзі), а па-другое, свядома альбо механічна паўтараючыся (з прычыны сваёй наяўнай прысутнасці). Творы мастацтва ў залежнасці ад мадальнасці (жанру, віду) заўсёды выступаюць чыннікам арганізацыі культурнай прасторы. Хаця для кожнай мадальнасці мастацтва прасторавую структуру неабходна абмяркоўваць асобна. Тэатр, скульптурны помнік на плошчы, карціна на сцяне арганізуюць вакол сябе зусім розныя прасторы. Але ў цэлым прасторава-часавая структура твораў мастацтва і абумоўлівае спецыфіку культурнай камунікацыі, як бы пашыраючы яе па-за межы разавых сітуацый, надаючы гэтай камунікацыі гістарычную працягласць і ствараючы прастору культуры.

***Крытык:*** *Калі ты кажаш пра мадальнасць, дык маеш на ўвазе жанры і віды мастацтва?*

**Аўтар:** Апрача ўласна жанравай альбо відавой разнастайнасці самога мастацтва, мадальнасць у творах мастацтва характарызуецца тым, што ў кожным з іх як у рэпліцы-паведамленні задзіночваецца не толькі аб’ектыўнае значэнне і суб’ектыўны сэнс, але і эмацыйна-пачуццёвы кантэкст, этычная, маральная і эстэтычная ацэнкі. Таму рэпліка, якой ёсць твор мастацтва, не можа быць рэдукаваная да нейкага аднаго з планаў (мадальнасцей) — гэта заўсёды комплекс. І чым больш ён мае планаў, тым большая значнасць гэтага твора як твора мастацтва. Дарэчы, мадальныя характарыстыкі твора мастацтва выступаюць прынцыповай шкодай пры яго абмеркаванні і ўключэнні ў камунікацыю ва ўсёй паўнаце. Мова-маўленне па азначэнні з’ява аналітычная і ахоплівае за кожным разам нейкую адну мадальнасць, а не комплекс. Таму кожны мастак бянтэжыцца перед пытаннем, што ён хацеў сказаць сваім творам. Тое, што можна сказаць цэлым творам, немагчыма адэкватна перакласці на нейкую іншую мову.

***Крытык:*** *Што азначае інтэнсіўнасць?*

**Аўтар:** Інтэнсіўнасць — гэта ў першую чаргу колькаснае адлюстраванне сілы ўздзеяння, энергетыкі. Паводле сваіх інтэнсійнасных характарыстык мастацкі твор як рэпліка-паведамленне пераўзыходзіць усе іншыя рэплікі ў любой камунікацыі. Менавіта гэтая інтэнсіўнасць ускладняе магчымасць хуткага адказу ды працягу камунікацыі. Любы адказ на твор, які сам не ёсць творам мастацтва, будзе збедненым, а фармулёўка адказу ў форме іншага твора мастацтва — вымагае працяглага часу. Нягледзячы на высокую інтэнсіўнасць, твор мастацтва як рэпліка-паведамленне ніколі не можа быць апошнім аргументам. Твор мастацтва, ствараючы вельмі моцнае ўздзеянне, не ставіць кропкі ў камунікацыі, не ёсць канцавым адказам — хутчэй шматкроп'ем, якое спараджае наступныя пытанні.

***Крытык:*** *А што ў нашым кантэксце ўяўляе сабою змест твора мастацтва, калі казаць аб гэтым не ў дачыненні да канкрэтнага твора, а наогул?*

**Аўтар:** Кожны твор мастацтва ў той альбо іншай форме нясе ў сабе пэўны змест. Але ж са змястоўнага боку твор мастацтва характарызуецца неканкрэтнасцю і незавершанасцю. Твор мастацтва пераўтварае змест у працэс. І гэты працэс рухаецца ад канкрэтнага да агульнага. Як толькі канкрэтны аб'ект, падзея альбо персанаж становіцца героем твора, дык ён адразу пераўтвараецца ў нешта большае, чым быў прататып. У творы мастацтва заўсёды прысутнічае змест, але сам твор нельга звесці да зместу.

***Крытык:*** *Ну і, нарэшце, сэнс — найбольш суб'ектыўная характарыстыка.*

**Аўтар:** Як і змест, сэнс у творах мастацтва характарызуецца высокай ступенню невызначанасці і ліючасці. Творца заўсёды прыўносіць адметны сэнс у свой твор, але і кожны чытач, глядач, слухач успрымае твор мастацтва апрычона. І чым большы суплёт сэнсаў, чым больш магчымасцей іх інтэрпрэтацыі, тым больш у творы ўласна мастацтва.

***Крытык:*** *Усе пералічыныя пяць аспектаў, што характарызуюць твор мастацтва, паасобку дастаткова добра разумеюцца як творцамі, так і спажыўцамі. Але ж іх вельмі цяжка ўспры-*

*маць у комплексе, а тым больш улічваць пры стварэнні альбо інтэрпрэтацыі твораў мастацтва.*

**Аўтар:** Так. І менавіта таму творы мастацтва, будучы прадуктамі свядомай дзейнасці людзей, з вялікай цяжкасцю падлягаюць рацыяналізацыі, вытлумачэнню і апісанню. З гэтага ўзнікае спакуса наогул адмовіцца ад рацыяналізацыі мастацтва. Таму ў дыскурсе саміх творцаў, у крытыцы і мастацтвазнаўстве стала падкрэслівацца ірацыянальныя кампаненты. З гэтага творы мастацтва і асабліва творчы працэс, які прыводзіць да іх стварэння, міфалагізуецца і сакралізуецца. Больш за тое, сама мова рэфлексіі мастацтва і творчага працэсу сфармаваная такім чынам, каб пазбягаць рацыяналізацыі.

***Крытык:*** *Выкажам меркаванне, што не ўсё у творчасці і мастацтве можа быць рацыяналізаваным, апісаным ды растлумачаным. Але ж гэта не ёсць падставай адмаўляцца ад рацыяналізацыі таго, што можа і павінна быць рацыяналізаваным.*

## Рацыяналізацыя творчасці, альбо Ці можна замовіць натхненне?

**Аўтар:** Мастацтва развіваецца, і шмат якія рэчы, спароджаныя ў мінулым фантазіяй, інтуіцыяй, талентам мастакоў, нармуюцца і тэхналагізуюцца, і на іх прыкладах пачынаюць вучыць новыя пакаленні творцаў. А тое, што раней было невытлумачальным цудам творчасці, становіцца справай тэхнікі. Развіваецца і ўдасканальваецца акцёрскае майстэрства, тэхніка жывапісу і дойлідства, не кажучы ўжо пра дызайн. Адным з найбольш сакралізаваных ды ірацыянальных быў і застаецца пачатковы момант творчага працэсу, які апісваецца ў катэгорыях «натхненне», «азарэнне», «парыў». Але, нягледзячы на ўсе ірацыянальныя апісанні, большасць твораў мастацтва ствараецца на замову.

***Крытык:*** *Ці можа замова выклікаць натхненне?*

**Аўтар:** Як правіла, лічыцца, што не. Мастак-партрэтыст можа выканаць шмат партрэтаў, але толькі некаторыя сярод іх заста-

нуцца ў гісторыі як творы мастацтва. Аднак ёсць віды і жанры, у якіх без замовы наогул не можа быць распачаты працэс творчасці. Гэта і архітэктура, і кіно, і манументальнае мастацтва. «Не продается вдохновенье, но можно рукопись продать» — стандартна тлумачаць мастакі сітуацыю, пакідаючы за натхненнем містычны акт стварэння, а камунікацыю і гандаль звязваюць ужо з створаным прадуктам.

***Крытык:*** *Можа, і нярварта ўмешвацца ў творчы працэс, стымуляваць ці штучна выклікаць натхненне?*

**Аўтар:** Умешвацца нярварта, але ў архітэктуры і кіно, якімі б высокамастацкімі яны не былі, гандаль, замова ды ўзгадненне часцей за ўсё папярэднічаюць натхненню.

***Крытык:*** *Ці значыць гэта, што і ў іншых відах мастацтва няма неабходнасці чакаць на містычны акт натхнення, а можна адразу дамаўляцца пра стварэнне твораў мастацтва?*

**Аўтар:** Гамер заклікаў багіню дапамагчы яму апець Ахілеса, а адкуль у Гамера ўзнікла сама задума такога апявання? Ці можа беларускі паэт сёння звярнуцца да музы з просьбай дапамагчы яму апець Тадэвуша Касцюшку? Мы не ведаем, ці верыў Гамер у рэальнасць багоў, але сённяшнія беларускія паэты напэўна не вераць.

***Крытык:*** *Аднак калі ім прапанаваць стварыць паэму на зададзеную тэму, яны альбо з абурэннем адпрэчаць гэтую прапанову («не продается вдохновенье»), альбо тэхнічна, як рамеснікі, выканаюць замову. Паэма на зададзеную тэму будзе, але яна не будзе творам мастацтва.*

**Аўтар:** Прэпарыраванне ды аналіз твораў мастацтва як рэплікі-паведамленні ў камунікацыі неабходны нам дзеля таго, каб рацыяналізаваць значную частку культурнага працэсу, не выдаляючы з яго ірацыянальных кампанентаў.

***Крытык:*** *Дзе скульптар, які прымае замову на выраб помніка, можа чэрпаць натхненне, без якога яму не стварыць твор мастацтва?*

**Аўтар:** Калі кіравацца апісанай схемай, дык натхніцца творца можа праз удзел і пагружэнне ў палітычныя, ідэалагічныя і ма-

ральна-этычныя дыскусіі, што папярэднічаюць замове. Чым больш палымянымі будуць гэтыя дыскусіі, тым больш глыбока ў іх пагрузіцца мастак, а значыць павялічыцца імавернасць таго, што яны абудзяць натхненне і стымулююць творчы акт, з чаго мы атрымаем адметны артэфакт (рэпліку-паведамленне).

Аднак перашкодай гэткай уключанасці мастака ў грамадскую праблематыку стаіць сучасны светапогляд ды ідэалогія творчых людзей, манера і змест іх навучання, у першую чаргу — тыя два светапоглядныя тэзісы, якія мы ўзгадвалі вышэй: «мастак павінен быць па-за палітыкай» і «мастак не адказвае за разуменне ды інтэрпрэтацыю свайго твора».

***Крытык:*** *Але ж прапанаваная ідэальная схема культурнага працэсу дазваляе сцвярджаць цалкам супрацьлеглае.*

**Аўтар:** Так, мастак абавязаны быць уключаным у галоўныя палітычныя і грамадскія дыскусіі свайго часу і сваёй краіны, і мастак адказвае за змест, сэнс і значэнне рэплік-паведамленняў, увасобленых у яго творах. І гэтыя сцверджанні слушныя ў рамках ці ў кантэксце пераацэнкі каштоўнасцей.

***Крытык:*** *На першы погляд можа падацца, што нават у гэтых рамках і ў гэтым кантэксце выказанае сцверджанне адпавядае далёка не ўсім жанрам мастацтва. Напрыклад, якая справа мастаку-дэкаратару альбо ювеліру да палітычных дыскусій пра гістарычныя падзеі ці персанажы?*

**Аўтар:** У пэўныя перыяды, сапраўды, асобныя віды ды жанры мастацтва могуць існаваць і развівацца па-за кантэкстам грамадскіх дыскусій. Але ж гістарычныя ўмовы складаюцца па-рознаму, і на грамадска-палітычныя выклікі бывае даводзіцца адказваць нават ювелірам. Тут можна ўзгадаць і гісторыю Бенвенута Чэліні, і прыгоды асобных твораў ювелірнага мастацтва — напрыклад, крыж-каўчэг Ефрасінні Полацкай. Хаця найбольш паказальным прыкладам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва першага дзесяцігоддзя існавання СССР з’яўляюцца працы вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрняў у Маскве («ВХУТЕМАС»), пераарыентацыя майстроў Палеха з іканапісу на гераізацыю Грамадзянскай

вайны, дэкаратыўная парцэляна, і нават рэкламныя плакаты. Напэўна, помнікі правадырам рэвалюцыі альбо фрэскі на фасадах грамадскіх будынкаў нясуць нашмат больш палітычнага, сацыяльнага ды ідэалагічнага зместу, чым талеркі альбо ювелірныя ўпрыгожванні. Але і першыя, і другія ёсць рэплікамі-паведамленнямі ў камунікацыі і ўключаны ў працэс пераацэнкі каштоўнасцей. Таму што яны ўключаны ў камунікацыю не толькі наўпрост — напрыклад, праз выкарыстанне сярпа ды молата ў афармленні парцэлянавых сэрвізаў, — але і праз дэмакратызацыю дэкарацыйнапрыкладнога мастацтва, якое раней было прадметам толькі элітарнага спажывання.

***Крытык:*** *Якім жа чынам мастак далучаецца і ўдзельнічае ў грамадска-палітычных дыскусіях свайго часу?*

**Аўтар:** У розныя эпохі і гістарычныя перыяды гэта адбывалася па-рознаму. У Антычнасці і Сярэднявеччы мастакі і творцы альбо належалі да паноўнага класа праз сваё паходжанне, альбо былі блізкія да ўлады праз удзел у гуртках і клубах, арганізаваных мецэнатамі. Пасля рэвалюцыі Гутэнберга яны былі актыўнымі чытачамі філасофскай і навуковай літаратуры і такім чынам далучаліся да актуальных дыскусій сучаснасці. У бурапенныя перыяды XVIII — XIX стст. творцы актыўна ўключаліся ў грамадскія рухі, гурткі, партыі. І толькі ў XIX ст. нарадзіўся і шырока распаўсюдзіўся тэзіс «мастацтва дзеля мастацтва», кіруючыся якім частка творцаў спрабавала засланіцца ад грамадства, замыкаючыся ў эстэтычным гета.

***Крытык:*** *То бок тэзіс «мастацтва дзеля мастацтва» хутчэй прызначаўся дзеля вонкавага ўжытку, чым быў дапаможнікам для дзеянняў?*

**Аўтар:** Напэўна, так было нават у найбольш заўзятых яго апалагетаў. Ад Шарля Бадлера да Оскара Уайлда, ад імпрэсіяністаў да акмеістаў і дадаістаў дзеячы мастацтва жылі нібыта падвойным жыццём. Будучы актыўнымі ўдзельнікамі грамадска-палітычных дыскусій і працэсаў, яны самым непасрэдным чынам уплывалі на пераацэнку грамадскіх каштоўнасцей — як сваімі творамі, так і сваім жыццём, паводзінамі і публічнымі выказваннямі. І іх творы, і іх публічныя паводзіны выклікалі ахоўную рэакцыю з боку гра-

мадства. Напрыклад, не разумеючы маралі і эстэтыкі зборніка вершаў «Кветкі зла», грамадства магло адказаць на іх толькі цэнзурнай забаронай. Не прымаючы эстэтыкі і погляду на свет мастакоў-імпрэсіяністаў, парыжскія ўлады некалькі разоў зачынялі іх выставы за абразу грамадскай маралі. Апынуўшыся ў такіх умовах, мастакі прыдумалі перанакіроўваць агрэсіўную рэакцыю грамадства са сваіх твораў на сябе асабіста. Яны былі гатовыя патрапляць пад праследаванне (нават такое жорсткае, як у выпадку з Оскарам Уайлдам), але толькі каб іх творы працягвалі выдавацца і выстаўляцца. Тэзіс «мастацтва дзеля мастацтва» як мага найлепш адпавядаў стратэгіі мастацтва эпохі росквіту мадэрну, бо выконваў своеасаблівую абарончую функцыю.

***Крытык:*** *Але пасля гэты тэзіс пачаў разумецца літаральна, як светапоглядная ўстаноўка, у адпаведнасці з якой варта было разумець сваё жыццё і творчасць.*

**Аўтар:** Сапраўды, у XX ст. частка мастакоў такім чынам ужо не бараніла свае творы, а свядома ўхілялася ад удзелу ў абмеркаванні актуальных праблем сучаснасці. І гэта мела свае вынікі, галоўнымі між якіх былі наступныя: мастакі, што кіраваліся падобнымі тэзісамі, даходзілі да поўнай страты камунікацыйных функцый сваіх твораў. З гэтага іх мастацтва дэградавала і пераставала быць мастацтвам. Другія, ствараючы свае творы, хоць і ўдзельнічалі ў культурнай камунікацыі, але не рабілі гэта свядома, што прыводзіла да страты рэфлексійнасці мастацтва, да элітарнай і каставай замкнёнасці саміх мастакоў. У наш час абедзве тэндэнцыі працягваюць дзейнічаць.

***Крытык:*** *Але ж разам з гэтымі ёсць і іншыя тэндэнцыі. Напрыклад, у таталітарных грамадствах СССР і фашысцкай Германіі ў розных формах прапагандавалася ангажаванасць мастака. У Савецкім Саюзе казалі пра партыйнасць мастацтва, у нацысцкай Герамніі — пра яго расавы характар. У больш мяккіх формах тэндэнцыя да ангажаванасці мастацтва, што пераходзіць у сервільнасць, прасочвалася і ў дэмакратычныя грамадствы. Яскравымі прыкладамі могуць быць мастак Дыега Рыўера, пісьменнікі Рамэн Ралан, Джані Радары.*

**Аўтар:** Так, сёння знайсці мяжу паміж сервільнасцю і ўлучанасцю ў грамадскую дыскусію надзвычай складана, тут патрабуюцца значныя рэфлексійныя намаганні з боку мастака. Але гэта яшчэ не ўсё. Нармальнаму паўнавартаснаму ўключэнню ў культурную камунікацыю дзеячаў мастацтва замінаюць не толькі ўстаноўкі ды ідэалагічныя тэзісы. Замінае таксама ўзросшая ў эпоху мадэрну спецыялізацыя чалавечай дзейнасці. Раней мастакі чыталі філосафаў, паэты філасофствавалі, навукоўцы хадзілі на выставы. Але з цягам часу метады і падыходы ў кожнай сферы дзейнасці ўскладняліся, усюды выпрацоўвалася свая спецыфічная мова. Таму прадстаўнікі розных галін дзейнасці пераcталі цікавіць адзін аднаго. У другой палове XX ст. філосафаў разумелі ўжо толькі філосафы, дый тое з цяжкасцю. У найноўшым жывапісе разбіраліся толькі самі мастакі і вузкая каста мастацтвазнаўцаў. Паэтычныя зборнікі выдаваліся мізэрнымі накладамі і пра іх ведалі адно крытыкі ды прыхільнікаў паэтаў. Масавым і распаўсюджаным заставаліся толькі кінематограф, эстрада, забаўляльная літаратура і дызайн. Пад канец XX ст. прадстаўнікі розных сфер культуры пачалі інтэнсіўна шукаць новыя формы кантактаў і спосабаў ўзаемадзеяння. Культурная камунікацыя сама сталася актуальнай праблемай. Яна патрапіла ў лік каштоўнасцей, якія патрабуюць пераацэнкі і аднаўлення.

***Крытык:*** *Усе прыклады і выкарыстаны матэрыял — з сусветнай культуры. З глабальнага альбо гістарычнага культурнага кантэксту. А сучасная Беларусь у гэтым кантэксце? Мы і наша культура ўдзельнічаюць у працэсах, пра якія тут ідзе гаворка?*

**Аўтар:** Гэтыя працэсы — пошук кантакту, спробы ўключэння ў камунікацыю, ініцыятывы па засваенні мовы іншых галін дзейнасці — на Беларусі таксама ідуць, хаця, можа быць, не настолькі інтэнсіўна ды мэтаскіравана. Вельмі часта спробы ўсталяваць камунікацыю спыняюцца рытуальнымі выказваннямі тыпу тых, пра якія мы казалі вышэй. Але канчаткова спыніць камунікацыю немагчыма, таму што актуальнасць пераацэнкі каштоўнасцей на Беларусі вельмі высокая. Палітыкі самі не толькі не могуць даць рады з пераацэнкай каштоўнасцей без педагогаў, навукоўцаў, маста-

коў, але нават не ведаюць, як падступіцца да вырашэння гэтай задачы. Філосафы ведаюць, як падступіцца, і маглі б растлумачыць палітыкам. Аднак апошнім перашкаджаюць нерэфлексійна прынятыя ды замацаваныя стэрэатыпы. Выканаць пераацэнку каштоўнасцей і разбурыць стэрэатыпы можна было б сродкамі мастацтва, але для гэтага і палітыкі, і навукоўцы, і педагогі, і філосафы, і мастакі павінны быць уключаныя ў агульную камунікацыю па найбольш значных і вострых праблемах сучаснасці.

***

Рэзюмуючы гэты дыялог, варта яшчэ раз актуалізаваць шэраг найбольш важных тэзісаў, якія задаюць уяўленні пра культуру і дазваляюць займаць дзейную пазіцыю адносна культурнага працэсу:

1. Культура — гэта ўсё тое, што транслюецца і рэалізуецца. Зместам культуры ёсць не рэчы як такія, не падзеі, не людзі, а толькі тое ў іх, што транслюецца і рэалізуецца — нормы, эталоны, прататыпы, узоры дзейнасці, паводзін і стаўлення чалавека да навакольнага свету, сябе і людзей, якія ўвасоблены ў гэтых рэчах, падзеях і людзях.

2. Змест культуры мае два модусы існавання. З аднаго боку — у дачыненні трансляцыі — нормы, узоры і эталоны існуюць «аб'ектыўна» і безацэначна. Яны могуць быць каталагізаваны, апісаны і вывучаны. З іншага боку — у дачыненні рэалізацыі — нормы, узоры і эталоны патрабуюць ацэнкі ды інтэрпрэтацыі. У канкрэтнай гістарычнай сітуацыі яны існуюць у выглядзе каштоўнасцей ды ідэалаў.

3. Гістарычны культурны працэс можа быць апісаны як працэс пераацэнкі каштоўнасцей: змена статуса ідэала і каштоўнасці ад адных нормаў і ўзораў да іншых нормаў і ўзораў. Пераацэнка каштоўнасцей адбываецца ў фармаце камунікацыі — інтэрпрэтацыі, дыскусіі і дамовы з нагоды статуса каштоўнасцей ды ідэалаў.

4. Творы мастацтва і мастацкая творчасць з'яўляюцца адным з найбольш важкіх аргументаў і рэплік у камунікацыі па пераацэнцы каштоўнасцей. Мастацтва ў культуры альбо культурным працэсе

ёсць механізмам ацэнкі і інтэрпрэтацыі, інструментам пераводу тых альбо іншых нормаў і ўзораў у каштоўнасці ды ідэалы для кожнай канкрэтнай гістарычнай сітуацыі. І гэты механізм (інструмент), бадай што, найбольш эфектыўны сярод усіх магчымых.

5. Асэнсаваны, рацыянальны ўдзел мастацкай творчасці ў грамадскай камунікацыі па пераацэнцы каштоўнасцей натыкаецца на стэрэатыпы і бар'еры. Гэтыя стэрэатыпы і бар'еры лакалізуюць творчасць у сферы «мастацтва дзеля мастацтва». Апошняе не выключае творцаў з камунікацыі, але робіць іх безадказнымі, а іх дзеянні неасэнсаванымі, нерацыянальнымі ды некіруемымі (у тым ліку не самакіруемымі), да таго ж яны лёгка патрапляюць пад знешнія маніпуляцыі.

6. Дзеля дасягнення поспеху ў пераацэнцы каштоўнасцей неабходна ўключэнне дзеячаў мастацтва ў шчыльную камунікацыю па найбольш важных і вострых праблемах сучаснасці, якімі перадусім ёсць сутыкненні нормаў і ўзораў, што прэтэндуюць на статус каштоўнасцей ды ідэалаў у сучасным беларускім грамадстве.

# Дзе шукаць еўрапейскую Беларусь? Еўрапейскія асновы сучаснай Беларусі

*Пераацэнка каштоўнасцей у Беларусі: ад дэкларацый да грамадскага дыялогу. Мова навукі і мастацтва ў грамадскай камунікацыі. «Свае» і «чужыя» каштоўнасці на розных этапах самавызначэння нацыі. Што ў нас засталося савецкага? Эпоха «двух каралёў» — першы геапалітычны выбар. Каго лічыць героем? Паражэнні і праблемы ў гісторыі правоў і свабод у Беларусі. Супярэчлівая гісторыя рэлігійнай талерантнасці.*

## Пераацэнка каштоўнасцей у Беларусі: ад дэкларацый да грамадскага дыялогу

Упершыню пасля стагоддзяў залежнага існавання ў якасці правінцыі і перыферыі іншых дзяржаў ды імперый Беларусь стала незалежный дзяржавай і суверэннай нацыяй. Ужо сам гэты факт дазваляе характарызаваць наш час як эпоху інтэнсіўнай пераацэнкі каштоўнасцей, якая суправаджаецца пераасэнсаваннем, пераінтэрпрэтацыяй усяго таго, што мы ведаем і памятаем пра сябе як народ і нацыю, то бок сваю гісторыі і сваё месца ў свеце. І паколькі нам выпаў лёс жыць у эпоху перамен, калі змяняецца вель-

мі многае, у тым ліку і каштоўнасці, неабходна рабіць гэта свядома, рацыянальна кіруючы пераменамі, у тым ліку і пераацэнкай каштоўнасцей. А каб кіраваць, трэба ведаць і ўяўляць сам працэс пераацэнкі каштоўнасцей, пажадана ва ўсёй яго паўнаце і складанасці. Найпростыя некіруемыя формы пераацэнкі каштоўнасцей могуць выяўляцца ў прымітыўным перакульванні, калі тое, што лічылася раней добрым, апазнаецца дрэнным, і наадварот. Чорнае становіцца белым, высокае — нізкім. Наўрад ці можна цалкам пазбегнуць такой прастаты і прымітывізму ў эпоху радыкальных перамен, але Беларусь ужо мінула гэты перыяд на пачатку 1990-х гг. Цяпер гісторыкаў сучаснасці чакае аналіз і ацэнка поспехаў і паражэнняў, дасягненняў і памылак ужо гэтага перыяду нашай гісторыі. Практыка перамен патрабуе ад нас больш сур'eзнага і глыбокага стаўлення да пераацэнкі каштоўнасцей, што адбываецца сёння. Мы ўжо не можам задаволіцца простым дэклараваннем іншай ад папярэдняй ацэнкі падзей і з'яў. І старыя, і новыя персанальныя, суб'ектыўныя ацэнкі патрабуюць аргументацыі, доказаў і абгрунтаванняў. А паколькі гэта ўсё ж такі ацэнкі, а не лагічныя канструкцыі ці матэматычныя тэарэмы, то ніякія доказы і аргументацыі тут не могуць быць канчатковымі, зададзенымі аднойчы і назаўсёды.

Апрача таго, важна не толькі тое, якой менавіта трактоўкі і ацэнкі прытрымліваюцца тыя ці іншыя суб'екты, грамадска-палітычныя альбо культурныя групоўкі. Важна тое, што працэс пераацэнкі праходзіць на высокім лагічным, культурным, мастацкім узроўні. І ўдзельнікі гэтага працэсу не толькі выказваюць уласныя меркаванні, але і з павагай ды ўвагай ставяцца да меркаванняў і ацэнак апанентаў. У аксіялогіі і этыцы істотныя не толькі абгрунтаванасць і аргументаванасць меркаванняў ці ацэнак, але і дасягненне згоды. Пры гэтым згода не азначае ўсталявання адной, адзіна слушнай альбо пасярэдняй ацэнкі. Сучасная культура і грамадства плюралістычныя. Таму грамадская згода дасягаецца не коштам усталявання пануючай думкі, а праз гатоўнасць да бытавання розных думак і падыходаў. Гэта азначае, што меркаванні, якія не несупалі і нават супрацьлеглыя меркаванні і ацэнкі суіснуюць ра-

зам і грамадства дае сваю згоду на іх актыўную прысутнасць ці хаця б проста існаванне.

Але ж дзе і як выяўляюцца меркаванні і ацэнкі? Мы не можам сцвярджаць, што нейкае меркаванне альбо ацэнка ёсць у наяўнасці, калі яны не выказваюцца, не прысутнічаюць у камунікацыі, не рэалізуюцца ў грамадскай практыцы. І з гэтага мы маем два розных модусы існавання меркаванняў і ацэнак. У грамадскай камунікацыі (як масавай, гэтак і спецыялізаванай ды вузкапрафесійнай) могуць з’яўляцца адметныя ідэі, меркаванні і ацэнкі. У камунікацыі яны абмяркоўваюцца з той альбо іншай інтэнсіўнасцю і ў той ці іншай форме, час ад часу выразна актуалізуючыся. Але не ўсе ідэі, меркаванні і ацэнкі, што прысутнічаюць у камунікацыі, рэалізуюцца ў грамадскай практыцы. З камунікацыі ў практыку меркаванні і ацэнкі пранікаюць праз сістэму фільтраў і бар’ераў. Гэтымі фільтрамі і бар’ерамі ёсць дэмакратычныя працэдуры прыняцця рашэнняў. Аднак калі якія-небудзь ідэі, меркаванні і ацэнкі пераадольваюць гэтыя фільтры і робяцца падставай для прыняцця рашэнняў і дзеянняў у той альбо іншай галіне грамадскай практыкі, гэта не азначае, што іншыя ідэі, меркаванні і ацэнкі забытыя ці канчаткова адкінуты. Яны працягваюць сваё існаванне ў грамадскай камунікацыі, могуць выкарыстоўвацца для крытыкі і рэфлексіі грамадскай практыкі і далейшай пераацэнкі каштоўнасцей. Ніколі дэмакратычныя працэдуры не могуць гарантаваць беспамылковасці рашэння. Дэмакратыя ўсяго толькі забяспечвае зразумелыя і празрыстыя працэдуры трансляцыі ідэй з камунікацыі ў практыку. У зменененых сітуацыях тымі самымі дэмакратычнымі працэдурамі могуць быць «адабраныя» для рэалізацыі іншыя ідэі.

Гэтыя два модусы існавання ідэй, меркаванняў і ацэнак (грамадская камунікацыя і грамадская практыка) па-рознаму суадносяцца з працэдурамі пераацэнкі каштоўнасцей. У грамадскай практыцы рэалізуюцца тыя ідэі і меркаванні, якія прызнаныя вартымі, то бок яны рэалізуюцца ў практыцы як каштоўнасці. А грамадская згода на тым і палягае, што грамадства лічыць гэтыя ідэі і меркаванні каштоўнасцямі. У грамадскай камунікацыі каштоўнасць рэалізаваных ідэй можа падлягаць сумневу. Дакладна

гэтаксама ў грамадскай камунікацыі можа аргументавацца і даказвацца каштоўнасць іншых ідэй і меркаванняў, якія яшчэ ніколі не былі рэалізаванымі. Таму працэс пераацэнкі каштоўнасцей разгортваецца, пераважна, у грамадскай камунікацыі, а грамадская практыка — стварае падставы для сумневаў, крытыкі і рэвізіі, то бок для пераацэнкі каштоўнасцей.

## Мова навукі і мастацтва ў грамадскай камунікацыі

Аналізуючы працэдуры і схемы пераацэнкі каштоўнасцей, мы засяроджваемся на грамадскай камунікацыі і таму не можам абмінуць сваёй увагай праблему мовы. У кантэксце нашай тэмы нас у першую чаргу будзе цікавіць мова культуры і мастацтва. Карл Попер вылучае чатыры функцыі мовы: экспрэсіўная, камунікатыўная альбо сігніфікатыўная, дэскрыптыўная і аргументацыйная. Гэта функцыі мовы як такой, і яны ўласцівыя кожнай з канкрэтных і спецыяльных моў. Але калі разглядаць мову грамадскай камунікацыі цалкам, то ўдзельная вага і значэнне кожнай з гэтых чатырох функцыяў адрозніваюцца сярод розных асобных моваў. Так, мова навукі ў грамадскай камунікацыі ў першую чаргу вылучаецца аргументацыйнай функцыяй, хаця ў Новы час яна ўсё больш і больш нагружалася дэскрыптыўнай функцыяй — функцыяй апісання, тады як за мовай мастацтва пераважна замацоўваецца экспрэсіўная функцыя.

Такая спецыялізацыя моў вызначае і сферу іх выкарыстання. Мова мастацтва мае нашмат больш шырокае распаўсюджанне і большую сферу ўплыву, чым мова навукі, нават з улікам адмоўнага ўплыву элітарнага мастацтва і, з другога боку, папулярызацыі навукі. Мовай мастацтва можна размаўляць з ўсімі і ў найшырэйшым дыяпазоне сітуацый. У ідэале — мастацтвам прасякнутая ўся жыццядзейнасць людзей. Музыка, архітэктура, дызайн неразлучна суправаджаюць сучаснага чалавека. А вось навука, нават стаўшы масавай прафесіяй, застаецца апрычоным заняткам і лакалізаваная

ў адукацыйным працэсе. У праяве сваёй дэскрыптыўнай функцыі мова навукі часта звяртаецца да сродкаў мастацтва, а бывае і да ідэалогіі. Хаця сучасная паўсядзённая і нават побытавая мова адчувае вельмі моцны ўплыў мовы навукі. А мова палітыкі ды ідэалогіі настолькі актыўна выкарыстоўвае нормы і стандарты навуковай мовы, што гэтыя сферы самі ператвараюцца ў квазінавуковыя. Разам з тым, не ўсе віды і жанры мастацтва і не ўсе галіны навукі бяруць аднолькавы ўдзел у перааацэнцы каштоўнасцей. Мы не можам цалкам выключыць натуральныя навукі з працэсу пераацэнкі каштоўнасцей, хаця іх метадалогія не прадугледжвае працы с каштоўнасцямі. Тут справа ў тым, што сама навука — каштоўнасць, і наданне навуковага статуса тым альбо іншым сцверджанням істотна павышае іх значэнне ў якасці аргументаў камунікацыі. Але зрабіць нейкую ідэю альбо думку каштоўнасцю ў масавай свядомасці здольна адно мастацтва.

Далей мы будзем разглядаць толькі дзве групы (мову навукі і мову мастацтва) сярод усяго мноства розных моў, паколькі яны супрацьлеглыя як паводле свайго характару і канструкцыі, гэтак і паводле функцый, якія выконваюць у грамадскай камунікацыі. Але для працэсу пераацэнкі каштоўнасцей важным ёсць не толькі іх проціпастаўленне, але і іх узаемасувязь ды ўзаемны ўплыў. Мастак праз мову мастацтва здольны надаць той альбо іншай ідэі, факту ці феномену статус каштоўнасці, а бывае і зрабіць гэта масавай каштоўнасцю; але каб здзейсніць падобнае, ён сам павінен быць глыбока перакананы ў каштоўнасці ідэі альбо феномена. Таму яго ўнутраная перакананасць павінна быць падтрымана аргументамі і доказамі. Хаця, перакананасць можа грунтавацца на веры ці ірацыянальных пачуццях. Але ж два стагоддзі Асветы і мадэрну істотна звузілі сферы веры і ірацыяналізму, тады як крытычнасць і скептыцызм, наадварот, сталіся моцна пашыранымі. Сёння чалавек больш схільны да скепсісу і крытыцызму адносна актуальных тэм і праблем.

Таталітарныя ідэалогіі XX ст. імкнуліся супрацьстаяць агульнай тэндэнцыі рацыяналізму, асветы і мадэрну, культывавалі дагматызм у квазінавуковых формах. Найбольш паспяховай у гэтым су-

працьстаянні можна лічыць савецкую ідэалогію, якая мэтанакіравана і сістэматычна культывавалася больш за сем дзесяцігоддзяў. Аднак вынікам гэтага шчыравання сталіся не новая вера і перакананасць у непахіснасці сацыялістычных каштоўнасцей ды ідэалаў, а нарастанне цынізму і індыферэнтнасці адносна большасці камуністычных ідэй у якасці каштоўнасцей. Насамрэч цаніліся толькі матэрыяльныя і фізіялагічныя каштоўнасці. Савецкая ідэалогія прызнавала сваім галоўным ворагам заходнія дэмакратычныя каштоўнасці ды ідэалы, але гэта была толькі дэкларацыя. Рэальным ворагам і разбуральнікам савецкай ідэалогіі быў уласны абывацель, цынік і спажывец. Дэмакратычным каштоўнасцям Савецкі Саюз навучыўся эфектыўна супрацьстаяць праз адукацыю, манапалізаваныя СМІ, мастацтва сацрэалізму. Але барацьба з рэчызмам, спажывецтвам і абывацельшчынай савецкай сістэмай была прайграна ўшчэнт: змагаючыся з імі, гэтая сістэма сама фармавала з савецкіх людзей абывацелей, якія цынічна ставіліся да ўсіх каштоўнасцей, апрача матэрыяльных. У момант развалу СССР галоўнымі ўдзельнікамі грамадскай камунікацыі і грамадскай практыкі сталі носьбіты іншых, несавецкіх каштоўнасцей.

Напрыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XX ст. гэтыя несавецкія каштоўнасці не былі структураваныя і адрэфлексаваныя. Тады найперш важнай была менавіта іх іншасць. Яны складаліся з архаічных і дасавецкіх, запазычаных з захаду і новых сучасных каштоўнасцей (рэлігійных, нацыяналістычных, ліберальных, кансерватыўных і г. д.), якія супрацьстаялі савецкім (камуністычным) каштоўнасцям. Гэтыя іншыя каштоўнасці і грамадскія сілы, якія імі кіраваліся, выявіліся мацнейшымі дзякуючы сітуацыйнай еднасці і кансалідацыі разнастайнасці. Але мацней за каго? Мацней за носьбітаў, якія падзялялі савецкія (камуністычныя) каштоўнасці, пры абыякавым сузіральным стаўленні цынікаў і абывацелей, што складалі большасць насельніцтва СССР. Пасля сваёй перамогі носьбіты іншых (несавецкіх) каштоўнасцей не здолелі — да і не маглі па самой прыродзе сваёй разнастайнасці — захаваць адзінства і кансалідацыю. З гэтай прычыны ў іх і не атрымалася арганізаваць грамадскую практыку на падставе сваіх каштоўнасцей. Постсавецкая прастора была ахоплена глыбокім сістэмным крызісам,

які разбурыў матэрыяльныя асновы існавання абсалютнай большасці людзей. Таму на першым плане апынулася не барацьба ідэй, а барацьба за выжыванне. Дыскусіі пра каштоўнасці зніякавелі, камунікацыя сталася фрагментарнай, распалася на мноства лакальных груп і сітуацый. І толькі пазней, калі матэрыяльны грунт (кажучы марксісцкай мовай — базіс) адбудаваўся, грамадская камунікацыя ізноў становіцца магчымай і актуальнай. Аднак культура такой камунікацыі і ў гэтыя гады не атрымала развіцця. Інстытуты адукацыі, СМІ, навукі і мастацтва перажывалі крызіс разам з усімі грамадскімі інстытутамі, але, у адрозненне ад інстытутаў паўсядзённасці, гаспадаркі, дагэтуль з крызісу не выйшлі. Камунікацыйныя сувязі паміж рознымі інстытутамі апынуліся настолькі моцна разбуранымі, што месцамі іх неабходна цалкам аднаўляць, а часамі і будаваць занава. У першую чаргу маюцца на ўвазе сувязі паміж навукай і мастацтвам; навукай, мастацтвам і палітыкай; навукай, мастацтвам і адукацыяй, і г. д.

Сучаснае беларускае мастацтва практычна ніяк не ўплывае на адукацыю ні на адным з яе ўзроўняў; дакладней, не ўбудаванае ў яе і таму не мае ў ёй свайго належнага месца. Тое самае можна сказаць і пра навуку. У выніку экспрэсіўная функцыя мовы, якая фармуе масавыя, агульнанацыянальныя каштоўнасці, рэалізуецца на старым змесце мастацтва, публіцыстыкі, інтэграваных у школы і СМІ яшчэ з савецкіх гадоў. Новыя пакаленні беларусаў не атрымалі дзіцячай літаратуры, сучаснай по форме і змесце, твораў мастацтва, якія захопліваюць пачуцці і авалодваюць розумамі. Яны незнаёмыя з дасягненнямі сучаснай беларускай навукі, сярод якой належала б вылучыць гістарычную навуку, а затым і ўвесь комплекс гуманітарных ведаў. Пераацэнка каштоўнасцей немагчымая пры ігнараванні і забыцці адной альбо некалькіх функцый мовы грамадскай камунікацыі. Ізалюйце аргументацыйную функцыю — і вы не атрымаеце новага зместу, новых ідэй, меркаванняў і каштоўнасцей. Ізалюйце экспрэсіўную функцыю — і нават яркія новыя ідэі ніколі не стануцца грамадскімі. Усе функцыі мовы павінны быць сумерна і адэкватна звязаны паміж сабой адносна сучасных праблем і рэалізаваны ў грамадскай камунікацыі.

# «Свае» і «чужыя» каштоўнасці на этапах самавызначэння нацыі

У эпоху мадэрну адной з галоўных катэгорый і каштоўнасцей сталася лічыцца катэгорыя «нацыі». Паступова яна пачала задаваць маштабы і межы мыслення і адносна культуры, і адносна грамадскай практыкі, і камунікацыі. Напярэдадні XX ст. гэтая каштоўнасць сфармавалася ў «права нацый на самавызначэнне». Само па сабе самавызначэнне разумеецца дастаткова шырока. У максімальным вымярэнні нацыя самавызначаецца як асобная суверэнная дзяржава, але магчымым і звыклым ёсць удзел нацыі ў рознага роду саюзах, канфедэрацыях, федэрацыях і нават культурнай аўтаноміі ў рамках іншай дзяржавы. Іерархія каштоўнасцей (у грамадскай камунікацыі і палітыцы) на розных этапах самавызначэння нацый істотна розніцца. Напрыклад, на этапе барацьбы за суверэнітэт на першы план могуць выходзіць адны каштоўнасці, а пасля заваявання незалежнасці і яе трывалага замацавання — зусім іншыя. У змаганні за незалежнасць каштоўнасць самой незалежнасці выступае дамінуючай і нават карэктуе змест іншых каштоўнасцей. Аднак пасля атрымання перамогі на першы план выходзяць ужо зусім іншыя пытанні і праблемы. Напрыклад, праблемы геапалітычнага і цывілізацыйнага выбару ў перыяд барацьбы за незалежнасць могуць толькі дыскутавацца. Але ўжо стаўшы суверэннай, нацыя мусіць такі выбар зрабіць, увасобіўшы яго ў палітычныя ды эканамічныя крокі і дзеянні. У сучаснай Беларусі гэты выбар набывае форму змагання з «навязанымі» заходнімі каштоўнасцямі. Геапалітычны і цывілізацыйны выбар культурнай арыентацыі складаецца з некалькіх ўзроўняў. Першы і найпрасцейшы — самаідэнтыфікацыя: «Хто мы?», альбо ў абстрактнай форме, «Хто такія беларусы?». Здавалася б, ніхто не можа адмаўляць, што беларусы — гэта еўрапейцы. Але ж адна справа прызнаць абстрактна і адслонена, што беларусы — еўрапейцы, і зусім іншае — самім сабе сказаць: «Мы — еўрапейцы». У перыяд, калі праблема геапалітычнага і цывілізацыйнага выбару пераходзіць у практычную плоскасць, становіцца зразумелым, што апрача падабенства

з астатнімі еўрапейцамі мы маем і істотныя адрозненні. Чаго ж больш — падабенстваў ці адрозненняў? Што больш важна: тое, што нас аб'ядноўвае, альбо тое, што робіць нас адметнымі? Тая частка нацыі, для якой каштоўнасць адрозненняў у гэты перыяд самавызначэння выяўляецца важнейшай, пачынае шукаць іншых формаў самаідэнтыфікацыі. Напрыклад, «Так, мы еўрапейцы, але нашмат больш істотна і каштоўна, што мы славяне». І ў кожнай канкрэтнай сітуацыі тыя альбо іншыя канкрэтныя каштоўнасці пачынаюць дзяліцца на «свае» (напрыклад славянскія; мы тут нават не будзем закранаць савецкіх вартасцей, якія ў 1990-я гг. найчасцей выстаўляліся альтэрнатывай заходнім) і «еўрапейскія», якія далей па азначэнні разумеюцца як «чужыя».

Лагічнасць такога роду меркаванняў вельмі сумнеўная. Паводле формы развагі могуць будавацца як лагічна несупярэчлівыя і нават строгія, тады як у асновах саміх меркаваняў ляжаць альбо ірацыянальныя пасылы, альбо лагічныя памылкі. Але дастаткова таго, што ў развагах і дыскусіях тыя ці іншыя каштоўнасці пачынаюць дзяліцца на «свае» і «чужыя». Зразумела, гэтае дзяленне можа стасавацца як да неактуальных вартасцей, так і да актуальных, больш таго — вострапалітычных. Скажам, у наш секулярызаваны час пытанне пра тое, якая рэлігія ёсць больш традыцыйнай, менш традыцыйнай ці нетрадыцыйнай, можа захопліваць розумы вернікаў, інтэлектуалаў, зацікаўленых спецыялістаў. Але ж актуальнасць вырашэння гэтага пытання ўжо далёка не такая, якой яна магла быць у эпоху Рэфармацыі і нават у XIX ст. Затое больш актуальнымі і жыццёва важнымі становяцца іншыя пытанні. Напрыклад, вяршэнства закона альбо сацыяльная справядлівасць і абароненасць. Яшчэ з савецкіх часоў вяршэнства закона, хаця ніколі і не адмаўлялася, лічылася прыўнесенай нам буржуазнай альбо заходняй каштоўнасцю. Тое ж самае з дэмакратыяй, якая ў прамовах беларускіх ідэолагаў часта выкарыстоўваецца ў словазлучэнні «гэтак званая дэмакратыя». Адмаўляючы прынцыпы вяршэнства закона і дэмакратыі, ідэолагі апелююць да традыцый беларускага народа, а ў некаторых выпадках да канструкцый кшталту «праваслаўнай цывілізацыі» альбо «славянскай цывілізацыі». Аргумента-

цыя ў такіх апеляцыях заўсёды была надуманай і маніпуляцыйнай, але часта эфектыўнай. Праціўнікі дэмакратыі спасылаюцца на шырокавядомыя гістарычныя падзеі, імёны дзеячаў, нагружаныя ў народнай памяці пазітыўнымі сэнсамі і гераізаваныя. Калі з імёнамі герояў звязаныя дзеянні і ўчынкі, якія лічацца станоўчымі і пазітыўнымі, хай сабе і недэмакратычнымі і неправавымі, дык такога роду дэмагогія і маніпуляцыі дасягаюць сваёй мэты. У грамадскай думцы працягвае дамінаваць перакананасць, што ў беларускай нацыі няма дэмакратычных традыцый, што яны прыўносяцца і навязваюцца нам звонку.

Разумовыя аргументы, якія спасылаюцца на іншыя гістарычныя падзеі ды імёны, у гэтым выпадку не спрацоўваюць. Па-першае, таму, што тыя падзеі ды імёны недастаткова вядомыя. Але нават калі іх вядомасць будзе павышанай праз медыі альбо падручнікі гісторыі, гэтага ўсё адно недастаткова да таго часу, пакуль будзе захоўвацца гераізацыя адных імёнаў і эмацыйна абыякавае стаўленне да іншых. То бок простае інфармаванне і нават навуковыя веды абмежаваныя ў сваіх магчымасцях уплываць на грамадскія працэсы ўжо існуючай структурай каштоўнасцей ды ідэалаў. Гістарычная навука аперыруе ведамі, але не стварае герояў і не выкрывае злодзеяў ды злачынцаў. Гэта справа літаратуры і мастацтва.

Гісторыя Беларусі поўніцца прыкладамі барацьбы беларусаў за свае правы — прыватныя і грамадзянскія. Ці можна на гэтай падставе сцвярджаць, што нацыянальныя традыцыі беларусаў уключаюць традыцыю змагання за правы чалавека і грамадзяніна? Магчыма, для кагосьці навуковых аргументаў цалкам дастаткова, але калі браць грамадства ў цэлым, то даводзіцца канстатаваць, што ў грамадскай думцы такая традыцыя адсутнічае. Але — адсутнічае менавіта ў канкрэтнай гістарычнай сітуацыі, тут і цяпер, учора і сёння. Усё можа змяніцца заўтра. Традыцыя — гэта не тое, што было ў мінулым. Гэта тое, што транслюецца і рэалізуецца ў сучаснасці. А гістарычны матэрыял — гэта тое, што дае традыцыі грунтоўнасць і мацуе яе.

Мы ведаем, што гісторыя разнастайная і і супярэчлівая. Таму маючы на ўвазе пераацэнку каштоўнасцей, мы абавязаны ўлічваць

гэтую разнастайнасць і супярэчлівость. І разам з тым павінныя аддзяляць факты ад ацэнак і меркаванняў з нагоды гэтых ведаў і фактаў. У гісторыі мы шукаем матэрыял для перааацэнкі каштоўнасцей. Разглядаючы гісторыю Беларусі, мы можам выявіць мноства падобных да еўрапейскіх працэсаў і падзей, але можам убачыць і тое, што нас адрознівала ад шмат якіх еўрапейскіх народаў і нават ад найбліжэйшых суседзяў. Пераглядаючы сваё гістарычнае мінулае, аналізуючы яго, мы не можам абмежавацца колькасным супастаўленнем: чаго ў нашай гісторыі больш — таго, што нас лучыць з іншымі еўрапейцамі, альбо таго, што адрознівае ад іх? Нам трэба будзе пераасэнсаваць самі праявы падабенства і рознасці. Неабходна зразумець, што нас аб'ядноўвае з еўрапейскімі краінамі — і што мы можам пакласці ў аснову нашых традыцый менавіта як нашае, сваё. Нам давядзецца асэнсаваць і праінтэрпрэтаваць нашае адрозненне ад іншых еўрапейскіх народаў. Але праінтэрпрэтаваць яго не як тое, што лучыць нас з нейкай нееўрапейскай формай цывілізацыйнага развою, а як адметнасць і адрознасць ўнутры еўрапейскай разнастайнасці. Бо ж усе еўрапейскія народы ў той ці іншай меры адрозніваюцца адзін ад аднаго.

## Што засталося ў нас савецкага?

З усёй разнастайнасці гістарычнага матэрыялу мы засяродзімся толькі на некалькіх аспектах, а вылучыць іх з мноства іншых мае сэнс паводле крытэрыяў актуальнасці і вастрыні абмеркавання ў сучасных грамадскіх дыскусіях — не толькі ў самой Беларусі, але і ў інтэграванай Еўропе.

Да 1991 г. Беларусь уваходзіла ў склад СССР. Гэтая вялізная федэратыўная дзяржава самавызначалася не проста як адна з мноства іншых дзяржаваў свету, але як цэнтр альбо лідар апрычонага сусветнага парадку, які супрацьстаўляў сябе заходняй, у першую чаргу — заходнееўрапейскай цывілізацыі. Цягам шматлікіх дзесяцігоддзяў афіцыйная ідэалогія СССР будавалася на катэгарычных апазіцыях заходнім каштоўнасцям. У 70-я гады мінулага стагоддзя ў свеце распаўсюдзілася тэорыя канвергенцыі дзвюх

сістэм. Спакваля і ў аслабленай форме гэтая тэорыя зацвердзілася і ў Савецкім Саюзе. Каштоўнасці і катэгарыйныя апазіцыі пачалі падзяляцца на агульныя для краін сацыялістычнага лагера і заходняга свету, і тыя, што па-ранейшаму застаюцца чужымі для Захаду і СССР з ягонымі сатэлітамі. На падставе агульных каштоўнасцей краіны першага і другога свету (то бок краіны з рынкавай эканомікай і дэмакратыяй і сацыялістычныя краіны) маглі супрацоўнічаць адно з адным і нават супольна дзейнічаць у краінах трэцяга свету. Меркавалася, што для краінаў першага і другога свету каштоўнасці інавацыйнага развою з'яўляюцца агульнымі, і не толькі ў форме дэкларацый, але і ў рэалізацыі на практыцы. А вось супрацьстаянне паводле каштоўнасцей дэмакратыі, свободнага рынку, прыватнай уласнасці і правоў чалавека застаецца нязменным. Насуперак заходняй дэмакратыі савецкая ідэалогія прапанавала іншую — сацыялістычную, альбо народную дэмакратыю. Замест свабоднага рынку — планавую эканоміку, замест прыватнай уласнасці — калектыўную і дзяржаўную, а замест правоў чалавека савецкая ідэалогія нічога не прапанавала, але напаўняла гэтае паняцце цалкам іншым зместам. Фактычна правы чалавека падмяняліся сацыяльнай абароненасцю і задавальненнем матэрыяльных патрэбаў.

Канвергенцыя дзвюх сістэмаў існавала адначасна з іх спаборніцтвам і канкурэнцыяй паміж імі. Магчыма, калі-небудзь канвергенцыя альбо ўзаемапранікненне і аб'яднанне гэтых грамадскіх сістэм магла б стацца рэальнасцю. Але СССР разам з усім сацыялістычным блокам прайграў у канкурэнтнай барацьбе. Канец 80-х — пачатак 90-х гг. XX ст. ужо характарызаваўся не столькі канвергенцыяй і ўзаемным уплывам абодвух светаў, колькі распадам сацыялістычнага блока і пераходам большасці адпалых частак да заходняй сістэмы каштоўнасцей.

Беларусь не патрапіла ў гэтую большасць. Тут па інерцыі працягвалі існаваць, трансляваецца і рэалізоўвацца сістэма каштоўнасцей ды ідэалогія, якія часткова адрозніваліся ад савецкіх, але сутнасна грунтаваліся на іх. Хаця пры гэтым асноўныя ідэалагічныя апазіцыі зведалі істотныя змены. Беларусь — маленькая краіна, якая не можа дазволіць сабе адгарадзіцца ад знешняга свету жалезнай за-

слонай, захоўваючы ў недатыкальнасці свае ідэалы ды каштоўнасці. Таму Беларусь вымушаная змірыцца з пранікненнем у краіну рынкавых адносін і дазволіць прыватную уласнасць ў большасці сфераў — можа быць, за выключэннем прыватнай уласнасці на зямлю. Свабодны рынак і прыватная ўласнасць былі легітымізаванымі нават на ўзроўні ідэалогіі, але з дадаткамі тыпу «прыватная ўласнасць магчыма, хаця дзяржаўная лепш», «рынкавыя адносіны існуюць, і з імі неяк трэба лічыцца, але пры кожнай магчымасці неабходна рабіць захады дзеля планавага ўмяшальніцтва дзяржавы ў эканамічныя працэсы і нават прамога пратэкцыянізму». А вось стаўленне да дэмакратыі і правоў чалавека практычна засталося нязменным. Менавіта таму сярод усіх дамінант супрацьстаяння беларускай дзяржаўнай ідэалогіі, якая фактычна падмяняе сабою грамадскую думку, мы абмяжуемся разглядам толькі катэгорый дэмакратыі і правоў чалавека. Наколькі дэмакратыя і змаганне за правы чалавека характэрны для Беларусі ў яе гістарычнай рэтраспекцыі? Ці могуць яны лічыцца для беларусаў сваімі, а не прыўнесенымі звонку, і з гэтага стаць зместам беларускай традыцыі?

Рэфлексаваць над гэтымі праблемамі мы будзем ужо ў звыклым фармаце дыялогу з тымі самымі ўдзельнікамі: Аўтарам і Крытыкам.

***

***Крытык.*** *Вяртаючыся да сюжэта з помнікам Леніну і памятаючы пра тое, што яго знос ёсць рэплікай ў культурным дыялогу і пераацэнцы каштоўнасцей, пытанне можна паставіць наступным чынам. Фігура Леніна асацыюецца з сацыялістычнымі каштоўнасцямі, сацыяльнай справядлівасцю, правамі прыгнечанага класа і да т. п. Гэта адна з магчымых і даволі папулярных версій «правоў чалавека і дэмакратыі». Калі гэтыя каштоўнасці варта замяніць, дык хто з гістарычных персанажаў заслугоўвае помніка?*

**Аўтар.** Пытанне здаецца простым, але гэта толькі так здаецца. Давай ацэнім гісторыка-культурную рэпліку «Ленін» паводле параметраў, якія мы абмеркавалі. Скажам, прасторава-часавае

разгортванне гэтай рэплікі. Бо Ленін — фігура не беларускага, а сусветнага маштабу. Ці ёсць у беларускай гісторыі аналагічныя персанажы? Думаю, што не. Разгарнуць славу Льва Сапегі гэтак жа шырока, як славу Леніна, наўрад ці атрымаецца. Значыць, адэкватны адказ павінен «перасягаць» Леніна паводле іншых параметраў: напрыклад, мадальнасці, інтэнсіўнасці альбо сэнсу, які непасрэдна тычыцца беларусаў. Няхай Ленін належыць свету, але для нас, беларусаў, нейкае іншае імя можа быць напоўнена большым зместам — нашым, «тутэйшым». Таму вырашаць, каму ставіць помнікі на месцы знесеных помнікаў Леніну, трэба з улікам мадальнасці, інтэнсіўнасці, зместу і сэнсу тых постацей, якія мы гатовыя прапанаваць. Цалкам верагодна, што адэкватным адказам на культурную рэпліку «Ленін» будзе надзвычай багаты суплёт беларускіх нацыянальных герояў.

Ленін, як спявалася ў яго любімай песні, прапанаваў разбурыць увесь свет да падвалінаў, каб узвесці нешта іншае. І цяпер гэтае іншае дамінуе над усім у Беларусі, як нацыянальная бібліятэка над мікрараёнам «Усход». Тады нам трэба, прыбіраючы Леніна, аднавіць тыя каштоўнасці ды ідэалы, якія ім былі зганьбаваны. І гэтыя каштоўнасці ды ідэалы маюць свае назвы — дэмакратыя, цярпімасць, правы чалавека, вяршэнства закона — і сваіх гістарычных персанажаў, якія ўвасабляюць гэтыя каштоўнасці для беларусаў. Напрыклад, Леў Сапега можа ўвасабляць каштоўнасці законнасці ды канстытуцыйнасці, Антоні Тызенгаўз — каштоўнасці індустрыялізацыі і мадэрнізацыі гаспадарчага ладу, Кастусь Каліноўскі — барацьбу з самадзяржаўем і г. д.

Але ж дзеля таго каб больш змястоўна прааналізаваць такога роду пытанні, нам варта заглыбіцца ў нашу ўласную гісторыю.

***Крытык:*** *Вось і давай заглыбляцца. Толькі будзем памятаць, што для ўсёй больш або менш адукаванай беларускай публікі ўжо не ёсць навіной сцверджанне, што на Беларусі часоў ВКЛ дамінавалі агульнаеўрапейскія нормы і стандарты «прававога рэгулявання», што нашы продкі зрабілі свой ладны унёсак ва ўсталяванне дэмакратыі ў Еўропе. Аднак ты сцвярджаеш, што і тут неабходная пераацэнка. Што ж тады трэба пераацэньваць?*

# Эпоха «двух каралёў» — першы геапалітычны выбар

**Аўтар:** Вялікае Княства Літоўскае, безумоўна, належыць да еўрапейскай прасторы. Гэта не аспрэчвалася нават савецкімі гісторыкамі. Але ж нашу гістарычную прыналежнасць да Еўропы можна інтэрпрэтаваць па-рознаму. Напрыклад, як акупацыю альбо якую іншую залежнасць. І тады Расійская імперыя аднаўляе гістарычную справядлівасць, «вызваляючы» большую частку зямель ВКЛ з-пад улады польска-літоўскіх феадалаў. І такія інтэрпрэтацыі дастаткова распаўсюджаныя. Вось яны і падлягаюць перагляду ды пераінтэрпрэтацыі, а менавіта — статус і характар уключанасці беларускіх зямель у еўрапейскую прастору. Дзеля гэтага варта звярнуцца да ранейшых часоў, якія папярэднічалі ВКЛ.

Рэч у тым, што Беларусь ніколі не была па-за Еўропай. Да мангола-татарскага нашэсця ўсе княствы, дзе валадарылі Рурыкавічы і Рагвалодавічы, не вылучалі сябе з еўрапейскага кантэксту. Хаця ў тыя часы гэта разумелася іначай: як прыналежнасць да хрысціянскага свету, яшчэ нават радыкальна не падзеленага паміж Рымам ды Канстанцінопалем. І нават нарастанне напружанасці паміж каталіцызмам і праваслаўем не выключала з Еўропы пераважна праваслаўных славян, грэкаў альбо румынаў. Гэтая тэндэнцыя выразна акрэслілася толькі ў XIII ст. Таму для нас важная эпоха двух каралёў, ад якой пачынаецца геапалітычны раскол паміж усходнімі і заходнімі княствамі Рурыкавічаў.

***Крытык:*** *Каго ты маеш на ўвазе?*

**Аўтар:** Данілу Галіцкага — караля рускага, і Міндоўга — караля літоўскага. Менавіта яны супрацьстаялі палітыцы, якую распачаў Аляксандар Неўскі, — просьбу да ханаў Залатой Арды на права княжання ў сваёй краіне і статус вялікага князя (ярлык на княжанне). Праз некалькі стагоддзяў, у перыяд афармлення Расійскай імперыі, Аляксандар Неўскі быў прызнаны праваслаўным святым і яго палітыка стала лічыцца ўзорнай. Якраз яна і вылучыла ўсходнюю частку ўладаранняў Рурыкавічаў з Еўропы. Дарэчы, Ноўгарад,

у якім княжыў Аляксандар Неўскі, з гэтым не пагадзіўся і яшчэ доўга заставаўся еўрапейскім горадам і дзяржавай.

Эпоху двух каралёў можна яшчэ назваць «эпохай трох Ноўгарадаў». Ноўгарад Вялікі з князем Аляксандрам, Наваградак — сталіца караля Міндоўга і Наваград Валынскі — ўладаранне караля Данілы. Гэтыя тры Ноўгарады якраз і спрычыніліся да пачаткаў фармавання расійцаў, беларусаў і ўкраінцаў як асобных народаў. Прычым усе тры народы ў гэтых Ноўгарадах фармаваліся як еўрапейскія[52].

**Крытык:** *А як жа «выпадзенне» руска-маскоўскіх княстваў з Еўропы?*

**Аўтар:** Ноўгарада гэта не датычыць. Ноўгарад быў і заставаўся еўрапейскім горадам-дзяржавай да яго захопу войскамі Івана III і разбурэння Іванам IV. Бо калі мы гаворым у рамках пераацэнкі каштоўнасцей, то ўсе, што звязана с Аляксандрам Неўскім ды яго палітыкай, было пераацэненае потым дзеля ідэалагічнага абгрунтавання Расійскай імперыі. Цяпер нам варта пераасэнсаваць усё гэта нанова. Аляксандар Неўскі зусім не герой, а хутчэй раскольнік. Героем мы можам лічыць Данілу Галіцкага, першага караля рускага.

**Крытык:** *Але ж Даніла Галіцкі зацята ваяваў з Міндоўгам за землі, якія сёння складаюць значную частку Беларусі?*

**Аўтар:** Ну і што? А хто ў тую эпоху не ваяваў? Усе ваявалі з усімі. Так, нямецкі ордэн у Эстоніі ваяваў з Ноўгарадам. Гэта была звычайная тэрытарыяльная вайна феадалаў. Ужо потым праз рэлігію і мастацтва Лядовае пабоішча зрабілі сімвалам вайны цывілізацый. Міндоўг таксама ваяваў з немцамі, жмудзінамі, з Данілай. І што з таго? Звычайныя міжусобіцы. Нават пазнейшая Грунвальдская бітва Ягайлы з Вітаўтам супраць Ордэна заўсёды разглядалася як бітва еўрапейскіх народаў, а не бітва цывілізацый — еўрапейскай і нейкай іншай.

---

[52] Наваград Валынскі — гэта позняя назва, дадзеная Кацярынай II, а гістарычная — Звягель. Дый першае пра яго згадванне — разбурэнне горада войскамі Данілы Галіцкага. Даволі нацягнутая, хаця і прыгожая канцэпцыя — *заўв. навук. рэд.*

***Крытык:*** *Значыць, гэта былі толькі еўрапейскія міжусобіцы? Атрымліваецца, што цывілізацыйнага разрыву ніколі і не было?*

**Аўтар:** Быў. І пачаўся ён як раз у гэтую эпоху. Толькі мяжа разрыву была не там, дзе яна потым усталявалася. Расійскія і савецкія гісторыкі ды ідэолагі праводзяць мяжу паміж Еўропай і ўсходнеславянскімі княствамі па валадараннях Рурыкавічы, г. зн. па сучаснай заходняй мяжы Беларусі і Украіны. Але ў эпоху двух каралёў гэтая мяжа ўжо пачала фармавацца паміж уладаннямі тых князёў, якія прымалі геапалітычную канцэпцыю Данілы Галіцкага, Міндоўга і полацкіх Рагвалодавічаў, і тых, хто пагадзіўся з геапалітычнай прапановай Аляксандра Неўскага, г. зн. будучыя маскоўскія князі. Вялікае Княства Літоўскае спрабавала дапамагчы гэтым землям вярнуцца ў Еўропу. Аднак маскоўскія князі ўжо не хацелі вяртацца.

Якраз з таго часу і можна весці адлік супрацьстаяння дзвюх праграм: праеўрапейскай праграмы Данілы Галіцкага і прамангольскай альбо еўраазіяцкай праграмы Аляксандра Неўскага.

Сучасныя расійскія аўтары, не столькі гісторыкі, колькі ідэолагі, напрыклад Дугін, схільныя ў гэтым супрацьстаянні прыпісваць перамогу праграмы Аляксандра Неўскага і паражэнне праграмы Данілы Галіцкага.

***Крытык:*** *Перамогу і паражэнне на якой тэрыторыі і на які час?*

**Аўтар:** Вось у тым і справа, што гэтыя гісторыкі ды ідэолагі па-свойму трактуюць (а ў нашых рамках — скажаюць) маштабы і межы гэтай перамогі. Яны мадэрнізуюць падзеі XIII ст., зыходзячы з установак Расійскай імперыі XVIII — XIX стст. і Савецкага Саюза. Але калі добра ўгледзецца ў эпоху Данілы Галіцкага і Аляксандра Неўскага, то можна ўбачыць, што княствы, гарады і землі, якія прынялі праграму Галіцкага, інтэнсіўна аб'ядноўваліся і развіваліся, тады як землі, што прызналі ардынскі ярлык на княжанне, яшчэ доўгі час знаходзіліся ў занядбаным стане. Фармаванне цэласнай дзяржавы на гэтых землях пачалося толькі праз два стагоддзі, ужо ў часы Дзмітрыя Данскога. Самога ж Аляксандра Неўскага ноўгарадцы двойчы праганялі з княжацкага прастола.

Але сёння у Беларусі Данілу Галіцкага амаль не памятаюць, тады як імя святога Аляксандра Неўскага маюць многія цэрквы і прыходы. І справа нават не ў тым, што кананізацыя Аляксандра Неўскага была цалкам ідэалагічным актам — не наша справа аспрэчваць крытэрыі кананізацыі праваслаўнай царквы. Важна іншае. Устаноўка Данілы Галіцкага на збліжэнне з Еўропай схіляла да адаптацыі многіх прыярытэтаў, уласцівых еўрапейскай цывілізацыі, уключна з пачаткамі сістэмы права, якое рэгулюе грамадскія адносіны.

Даніла Галіцкі заслугоўвае таго, каб называцца нацыянальным героем і адным з першых праеўрапейскіх палітыкаў у памяці як мінімум трох народаў сучаснасці — беларусаў, украінцаў і літоўцаў. Літоўскія князі, пачынаючы ад Міндоўга, па сутнасці, працягвалі рэалізоўваць праграму Данілы Галіцкага — і праз паўтор яго палітычных ініцыятыў, і праз прысутнасць у агульнаеўрапейскай палітыцы.

***Крытык:*** *Гэта цікавая інтэрпрэтацыя еўрапейскіх асноў Беларусі. Апрача таго, што яна ўводзіць новага героя, тут важныя і падставы, якія прапануюцца для пераацэнкі. Ты пераносіш акцэнт з таго, як і калі беларускія землі ды іх героі траплялі і ўлучаліся ў агульнаеўрапейскую гісторыю, на тое, што ўсе падзеі на гэтых землях — гэта натуральная частка еўрапейскай гісторыі. Тады пытанне, калі і як мы з гэтай гісторыі выпадалі? І яшчэ, зыходзячы з твайго бачання, мы павінны разглядаць перыпетыі ўсталявання дэмакратыі і правоў чалавека на Беларусі ў кантэксце агульных для Еўропы (хоць і ўнутрана супярэчлівых) працэсаў і тэндэнцый. Так?*

## Каго называць героем?

**Аўтар:** Менавіта так. Дэмакратыя, правы чалавека і свабоды — усё тое, што мы лічым здабыткам еўрапейскай цывілізацыі — не былі першапачаткова ўласцівы еўрапейцам, яны заваёўваліся і трансфармаваліся ад эпохі да эпохі. Нават стаўшы набыткам адной сацыяльнай групы, яны з цяжкасцю распаўсюджваліся на іншыя. Калі ўжо мы пачалі ад эпох ранняга Сярэднявечча, то мусім

пагадзіцца, што для XIII ст. былі актуальны толькі палітычныя свабоды пануючага класа і вольнасці феадалаў. У гісторыі станаўлення еўрапейскага права асаблівае месца займае Вялікая хартыя вольнасцей, падпісаная англійскім каралём Джонам (Янам) Беззямельным у 1215 г., то бок у эпоху Данілы Галіцкага і Міндоўга. Можна сцвярджаць, што і Заходняя Еўропа, і фармаванае Вялікае Княства Літоўскае ў гэта час знаходзіліся прыкладна на той самай стадыі развіцця права. З аднаго боку, феадалы, землеўладальнікі, вольныя гарады, і найвышэйшая ўлада ў асобе каралёў, вялікіх князёў — з другога, былі галоўнымі суб'ектамі правоў і свабод. Да таго ж ацэньвалі яны гэтыя правы і свабоды з розных пазіцый і таму варагавалі паміж сабой. Англійскія бароны зброяй прымусілі свайго караля падараваць ім вольнасці. На Беларусі (тады ў складзе Вялікага Княства Літоўскага) тыя самыя праблемы вырашаліся іначай. Цэнтралізаваная ўлада караля альбо вялікага князя яшчэ толькі фармавалася, і таму вольнасці феадалам, магнатам, а таксама гарадам, якія прад'яўлялі свае правы, гарантаваліся вялікім князем.

Барацьба баронаў скончылася падпісаннем адзінага для ўсіх прававога тастамента, а ў ВКЛ у гэты час падобнае афармлялася дамовамі паміж вялікім князем і асобнымі феадаламі ці гарадамі. Але дакладна гэтак жа сама, як у аснове Вялікай хартыі вольнасцей было звычайнае англа-саксонскае права, так і за аснову дамоўных грамат князёў бралася звычаёвае права плямён і народаў, з якіх складалася ВКЛ. І гэта не толькі звычаёвыя правы славян, але і правы народаў, адносна якіх цяпер няма ніякіх сумневаў, што яны еўрапейцы. Так, полацкія князі яшчэ да злучэння з Вялікім Княствам Літоўскім мелі дамовы з нямецкімі гарадамі на падуладнай ім тэрыторыі (напрыклад, з Рыгай)[53], і гэтыя дамовы былі цалкам еўрапейскімі адносна той пары.

У тыя часы правы і свабоды яшчэ не сталіся агульнай для ўсіх каштоўнасцю, і ў кожным канкрэтным выпадку за іх трэба было

[53] Напрыклад: Дамоўная грамата полацкага князя Ізяслава з інфлянцкім магістрам і горадам Рыгай. Дамоўная грамата князя Гердзеня з інфлянцкім магістрам Конрадам фон Мандэрнам і гарадамі Рыгай, Полацкам і Віцебскам.

змагацца, як за прывілеі. Таму пры фармальнай роўнасці шляхты магнаты дасягалі большых прывілеяў, а сярод гарадоў толькі нешматлікія маглі адстаяць свае правы. Старыя гарады Полацак і Віцебск адставалі ў гэтым сэнсе ад Вільні, Горадні і Берасця, якія ўжо пад канец XIV ст. аформілі свае стасункі з вялікакняжацкай уладай у форме магдэбургскага права.

***Крытык:*** *Гэты перыяд гісторыі Беларусі (XIII — XIV стст.) дастаткова добра асветлены ў гістарычнай літаратуры, прынамсі у той, дзе выкладаецца аб'ектывізаваная гісторыя. Але што пра гэта ведае сярэдні беларус і як гэты перыяд падаецца ў выяўленчым мастацтве, літаратуры, ідэалогіі?*

**Аўтар:** Гэты надзвычай важны перыяд у папулярнай літаратуры ды ідэалогіі прадстаўлнны альбо ў канцэпцыі класавага змагання, альбо ў канцэпцыі імперскай гісторыі — як бесперапыннае імкненне беларусаў да ўз'яднання з Расеяй. І гэта якраз падлягае пераацэнцы. Нам трэба зразумець і пераінтэрпрэтаваць той час як пару змагання за правы і вольнасці. Прычым гэтая барацьба складалася са штодзённай практыкі адстойвання канкрэтных правоў і прывілеяў. Перамогі і паражэнні, набытыя і страчаныя правы і свабоды — усё гэта складае асноўную інтрыгу таго перыяду нашай гісторыі. Натуральна, яна таксама мае сваіх герояў і сваіх злодзеяў.

***Крытык:*** *Але ж за даўнасцю гадоў ад гэтай эпохі не захавалася іншых імёнаў, апрача княскіх.*

**Аўтар:** І гэтага дастаткова для стварэння твораў мастацтва, калі канцэнтраваць увагу не на міжусобіцах і ваеннай гісторыі, а на матывах паводзін і дзеянняў князёў Гедымінавай дынастыі. Той час трэба было б мастакам пераілюстраваць як час змагання за правы і вольнасці. У гэтай барацьбе былі закладзеныя асновы будучай шляхецкай дэмакратыі, як і ўсіх супярэчнасцей наступных эпох, іх дасягненняў ды хібаў.

***Крытык:*** *XIII — XIV стст. — гэта адзіны перыяд, дзе варта шукаць герояў, звязаных со станаўленнем правоў і свабод?*

**Аўтар:** Напэўна ж, не. Героямі той пары былі ўдзельныя князі. Пазнейшыя часы характарызуюцца іншымі героямі.

Бадай, мы прамінем увесь перыяд, які следам за Хёйзінгам можна назваць «восенню Сярэднявечча». Нават у савецкай ідэалагізаванай гісторыі гэты час апісваецца аналагічна таму, што адбывалася ў астатняй Еўропе. Бо хаця нашыя землі ў тую пару былі ўскраінай Еўропы, але менавіта Еўропы. Чаго нельга сказаць пра тыя княствы Рурыкавічаў, якія апынуліся ў сферы ўплыву Залатой Арды і прынялі праграмную ўстаноўку Аляксандра Неўскага. Іншай ускраінай быў Вялікі Ноўгарад з яго рэспублікай і шырокімі гандлёвымі сувязямі — адзін з найбольшых еўрапейскіх гарадоў Сярэднявечча на тэрыторыі будучай Расіі; ён захоўваўся такім аж да заваявання яго Іванам III і падпарадкавання Маскоўскаму княству ў 1478 г.

Савецкая гісторыя, апісваючы гэты перыяд, робіць цэнтрам свету Маскву (трэці Рым) і ўсе наступныя эпохі ацэньвае праз прызму інтарэсаў цэнтралізаванай маскоўскай манархіі. Гісторыя «немаскоўскіх» расейскіх зямель (таго самага Ноўгарада), а таксама беларускіх і ўкраінскіх, выпадае з-пад увагі маскоўскіх, а пазней савецкіх гісторыкаў. Яшчэ менш прадстаўлены гісторыі Літвы, Беларусі, Украіны і Ноўгарадскай Рэспублікі ў культуры і літаратуры.

Пачынаючы з XVIII ст. расійскія і савецкія гісторыкі, ідэолагі, пісьменнікі малявалі гісторыю, арыетуючыся на свае каштоўнасці ды ідэалы. Гераізавалася і ідэалізавалася толькі тое, што адпавядала інтарэсам усталявання цэнтралізаванай маскоўскай дзяржавы — усходняй дэспатыі, у якой і гаворкі не было пра правы і свабоды; усё астатняе — у першую чаргу еўрапейскае — альбо дэманізавалася, альбо замоўчвалася. Пераважна менавіта замоўчвалася. Між тым менавіта барацьба за правы і свабоды ў Літве і на Беларусі — найбольш інтрыгуючая і захапляльная гісторыя. І ў гэтай гісторыі мы яшчэ мусім даведацца пра шматлікіх герояў, якія змагаліся за ідэалы і каштоўнасці, невядомыя ні расійскім, ні савецкім гісторыкам.

***Крытык:*** *Але ёсць яшчэ польская гісторыя і літаратура, якая служыць прыкладам зусім іншага стаўлення ды іншых інтэрпрэтацый. І да яе цяпер усё часцей звяртаюцца беларускія гісторыкі і дзеячы культуры.*

**Аўтар:** Так, гэта яшчэ адна важная крыніца зместу ў грамадскай камунікацыі з перспектывы геапалітычнага выбару Беларусі, хаця і менш значная. Аднак з героямі і інтэрпрэтацыямі падзеяў у польскай версіі варта разбірацца асобна і таксама ўважліва. У гэтай версіі, безумоўна, станаўленне правоў і свабод ёсць адна з асноўных падставаў для інтэрпрэтацый. Але ж складаныя стасункі паміж Польскім каралеўствам і ВКЛ ствараюць апрычоны кантэкст для яго пераасэнсавання не толькі ў сэнсе праблемы ўплываў, залежнасці ці незалежнасці гэтых дзвюх дзяржаў, але і ў сэнсе іх рознай, аднак пры гэтым агульнай еўрапейскай гісторыі. Тут няма магчымасці для такога ўважлівага аналізу, таму вернемся ўсё ж да больш істотных для сучаснага беларускага дыскурсу пераацэнкі каштоўнасцей і інтэрпрэтацый, сфармаваных расійскай і савецкай навукай і мастацтвам.

***Крытык:*** *Добра. Але мы не зможам ахапіць усю гісторыю. Давай спынімся хаця б на ключавых падзеях, фактах і персанажах.*

**Аўтар:** Зразумела. Напэўна, цяжка ўтрымацца ад згадкі пра некаторыя шырокавядомыя факты — напрыклад, Статут Вялікага Княства Літоўскага.

***Крытык:*** *Мы і не мусім утрымлівацца ад гэтага, але акцэнты ў нашай тэме трэба расставіць неяк інакш, чым у большасці кніг і падручнікаў. Напрыклад, разважаць менавіта пра правы і свабоды, задэклараваныя ў Статуце, і асабліва пра герояў, дзейнасць якіх зрабіла магчымым Статут, перадусім пра Льва Сапегу.*

**Аўтар:** Згодны, але Леў Сапега і так шырокавядомы, нават часткова гераізаваны. А вось не менш важныя ў гісторыі Статута Астафій Валовіч, а таксама Альбрэхт Гаштольд, пад кіраўніцтвам якога працавала камісія, што распрацоўвала першы Статут 1529 г., незаслужана забытыя.

Стала банальнасцю называць XVI ст. «залатым векам Беларусі». Аднак мала хто ведае, што было падставай для такой метафары. Бо XVI ст., апрача ўсяго іншага, гэта пара сапраўдных культурных герояў. У гэты час на Беларусь пачалі вяртацца шмат тых, хто атрымаў адукацыю ў еўрапейскіх універсітэтах. Найбольш знакаміты

сярод іх — Францішак Скарына. Але былі і многія іншыя. Гэта яны сталіся чытачамі надзвычай багатай навуковай, мастацкай і палемічнай літаратуры, якой славута гэтае стагоддзе. Яны ж былі і актыўнымі ўдзельнікамі палемік.

**Крытык:** *Давай згадаем хаця б некалькіх аўтараў, якія адстойвалі ідэю правоў і свабод у тую пару.*

**Аўтар:** Ну, па-першае, гэта зоркі палемічнай літаратуры. Іх шмат — нават не ведаю, каго вылучыць. Цяжкасць яшчэ і ў тым, што ў палеміцы ўдзельнічалі прадстаўнікі чатырох галоўных канфесій XVI ст. — праваслаўныя, каталікі, пратэстанты і ўніяты. У кожнай з канфесій — свае зоркі. Калі арыентавацца на кантэкст нашай тэмы, то найперш варта было б узгадаць Сымона Буднага з яго «Апалогіяй грэшнага чалавека перад Богам». Імя Буднага, з аднаго боку, добра вядомае, але не ў кантэксце тэмы дэмакратыі і свабоды. А менавіта гэта варта было б найперш акцэнтаваць. Адстойванне правоў і свабод у эпоху Рэфармацыі патрабавала апеляцыі да тэалогіі. У палеміцы на гэтую тэму ўдзельнічалі і Эразм Ратэрдамскі, і Гуга Гроцый. Сымон Будны безумоўна варты заняць пачэснае месца сярод уладароў думак еўрапейцаў XVI ст. Аналагічная палеміка вялася паміж кальвіністамі і армініянамі ў Галандыі, Швейцарыі ды іншых краінах.

**Крытык:** *Але ж барацьба за правы і свабоды не выяўлялася толькі ў літаратуры, няхай сабе і палемічнай? Бо гэта яшчэ і адстойванне свах правоў і свабод у штодзённай практыцы.*

**Аўтар:** Зразумела. Толькі як мала мы ведаем пра гэтую барацьбу ў Беларусі! Звычайна прадметам вывучэння і гонару ёсць альбо філасофскія і літаратурныя працы, альбо кадыфікаванае права. Але ж каб стацца часткай права і быць асэнсаванымі ў творах, ідэі свабоды і правоў чалавека павінны былі зрабіцца часткай ладу жыцця людзей таго часу. Каб не хадзіць далёка, зноў згадаем Францішка Скарыну. Усе памятаюць пра яго выданні Бібліі, але мала хто ведае пра судовыя справы Скарыны са сваімі братамі ў Полацку і з выдаўцамі ў Вільні. А гэтыя справы як раз і складалі тканку жыцця, у якой адбываліся славутыя падзеі! І гэтае жыццё было запоўнена рэалізацыяй тых ідэй, якія ўжо ў форме твораў

засталіся ў гісторыі. Напрыклад, біяграфію Гуга Гроцыя цяжка ўявіць без судовых справаў, у якіх ён удзельнічаў, і гэта багаты матэрыял для вывучэння прававой сітуацыі ў Нідэрландах таго часу. Між іншым, Скарына адстойваў у судзе свае маёмасныя і аўтарскія правы яшчэ да з'яўлення Статута А. Валовіча ды Л. Сапегі ў 1566 г. Ужо тады суды ў Вільні і ў Полацку спраўна працавалі і вырашалі праблемы гарадскіх абывацеляў.

Гістарычнай базай для разумення працэсаў фармавання і станаўлення правоў і свабод ёсць прэцэдэнты шматлікіх судовых спраў у розных гарадах, дакументы пра якія захаваліся. Вядомыя многія імёны простых месцічаў, якія змагаліся і адстойвалі свае правы. Гэта азначае, што з імі ўлады былі вымушаныя лічыцца, афармляць прэцэдэнты ў кодэксах законаў і тым самым фармаваць прававую культуру.

Наогул, гісторыя літоўскай заканатворчасці — унікальная з'ява таго часу нават для Еўропы. Пра гэта шмат напісана, але ж нішто не ўзнікае ніадкуль. За гэтым стаіць судовая практыка і паўсядзённае жыццё шматлікіх шляхціцаў, купцоў, рамеснікаў і нават сялян — пакуль безназоўных для большасці беларусаў. Так, гісторыя валожынскага парафіяльнага святара, які ў 1570 г. выклікаў на суд мітрапаліта і выйграў працэс, магла б стаць асновай для літаратурнага твора альбо сцэнарыя пра лад жыцця і думкі тых часоў.

XVI ст. — гэта не толькі век Рэфармацыі, але і завяршэнне Рэнесансу — эпохі, калі чалавечая годнасць, індывідуальныя свабоды былі найбольш актуальнай праблемай. Звычайна мы ведаем пра гэта з біяграфій вялікіх людзей таго часу і мастацкіх твораў пра іх.

***Крытык:*** *Мастацкіх твораў, створаных імі, ты хочаш сказаць?*

**Аўтар:** Не, мастацкіх твораў, якія былі створаны пазней. Літаратура таго часу, як і жывапіс, і тэатр, чэрпалі свае сюжэты з мінуўшчыны, з класічнай старажытнасці. Так, Мікола Гусоўскі пісаў пра часы Вітаўта. Аднак ён укладаў у сваю «Песню пра зубра» тое, пра што разважаў сам, тое, што хвалявала яго самога і яго сучаснікаў. Падобна можна сказаць не толькі пра мастакоў, але і пра людзей тагачаснай навукі.

**Крытык:** *Навука ў XVI ст. — гэта, бадай што, перабольшанне?*

**Аўтар:** Напэўна, навукі ў сучасным разуменні тады не было. Але можна ўзгадаць Міхалона Ліцвіна і ягоны трактат «Аб норавах літоўцаў, татараў ды маскавіцянаў». Хаця кніга завецца «Аб норавах...», яна не пра этыку. У назве згадваюцца тры розныя народы, аднак яна і не пра этнаграфію. Гэтая праца хутчэй папярэдніца таго, што пазней пачнуць называць сацыялогіяй і паліталогіяй. Міхалон Ліцвін бярэцца разважаць пра дзяржаўны лад, становішча грамадзян, пра іх правы і свабоды, пра паляпшэнне жыцця народа.

Нельга абмінуць увагай і Андрэя Волана — філосаф, правазнаўца, актыўны палеміст. Ён не толькі пісаў, але і выступаў пасярэднікам на перамовах, выконваў дыпламатычныя даручэнні, рэпрэзентаваў інтарэсы шляхты ў сойме. Актыўна праводзіў ідэю свабод і правоў грамадзянаў.

Згадаем і экзатычныя выпадкі крайне радыкальнага адстойвання сваіх індывідуальных правоў і свабод. Напрыклад, Каспара Бекеша, суперніка і паплечніка Стэфана Баторыя. У сваім імкненні да індывідуальнай свабоды ён адпрэчваў і рэлігію, і этыку, скептычна ставіўся да законаў дзяржавы. Можа быць, гэта было і занадта эпатажна для свайго часу, але без такіх постацей немагчымы прагрэс у правах і свабодах. Апрача того, менавіта на матэрыяле іх жыцця можа быць раскрыты ўвесь драматызм і складанасць фармавання каштоўнасцей ды ідэй.

## Паражэнні і праблемы ў гісторыі правоў і свабод у Беларусі

**Крытык:** *Залаты век у гісторыі Беларусі выглядае настолькі плённым, з ім звязана так шмат поспехаў і дасягненняў, што зусім не зразумела, чаму наступныя эпохі не захавалі ўсяго гэтага...*

**Аўтар:** XVI ст. — гэта час, калі ў нашай краіне збіралі плён таго, што было закладзена ў папярэднія часы: плён свабоды, разумнага кіравання, разняволенай актыўнасці чалавека. Але ў пэўным сэнсе

само XVI ст. было бясплённым, бо яно не заклала таго, што выявіла б свой плён у будучыні.

**Крытык:** *Вось гэта ўжо цікава! То бок залаты век быў не зусім дасканалым — здараліся і паражэнні?*

**Аўтар:** Кожны час мае свае выклікі, свае задачы і праблемы. Два каралі заклалі асновы для правоў і свабод феадалаў — магнатаў, родавай арыстакратыі, тых, каму яны тады былі патрэбны і хто за іх змагаўся. Але бліжэй да XVI ст. самі магнаты сталіся перашкодай для правоў і свабод іншых груп і стратаў грамадства. Гэта час, калі правы і свабоды пачалі хваляваць жыхароў гарадоў — будучую буржуазію. Гарады ў Літве раслі і развіваліся, як і ва ўсёй Еўропе. Самі гарады і грамадзяне гарадоў станавіліся суб'ектамі і носьбітамі правоў і свабод. А гарантам правоў і свабод месцічаў і дробнай шляхты ў тыя часы магла быць толькі моцная цэнтралізаваная манархія. Адно абсалютная манархія была ў сілах стрымаць самаўпраўства і валюнтарызм удзельных князёў і феадалаў. У сваю чаргу, такая манархія была магчымая толькі ва ўнітарнай дзяржаве, а Рэч Паспалітая была федэратыўнай дзяржавай двух народаў. Прычым «народаў» — гэта рытарычная фігура, хутчэй феадальных сем'яў. Літва ў гэтай федэрацыі была «слабым звяном», яна больш за Польшчу патрабавала федэрацыі, стала адчуваючы пагрозу з Усходу. Да таго ж рашэнні ва ўласнай краіне літоўскія магнаты маглі прымаць толькі праз узгадненне з польскімі магнатамі.

**Крытык:** *Цікава, што шляхецкая дэмакратыя і значнае абмежаванне магчымасцей манарха ў тыя часы складае прадмет нашага гонару. Прычым гонару менавіта ў сэнсе правоў і свабод.*

**Аўтар:** Так, у прыватнасці, свабодныя выборы караля і «залатыя вольнасці» шляхты часта апісваюцца як развіццё інстытутаў дэмакратыі, якія моцна апярэджвалі ўсю Еўропу. Але такія інтэрпрэтацыі і ацэнка хутчэй сведчаць пра неразуменне месца і значэння Рэчы Паспалітай (і ВКЛ у яе складзе) у агульнаеўрапейскіх працэсах. Яны перадусім выяўляюць нашы правінцыйныя комплексы і жаданні іх пераадолець простымі спосабамі. Калі разглядаць беларускую гісторыю як частку агульнаеўрапейскіх працэсаў, дык добра бачна, што выбарнасць каралёў і гіпертрафа-

ваныя шляхецкія вольнасці значна замінялі станаўленню дэмакратычных інстытутаў. Складанасць узгадненняў і кампрамісаў ва ўмовах шляхецкай дэмакратыі настолькі заблытвалі набілітэт Рэчы Паспалітай, што выбары караля амаль заўсёды канцаваліся перамогай самага горшага варыянта. Да таго ж набілітэту найбольш адпавядаў слабы кароль і слабая ўлада. А гарады, якія ў гэты перыяд станавіліся галоўнымі інстытутамі развіцця грамадства і гарантыі правоў і свабод, практычна не ўдзельнічалі ў выбарах караля, таму кароль не мог апеляваць да гарадоў, калі імкнуўся сваю ўладу ўзвысіць.

**Крытык:** *Але ж адной з падстаў нашага гістарычнага гонару ёсць магдэбургскае права, якое забяспечвала самакіраванне, правы і свабоды, як і ў шмат якіх еўрапейскіх гарадах?*

**Аўтар:** Так, і гэта было цудоўна, што ў беларускіх гарадах дзейнічала Магдэбургскае права. Але ў Еўропе існавала некалькі мадэляў гарадскога права, і магдэбургскае — толькі адзін з варыянтаў, і, можа быць, не самы дасканалы. Горш таго — нават магдэбургскае права ў ВКЛ было абмежаваным. Паводле сваіх свабод беларускія гарады моцна саступалі заходнееўрапейскім. Пры шырокім распаўсюджванні магдэбургскага права ў ВКЛ многія гарады ўсё ж былі ва ўласнасці магнатаў. А прыватнаўласніцкія гарады і палітычна, і эканамічна таксама залежалі ад волі і рашэнняў магната. У параўнанні са становішчам спраў у Расійскай імперыі беларускія гарады, пэўна ж, былі прыкладам дэмакратыі і забяспечання свабод. Аднак у рамках агульнаеўрапейскай гісторыі гэта не зусім так.

Такім чынам, пры бурным культурным росквіце ў XVI ст. галоўныя задачы не былі вырашаны, на выклік эпохі ВКЛ адказала неадэкватна. З гэтага часу мы пачалі моцна адставаць у плане дэмакратызацыі, правоў і свабод. Каралі і гарады не далі рады з уласнай эпохай.

**Крытык:** *Гэта была адзіная прычына?*

**Аўтар:** Не. Прычын было некалькі, і яшчэ адну з іх ніяк нельга абмінуць. Дзеля гэтага нам трэба пераацаніць яшчэ такі складнік нашага нацыянальнага гонару, як рэлігійную талерантнасць.

# Супярэчлівая гісторыя рэлігійнай талерантнасці

***Крытык:*** *Але ж рэлігійная талерантнасць заўсёды лічылася адной з найбольш прывабных характарыстык Беларусі і ВКЛ. Ці гэта міф?*

**Аўтар:** Не, гэта не міф, але ні да якой з'явы нельга ставіцца аднолькава ў розныя перыяды гісторыі. Тое, што ёсць каштоўнасцю і блаславеннем у адну пару, можа апынуцца нечым іншым — у другую. Так сама і з рэлігійнай талерантнасцю.

***Крытык:*** *Няўжо талерантнасць можа быць злом хоць у якую гістарычную эпоху?*

**Аўтар:** Злом не злом, але слабасцю можа. А таксама — падставай няўдач і паражэнняў у будучыні. Давай яшчэ раз азірнемся на Еўропу той пары. Яе называюць залатым векам не толькі ВКЛ, але яшчэ і Англіі, ды Нідэрландаў. І паўсюль гэта звязана з Рэфармацыяй. Між тым XVI ст. — гэта і час рэлігійных войнаў. Імі ахопленая ўся Цэнтральная Еўропа, куды сягала ўлада імператара Карла V. У Францыі рэлігійны супраціў выбухнуў грамадзянскай вайной. У Англіі пасля смерці Генрыха VIII рэлігійны канфлікт набыў форму дынастычнай вайны пратэстанткі Альжбеты і каталічкі Марыі. У Нідэрландах пад рэлігійнымі сцягамі ідзе вайна супраць каталіцкай Іспаніі. Ціха ў гэты час толькі на еўрапейскіх ускраінах. На Пірынейскай паўвыспе інквізіцыя не дазволіла закаласіцца Рэфармацыі, скандынаўскія каралі мірна ўсталявалі лютэранства ў сваіх краінах, Італія застаецца апорай каталіцызму. І Рэч Паспалітая таксама перабывае ў згодзе, дзякуючы паўсюднай рэлігійнай талерантнасці. Пратэстантызм на гэтых землях стаўся падставай Акта Варшаўскай канфедэрацыі аб рэлігійнай цярпімасці ў 1573 г., а пазней спрыяла прымірэнню каталіцкай і часткі праваслаўнай царквы праз заключэнне Берасцейскай уніі ў 1596 г. Выглядае, што Рэч Паспалітая і ВКЛ маглі б выступаць станоўчым прыкладам для ўсёй Еўропы, бо рэлігійная талерантнасць там запануе на шмат стагоддзяў пазней. Але гэтак сітуацыя можа ба-

чыцца адно ў тым выпадку, калі мы пераносім сучаснае разуменне талерантнасці на 500 гадоў назад. Тады ж усё было іначай.

***Крытык:*** *То бок зноў неабходна пераацэнка каштоўнасцей, як і з шляхецкімі вольнасцямі?*

**Аўтар:** Так. Трэба паглядзець на гэта з іншай перспектывы. Людзі XVI ст. былі гатовы паміраць за сваю веру. Для іх гэта было тое ж самае, што паміраць за свабоду — такім чынам увасаблялася барацьба за свабоду сумлення. А як вядома, праз змаганне ад бываецца мадэрнізацыя і ідэй, і сацыяльных альбо палітычных практык. Пашанцавала скандынаўскім народам: перад імі рэлігійны выбар не паўстаў так востра, як перад жыхарамі Германіі ці Францыі. А там, дзе гэты выбар паўставаў, людзі паводзілі сябе па-рознаму. Немцы, чэхі, французы, англічане змагаліся і ваявалі за свабоду вызнаваць сваю веру і паміралі за гэтую свабоду. А што ў нас? Нашы магнаты проста змянялі сваю веру ў залежнасці ад абставін і палітычнай кан'юнктуры. Прычым шмат хто рабіў гэта нават некалькі разоў за жыццё. Мы шануем Льва Сапегу, які быў героем канстытуцыйнага афармлення правоў, але з гледзішча вернікаў таго часу ён быў кан'юнктуршчыкам і рэнегатам, двойчы змяніўшы рэлігію.

Англія, Нідэрланды, Швейцарыя і нямецкія княствы заваявалі сабе свабоду, абаранілі свае каштоўнасці са зброяй у руках. У Францыі гугеноты прайгралі вайну. У Швецыі і Даніі манархі самі гарантавалі свабоду веравызнанняў. А ў ВКЛ — краіне традыцыйнай рэлігійнай талерантнасці — прызвычаіліся змяняць веру як пальчаткі. Тое, што даецца дарма, не цэніцца. І ў наступныя часы ад талерантнасці практычна нічога не засталося. У XVI ст. змена веры ў ВКЛ сталася звычайнай справай, але тады гэта было прыватнай справай феадалаў і свабодных месцічаў. А потым веру мянялі ўжо паводле загадаў пануючай улады.

***Крытык:*** *Але і гісторыя Францыі ведае шмат выпадкаў, калі людзі мянялі веру па некалькі разоў за жыццё. Можна ўзгадаць хаця б Генрыха Наварскага.*

**Аўтар:** Так, але ў Францыі прынцып «Парыж варты імшы», аўтарам якога быў першы кароль дынастыі Бурбонаў, лічыцца

прыкладам цынізму, а не правілам. Літоўскія ж магнаты кіраваліся гэтым прынцыпам без згрызотаў сумлення, лёгка мяняючы веру дзеля атрымання палітычных выгод. Маральная індыферэнтнасць пануючага класа заўсёды чыніць дэмаралізуючы ўплыў на ўсе страты насельніцтва насельніцтва. А ў XVI ст. рэлігійная талерантнасць пачала ўжо набываць формы маральнага цынізму.

***Крытык:*** *Аднак, з іншага боку, на Беларусі таго часу вядомыя і прыклады вернасці ды стойкасці хрысціянаў.*

**Аўтар:** Так, дастаткова згадаць Язафата Кунцэвіча. Зрэшты, усе гэтыя прыклады надзвычай складана тоесніць з сучаснымі каштоўнасцямі, з сучаснай трактоўкай той самай талерантнасці ды паліткарэктнасці. Таму далей я хацеў бы звярнуць увагу на іншае. Залатым ці не залатым быў той век для Беларусі — але гэта быў век вялікіх жарсцяў, подзвігаў і злачынстваў. І не толькі ў Беларусі. Паглядзіце, колькі кніг, фільмаў ды іншых мастацкіх твораў прысвечана той эпосе ў Францыі, Англіі, Нідэрландах, іншых краінах! Дастаткова прыгадаць Дзюма з яго «Каралевай Марго», Шарля дэ Кастэра з «Тылем Уленшпігелем», не кажучы ўжо пра літаратуру пра стагоддзе Альжбеты І. А што на Беларусі?.. І размова зусім не пра апалагетычную літаратуру, якая ўсхваляе тую ці іншую гістарычную асобу. Літаратура і мастацтва павінны быць уражлівымі да жарсцяў і драм знакавых эпох у гісторыі свайго народа. Гэта быў час пакутлівага выбару — палітычнага, рэлігійнага, маральна-этычнага. Няхай сабе люд паспаліты ВКЛ выйшаў з той эпохі не лепшым чынам, але толькі ў мастацтве можна пераасэнсаваць і адрэфлексаваць тыя нашы як дасягненні, так і паражэнні. Калі мы ўпэўнены, што логіка многіх будучых падзей залежала менавіта ад залатога веку, то яго неабходна творча асэнсаваць і пераасэнсаваць. Сама па сабе гісторыя нічаму не вучыць. Яна робіць гэта праз мастацтва.

***Крытык:*** *Добра. Зразумела, што пераацэнцы падлягаюць усе аспекты нашай мінуўшчыны. Але давай пакінем пакуль гэтую эпоху і хаця б сцісла закранем наступныя стагоддзі. Няўжо памылкі былі такія вялікія, што беларусы потым забыліся на правы і свабоды?*

**Аўтар:** Зусім не. Наадварот. Няхай і набыўшы іншую перспектыву свайго гістарычнага шляху, Беларусь заставалася ў еўрапейскім кантэксце, і ў нашай краіне выяўляліся тыя самыя працэсы, што і ў астатніх краінах Еўропы. Проста мы амаль не разглядалі сваю гісторыю ў гэтым кантэксце. Напрыклад, XVIII стагоддзе. Рэч Паспалітая — архаічная дзяржава, якая паводле сваёй структуры нагадвае сярэднявечную Свяшчэнную рымскую імперыю. Краіна мае вялікія праблемы. Такое аморфнае дзяржаўнае ўтварэнне больш не можа існаваць, нават Свяшчэнная рымская дзяржава перафарматавалася, і Аўстрыйская (якая пазней сталася Аўстра-Венгерскай) імперыя ўжо была ўпарадкавана куды больш сучасна. У гэты час у Рэчы Паспалітай таксама адбываюцца інтэнсіўныя рэфармацыйныя працэсы. Толькі не ўсё ідзе ладам. Але з'яўляецца новая канстытуцыя, краіна ператвараецца з аморфнай федэрацыі ва ўнітарную дзяржаву. Жыццё Еўропы ў гэты час бурна змяняецца пад уплывам Вялікай французскай рэвалюцыі. І мы ў гэтых пераменах рушым услед за Францыяй крок у крок. Аднак не ў тым сэнсе, што паўтараем, — мы па-свойму вырашаем тыя самыя праблемы на ўсходзе Еўропы, што французы на захадзе. І Канстытуцыя 3 траўня 1791 г. была не копіяй, а лагічным працягам права Рэчы Паспалітай і ВКЛ. Гэтая канстытуцыя дэкларавала грамадзянскія правы і свабоды, якія на той час былі заканадаўча аформленыя толькі ў ЗША і Францыі. Але мы прызвычаіліся разглядаць гэты перыяд толькі ў кантэксце страты незалежнасці ВКЛ і падзелаў Рэчы Паспалітай.

***Крытык:*** *А як можна яшчэ?*

**Аўтар:** Страта незалежнасці — найважнейшая падзея той эпохі. Разам з тым мы не павінны забываць, што краіна была пазбаўлена незалежнасці гвалтам. І, што яшчэ больш важна, традыцыя свабоды і барацьба за свае правы на гэтым не перапыніліся. Літва апынулася найбольш бунтоўнай часткай Расійскай імперыі. Менавіта з нашых краёў ідэі свабоды разыходзіліся па ўсёй імперыі. І не дарма па адной з версій лозунг «За нашу і вашу свабоду» нарадзіўся тут, у атрадзе паўстанцаў Эміліі Плятэр — вось яшчэ адна кандыдатка ў нацыянальныя героі. Яна і ёсць герой.

Зрэшты, усё XIX ст. — гэта стагоддзе змагання беларусаў за «нашу і вашу свабоду». У гэтай барацьбе забывалася нават этнічнае паходжанне. Беларусь сталася катлом, у якім пераплаўляліся этнасы і нараджаліся нацыі. У гэтым мы таксама цалкам падобныя да астатніх народаў Еўропы. Нават апынуўшыся ў «турме народаў» — Расійскай імперыі — мы жылі і дзейнічалі як еўрапейцы.

Таму мы не вяртаемся ў Еўропу, мы не пераймаем «чужыя нам» еўрапейскія каштоўнасці. Мы ўспамінаем пра іх пасля двух стагоддзяў азіяцкага палону, мы наноў іх засвойваем.

***

Падсумоўваючы вынікі нашых разваг і гістарычнага экскурсу, неабходна яшчэ раз падкрэсліць некалькі істотных момантаў. Мы тут не мелі на мэце выкласці завершаную інтэрпрэтацыю гісторыі правоў і свабод на Беларусі. Наша задача палягала на тым, каб распачаць дыскусію з гэтай нагоды, абапіраючыся на шэраг важных падстаў ды прынцыпаў. І галоўным з гэтых прынцыпаў ёсць неабходнасць разглядаць беларускую гісторыю ў кантэксце працэсаў, якія адбываліся ў Еўропе. Гэта дае нам глыбокае і часам нечаканае разуменне ўсёй драматычнасці гісторыі станаўлення дэмакратыі.

# Наастачу

Аўтар гэтага тэксту перакананы, што Беларусь — краіна еўрапейская, настолькі ж падобная да іншых краін Еўропы і настолькі ж адрозная ад іх, наколькі падобныя і адрозныя ўсе краіны і народы вялікай еўрапейскай цывілізацыі.

Але ў кнізе не варта шукаць доказаў гэтаму ці аспрэчання супрацьлеглага. Дылема «Захад — Усход», «Еўропа — неЕўропа» — гэта антыномія. А ў антыноміях, як вядома, могуць быць даказанымі супрацьлеглыя сцверджанні. Зрэшты, гэтаксама яны могуць быць і аспрэчанымі. Дык ці варта займацца бясконцымі доказамі таго, што з гэткім самым поспехам можа быць аспрэчана? З пазіцый здаровага сэнсу, напэна, не варта. Тут можна прыгадаць казус Канта, пасля якога ўся Еўропа пачала вучыцца працаваць з антыноміямі. Калі Кант паказаў, што існаванне Бога — гэта антыномія, што можна з аднолькавым поспехам лагічна давесці і існаванне Бога, і яго неіснаванне, дык не перастаў цікавіцца доказамі і абвяржэннямі на гэты конт. Ён думаў аб доказе быцця Бога, здзіўляючыся яго праявам ва ўласным жыцці — зорнаму небу над галавой і маральнаму закону ў самім сабе.

Таму і аўтар паводзіць сябе адносна антыноміі еўрапейскай Беларусі гэтаксама: еўрапейскасць Беларусі трэба даказваць. Але не фактамі мінуўшчыны, не лагічнымі дэдуктыўнымі схемамі, а дзейнасцю і паводзінамі. Лепшым доказам таго, што Беларусь — еўрапейская краіна, ёсць еўрапейская палітыка Беларусі, еўрапейская культура, вырашэнне ўласных праблемаў па-еўрапейску.

«Але ж усё гэта — палітыка, культура, пастаноўка ды вырашэнне праблем у сучаснай Беларусі, дый у гісторыі таксама — якраз

даказвае супрацьлеглае!» — заўважыць скептык. «Не, — кажу я, — і ў гісторыі, і ў сучаснасці Беларусі ёсць доказы і таго, і другога. Можна спрабаваць падлічваць, чаго больш, толькі не ў гэтым справа».

Справа ў тым, каб даказваць і аспрэчваць таксама па-еўрапейску. То бок крытычна і рэфлексійна, а не проста пералікам фактаў і падзей. Уласна, гэтая кніжыца не доказ, а крытыка, не пералік фактаў і падзей, а рэфлексія нашага стаўлення да фактаў і падзей, перамог і паражэнняў. Мне падаецца, што ў гэтым і выяўляецца глыбокая сутнасць еўрапейскай цывілізацыі.

Што такое Еўропа? Мы ўжо даўно перажылі еўрацэнтрызм, які прыпісваў Еўропе ўсе поспехі цывілізацыі, а іншыя народы лічыў варварамі альбо культурна адсталымі, абавязанымі даганяць Еўропу і ўсяму вартаму навучацца ў яе. Сёння мы не вылучаем еўрапейскую цывілізацыю з усяго астатняга свету, прызнаем каштоўнасць іншых цывілізацый і народаў. Еўропа не лепшая за мусульманскую, індыйскую, кітайскую (і якія там яшчэ ёсць) цывілізацыі, але і нягоршая. Еўропа проста адрозная ад іншых.

Для Беларусі пытанне ставіцца менавіта такім чынам: Еўропа для нас іншая? Мы і Еўропа розныя? Альбо ж мы, г. зн. Еўропа, аналізуем і крытыкуем самі сябе?

Цяпер ужо нямодна разглядаць Еўропу як радзіму навукі і тэхнічнага прагрэсу. Бо ў нас назапасілася даволі сумневу, што навука і тэхнічны прагрэс вядуць нас туды, куды нам трэба.

Аднак дагэтуль Еўропа ўсімі бачыцца радзімай дэмакратыі, правоў чалавека і свабод. І я ані ў якім разе не збіраюся гэтага аспрэчваць. Але ж хіба ў Еўропе не парушаліся правы і свабоды? Хіба ж не ў Еўропе нарадзіўся таталітарызм у яго нацысцкай і камуністычнай формах? Хіба ж мы перакананыя ў тым, што ў нас з правамі і свабодамі справа выглядае лепш, чым у Сінгапуры, Ванкуверы ці на Таіці? Не. Тады ў чым жа наша адметнасць як еўрапейцаў у плане свабод, правоў чалавека і дэмакратыі?

Магчыма ў тым, што мы паважаем іх больш за ўсё на свеце. Але калі мы ўсё гэта так моцна шануем, дык хто ж у Еўропе парушае правы чалавека, дратуе свабоды? Ды самі еўрапейцы і парушаюць.

У Еўропе ідзе такая самая барацьба за правы чалавека, свабоды і дэмакратыю, як і ва ўсім астатнім свеце. Проста ў Еўропе часцей перамагаюць менавіта абаронцы правоў і свабод. Часцей, аднак не заўсёды і не ўсюды. Гэта тычыцца і Беларусі — у гісторыі нашай краіны хапала месца ўсяму: і трыумфу свабоды, і яе паражэнням. Таму да характарыстыкі Еўропы як грамадства дэмакратыі, свабоды і павагі да правоў чалавека варта ставіцца крытычна. Як толькі ў Еўропе пачынаюць думаць, што павага да правоў і свабод — гэта наша адметная рыса, уласцівая еўрапейцам як такім, мы лёгка губляем і правы, і свабоды. За гэтыя каштоўнасці мы мусім увесь час змагацца, і ніколі не спыняцца ў сваім змаганні.

Можа быць, Еўропу якраз і адрознівае ад усяго астаняга свету менавіта тое, што дазваляе прыхільнікам дэмакратыі, правоў і свабод перамагаць часцей? І не толькі перамагаць, але і ніколі не спыняць пераймацца гэтым, увесь час клапаціцца пра правы і свабоды? Разважаючы падобным чынам, аўтар прыходзіць да таго, пра што гэтая кніга, — да перапісвання і пераасэнсавання гісторыі. Да пераацэнкі каштоўнасцей як бесперапыннага працэсу абнаўлення ў культуры. Да маніфестацыі адных каштоўнасцей, ідэалаў ды герояў і зрыньвання другіх (сродкамі мастацтва). Да прызнання вялікага значэння крытыкі і рэфлексіі ва ўсіх гэтых працэсах.

Мне хацелася паказаць (не даказаць, а проста нагадаць), што гісторыю Беларусі можна праілюстраваць іначай, чым у сучасных падручніках, а менавіта — як гісторыю бесперапыннага змагання за ўсталяванне правоў і свабод. Савецкая гісторыя Беларусі пісалася як гісторыя змагання за «уз’яднанне з братэрскай Расіяй», постсавецкія гісторыкі апісвалі барацьбу з той самай Расіяй за незалежнасць. Усё гэта было. У гісторыі можна знайсці ўсё, што заўгодна.

Калі была барацьба — значыць, былі і тыя, хто змагаўся *за* правы і свабоды, і тыя, хто змагаўся *супраць* іх. У прынцыпе, пра гэта напісана і ў сучасных падручніках. Але чамусьці з таго, як гэта напісана, робіцца выснова, быццам беларуская традыцыя за тымі, хто гвалтаваў свабоды і абмяжоўваў правы, а не за тымі, хто за іх змагаўся. Кажучы пра перапісванне гісторыі, аўтар не прапануе фальсіфікаваць факты альбо прыдумляць новыя. Не, толькі

пераасэнсоўваць! Пра гэта варта было б напісаць асобную кнігу па метадалогіі гістарычнага мыслення. А тут адно пазначаны некаторыя тэзісы.

Мне хацелася паказаць, што культура ёсць поле дзейнасці людзей, а не нейкім абстрактным сусветам, якому абыякавы нашы справы, учынкі і ацэнкі. Культура шматстайная, і мы можам браць з яе толькі малую частку таго, што яна мае, рэалізоўваць абранае ў сучаснасці і трансляваць у будучае. Але калі гэта так, то чаму мы не робім гэтага свядома? Чаму некрытычна транслюем і рэалізуем толькі тое, што нам засталося ад савецкай мінуўшчыны? У сучаснай Беларусі ёсць і тыя, хто адмаўляецца ад савецкай спадчыны і трымаецца нейкіх іншых узораў культуры. Можа, яны маюць рацыю? Можа быць! Аднак перадусім мусіць быць крытыка і асэнсаванне. Нельга штосьці некрытычна браць у будучыню, а нешта забываць у мінулым. Калі ўжо мы не можам узяць усё, варта сканцэнтравацца на самім выбары. Разважаючы пра нашы выбары крытычна і рэфлексійна, мы займаемся пераацэнкай каштоўнасцей. Але калі ўжо запушчаны працэс пераацэнкі каштоўнасцей, дык ці можна што-небудзь пакінуць у баку; ці існуе штосьці, што не падлягае пераацэнцы? Калі гэта так, то мы будзем непаслядоўныя. У працэсе пераацэнкі былыя злодзеі могуць стацца героямі і наадварот, перамогі ператварыцца ў паражэнні, а страты — у дасягненні. Могуць! А могуць і вытрымаць крытыку ды праверку. Хаця правяраць усё роўна трэба, іначай мы так і будзем некрытычна цягнуць у будучыню ўсё, што псавала нам жыццё раней.

Культура поўніцца каштоўнасцямі ды ідэаламі. У ёй шмат што сакралізавана, шмат што дэманізавана. Цяжка публічна выказваць сумнеў і крытыку як адносна святыняў, так і дэманаў. Толькі ад гэтага нікуды не падзецца. Гістарычныя персанажы былі проста прадстаўнікамі свайго часу, а героямі і святымі, злодзеямі і грэшнікамі іх зрабілі людзі — не толькі гісторыкі, але і пісьменнікі, філосафы, мастакі, настаўнікі, выхавацелі ды шмат хто яшчэ.

Апошняя задача гэтай кнігі — дапамагчы грамадзянам, спецыялістам розных прафесій і дысцыплін распачаць дыялог, зразумець, што яны ў сваёй працы рэдка суадносяць свае дзеянні і ўчынкі

з плёнам іншых. Пісьменнікі не павінны станавіцца гісторыкамі, а гісторыкі ператварацца ў выхавацеляў. Кожная прафесія мае свае інструменты дзейнасці і сваю мову. Як жа ім дамаўляцца паміж сабой? Прафесіяналамі нельга камандаваць звонку. Камандаваць нельга, але ж культурныя задачы ў нас могуць быць агульнымі, бо яны звонку нас, а не ўнутры кожнай прафесіі і дысцыпліны.

Мы, беларусы, маем агульную гісторыю. Можам мець агульную. Пакуль гэта не так. Адна частка беларусаў мае гісторыю, супольную з Еўропай, другая — цалкам адрозную ад яе.

Мы маем агульную культуру. Можам мець агульную. А пакуль беларусы прытрымліваюцца розных традыцый.

Мы маем агульную будучыню ў вялікай, шматнацыянальнай, плюралістычнай Еўропе. Але ж ці агульную?

Усё гэта можа быць нашай супольнай будучыняй, калі мы дамовімся. Уласна, толькі на гэта і прэтэндуе кніга — на працяг дыялогу. Працягваць гаварыць, каб дамаўляцца. І ўдзельнікамі гэтай размовы мусяць быць не толькі нашыя сучаснікі, але і продкі, якія змагаліся за еўрапейскія каштоўнасці ды ідэалы ў нашай краіне. Яны мелі свае аргументы, і апошнім часта было іх уласнае жыццё. Але да гэтай гаворкі далучацца і нашыя нашчадкі. І ўжо цяпер, на гэтай стадыі размовы пра нашу з імі агульную будучыню, мы павінны пра іх памятаць, каб не змушаць іх потым катэгарычна ад прэчваць нашы каштоўнасці ды ідэалы. Пераацэньваць яны іх усё адно будуць, але калі мы крытычна і адказна паставімся да каштоўнасцей ды ідэалаў — і сваіх, і нашых продкаў, дык зможам разлічваць на гэтакае самае стаўленне і з боку нашчадкаў.

# Дадатковыя спасылкі і крыніцы

Грицкевич, А. Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв. / А. Грицкевич. — Минск, 1979.

Беседа с историком Яном Шубанскім [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://archive.svaboda.org/programs/atlan/2002/10/20021010130349.asp.

Гісторыя Беларусі IX — XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://starbel.narod.ru/index.html.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах (IX — XVIII ст.) / склад.: Шчарбакоў В. К., Кернажыцкі К. І., Даўгяла Д. І. — Т. 1. — Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1936.

Грыцкевіч А. П. Гаштольды / А. П. Грыцкевіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / Беларус. энцыкл.; рэдкал. : Сачанка Б. І. (гал. рэд.) і інш. — Т. 2. Беліцк — Гімн. — Мінск : БелЭн, 1994. — 537 с.

Акінчыц, С. Залаты век Беларусі [Электронны рэсурс] / С. Акінчыц. — Рэжым доступу : http://refarmaciya.com/index.php/2009-12-13-16-13-36/2009-12-22-18-52-35/139.

Волан, А. Прадмова да Сената Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, або Якім павінна быць праўленне дабрачыннага караля (1573) [Электронны рэсурс] // Фрагменты — № 10. — Рэжым доступу : http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/frahmenty/10/index.htm.

Mariaspring

Ländliche Heimvolkshochschule Mariaspring




Liberalt Oplysnings Forbund




Общественное объединение
«Центр социальных инноваций»



Общественное объединение
«Образовательный центр “ПОСТ”»



Просветительское общественное объединение
«Фонд имени Льва Сапеги»

EUROBELARUS

Международная неправительственная
организация «EuroBelarus»



Агентство гуманитарных технологий

*Навуковае выданне*

Серыя «Беларусь для пачаткоўцаў»

# Беларусь для пачаткоўцаў: ад разумення да дзеяння

*Рэдактары* Валянцін Акудовіч, Марыя Мартысевіч
*Перакладчык на беларускую мову* Аляксандр Карцэль
*Карэктар* Вольга Крукоўская
*Вокладка* Максім Кароль

Падпісана да друку 26.12.2012. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. а. 16,63. Уч.-выд. а. 13,0
Наклад 300 экз. Заказ 2232.

ІП Логвінаў Ігар Пятровіч
ЛВ №02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасьці, 19-5, 220050, г. Мінск.

ТДА «НоваПрынт»
ЛД №02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.